# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕСЯТЫ



САКАВІК
1931



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1931

# АДШЧАПЕНЕЦ

**Т. Гушча**

## XIV

Ноч, працятая пругкім холадам, пазірала ў падвойныя вокны Пракопавай станцыі. Пасьля поўначы неба выясьнілася, засеялася рознакаляровымі трапухкімі агончыкамі-зорамі, дрыжучы і лагодна пераліваючыся мяккім вясёлкавым бляскам. Мільярды такіх-жа агоньчыкаў адсьвечваліся і ў сьняжынках белага покрыва абмяртвелай зямлі, паныла і нярухома занямеўшай у маркотным зьзяньні месяца. А месяц ужо даўно зрушыў з палавіны свае дарогі і хіліўся да краю зямлі, абярнуўшы ў яе бок свае бліскучыя вострыя рожкі.

Гэты глыбокі спакой і тужліва зьмяртвелае зьяньне месяца, зазіраўшага ў вокны Пракопавай станцыі, наводзілі на яго маркоту і сум. Ён востра адчуў сваю адзіноту, сваю адарванасьць ад людзей, сваё бадзяньне ў дарогах, сваё дармаедзтва. Уражаньні ўчарашняга дня выплывалі ў яго памяці жывымі зьвеньнямі сапраўдных праяў тутэйшага колгасьніцкага жыцьця і клалі рэзкую граніцу паміж двома сьветамі сялянскага побыту. Тое, што бачыў Пракоп з першых-жа дзён свайго далёкага няпоўнага азнаямленьня з колгасам і з колгасьнікамі, яго моцна зьдзівіла. У глыбінях свае сьвядомасьці ён адчуваў, што калі-б у колгасе ён знайшоў непарадкі, разьбежнасьці з гаспадарскімі запатрабаваньнямі, то яму было-б лягчэй на сэрцы. А ўсё гэта выплывала з яго прадузятай варожасьці да колектывізацыі. Праўда, шмат чаго засталося для яго незразумелым. Для яго былі няясны тыя спружыны і ўся тая мэханіка, што прыводзіла ў рух жыцьцё ў гэтым колгасе. Ён успомніў свайго суседа па кватэры, Міколу Гмака і гутарку з ім учора. Няўжо гэта ўсё праўда? Няўжо людзі так перарабіліся ў колгасе, што асабістая ўласнасьць для іх ня мае значэньня, і яны так-жа дбаюць аб колектыве, як некалі дбалі аб сваіх уласьніцкіх інтарэсах? Ці шчасьлівы яны тут і як мысьляць яны сваё шчасьце?

Такія пытаньні балюча і востра ўставалі ў Пракопавай галаве, і ён думаў над тым, як знайсьці тут праўдзівы адказ.

Яшчэ не разьвіднялася, але Пракоп, па прывычцы ўставаць рана, заснуць ужо ня мог, сьпяшацца ня было куды, і ён ляжаў, разважаючы аб праявах людзкога жыцьця. „Аднак-жа колгасьнікі ня надта сьпяша-

юцца ўставаць", крытычна заўважыў ён сам сабе, бо ўжо пачынала разьвідняцца, а на колгасьніцкім двар было яшчэ ціха. Не сьпяшаючыся, Пракоп адзеўся і ціха вышаў на двор сустрэць новы дзень і аддаць падатак свайму старому звычаю—тупаць да дня на дварэ.

Бледна-яснае неба на ўсходзе сьвятлела, расчышчаючы дарогу кароткаму дню. Насычанае крохкім, як шкло, марозам паветра чульліва лавіла ранічныя гукі на скрыпучым сьнезе і далёка кідала іх у прасторы. Мернае і як-бы нясьмелае паскрыпваньне сьнегу пад нейчымі нагамі пачулася каля клуні, і чыясь постаць, постаць чалавека з ёмкім мяшком на плячох, выплыла з парадзелага змроку і пасунулася ўніз па вузенькай сьцежачцы, тулячыся ў задворках між колгасных будынкаў. Пракоп зацікавіўся, пераменіў позыцыю, каб яшчэ раз пабачыць гэту постаць і праверыць сваю здагадку, што гэта напэўна хто-небудзь з колгасьнікаў цішком панёс колгаснае дабро. Але гэта постаць зьнікла, а Пракоп толькі крутнуў сам сабе галавою, упэўнены ў праўдзівасьці свае здагадкі. Яшчэ прайшло некалькі хвілін цішыні, і колгас патроху пачаў абуджацца. Грукнулі дзьверы ў адным, у другім месцы, пачуліся людзкія галасы, і некалькі колгасьнікаў паказалася на дварэ. Потым заскрыпелі вароты ў клуні і, трошкі счакаўшы, сярдзіта зашамкала сячкарня вострымі нажамі, перасякаючы салому на дробныя шматочкі.

— Дзень добры, таварышы!—сказаў Пракоп, спыніўшыся на парозе клуні.

Два колгасьнікі завіхаліся каля сячкарні. Адзін падаваў салому ў жолаб пад зубы і нажы, а другі круціў кола спэцыяльна прыстасаваным ашэсткам. Цэлыя струмені перасечанай саломы сыпаліся на ток. Даволі ёмкая кучка сечкі, як невялічкі стажок, стаяў на таку, як відаць загатаваны раней. Двое другіх рабочых насыпалі сечку ў цабэркі, пасыпалі яе промежкаю, што тут-жа стаяла ў дзервянай скрыні, нанізвалі цабэркі на доўгую тоўстую палку і несьлі каровам.

— Добра ідзе работа ў вас!..—пахваліў сечкарэзаў Пракоп.

— Наладзіліся,—азваўся круцільшчык.

— Добра, добра!—яшчэ раз пахваліў Пракоп і сам узяўся за ашэстак, каб папрабаваць, як лёгка ходзіць кола.

Абхапіўшы пальцамі ашэстак, Пракоп налёг, крутнуў раз, другі. Першыя некалькі колаваротаў патрабавалі намаганьня мускулаў, а потым, калі кола разгайдалася, яно ўжо само далучала сілу інэрцыі да сілы мускулаў рук і круцілася лёгка.

— Вот яна табе і тэхніка!—дагодліва азваўся Пракоп. Работа скончылася, і ён зьлёгка затрубіў носам, адвярнуўшыся, як чалавек далікатны, у бок ад сечкі.

— Ну, гэта ўсё-ж такі саматужніцтва,—солідна заўважыў падаваўшы салому ў жолаб сячкарні, таксама прачысьціўшы нос яшчэ старым сялянскім спосабам.

— Мы мяркуем прыладзіць маторчык,—важна дадаў ён.

— О! гэта ўжо будзе... дасягненьне!—Пракоп быў здаволены, што знайшоў такое трапнае слова.

У кароткай дзелавой гутарцы ён даведаўся аб разьмеркаваньні работы паміж колгасьнікамі ў колгасе і аб яго ўнутраным распарадку. Важнейшыя пытаньні колгасьніцкага жыцьця вырашаліся агульным сходам колгасьнікаў. Гэта быў як-бы маленькі зьезд Саветаў. Кіруючым прынцыпам быў лёзунг: ніводзін працаздольны колгасьнік не павінен заставацца без работы. Работа-ж павінна разьмяркоўвацца так, каб кожны работнік найболей падыходзіў да яе і найболей адпавядаў свайму прызначэньню. Таксама браўся тут пад увагу і прынцып добравольнасьці. Разьмеркаваньне работы і прызначэньне на яе работнікаў даручалася праўленьню колгасу.

— Ну, а калі-б усе захацелі сечку рэзаць?—хітра пад'ехаў Пракоп.

— А грамада што скажа?—адказаў Лапко, што падаваў салому.

— А самакрытыка на што?—уставіў слова і круцільшчык Макрыня:— ну, і грамадзкая дысцыпліна,—дадаў ён.

## XV

Пракоп і яго новыя знаёмыя накіраваліся з клуні бліжэй да хлявоў. Па дарозе спыніліся каля спэцыяльнага будыначку па суседзтву з хлявамі. Раз ужо Пракоп хоча азнаёміцца з колгасам, то мінуць гэты будынак яму не выпадае. Так прынамсі казаў Лапко. Але ў даным выпадку ім кіравала пераважна гордасьць будаўніка і аўтара проекту гэтага будынку. Лапко ў колгасе—відная фігура, і ён у поўнай меры заслугоўвае таго, каб сказаць аб ім некалькі слоў.

Лапко быў вясковы муляр, але ня муляр-профэсіянал, а муляр-мастак, бо ў сваёй творчасьці ён унікаў штампованых форм і спосабаў работы і стараўся даць што-небудзь новае, орыгінальнае, як з боку рацыяналізацыі, так і з боку хараства. Калі яму здаралася быць у каго-небудзь на рабоце, злажыць там печ, склеп ці што, то перш чым прыступіць да работы, ён з усіх бакоў вымяркоўваў плян, кіруючыся асаблівасьцямі месца, абстаноўкі, характарам гаспадароў, іх густам і г. д. Усе ведалі гэтую асаблівасьць выдатнага муляра, любілі яго і шанавалі, асабліва дзеці і гаспадыні. Яны ўносілі свае проекты, давалі дарады, а Лапко ўважна слухаў, рабіў свае папраўкі, даваў контрпроекты, і ўсё гэта абмяркоўвалася разам, і калі ўжо даходзілі да агульнай згоды, тады толькі прыступаў ён да работы. А дзецям зьверх програмы ён вылепліваў з гліны хвацкія цацкі: сьвісьцёлкі, казельчыкаў, баранчыкаў, парасятак, сабак, а ў апошнія часы шэдэўрам яго мастацтва была вылепленая з гліны фігура пана Пілсудзкага з доўгімі вусамі і нагайкаю. Усе, хто пазіраў на гэтую фігуру, проста качаліся са сьмеху. Чым дасканалей выходзіла работа, тым меншую плату назначаў Лапко. Бывалі выпадкі, калі на

гэтым грунце вынікалі самыя прыемнейшыя ў сьвеце спрэчкі. Проста яго ўпрашвалі набавіць цану, але Лапко не парушаў сваіх прынцыпаў.

— Добра яно вышла, ну і добра. Гэтым самым плата мне падвышаецца,—казаў у такіх разох Лапко.

Будынак, перад якім спыніліся колгасьнікі з Пракопам, быў комбінаваным будынкам новага тыпу, пабудаваным па проекту Лапко. І вельмі трудна аднесьці яго да якой-небудзь пэўнай катэгорыі будынкаў. Гэта быў разам і склеп, дзе хавалася розная агародніна для жывёлы—рэдзька, бручка, буракі, бульба,—і кухня для гатаваньня стравы сьвіньням і цялятам. Разам з тым Лапко ўмудрыўся вышчукаваць тут і малы пакой, кватэру для галоўнай сьвінаркі Таклюсі Галынкі. Калі прыняць тут пад увагу некаторыя акалічнасьці, як, скажам, наяўнасьць таго факту, што Лапко быў яшчэ кавалерам, хоць яму падбіралася пад палавіну пятага дзесятка, і той факт, што Таклюся была бязьдзетная ўдава і таксама яшчэ жанчына-ягада, то стане зразумелым тое стараньне, з якім Лапко змайстраваў гэты будынак і пакойчык для Таклюсі.

Большая часьць Лапковага будынку, склеп, знаходзілася ў зямлі. Гэта была прасторная чатырохкантовая яма даўжынёю ў восем мэтраў і на чатыры мэтры шырыні. Сьцены склепу былі абложаны каменьнямі, моцна сцэмантаванымі, а дно вымашчана цэглаю. Акуратнае скляпеньне, як неба над зямлёю, зьвісала над ямаю. Зьверху скляпеньне было прысыпана зямлёю і абложана дзірваном, праўда, цяпер закрытым сьнегам. У вузейшай часьці, дзе скляпеньне падымалася над долам, была зроблена вузенькая, доўгенькая аконная рама ў чатыры шкельцы. Акенца было зроблена так, што яго можна было лёгка вымаць, а пры патрэбе апускаць у спэцыяльна зробленую шчыліну.

Калі трэба было складаць у склеп агародніну, то да акенца пад'яжджалі хурманкі, акенца апускалася, ставіліся жалабы-латакі, і на гэтых жалабох скочвалася бульба і ўсякая гародніна ў свае адпаведныя сусекі. Каб папасьці ў склеп, то трэба было зайсьці ў кухню, адтуль вузенькім праходам, дзе, праўда, лёгка маглі разьмінуцца два чалавекі, спусьціцца па ступеньках уніз і адчыніць шчыльныя дзьверы, што аддзялялі склеп ад кухні.

— Гэта ўсё—штукарства яго,—паказаў Макрыля Пракопу на Лапка:—пабачце, як гэта ўсё спэцыяльна зроблена.

— Можна было-б зрабіць яшчэ лепей,—скромна заўважыў Лапко:—ды ня было так вельмі калі разгортвацца.

Усе трое ўвайшлі ў кухню.

Кухня была прасторная і даволі сьветлая з цагляным памостам. Чвэрць кухні займала нізкая ёмкая печ з двома ўмураванымі катламі—для награваньня вады і для варкі бульбы. Для адводу пары была зроблена выцяжная труба над шырокім бляшаным каптуром. Каля сьцяны стаяла вялізнае дзервяное карыта з паднятым крыху адным канцом. У спушчаным канцы карыта была зроблена дзірка, заткнутая спэцыяльным

шпунтам на манер гарадзкіх ваннаў. У карыце прамывалася бульба. А брудная вада сама вылівалася праз дзірку ў дне карыта і сьцякала на двор: пад карытам у падлозе Лапко зрабіў зьліў.

Пазіраў Пракоп на ўсе гэтыя дасканаласьці, ківаў галавою і дзівіўся.

— І людзі-ж у вас здольныя!

— Людзі, як людзі, ды ня было дзе і як праявіцца ім,—казаў задаволены Лапко, паказваючы Пракопу цікавыя рэчы і даючы тлумачэньні.

Але самым цікавым, прынамсі для Лапка, быў тут пакой для Таклюсі, бо яго афармленьне найболей займала майстра і ўзяло ад яго, можна сказаць, львіную долю творчага энтузіязму. Таклюся, завязаўшы ўкружок чырвоную хустку канцамі на патыліцу, жывая, хударлявая, секла ў цэбры бульбу. Яна зірнула на Пракопа, а потым на Лапка. Гэты погляд глыбокіх цёмных вачэй казаў Лапку, што яна зразумела яго і нічога ня мае супроць таго, каб паказаць дэлегату яе будуар, гаворачы мовою буржуазіі. Лапку-ж было трохі няёмка ўводзіць чужога чалавека ў Таклюсін пакой. Але спакуса паказаць сваё майстэрства ўзяло верх над іншымі пачуцьцямі.

Таклюсін пакойчык быў зусім адгароджаны ад кухні. Адною сьцяною яго служыў выступ печы, куды Лапко прапусьціў душнік для награваньня пакою. Гэты выступ шчыльна ўпіраўся ў столь. Ёмкая дзервяная перaборка адгароджвала пакойчык з другога боку кухні. Угары, пасярэдзіне пераборкі, было зроблена акенца. У гэтай-жа пераборцы былі і дзьверы. Пакойчык быў сухі, цёплы, зусім прасторны для аднаго чалавека. Але затое-ж якіх толькі пячурак, ямак, закарвашачкаў не нарабіў тут Лапко. Усё гэта дзеля таго, каб чалавеку сапраўды выгодна было тут разьмясьціцца. І Таклюся ў поўнай меры была задаволена сваім пакойчыкам. А для Лапка гэта было самае галоўнае, бо хто-ж так аб ёй паклапоціцца?

## XVI

У кухні кіпела дружная работа. Дзьве Таклюсіны памочніцы раскладалі корм сьвіньням, абмешвалі каму чыстаю ячнаю, аўсянаю або грэцкаю мукою, каму промешкаю, а каму і мякінкаю—у залежнасьці ад сьвіных катэгорый, і борзьдзенька адносілі сваім выхаванцам. Выхаванцы-ж іх, а было іх тут за трыста штук, падымалі такі гармідар, усёроўна як-бы пад імі пачаўся „зямляўздрыг“, як называюць зямлятрасеньне ў газэце „Савецкая Беларусь“. Двое колгасьнікаў, прыстаўленых за доглядам рагатай жывёлы, бралі са склепу буракі, каб падмацаваць дойных кароў. Сюды-ж схадзіліся дойкі, тут-жа парадкавалася малако і адпускалася поўная норма тым колгасьнікам, што паздавалі свае каровы ў колгас. Лапко прыглядаўся да работы; як гаспадар, кідаў тут сваё вока, аб сім-тым распытваўся, што трохі зьдзівіла Пракопа.

Пазіраў Пракоп на гэтую, як называў ён, фабрыку, непасрэдна наглядаючы колгасную работу і знаёмячыся з яе арганізацыяй. Так, ён

даведаўся, што колгас вызначыў цэлую групу колгасьнікаў, брыгаду, па часьці абслугоўваньня жывёлы, а на чале гэтай брыгады стаяў ня хто іншы, як наш муляр Лапко. Такія-ж брыгады былі вылучаны і для іншых работ, з якімі меў дачыненьне колгас.

„А бадай што так і лепш“, падумаў сам сабе Պракоп, і мімавольна на памяць яму ўсплылі словы яго Мікіты: „Тут ты робіш тысячы работ, а там будзеш рабіць адну“. Пракоп незаметна ўздыхнуў, але спыніцца на гэтых думках цяпер ня было калі: рабочая мітусьня, жывое жыцьцё разьбівалі яго думкі. У гэты-ж час сюды прышоў і старшыня колгасу Максім Шахлевіч.

Ніводнага дня не прапускаў старшыня, калі ён быў дома, каб не абыйсьці свой колгасны обход і асабіста не паглядзець, як ідзе справа. Ніколі ня мінаў ён у такіх разох гэтай кухні і хлявоў, каб сваім вокам паглядзець на жывёлу і асабліва на коняй. Сам ён служыў у кавалерыі, прывык хадзіць за канём і ўмеў хадзіць, і колгасныя коні карысталіся асабліваю ўвагаю старшыні колгасу. Быў у яго тут улюбёны жарабок са спэцыяльным прызначэньнем множыць конскую пароду. Сяды-тады, каб ня даць яму застаяцца, ён сядлаў яго і, як дасканалы кавалерыст, любіў віхрам пранесьціся на сваім „Ворану“. Колгасьнікі пазіралі тады на старшыню з захапленьнем і гордасьцю.

— Хоць карціну пішы,—казалі яны.—Няхай толькі сунуцца паны: пакажуць нашы малайцы па чым хунт сушанага ліха!

Колгасьнікі любілі Шахлевіча, Шахлевіч любіў свой колгас. Галава яго была заўсёды поўна ўсякіх новых плянаў, проектаў, як паставіць лепей колгас, як палегчыць працу чалавека і мець большы эфэкт, каб гэтым самым агітаваць за колектывізацыю суседнія вёскі. Сваю аддасьць ідэі колектывізацыі ўмеў ён перадаць і сваім колгасьнікам. Ён пашыраў і паглыбляў колгасьніцкі актыў, уцягваючы яго ў грамадзкую работу.

— Добрай раніцы, таварышы!—сказаў ён, увайшоўшы ў кухню, а з дзядзькам Пракопам павітаўся за руку.

— Ну, як падабаецца наша гаспадарка?

— Маёнтак!—у прастаце душы сказаў Пракоп.

— Ня зусім ён маёнтак: у маёнтку пан сядзіць,—заўважыў старшыня.

— Розьніца тая, што панам тут ня пан, а колгасьнікі,—папраўіўся Пракоп.

— Ну, гэта яшчэ туды-сюды,—згадзіўся старшыня.

— Лепшай гаспадаркі, як у панскім маёнтку, таварыш ня бачыў,—закінуў слова за Пракопа Лапко.

— А нашу жывёлу бачылі?

— Не, яшчэ ня былі там,—адказаў за Пракопа ізноў Лапко, а потым дзелавіта далажыў: — Ведаеш, брат старшыня, аб чым я ўсё думаю?

— Ну?

— Тут трэба было-б нешта прыдумаць з гэтаю вадою.

— А што?

— Да вось бачыш ты: ваду прыходзіцца цягаць у катлы саматугам: і цяжка, і гразь наносіцца, і часу забірае многа.

— Гэта ты праўду кажаш. І сам я аб гэтым думаў. Трубы трэба правесьці?

— Так, трубы.

— Памяркуй да прыкінь, як і што. Зложыш свой проект...

— Проект у мяне гатовы.

— Тым лепей. Сёньня-ж разгледзім і рэзолюцыю наложым.

— Залаты ў вас чалавек Лапко—заўважыў Пракоп.

— Мы яму прэмію выдамо,—адазваўся старшыня.

— На што мне тая прэмія: добра будзе, вось табе і прэмія.

— Не, брат, ня дзе ты дзенешся: прэміруем!

Уся гэта гутарка адбылася па дарозе ад кухні ў хлявы.

Каля Пракопа, старшыні і Лапка сабралася цэлая грамада колгасьнікаў. Было відаць, што яны не сароміліся паказаць чужому чалавеку сваю колгасную гаспадарку. Агляд пачалі з сьвіней.

Адбылася некаторая зьмена ў самым слове, якім абазначаліся сьвіныя хлявы. Сьвіны хлеў раней называўся сьвінушнікам, і ў гэтым слове гучэла некаторае адценьне зьнявагі, а брудную хату параўноўвалі з сьвінушнікам. І сама сьвіньня несправядліва была ў занядбаньні. Было нават такое недарэчнае запытаньне: якая самая няшчасная ў сьвеце істота? І на яго яшчэ больш недарэчны быў адказ: парася. Чаму?—У яго адна маці ды і тая—сьвіньня. Цяпер-жа сьвінушнікаў няма, а ёсьць сьвінарнікі—такі вынік павароту тварам да сьвіньні. Сама сьвіньня падвышана ў сваёй соцыяльнай кваліфікацыі, і яе далікатна называюць „сьвінаматкаю“. І зьнімаюць з яе фотографіі. Адпаведна з гэтаю пашанаю да асобы сьвіньні зьвернута ўвага і на яе памяшчэньне.

Хлеў, куды ўвайшлі колгасьнікі, быў прасторны, чысты, з вокнамі. Дзеравяная пакатая падлога, шырокі праход між загарадак, кармушкі, прыстасаваныя так, каб сьвіньні не залязалі туды з нагамі,—усё гэта сьведчыла аб тым, што сьвіньні былі ў найлепшым доглядзе. Сьвіней ня сёньня-заўтра гатовых стаць сьвінаматкамі пераводзілі ў аддзельныя загарадкі. У такіх-жа загарадках зьмяшчаліся і сьвіньні з парасятамі. Белыя, чыстыя, гладкія, аблепленыя харошанькімі парасяткамі, яны сапраўды станавілі найцікавейшае відовішча!

— Вось гэта—сьвінагадоўля дык але!—у шчырым захапленьні казаў Пракоп.

І асабліва звярачаў увагу на сябе тут адзін кныр, сур'ёзны, важны, з даўшэразнымі, выгнутымі ікламі. Справядлівасьць вымагае зьмяніць і яго назву—кныр больш адпаведным імем—сьвінататка. За яго сур'ёзны ваяцкі выгляд і за гэтыя крывыя, загнутыя, як панскія вусы, іклы комсамолец Гаруй даў яму гучнае імя: „Пан Іклінскі“, а варожа настроеныя да польскіх фашыстаў колгасьнікі называлі яго проста: „Пан Пілсудзкі“.

## XVII

Увесь гэты дзень, за выключэньнем перапынку на сьнеданьне і абед, а сьнедаў і абедаў Пракоп у той-жа сталоўцы, быў прызначан агляду колгаснай гаспадаркі. Аглядаючы гаспадарку, Пракоп забываў сваю самазваную ролю дэлегата і са ўсёю пільнасьцю і ўважлівасьцю знаёміўся з новымі формамі колгаснай работы, набыткам, маемасьцю і наогул з пастаноўкаю справы ў колгасе. Калі раней была біта яго супроцьколгасьніцкая тэорыя, то ў яшчэ большай ступені біла яго цяпер колгасная практыка. І як ні стараўся Пракоп знайсьці тут якую-небудзь нядбайнасьць, упушчэньне, каб да чаго-небудзь прыдрацца, зачапкі для гэтай прыдзіркі ён не заходзіў. Нават той невядомы чалавек, якога бачыў Пракоп раніцаю з мяшком на плячох, колгасьнік, нёсшы колгаснае дабро, як меркаваў Пракоп, ня меў ніякай вагі і не парушаў парадку у цэлым.

Але-ж Пракоп мог і памыліцца. А калі-б гэта было і праўда, то гэта даводзіла-б толькі, што прыватная ўласнасьць падбівае чалавека на злачынства. Былі тут колгасьнікі, меўшыя сваіх кароў. Такі колгасьнік і можа незаконна тайком карыстацца грамадзкім дабром. Пракопу ізноў прыпомніліся словы Мікіты: „Тут ты дрыжыш над сваім канём, каб яго ня ўкралі, а там хто яго будзе красьці?“

Такія думкі праплывалі ў Пракопавай галаве, калі ён аглядаў колгас, пастаўлены моцна на дзелавую ногу. Яму паказалі насенны фонд, ачышчаны машынаю, буйны і ядраны, важкі, як срэбра.

Апроч насеннага фонду, колгас меў у дастатковай меры хлеба ў зерні для свайго спажываньня і для корму жывёлы. Пры гэтым Пракопу далі спраўку, што каля тысячы цэнтнэраў зерня было здана дзяржаве праз коопэрацыю, расказалі, які быў ураджай. Так, адзін гектар жыта ў сярэднім даваў пудоў семдзесят пяць, у той час калі ў індывідуальнай гаспадарцы ў лепшым выпадку зьбіралі пудоў сорак—пяцьдзесят. Зямля-ж тут ня дужа ўраджайная. Чым-жа гэта тлумачыцца? Тым, што ў колгасе лепш ураблялася зямля, у колгасе былі трактары, плугі навейшай сыстэмы. Колгасьнікі-плужане і колгасьнікі-трактарысты ўступалі ў соцспаборніцтва, пры гэтым не забывалася, што зямлю трэба ўлагодзіць таксама і гноем. Клалі гной натуральны, штучны і попел. Колгасная практыка давяла, якое значэньне мае попел для павышэньня ўраджайнасьці. Вось чаму на попел зьвернута ўвага ў колгасе.

Пракопа павялі пад шалашок, ізоляваны ад будынкаў. У гэтым шалашку стаялі тры дзервяныя шчыльна зьбітыя з дошак скрыні спэцыяльна зробленыя для ссыпаньня попелу. Па сярэдзіне скрыні зьверху была зроблена дзірка з жалезным сітам для прасяваньня попелу. А каб зручней было выбіраць яго з скрыні, унізе зрабілі другую дзірку, закрытую засовачкаю: падняў засаўку, і попел сам высыпаецца з скрынкі. І ўсё гэта прыдумалі і самі зрабілі майстры-колгасьнікі.

Для складу машын таксама быў зроблены спэцыяльны будынак. Гэта быў і гараж для трактароў і склад для розных сельскагаспадарчых машын. Тое-ж шанаваньне колгаснай маемасьці асабліва выяўлялася тут у дбаласьці да машын. Усе яны былі пастаўлены і зложаны так, каб не іржавелі і не псаваліся. А трактары, як нейкія высокакваліфікаваныя спэцы, займалі самае лепшае месца, прыкрытыя посьцілкамі, што яшчэ болей падкрэсьлівала іх вагу ў сельскай гаспадарцы. Пракоп многа чуў аб трактарох, але ніколі іх ня бачыў. Аднак-жа гэта не перашкаджала яму разносіць іх на ўсе застаўкі. І вось цяпер, калі ён стыкнуўся нос у нос з трактарам, то ён мімаволі адчуў перад ім некаторы страх, як-бы гэта была ня проста машына, а нейкая жывая істота, прышоўшая спэцыяльна для таго, каб зрабіць рэволюцыю ў гаспадарцы. Колгасьнікі навочна паказалі Пракопу, колькі баразён праводзіць трактар за раз, колькі ён можа ўзараць поля і як узараць і расказалі яшчэ, якую наогул можна рабіць работу трактарам. Калі ён усутыч азнаёміўся з трактарам, то ў яго нават не павярнуўся язык, каб запытаць, ці выгодная гэта машына. Доўга тупаў Пракоп каля трактара, аглядаў яго з усіх бакоў, стукаў па ім кулаком і ня ведаў, як прыняць яго: як ворага ці як вернага саюзьніка. І ўсё-ж такі адыйшоў ён ад трактара з такім-жа пачуцьцём, з якім адыходзіць пераможаны ад свайго пераможцы.

— Ну, што скажаце?—запытаў Пракопа Шахлевіч, калі агляд быў скончаны.

Пракоп трошкі памаўчаў, таўкануў пальцам нос, як-бы забараняючы яму затрубіць, паківаў галавою.

— А колькі ўсё гэта каштавала... вам?—Ён хацеў сказаць „дзяржаве“, але не адважыўся сказаць так. У Пракопе сядзеў усё яшчэ стары Пракоп, асьцярожны, падазроны, недаверлівы. Але, каб зьмякчыць крыху сваё запытаньне, ён зараз-жа дадаў:

— У такі колгас, як ваш, я пайшоў-бы сьмела.

— Мы нікому не закрываем дарог у наш колгас, разумеецца, толькі не кулаку ці іншай сволачы,—адказаў старшыня:—але пакольні ў вас зараджаецца свой колгас, то вы павінны быць там. Новым колгасам лягчэй будзе стаць на ногі: у іх будзе ўжо практыка колгасаў, арганізаваных раней. А таго, колькі колгас каштуе дзяржаве, вы не павінны баяцца. сьмею вас запэўніць, што наш колгас на сёнешні дзень нічога ня вінен дзяржаве.

— Падведзены балянс якраз гаворыць за тое, што наш колгас дае дзяржаве прыбытак,—заўважыў комсамолец Гаруй.

— І не павінна быць,—гаварыў далей старшыня—разьмежаваньня: дзяржава і колгас, фабрыка і дзяржава: фабрыка, колгас, школа, навуковыя ўстановы, войска—усё гэта адзін суцэльны організм пролетарскай дзяржавы, як ногі, рукі, жывот, галава ёсьць непадзельныя часьці чалавека.

— Такіх-бы людзей нам, як вы тут,—паківаў галавою Пракоп.

— Людзі ўсюды ёсьць. Адно толькі трэба: жывое жаданьне, цьвёрдая пераконанасьць у перавазе колектыўнай формы гаспадаркі над старой, распыленай, дробнай. А рэшта ўсё... дадасца.

І старшыня энэргічна махнуў рукою.

## XVIII

Мінаўся другі дзень Пракопавага прабываньня ў колгасе „Хваля рэволюцыі“. Шмат новага, цікавага для сябе, для свайго развважаньня пабачыў ён тут, але далёка ня ўсё яшчэ было ім агледжана, каб мець болей закончаны малюнак таго, як і чым жывуць колгасьнікі, што яны робяць дома, скончыўшы колгасьніцкую работу. Да гэтага часу ён меў дачыненьне пераважна з адміністрацыяй колгасу, з людзьмі афіцыяльнымі. Тым-жа часам некаторыя пытаньні яго, узьнікшыя ў ім раніцою, калі ён ляжаў яшчэ ў пасьцелі, асталіся для яго ня зусім ясныя. Вось чаму ў яго радзілася думка распытаць людзей збоку, паслухаць, што яны гавораць аб гэтым колгасе, як глядзяць на яго. Але яму зноў успомніўся Мікіта і яго перасьцярогі—ня надта слухаць такіх людзей, як Чыкілевіч, кулакоў: яны наогул ворагі колгасу. Але чаму-ж не паслухаць, што гавораць і ворагі? Пракопа-ж таксама лічуць ворагам колгасу? А хіба ён вораг? Пракоп трохі падумаў. Не—ён проста хоча ведаць праўду! Ды нарэшце-ж можна слухаць усялякія гутаркі, але трэба мець і свой розум.

Бліжэйшаю сядзібаю, дзе можна было пагаварыць аб колгасе з пастароньнімі людзьмі, быў пасёлак Высокі Дол. Тут жылі тыя заможнікі, што выселіліся з Клімкоў. Праўда, значная частка іх зямлі была прырэзана да колгасу, і цяпер яны трохі заняпалі. Некаторыя з іх за сваё шкодніцтва—яны востра агітавалі супроць колектывізацыі—былі высланы адгэтуль. Рэшта прысьмірэла, пападжымала хвасты і сядзела ціха, спатайку сыкаючы на колгас і то азіраючыся і прыслухоўваючыся, каб ня чула няпэўнае вуха. Яны нічога ня мелі цяпер супроць таго, каб іх прынялі ў колгас і нават заявы падавалі. Але колгас адмовіў ім наадрэз. Кулацкая заўзятасьць іх зьвяла, і жылі яны ў трывозе, чакаючы з дня на дзень свае страшнае часіны: суцэльнай колектывізацыі.

У пасялкоўца Цімоха Бабуры здарылася бяда ў хаце: у печы правалілася чарано. А людзі кажуць так: раскідаецца печ зімою—тое самае, што рассыпаецца жонка ў жніва. Бабура на скорую руку залажыў дзірку зьверху печы куском іржавай бляхі і прымазаў глінаю, каб хоць дым не валіў на хату, а сам тайком пабег да Лапка.

Лапко і Бабура—старыя дружакі. Бабура таксама батрацкага роду. Рэволюцыя паставіла яго на ногі. Яму далі зямлі. Ён завёў гаспадарку. Абжыўся трохі, моцна трымаючыся за зямлю. А потым пацягнуўся за заможнікамі і выбраўся з Клінкоў на Высокі Дол і яго батрацкая прырода перарабілася ў кулацкую. Лапко шчыра шкадаваў яго, асабліва цяпер, калі дарога ў колгас была ўжо яму зачынена. Хоць яны і апы-

нуліся на розных бакох барыкад і паміж імі стаяла клясавая рознасьць, яны і цяпер, хоць і рэдка, сустракаліся, як прыяцелі. Гэтую прыязнь Лапка да Бабуры жывіла яшчэ адна акалічнасьць. Таклюся Галынка была сястра Цімохава. І апроч усяго Лапко наогул быў чалавек лагодны, адзыўлівы на чужое гора.

Аб сваім жаданьні пабываць на пасёлку паведаміў Пракоп Лапка, як чалавека, якому можна даверыцца. Лапко памеркаваў, падумаў. Сказаць праўду, ён трохі пабойваўся адкрыта хадзіць на пасёлак, але ён абяцаў Цімоху сёньня вечарам зайсьці да яго. Баяўся-ж Лапко самакрытыкі: што гэта за сувязь колгасьніка, да яшчэ брыгадзіра, з кулацкім пасёлкам? Пракоп-жа мог паслужыць яму ў некаторай ступені шчытом ад самакрытыкі.

— А чаго-ж вы хочаце пайсьці туды?—запытаўся Лапко.

— Да проста так—хачу паглядзець і на неколгасьнікаў,—ухільліва адказаў Пракоп.

— Ну, то калі хочаце, пойдзем разам,—запрапанаваў свае паслугі Лапко: —толькі-ж пойдзем, як сьцямнее, каб ня надта бачылі тут... Ну, ведаеце, мала там што...

Яны зразумелі адзін аднаго і больш аб гэтым нічога не гаварылі, а вечарам, як добра зьмерклася, Лапко захваціў у мяшочак сваю мулярскую лапатку і малаток і ціхенька рушылі на пасёлак.

Праз паўгадзіны яны былі на пасёлку. Цімохава сядзіба стаяла на горцы каля кудзеркі невялічкага кучаравага сасоньніку. Непадалёку сямтам сьвяціліся агончыкі ў вокнах другіх пасялкоўцаў. Кудлаты сабака сустрэў іх злосным брэхам. Сам гаспадар вышаў ім на спатканьне і вельмі ветла паздароўкаўся з Лапком. Вайшлі ў цёмныя сенечкі. Цімох шырока расчыніў дзьверы ў хату.

— Заходзьце-ж, калі ласка.

— А гэта наш колгасны госьць,—адрэкомэндаваў Лапко Пракопа, калі яны ўсе трое ўвайшлі ў хату.

Цімохава хата была моцная, ёмкая, пабудаваная з тоўстага сасновага дрэва, гладка спушчанага пад склют, смалістага, здаровага. Адным словам хата была гаспадарская, разьлічаная на доўгі век. Трэцюю часьць яе займала кухня, адгароджаная ад чыстай палавіны тоўстымі дошкамі. У кухні і была тая печ, у якой завалілася чарано. На шчасьце, гэтую печ рабіў не Лапко, а нейкі другі муляр. Побач з кухоннаю печчу стаяла ляжанка, дзе ўжо трэці дзень гатавала страву гаспадыня, хоць для такой ролі ляжанка і ня была дастасавана.

Цімох павёў гасьцей у чыстую палавіну, дзе іх сустрэла гаспадыня і дачка Анэта, дзяўчына гадоў васемнаццаці. Анэта была адна дачка ў бацькоў. Сыноў-жа было чатыры. Самаму меншаму з іх было дзесяць гадоў.

— Ты, Анэтка, будзеш колгасьніца!—сказаў многазначна, хоць з адценьнем жартлівасьці, Лапко. Анэта трохі замяшалася і пачырванела:

яна дагадалася, што дзядзька Лапко пранік у яе сардэчную тайну. Справа ў тым, што Анэта моцна кранула комсамольскае сэрца з колгасу „Хваля рэволюцыі“, сэрца комсамольца з чубам, бухгальтара Гаруя. Сваё каханьне Гаруй утойваў ад колгасьнікаў і ад сваіх таварышоў, бо яно магло зьвярнуць яго на дарогу правага апортунізму. Анэтка, як і ўсякі забаронены плод, яшчэ больш распальвала Гаруева сэрца. А была яна дзяўчына, як кажуць, грэху вартая.

— Ня прымуць мяне ў колгас у ваш, да я і сама не пайшла-б туды адна.

Лапко толькі хітра падмігнуў ёй і стаў адзявацца ў мулярскую спэцадзежду, каб ня зводзіць дарма часу. Гліна і цэгла была ўжо загадзя прыгатаваны і Лапко зараз-жа зачыркаў сваім малатком і мулярскаю лапаткаю.

## XIX

Цімох Бабура быў хітры чалавек і тонкі палітык. Бяда толькі ў тым, што ён зрабіў гэту прыкрую памылку, выселіўшыся з Клімкоў разам з заможнікамі на гэты Высокі Дол. І чаго панесла яго нялёгкая з гэтай кампаніяй, яго, меўшага пачэснае званьне батрака ў мінулым, а потым маламоцнага серадняка? Але-ж слова з песьні ня выкінеш. На высокім Доле ён пусьціў моцныя карэньні, меўшыя ўжо адзнакі кулацкага карэньня. Яшчэ два гады таму назад у яго быў парабак. Было ў яго тады чатыры каровы і пара коняй ды авец штук восем і шасьцёра сьвіней. І як на грэх, гаспадарка яму ручыла. Але гэта каяньне прышло пазьней, калі ў паветры запахла рэволюцыяй сельскай гаспадаркі, калі была выкрыта да канца соцыяльная існасьць кулацтва і азначаны яго лёсы. Вось гэты страх ліквідацыі кулацтва і прымусіў Цімоха перамяніць тактыку. Патрошку ён стаў згортвацца, як бульбяное лісьце перад заходам сонца, і ў той-жа час, ацаніўшы палітычную сітуацыю, ён зрабіўся энтузіястам і з энтузіязмам выпаўняў усякія разьвёрсткі, налогі і абкладаньні. Яму трэба было зьвярнуць на сябе ўвагу, як на чалавека, цалкам адданага савецкай уладзе, і давесьці, што кулацкасьць яго—проста непаразуменьне адно, што ён быў і ёсьць батрак па сваёй прыродзе. Калі організаваўся колгас „Хваля рэволюцыі“, а ў кулакоў пачалі забіраць машыны, Цімох сам павёз туды жняярку, праклінаючы колгас і жадаючы яму тысячу разоў праваліцца скрозь зямлю.

— Таварышы, браткі! Вось вам мой падарунак. Разжывайцеся з мае лёгкае рукі. Маё сэрца цалкам ляжыць у вашым колгасе. Але між намі, таварышы,—прорва: я—пасялковец,—маю такое няшчасьце,—вы, браткі, маеце права не паверыць маёй шчырасьці. Але той, хто чытае ў людзкім сэрцы, сказаў-бы вам праўду пра мяне.

Прамова яго была гарачая, сам прамоўца расчуліўся і сьляза вось-вось гатова была скаціцца з яго вострых і хітрых вачэй. Гэта прамова кранула некаторых колгасьнікаў. Старшыня-ж колгасу толькі пасьміх-

нуўся, але пахваліў Цімохаву грамадзкую сьвядомасьць і падзякаваў за падарунак. Ды Цімох закінуў зерне сумненьня і ў мысьлі старшыні, якбы ў пакараньне за тую ўсьмешку недавер'я збоку Максіма Шахлевіча, што не схавалася ад вострых Цімохавых вачэй. Пад вялікім сакрэтам і шэпатам вялікай таямніцы сказаў ён Максіму ставіць на ноч варту ў колгасе: пасялкоўцы замышляюць супроць яго ліхія замахі. Праўда гэта была ці не, асталося невядомым, але варта была пастаўлена, і аб гэтым стала вядома па пасёлку.

Так была наладжана сувязь з колгасам, і гэтай сувязі ён стараўся ня губляць, наадварот, ён яшчэ болей замацоўваў яе, заваёўваючы давер'е к сабе збоку асобных колгасьнікаў. Вялікім козырам была цяпер у Цімохавых руках яго Анэтка. Асьцярожны і прадбачлівы бацька ня спускаў яе з свайго вока. Яму гарліва памагала ў гэтым і маці. Уся бацькаўская энэргія іх была накіравана на тое, каб ніякага пераходу дзявочых граніц ня было да таго часу, покі яны не запішуцца законным парадкам, не выпускаць з рук комсамольца-колгасьніка. Анэтка павінна памятаць, што на яе ўскладаецца важная місія—быць аховаю сям'і і гэтага хутарку. А гэты хутарок быў так дораг Цімоху, асабліва цяпер, калі старое навішча яго, як кулака, няпэўнае, нявыразнае, цёмнае і страшнае. На чорны выпадак Цімох стараўся працерабіць сабе дарогу ў колгас.

Лапко залез у печ і ўзяўся за работу. Цесна было і непаваротна. Прыслужвала і памагала яму Анэтка, спрытная, гнуткая дзяўчына. Падавала гліну, цэглу.

— Цесна там вам, дзядзька, і непаваротна!—шчыра спачувала яна муляру, устрасаючы стрыжанымі цёмнымі валасамі, адкідаючы іх са лба. Алег, яе меншы брат, стаяў і назіраў.

— Нічога,—Анэтка, нічога,—як шэршань у дупле, бубніў у печы Лапко:—мы яе сейміга да ладу давядзём.

— Ты, брат, ня вельмі ўжо старайся там: залажы трохі з большага, абы да вясны дастаяла,—сказаў Цімох, ведаючы, што Лапко ўсё роўна эробіць акуратна.

— Дзьве пяцігодкі прастаіць,—азваўся з печы Лапко, закладаючы цэглу.

Покі Лапко завіхаўся ў печы, Пракоп і гаспадар сядзелі ў сьвятліцы і гутарылі. Гаспадыня тымчасам клала ў ляжанку сухія, тонкія паленцы, а бразгат скаварады сьведчыў аб тым, што будзе пачастунак.

— Дык вы, значыцца, колгас глядзелі?

Уступная перад гэтым гутарка была прысьвечана Пракопавай асобе: адкуль ён і хто?

Да вось цікава паглядзець, як будуецца колгас і як тут жывуць людзі.

— О, колгас пастаўлены за разьлюлі маліну!—энтузіязіста выгукнуў Цімох:—цяпер і сьляпыя бачаць, што колгас ёсьць вышэйшая форма гаспадаркі. Іначай і быць ня можа!

Пракоп трохі панурыўся.

— Нічога ня скажаш супроць: гаспадарка іх—дзівіцца трэба. А ўсё-ж такі скажу вам... ну, тут як-бы нешта людзі згубілі.

Вострымі вачыма мацнуў Цімох Пракопа. Відаць, на балючае месца наступіў яму госьць. Але ён не паддаўся першаму парыву. Зарагатаў і сказаў сур'ёзна:

— Яны нічога ня згубілі, мілы чалавек! А калі што і згубілі, дык гэта сваю галечу. Бедныя былі ў нас людзі, па зарабатках цягаліся, служылі за няшчасныя рублі, за скарынку хлеба. І сам я быў такі і вельмі шкадую, што не астаўся такім: і я быў-бы ў гэтым колгасе.

А ў затоеных мысьлях сваіх Цімох гаварыў: „І праўда, што яны нічога ня згубілі. З аднаго батрацкага стану перайшлі ў другі, у лепшы. Але як былі батракі, дык батракамі і засталіся. А мяне ў колгас па добрай волі і па вярбоўцы не зацягнулі-б".

Пракопу-ж уголас казаў далей:

— Губляе ў колгасе заможнік, кулак...

— Ну, а вам цяпер ня можна ў колгас?—пацікавіўся Пракоп.

Цімох нявыразна махнуў рукою.

— Яно-б можа, калі-б то ў часе зрабіў захады, і папаў-бы. А цяпер... трудна. Заможнік, бачыце, кулак. А які кулак? Што парабка некалі трымаў? Дык і сам-жа я парабкам быў. Адно другім пакрываецца. Уся мая бяда ў тым, што выселіўся на гэты пасёлак... Ды каб-жа чалавек ведаў, дзе ён паваліцца, дык там саломкі падаслаў-бы... Мяркуеш, як лепей, ды не заўсёды яно на дабро выходзіць.

— Вось вы тут блізка жывеце, і вам лепей відаць: ці здаволены яны жыцьцём у колгасе?—рубам паставіў пытаньне Пракоп.

— А чаго ім, скажэце, больш трэба? Жывуць у цёплых, чыстых кватэрах. Працуюць у два, у тры разы меней за тых, хто вядзе сваю гаспадарку. Ядуць на поўны пуп, чыста ходзяць, клопату ня маюць, кожны ведае адно якое-небудзь дзела. Дзеці іх у доглядзе—маюць свой дзіцячы сад. Вечары ладзяць, прыстаўленьне, музыку ды яшчэ і ў лазьні могуць мыцца. Ну, чым-жа ня жыцьцё?

— Але ўсё-ж яны там... ну, як вам сказаць? сабою і сваім часам ня могуць распараджацца, як хочуць.

Пракоп успомніў, з якою перасьцярогаю ішоў з ім сюды Лапко, ды аб гэтым не сказаў нічога.

У затоеных сваіх мысьлях Цімох гаварыў:

„У тым-та і бяда, што ў колгасе такім гаспадаром, як на сваім хутары, ты ня будзеш і сваім адумам нічога зрабіць ня здолееш. І працаю, здабыткам яе, па-свайму не пакруціш."

Пракопу-ж ён праконана тлумачыў:

— Ну, гэта байкі адны! Дзе можна знайсьці такога вольнага чалавека, як вы думаеце? На сваей гаспадацы ты вольны? Да ты сам сабе тысячу раз тут нявольнік. Нявольнік свае зямлі, свае працы, свае ска-

ціны, сваіх абавязкаў перад дзяцьмі, перад людзьмі. Дрыжыш за кожную дробязь, за каждую няўдачу... Калі добра паглядзець, дык няхай яно калом пойдзе. А ў колгасе адбарабаніў сваё, і ты вольны казак.

А ў заключэньне сваіх слоў Цімох у мысьлях дадаў:

— „Чорт-жа цябе ведае, што ты за чалавек і як лепш з табою гаварыць!“

— Як відаць, усё, што робіцца на сьвеце, ідзе к лепшаму,—глыбокадумна заўважыў Ракоп, дзівячыся, чаму такога чалавека, як Цімох Бабура, ня прымаюць у колгас.

Лапко паправіў печ, акуратна замазаў яе зьверху і калі ўжо ўся работа была скончана, жартам напалохаў Анэтку, намерыўшыся замазанымі гліною рукамі ўзяць яе за шчокі.

— Ой, дзядзька!—са сьмехам і піскам адскачыла яна ад Лапка, а потым палівала яму ваду на рукі. А гаспадыня накрывала стол.

## XX

Перш чым сесьці за стол, Цімох вышаў на двор і пазачыняў акяніцы. З двара завярнуў у варывеньку, дзе хаваўся розны гаспадарскі скарб. Тут-жа стаяў і шафік, а ў шафіку пра запас вадзілася гарэлка. Таксама ў варывеньцы віселі цяпер і абразы, бо дзяржаць іх у хаце было нязручна. У мінуты рэлігійнага настрою Цімох заходзіў сюды памаліцца богу, памятаючы словы яго сына: Ты, калі молішся богу, вайдзі ў клець тваю і зачыні за сабой дзьверы: няхай малітва твая будзе патайною. Дужа трапна казаў колісь сын божы! У цемнаце падняў Цімох вочы угору, дзе віселі абразы, уздыхнуў, памаліўся каротка, але горача: „Захавай божа, мне хутар“. А потым намацаў кручок на шафіку, адчыніў, пашоргаў рукою па бутэльках і выцягнуў важную пляшку літраў на паўтары, сунуў за пазуху і накіраваўся ў хату.

Пах скварак і кілбасы так спакусьліва разьліваўся па хаце, што кожны, хто быў тут, мусіў актыўнейшым чынам адгукнуцца на гэта сваім носам. А Пракопаў нос вывеў такія трэлі, якіх ня выводзіў яшчэ ні разу.

Круглая, агромная, у меру глыбокая патэльня, на палавіну занятая цёмна-ружовым распушчаным салам, дзе плавалі скваркі, як скрыгі ў разводзьдзе, і нярухома ляжала скучаная ў дзьве столкі кілбаса, якою можна было-б падперазаць самога тоўстага чалавека, заняла цэнтральнае месца на стале. Анэтка прынесла міску квашанай капусты, Цімох паставіў бутлю. Госьці гарэлі ад нецярпеньня, але сядзелі паважна, нічым ня выказваючы свайго прагавітага жаданьня кінуцца ў наступленьне на гэтым фронце.

Першым выпіў Цімох, гаспадыня, яшчэ малажавая, чорнабровая, у меру тоўстая, і ў меру высокая жанчына, уступіла яму сваё права. Першая чарка была выпіта за Лапка, за яго работу, здольнасьці, за брыгадзірства і за добрае сэрца.

— Карацей, карацей,—сароміўся трохі Лапко:—кілбаса стыне!

Сваю чарку ён перадаў гаспадыні. Гаспадыня з далікатнасьці зноў адмаўлялася, але Лапко катэгарычна заявіў, што ён вып'е толькі пасьля гаспадыні, матывуючы гэта тым, што ён хоча ведаць яе мысьлі. А калі потым ён выпіў і сам, то ад здавальненьня моцна крэкнуў: гарэлка, наліўка на вішні, была дужа добрая, і жартліва сказаў Цімоху:

— Ты павінен жыць тут, покі я не памру ў колгасе!

— То дай божа Лапку жыць у колгасе сто гадоў!—умеў сказаць да рэчы і Пракоп.

— Дай божа!—падцьвердзілі Цімох, гаспадыня і Анэта.

На некаторы час гутарка прыціхла, саступіўшы месца чаўканьню сківіц. Адна толькі гаспадыня разрывалася на часьці, частуючы гасьцей.

Госьці церабілі кілбасу з капустаю. А кілбаса была сакоўная, крохкая і калі адкусіш кусок, то яе кавалачкі выпіраліся самі з свае няволі, расквечываліся, як бутон ружы. Пракоп са смакам пытляваў кілбасу, зацярушваючы бараду капустаю, а малы Алег заўважыў, як калыхалася на сьцяне цень ад яго барады, і моўчкі сам сабе пасьміхаўся, пазіраючы то на Пракопаву бараду, то на яе рухлівую цень на сьцяне.

— Ну, кілбаса-ж у цябе, Алена: проста сама ў роце растае!—у захапленьні хваліў Лапко кілбасу, а тым самым і гаспадыню.

— Гэта мы з Анэткаю рабілі,—перадала здаволеная маці частку пахвалы дачцэ.

— З Анэткаю?—Лапко паглядзеў на дзяўчыну, паківаў галавою.

— Не, нічога ня будзе: забяру, мусібыць, я цябе ў колгас, Анэтка!

Анэтка выпіўшы чарку наліўкі, сядзела з паружавелымі шчокамі, жывая, вясёлая, шчабятлівая. Сьвежасьць і маладасьць прабіваліся ў кожным яе руху, у кожным слове, у сьмеху і ў іскрыстым блеску чорных вачэй.

— Няма мне дарогі ў ваш колгас!—нібыта са смучаньнем адказала Анэтка.

— Нойдзем!—рашуча заявіў Лапко:—я сам запішуся ў камсамольцы, а цябе вазьму... Эх!.. Ну, і чаму я не камсамолец?.. А кілбасы смачныя!

— От такіх кілбас няма таму ў колгасе,—тонкую шпільку пусьціў Цімох.

— Няма!—тужліва згадзіўся Лапко, а потым дадаў:—ну, калі-б хто ўжо захацеў, то нарабіў-бы сабе трохі кілбас. Не кажу такіх смачных, а наогул.

— Ды там-жа ў вас і распараджэньне ёсьць—злупліваць скуры з сьвіней,—гнуў сваё Цімох.

— Ёсьць!

Лапко высока падняў галаву.

— А ты ведаеш,—сказаў ён:—што пяцьсот сьвіных скур даюць калгасу адзін трактар?

— Трактар? за пяцьсот сьвіных скур?—зьдзівіўся Цімох.

— Так, адзін трактар!—з відам пераможцы пацьвердзіў Лапко.

Не ўцярпеў тут і Пракоп.

— А! вось табе і сьвіная скура! Дык колькі-ж мы сваёю вёскаю за свой век трактароў паелі! Божа твая воля, што робіцца на сьвеце!

Пракоп апусьціў галаву і задумаўся. Ён нават ня чуў, што сказаў Цімох на яго заўвагу. А Цімох сказаў:

— А калі прыняць пад увагу, што мы елі і мяса і сала разам з скураю, то мы праелі ня толькі трактары, а і цэлыя трактарныя заводы разам з трактарамі.

— Ты гаворыш праўду, хоць гаворыш, як клясавы вораг. Ї не гавары ты гэтак, каб я не ўзлаваўся. Шчасьце тваё, што я выпіўшы!.. Эх... Дзе мая злосьць, каб яе агонь спаліў?!

Лапко пакруціў галавою.

— Ануча я, а не чалавек!

— О, каб гэткія былі ўсе людзі, як дзядзька!—са спачуваньнем сказала яму Анэтка.

— Не, Анэтка: не хвалі ты мяне, няма ў мяне клясавай нянавісьці да Цімоха. Ад гэтага я і пакутую на сьвеце.

Гарэлка зашаламіла галовы. Пракоп даўно ўжо ня піў гарэлкі, і хмель найманцней стукнуў яму ў галаву. Наўперад яму стала так добра, добра, як, здаецца, ніколі яшчэ ў жыцьці. Ї людзі і ўсё на сьвеце паказалася яму такім добрым і мілым. Цэлыя кавалкі жыцьця, зьявы, малюнкі праходзілі перад яго вачамі. Ён моцна соп носам, аддаючыся сузіраньню свайго жыцьця. Стараўся слухаць, што гавораць каля яго, сам устаўляў сваё слова, але мысьлі яго былі дзесь далёка. А потым зрабілася яму журботна. Проста хацелася плакаць і расказаць людзям пра сваё жыцьцё, пра сваё гора і самадурства, і калі Лапко казаў, што пакутуе на сьвеце, Пракопа прарвала. Ён чмыхнуў носам так, што спалохаў Алега і непаслухмяным языком пачаў.

— Лапко, таварыш Лапко! Адзін ты спадабаўся мне ў колгасе, як... ну, ня ведаю хто... Пакутуеш? А я не пакутую?—голас Пракопаў абарваўся.

— Вы-ж думаеце я—дэлегат? Які я ў чорта дэлегат? Дармаед я, брадзяга!.. Сам сябе выгнаў з свае хаты, з свае гаспадаркі. На сваю старую, на свайго Мікітку насварыўся, кіем на іх махаў, бо яны ў колгас цягнулі мяне, а я не хацеў, збаяўся колгасу. Ї вось я ім сказаў: ідзеце ў колгас без мяне, а сам я ў сьвет пацягнуся, работы і праўды шукаць... Цягаюся, ня мілы сам сабе.

Дзе-ж мне дзецца?

Пракоп закрыў далонямі вочы і заплакаў, унёсшы замяшаньне ў вясёлую бяседу.

— Ды аб чым-жа тут нудзіцца і гараваць?—запытаў Лапко:—вот галава! Вярніся дамоў ды ў колгас валяй!

— Вярнуся, браток!—весялей загаманіў Пракоп:—успомню што ў колгасе ёсьць такія людзі, як ты, і мне будзе весела, і ахвота знойдзецца ў колгасе працаваць.

Пракоп абняў Лапка, і сталі яны цалавацца.

А гаспадыня сказала:

— Ну, вось і добра! Павесялеў чалавек і добра.

— Будзем старацца брыгадзірам цябе зрабіць у колгасе.—Паддаваў Пракопу ахвоты Лапко.

Як добрыя прыяцелі варочаліся яны з хутара.

*(Далей будзе).*

# ПАПУТНІКІ

*(Аповесьць)*

**Зьмітры Сьвярчкоў**

1

Гронскі ўвайшоў у пакой. Бразнуўшы дзьвярыма, швырнуў паліто ды капялюш на куфар, што стаяў у кутку, сеў да пісьмовага стала і апусьціў галаву на рукі.

Мар'я Рыгораўна, дастаючы з буфэту начыньне на абед, зразумела, што здарылася нешта няпрыемнае, і моўчкі рабіла далей сваю справу. Яна ведала, што праз адну-другую хвіліну муж загаворыць сам, і што распытваць у яго нельга. Крыху згадзіўшы Гронскі стукнуў кулаком па стале і голасна сказаў:

— Ну і ладна. Чорт з вамі! Лопайце мяне! Жарэце!

Ён закурыў папяросу, устаў і, засунуўшы рукі ў кішэні, пачаў хадзіць па пакоі.

— Будзеш абедаць? Ужо пяць гадзін...—нясьмела сказала Мар'я Рыгораўна, стараючыся гаварыць такім тонам, як-бы яна і не заўважае мужавага настрою.

Міхал Мікалаевіч раптам суняўся перад ёю, упёрся ў яе злоснымі вачыма і зрыўлівым візгучым голасам закрычаў:

— Абедайце, вячэрайце, сьнедайце, рабеце што хочаце, але дайце мне спакой!

Мар'я Рыгораўна ўздыхнула і падышла да акна, нічога не адказаўшы.

Праз некалькі хвілін маўчанкі Гронскі, усё яшчэ раздражненым, але ўжо больш спакойным тонам, сказаў:

— Яны ня хочуць, каб я абедаў. Яны хочуць замарыць мяне голадам. Ім Гронскі перашкаджае. Ён стаіць поперак дарогі розным няздарам накшталт Бязыменскіх, Афінагенавых, Яноўскіх ды кампаніі...

— Хто гэта „яны"?—ціха запыталася Мар'я Рыгораўна, хоць сама добра ведала, пра каго ідзе гаворка.

— Вядома хто,—зноў падняў голас Гронскі.—Галоўрэпэртком. Маю п'есу, якую я выношваў два гады,—забаранілі! П'есу, якую так хваліў Вышаслаўскі, якую з надзвычайнай цікавасьцю слухалі на гуртку Ракіцінае, якая павінна была паказаць сучасным хаўтурнікам, што такое сапраўдная драма,—зарэзалі! У ёй знайшлі няправільную ўстаноўку, дробнабуржу-

азныя ўхілы, псыхолёгізм і яшчэ тысячу і адно злачынства супроць цяперашняе ўлады. Цяпер, бачыце, трагедыя аднае асобы не патрэбна. Я ўпэўнены, што Гамлету, Фаўсту ды Отэлло цяперашнія знатакі не далі-б нават літары „В“!

Мар'я Рыгораўна выслухала гэту мужаву тыраду са спачуваньнем і, бачачы, што гнеў яго пачынае астываць, зноў загаварыла пра абед. Міхал Мікалаевіч, не адказваючы, сеў за стол і нэрвовым гестам заткнуў за камізэльку рог сарвэткі.

Абед прайшоў моўчкі. Гронскі выпіў келіх віна і закурыў папяросу.

У пярэдняй тры разы прабранчаў званок.

— Да нас,—уздыхнула Мар'я Рыгораўна і пашла адчыняць.

— Добрага здароўя, дарагі,—працягнуў Міхалу Мікалаевічу Бялоў, як і заўсёды, апранёны ў чысты гарнітур з уважліва выпрасаванаю складкаю на портках; падстрыжаная сівая бародка акуратна клалася на беласьнежны крухмалёвы каўнерык, навязаны шаўковым бантам цёмнага гальштука з вузкімі сінімі палоскамі.

— Добрага здароўя, Пятро Пятровіч. Сядайце. Чаю хочаце?—запытаўся Гронскі.

— Ад шклянкі не адмоўлюся,—адказаў Бялоў, падцягнуў крыху ўгару складкі штаноў, каб яны ня выцягнуліся, і сеў на крэсла.

Мар'я Рыгораўна пачала гатаваць чай, а Міхал Мікалаевіч запытаўся:

— Ну, як справа? Што новае напісалі?

Ён наважыў цяпер нічога не гаварыць пра сваё нездаваленьне з поваду забароны Галоўрэпарткомам ягонае п'есы, паведаміць пра гэта мімаходзь і зусім роўнадушна, ня губляючы свайго пісьменьніцкага гонару з шырока вядомым у літаратуры імем.

— Кончыў невялікую аповесьць на тры з паловай аркушы, здаў у „Красную Новь“, яе прынялі і абяцалі зьмясьціць у наступным нумары часопісу. Далі нават аванс,—адказаў Бялоў.

— На якую-ж тэму напісана ваша аповесьць?—з ледзь прыкметным раздражненьнем запытаўся Міхал Мікалаевіч. Раздражненьне зноў ахапіла яго таму, што ў Пётры Пятровіча нашлася нейкая тэма, якую льга трактаваць у сучаснай літаратуры, і якую прыняў адразу адзін з буйных часопісаў.

— Глупства, — адказаў Пятро Пятровіч. — Пакарыстаўся юбілеем рэволюцыі 1905 году і наскроб сёе-тое з гэтага пэрыоду. Давялося, вядома, увесьці ў аповесьці ў якасьці бадай галоўных асоб двух рабочых. Цяжка было, — трэба-ж фантазаваць, але нічога ня зробіш. Дзякуючы гэтым рабочым удалося захаваць цэнтральную фігуру дачкі памешчыка социялісткі-рэволюцыянэркі, што пасьля 9 студзеня, у сувязі з забастоўкаю вышэйшых навучальных устаноў, паехала ў маёнтак да свайго бацькі і там была правадыром сялянскага руху. Яна мне ўдалася,— гэтых то я добра ведаю.

— Ї вам ня сказалі, што ў аповесьці пануе дробнабуржуазная ідэолёгія?

— Не. Я ня меў на ўвазе ніякае ідэолёгіі. Я проста напісаў малюнак з жыцьця бяз ніякіх прэтэнзій.

— Дзіўна. Цяпер-жа стала агульна распаўсюджаным правіла, што адсутнасьць ідэолёгіі—гэта таксама ідэолёгія, ды яшчэ і шкодная.

— На жаль, вы кажаце праўду,—сьціпла заўважыў Пятро Пятровіч.— Але мяне шчасьліва пранесла міма ўсялякіх небясьпек. А як вашы посьпехі?

— Маю п'есу, як і трэба было чакаць—забаранілі...

— Як?—ажно ўскочыў Пятро Пятровіч.—Вашага „Берсенева“? Ня можа быць!

— І я вельмі здаволены,—казаў далей Міхал Мікалаевіч.—Гэта забарона ў маіх вачох толькі паказвае на адсутнасьць у ёй шаблёну, крыклівасьці, „алілуйнічаньня“, як трапна сказаў Сталін, ды іншых прыналежнасьцяй хаўтурніны.

— Але-ж чаму? Якія мотывы? Я так спадзяваўся ўбачыць яе на сцэне мастацкага тэатру.

— Сказалі, што індывідуальныя перажываньні былых людзей нам не патрэбны. Зрабілі немагчымыя вывады, што нібы-та пагібель князя Берсенева,—героя мае п'есы, можа талкавана зусім ня так, як я гэта задумаў... Вы разумееце? Князь Берсенеў у мяне хоча шчыра пераключыцца на рэйкі рэволюцыі, ён чэсны і сумленны чалавек ва ўсіх адносінах. Ён прагне да работы, ён бачыць у ёй існасьць справы, незалежна ад таго, каму даводзіцца падпарадкавацца і паводле якіх рэцэптаў гэта работа ідзе, ён зусім ня супроць партыі і яе кіраўніцтва, але проста не разумее ні програмы, ні тактыкі бальшавікоў, як не разумеем і мы з вамі. І ў выніку ён пападае ў цэлую сэрыю конфліктаў, яго шчырае неразуменьне расталкоўваецца, як нежаданьне працаваць, як саботаж, усюды зьвяртаюць увагу не на ягоную чэснасьць і шчырасьць, а на пахаджэньне ды на няшчасны княжыцкі тытул, у якім ён ніяк не вінаваты, ня лічацца з турмою ды з высылкаю, якія ён перанёс у эпоху царскага самаўладзтва, пры чыстцы выганяюць яго па першай катэгорыі і чалавек прападае... У мяне ўвесь цэнтр цяжару ляжыць ня ў вонкавых абставінах, а ў глыбознай трагедыі асобы. Абставіны тут зусім ня прычым: мой герой мог-бы папасьці ў такое-ж самае становішча і ў Францыі, і ў сучаснай Германіі, і ў готэнтотаў і на Марсе. А тут выходзіць, што за галоўнае бяруць абставіны, а з цэнтрам мае тэмы зусім ня хочуць лічыцца!

— Так, становішча нашага брата ў цяперашніх умовах вельмі цяжкое,—памаўчаўшы, прагаварыў Пятро Пятровіч,—баюся сказаць, што яно блізка да роспачы. Ад нас патрабуюць, каб мы пісалі на сучасныя тэмы, малявалі рух мас, энтузіязм, колектывізацыю, пяцігодку і да таго падобнае. А я, па-праўдзе сказаць, ня ведаю, з якога канца да гэтых тэм падступіцца. Ня ўмею. Гэта-ж усёроўна як-бы мастака портрэтыста прымусілі пісаць ляндшафт, паказаць, напрыклад, зямляўздрыг, ды яшчэ так,

каб кожны камень, каб кожная груда зямлі на карціне рушыліся. А ён умее пісаць толькі абрысы твару, выраз вачэй, паварот тулава, зграбнасьць ліній плеч...

— Але як яны не зразумеюць, што мы-ж з усяе сілы хочам ісьці поруч з сучаснасьцю!—горача праказаў Міхал Мікалаевіч.—Я прабаваў разабрацца ў розных літаратурных плынях, зразумець сутнасьць тых, што адбываюцца, спрэчак, перачытаў гібель кніг ды артыкулаў,—вось яны валяюцца,—паказаў ён рукою на паліцу кніжніцы.—І нічога не зразумеў у іх. Гібель груповак: РАПП, МАПП, ВОАПП, ВОКП, канструктывісты, лефаўцы, налітпостаўцы, перавальцы, „Кузьніца“, варонщчына, пераверзеўшчына, літфронт,—усе адзін з адным сварацца, у тым ліку і комуністы між сабою, усе папікаюць адзін аднаго ў загінах, перагінах, эклептызьме, ідэалізьме, мэханістычных тэорыях. Сёнешнія пераможнікі праз тыдзень аказваюцца разгромленымі і абвінавачаны ў найцяжэйшых грахох... Чытаў, чытаў—і кінуў. Нічога не разумею. А галоўным чынам не разумею, якім шляхам з усіх гэтых спрэчак можа нарадзіцца які-небудзь каштоўны мастацкі твор? Раней усё было ясна: напісаў роман, ён пападзе пад ацэнку ды абгаварэньне крытыкаў і, на аснове гэтага рому, мяне далучаюць да тае ці іншае творчае групоўкі. А цяпер—наадварот. Я спачатку павінен да некага далучыцца, а пасьля ўжо пісаць паводле рэцэптаў ды тэорый мае групы. У дадатак, якраз і выйдзе,—як гэта вышла з „Рождением героя“ Лібедзінскага—што я пачварна сказіў тыя самыя прынцыпы мастацкае творчасьці, якія сам з усяе сілы толькі што абараняў ад нападаў!

— І дадайце да гэтага наяўнасьць „дурняў з сякерамі“, як завуць цяпер абногленых крытыкаў, якія бегаюць па пісьменніцкай дарозе і размахваюць сваёю сьмяротнаю зброяю. Да таго-ж вы не гарантаваны, што не атрымаеце пралом чэрапу, або проста выпадкова не пападзеце пад удар...

— Але што рабіць, што рабіць? Вы разумееце, я не магу ня пісаць, не магу. Апрача таго, што гэта мой заробак, дык гэтага патрабуе і ўся мая істота.

— Папрабуйце запісацца ў рабочы літаратурны гурток. Вядома, не дзеля таго, каб там чаму-небудзь навучыцца, але там вы возьмеце новыя патрэбныя для нашае эпохі тэмы. Вазьмеце прыклад з Уладзімера Уладзімеравіча, які падаўся на завод вучнем, маючы 55 год ад роду і аграмадны літаратурны стаж...

— Але-ж Уладзімер Уладзімеравіч ужо год, як на заводзе, а да гэтага часу яшчэ нічога не напісаў!—перабіў Бялова Гронскі.—Ніводнага радка.

— Што зробіш! Як відаць, дык на старасьці ня так лёгка ўлазіць у зусім чужую скуру. Даводзіцца...

Міхал Мікалаевіч замоўк. Мар'я Рыгораўна скарыстала перапынак у гаворцы, у якую не адважвалася ўмешвацца, наліла чаю і паставіла вазачку з вішнёвым варэньнем ды маленькія сподачкі.

— Ежце, Пятро Пятровіч. Сама ўлетку варыла.

— А ваша парада, урэшце, ня так і дрэнная,—сказаў Міхал Мікалаевіч, разьмешваючы ў шклянцы чаю лыжку варэньня, і паглядаючы, як жаўтаватая вадкасьць набывае рубінавы водцень.—Трэба папробаваць. Можа сапраўды ўдасца вывудзіць добрую тэму з заводзкага жыцьця. Я не кажу пра прамфінпляны, пра пяцігодку ды пра іншае, што абрыдла да апошняе ступені, а проста з жыцьця: які-небудзь востры конфлікт з сучаснага побыту...

— Вядома,—узрадаваўся Пятро Пятровіч.—Скажу вам навіну: я сам ужо запрапанаваў сябе мобілізацыйнай камісіі саюзу пісьменьнікаў на які-небудзь завод, але, вядома, з умоваю, што яны мяне ня вышлюць з Масквы. Хачу зразумець цяперашняе жыцьцё, буду вучыцца.

Перад Міхалам Мікалаевічам адчыніліся нейкія новыя пэрспэктывы, і ён рад быў ухапіцца за іх, каб адчапіцца ад няпрыемнасьці, якую зрабіў яму Галоўрэпэртком.

— Так, дарагі Пятро Пятровіч, ці думалі мы з вамі, што калі-небудзь пападзем у такое становішча, як цяпер? Памятаеце студэнцкія вечары? Моладзь, курсысткі, гімназісткі, рэалісты. Распарадчык абвяшчае:— Зараз наш паважаны Пятро Пятровіч Бялоў прачытае сваё апошняе апавяданьне... Яму не даюць дакончыць: толькі што ён сказаў ваша прозьвішча, як заля дрыжыць ад воплескаў...

— Вы карысталіся яшчэ большаю пашанаю, Міхал Мікалаевіч,—сарамліва перабіў Гронскага Бялоў.

— Так, і я... Калі я быў арыштаваны з прычыны дэмонстрацыі 3 сакавіка 1902 году, дык мая камера не магла зьмясьціць красак... Іх бярэмямі прыносілі паважальнікі ды таварышы, і турма перарабілася на кветню, кожны зноў адчуваў, што ўсё, што толькі ёсьць у народзе жывое, чэснае ды перадавое,—з намі. Гэта давала энэргію, бадзёрасьць. Дыхалася так лёгка ды вольна. Рэдактары часопісаў адзін перад адным сьпяшаліся замацаваць за сабою нашы творы, якіх мы часта яшчэ не пачыналі пісаць, прысылалі на кватэру авансы, друкавалі ў газэтах анонсы... Мы ўсёю нашаю істотаю імкнуліся да рэволюцыі, якая павінна была прынесьці поўнае вызваленьне нашай творчасьці. А гэта—усё прапала. Сьветлыя дні, што насталі пасьля лютага 1917 году, працягваліся так нядоўга. Мы аказаліся недзе ў баку, забытымі. Пачалі—які сорам—самім пра сябе напамінаць, нам літасьціва давалі некалькі балонак у часопісах, але крытыка ня лічыла патрэбным зьвяртаць на нас увагі.

— Іншы раз нават вельмі зьвяртала,—уставіў Пятро Пятровіч, успомніўшы некалькі рэзкіх артыкулаў на свой адрас.

— Так, але хіба гэта льга назваць крытыкаю? Спрэс бессэнсоўная лаянка „дурняў з сякерамі"—як вы ўдачліва сказалі—не завецца крытыкаю. І вось мы, як ня сорам, замест таго, каб аб'яднацца, каб патрабаваць сябе права на існаваньне—распаўзьліся, адны пайшлі ў сваю норку,

чакаючы лепшых часоў, другія—пачалі лізаць рукі ўлады моцных... Ганьба, ганьба і прыкрасьць!

— Дазвольце, я вам нальлю яшчэ шкляначку,—зьвярнулася Мар'я Рыгораўна да Бялова, заўважыўшы, што ён выпіў апошні глыток.

— Калі ласка. Пад уплывам успамінаў Міхала Мікалаевіча я вярнуўся на шмат гадоў назад. А тут яшчэ вішнёвае варэньне...

— Адзінае, дзе льга яшчэ адпачыць, дык гэта ў опэры,—зазначаў Міхал Мікалаевіч.—Там усё тыя-ж самыя мілыя, знаёмыя з гадоў дзяцінства, пэрсонажы, хвалёўныя мотывы—„Пікавая дама", „Русалка", „Князь Ігар", „Лебядзінае возера", „Руслан і Людзьміла", „Кармэн" ды іншыя нашы старыя сябры ўпарта працівяцца пранікненьню ў опэру ды балет новых павеваў, і толькі там знаходзім сапраўдны адпачынак ад цяжкае рэчаіснасьці. Нават опэрэтка: „Пэрыкола", „Корнэвільскія званы", „Прадавец птушак"—трымаюцца ўпарта.

— А ці не пайсьці нам разьвесяліцца? Калі ўжо перанесьліся ў добрыя старыя часы, дык давайце закончым гэта, як сьлед. Сёньня якраз ідзе „Евгений Онегин",—запрапанавала Мар'я Рыгораўна.

Думка яе была аднагалосна ўхвалена і сябры пачалі зьбірацца.

## 2

Літаратурны гурток мэталічнага заводу імя Сталіна, куды запісаўся Міхал Мікалаевіч, яшчэ быў у стадыі арганізацыі. На завод была намечана цэлая брыгада, у якой меркавалася. што будуць удзельнічаць драматургі, пісьменьнікі, компазытары, работнікі эстрады і кіносцэнарысты, але яна ня была яшчэ ўкомплектавана. У цэхах была вывешана аб'ява, якая запрашала ўсіх, хто жадае, запісвацца ў гурткі. Гэтымі гурткамі меліся кіраваць члены брыгады па сваёй спэцыяльнасьці. У літаратурна-драматычны гурток зразу запісалася больш за 60 чалавек, і Міхал Мікалаевіч вырашыў удзельнічаць у ім і паслухаць, як будзе праводзіць заняткі прадстаўнік РАПП'у Жукаў, а актыўны ўдзел прыняць у рабоце па складаньні насьценных газэт, якіх—адпаведна колькасьці цэхаў—на заводзе было цэлых сэм. Ён пазнаёміўся з асобнымі рабочымі, але адчуваў сябе з імі пакуль што нялоўка і спадзяваўся, што гэтая нялоўкасьць пройдзе пры далейшых сустрэчах. Нялоўкасьць была ад таго, што ня было тэмаў на гаворку. Гаварыць пра прамфінплян, пра ўдарніцтва, пра спаборніцтва ды пра іншае Міхалу Мікалаевічу здавалася нязручным, а іншыя тэмы пакуль што ня прыходзілі ў галаў. Апрача таго, ён быў пакрыўджаны пытаньнем, якое задаў Жукаву адзін рабочы, думаючы, што Міхал Мікалаевіч яго ня чуе. Ён запытаўся: што іменна напісаў Гронскі, чым ён вядомы, да таго-ж прызнаўся, што ніколі ня чуў прозьвішча такога пісьменьніка. Гэта было тым больш няпрыемна, што рабочы аказаўся зусім ня невукам у літаратуры: наадварот, ён вельмі шмат чытаў і даваў правільную ацэнку значэньня розных аўтараў.

Сходы пісьменьніцкае брыгады з рабочымі адбываліся ў надта дрэнных абставінах. Асобнага пакою ня было і ім даводзілася бадзяцца па невялічкім памяшканьні чырвонага кутка, адшукваючы, ці ёсьць дзе-небудзь нікім не заняты куток, зазіраючы ў памяшканьне партыйнае ды комсамольскае ячэйкі, у заўком, у бібліотэку і часта не знаходзячы нідзе прытулку. Здаралася і так, што пачнуцца заняткі гуртка, а зьяўляецца група рабочых, што ліквідуюць сваю няпісьменнасьць, і кіраўнік яе выганяў „пісьменьнікаў", кажучы, што навучаньне грамаце зьяўляецца куды больш важным, як практыкаваньне ў літаратурнай творчасьці. Апрача таго, калі і ўдавалася дзе-небудзь больш-менш спакойна ўмайстравацца, дык у суседняй, адгароджанай дошкамі бакоўцы, пачынаўся сход, і адтуль стукалі ў сьцяну кулакамі і прапанавалі не перашкаджаць, бо ўся гаворка была там чутна.

Гронскага чамусьці аблюбаваў малады рабочы Клімаў, які заўсёды насіў з сабою кнігу вершаў Лермантава і тоўсты скрутак сваіх уласных твораў. Клімаў саджаў Гронскага на, што пападалася ў чырвоным кутку, крэсла і, ня сьціскаючыся штырханіны і пабочных гаворак, пачынаў чытаць яму сваю няскончаную аповесьць або апавяданьне. Ён спыняўся бадай на кожным сказе, тлумачыў, што іменна гэтым ён хацеў сказаць і патрабаваў неадкладнае ацэнкі сваіх твораў. Гронскі бачыў, што некаторая здольнасьць да пісаньня ў Клімава ёсьць, але не адважваўся прасіць пакінуць чытаць хоць-бы да таго, пакуль аўтар ня скончыць пачатага апавяданьня. Клімаў не абмяжоўваўся спатыканьнямі ў чырвоным кутку на заводзе, а званіў на кватэру да Гронскага, ці можа ён прыехаць, каб паказаць толькі, што скончаны новы зьвянчак, і катэгорычна адхіляючы просьбу Гронскага прысласць яму, каб ён прачытаў адзін.

З насьценнаю газэтаю ў Гронскага таксама ня клеілася. Артыкулаў пісаць ён ня мог, бо зусім ня быў знаёмы з жыцьцём заводу. Ён ўзяўся на першы час літаратурна аформіць частку матэрыялаў, што падавалася рабочымі ў скрынку насьценгазэты. На аснове некаторых допісаў яму ўдалося напісаць удалы фэльетон, згрупаваўшы разам весткі пра прагулы ды пра п'янства паасобных рабочых і аддаўшы іх на грамадзкае высьмяяньне.

Але гэта было ня тое, чаго чакаў ад работы Міхал Мікалаевіч. З ўсяго матэрыялу найбольш моцнае ўражаньне на яго зрабіла адна запіска, напісаная зусім няпісьменна, якую ён запісаў у сваю запісную кніжку, захаваўшы орфографію з аўтэнтыка. Ад гэтае запіскі аддавала менавіта тым настроем, які надзвычайна яскрава адлюстраваў сапраўдны энтузіязм соцыялістычнага будаўніцтва, які астаўся незразумелы Гронскаму. Вось гэтая запіска:

„У насьц. газэту.

Я член колектыву імя 16-га мюду не магу быць у краіне, што будуе соцыялізму, такім грамадзянінам, які імкнецца і думае ня спаўшы ноч-

Якім-бы та ня было шляхам падставіць ногу нашыму соцыялістычнаму будаўніцтву, і я, ударнік лічу патрэбным падпісаца на дадаткова на пазыку 5-ці год за 4 гады. І каб гэтым нашым шматлікім дадаткам так ударыць, па гэтай назе, каб яна назаўсёды забыла тую дарогу дзе яна перашкаджае ўсялякіх гігантаў. Падпісаўся Д. Міхайлаў.

Запіска была напісана ў дні суду над Рамзіным ды над іншымі шкоднікамі. Гронскі зацікавіўся Міхайлавым, дазнаўся, што ён комсамолец, мае на сваім утрыманьні матку, зарабляе каля ста рублёў у месяц, зараз быў падпісаўся на пазыку ў памеры месячнае пэнсіі, а дадаткова— як відаць з гэтае запіскі—яшчэ на 150 рублёў.

Запіска гэта была не аднэю. Міхайлаў не абмежаваўся тым, што падпісаўся дадаткова на пазыку сам, але ён падняў шырокую агітацыю. На асобным лісьце, укінутым у тую самую скрынку насьценгазэты, было ўжо звыш 150 подпісаў—на чале з тым-жа Міхайлавым—на паўтарамесячны заработак.

Гронскі адшукаў Міхайлава, пазнаёміўся з ім. Выявілася, што ён займаецца якраз у тэй групе па ліквідацыі няпісьменнасьці, якая перашкаджала паседжаньням літаратурнага гуртка. Бліжэй пазнаёміўшыся, Міхайлаў ніякага асаблівага ўражаньня на Гронскага не зрабіў, гэта быў адзін з тых тысяч звычайных рабочых, якімі напоўнена Масква ды іншыя, прамысловыя гарады СССР. Міхайлаў надзвычайна засароміўся, калі даведаўся, што Гронскі чытаў ягоную запіску, і прасіў прабачэньня за тое, што яна дрэнна напісана.

— Ня вышла ў мяне,—гаварыў ён, адводзячы вочы ў бок.—Тут, значыцца, у нас гіганцкае будаўніцтва, а розная недарэзаная шпана падстаўляе ногу,—ну крэмзаў, крэмзаў я ліст у газэту, і паслаў, як вышла. Бадай ня варта яго і друкаваць,—дадаў ён.

— Наадварот. Мы яго прычэшам, як трэба, па-літаратурнаму, і надрукуем на самым відным месцы. Ваша ініцыятыва заслугоўвае самага шырокага друку, каб выклікаць іншых.

— Вось гэта яшчэ мацней будзе!—ажывіўся Міхайлаў.—Давай-ка бахнем на спаборніцтва паміж цэхамі!—дадаў ён пераходзячы чамусьці на „ты“.—А ў вас, у пісьменьнікаў, дадатковая падпіска таксама ідзе?— запытаўся ён.

— Яшчэ не разгарнулася,—замяўшыся, адказаў Гронскі. У ім падымалася адчуваньне протэсту: забаранілі п'есу, якая павінна была даць некалькі тысяч, і патрабуюць, каб я яшчэ падпісаўся на пазыку! Гэтае разважаньне нядаўна здавалася неабвяргальным, правільным, бясспрэчным, але пытаньне Міхайлава паставіла ў нялоўкае становішча.

— Трэба разгортваць. У вас-жа заработкі—ня нашым роўня.

— Ну, гэта як у каго,—адказаў Гронскі.—Ёсьць у нас такія, асабліва з драматургаў, якія атрымоўваюць па некалькі тысяч у месяц, а большасьць—ня больш за вашых чорнарабочых.

Да іх падышла высокая брунэтка ў капялюшы і ў чаравіках.

— Таварыш,—зьвярнулася яна да Гронскага.—Вы з пісьменьніцкае брыгады?

Гронскі адказваў сьцьвярджальна.

— Наша комсамольская ячэйка просіць вас наладзіць вечар і прачытаць вашы творы, каб мы пазнаёміліся з творчасьцю кожнага з удзельнікаў вашае брыгады. З кім мне на гэтае пытаньне дамовіцца?

Гронскі правёў яе да Жукава, з якім пытаньне пра організацыю такога вечара было вырашана станоўча. Гронскаму вельмі захацелася пазнаёміцца з гэтаю комсамолкаю, але ён ня ведаў, як гэта зрабіць. Раптам яна сама зьвярнулася да яго.

— А вы нам таксама прачытаеце што-небудзь сваё?

— Вядома, з ахвотаю,—засьпяшаўся адказаць Гронскі.—Ня ведаю толькі, што іменна выбраць. У мяне так багата напісана.

— Прачытайце што-небудзь сучаснае, бадзёрае, што кліча на барацьбу, на перамогу цяжкасьцяй будаўніцтва.

— Пастараюся...—замяшаўся Міхал Мікалаевіч і тут-жа сам сабе наважыў абавязкова напісаць што-небудзь адпаведнае да гэтага вечара, бо на тэму, запрапанаваную комсамолкаю, у яго нічога ня было.

— А вы самі што-небудзь пішаце?—запытаўся ў яе Міхал Мікалаевіч.

— Я ня ўмею!—расьсьмяялася яна.—Пробавала пісаць вершыкі, але дрэнна выходзіла,

— Зразу нічога ня робіцца,—сказаў Гронскі.—Пакажэце нам што-небудзь з вашых вершаў, мы ацэнім, параім,—на гэта-ж мы сюды і прышлі у гэтым і ёсьць заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру.

Сказаўшы гэта, Гронскі з апаскаю кінуў на яе погляд і падумаў, ці не памыліўся ён, можа яна таксама не работніца, але яго словы ня выклікалі заўваг з яе боку, і ён зразумеў, што памылкі няма.

— Для жывое газэты патрэбны, напрыклад, частушкі, якія-б высьмейвалі-б недахопы нашага заводу,—працягваў Гронскі,—прарывы, нераспарадлівасьць адміністрацыі, прагулы ды неахайнасьць рабочых, усялякія іншыя непарадкі, якія вы добра ведаеце. Апішэце іх у вершах, мы разам паправім іх, як сьлед, а тады перадамо кіраўніку гуртка выканаўцаў жывое газэты, і вы ўбачыце вашу творчасьць на сцэне.

Тут Гронскі зноў успомніў пра забарону свае п'есы і пра страчаную надзею ўбачыць на сцэне свой твор.

Комсамолка згадзілася папробаваць. Гронскі даведаўся, што яе прозьвішча Грузьдзёва, а імя—Ліда. Падышоўшыя комсамольцы абзывалі яе Лідаю і гаварылі з ёю на „ты“, што чамусьці не спадабалася Гронскаму.

Дамовіліся сабрацца праз тры дні, і да гэтага часу Грузьдзёва абяцала папробаваць напісаць частушкі.

Варочаючыся з заводу Гронскі думаў: як добра, што пры яго гутарках з рабочымі ня было нікога з яго сяброў ды знаёмых. З імі ён высьмейваў самую думку пра заклік рабочых-ударнікаў у літаратуру, параўноў-

ваў гэты заклік са сказам „загадаюць—акушорам буду“, які быў сказаны нейкім выканаўчым чыноўнікам эпохі царстваваньня Мікалая I, гаварыў пра поўную немагчымасьць пісаць мастацкія творы на тэмы аб прамфінпляне, ударніцтве, прагулах і г. д., а тут зусім сур'ёзна разважаў і пра заклік, і зьбіраўся сам напісаць для вечара нешта, што выхадзіла з рамак яго творчасьці.

3

Кіраўнік літаратурнага гуртка Жукаў зацікавіў Міхала Мікалаевіча з першага-ж сходу куды больш, як рабочыя. Жукаў, яснаю, простаю і зразумелаю моваю гаварыў пра задачы ў рэконструкцыйны пэрыод нашае гаспадаркі ўвесь упірыч рабіў на неабходнасьць ужываньня марксыцкага дыялектычнага мэтоду да тых, што распрацоўваюцца, сужэтаў. Міхал Мікалаевіч ня мог не згадзіцца з тым, што пры такім асьвятленьні паасобныя мастацкія творы набываюць зусім іншае значэньне, не такое, якое ён прывык у іх бачыць: яны прымусяць думку працаваць ня толькі пад фабулаю апавяданьня, але растлумачыць прычынную сувязь падзей між сабою, падпарадкуюць іх агульным умовам жыцьця таго пэрыоду, які апісваецца, асьветляць іх пахаджэньне, адлюструюць у іх клясавую барацьбу і гэтым дадуць зусім новы ключ да іх разуменьня. Ня гледзячы на староннасьць да такое тэорыі, Міхалу Мікалаевічу нутром давялося прызнаць, што ў такім выпадку ўсялякі твор набывае непараўнальна большы сэнс, як простае, хоць-бы і надзвычайна таленавітае апісаньне перажываньняў паасобных герояў і расказ пра эпізоды іхнага жыцьця, не зьвязаны з агульнымі гістарычнымі ўмовамі апісванага пэрыоду. У апошнім выпадку твор можа выклікаць самыя лепшыя адчуваньні ў чытача, але не дае патрэбнага напрамку, а ўжываючы марксыцкі мэтод да мастацкае вытворчасьці, будзе выклікана воля да перамогі тых умоў, якія загадзя вызначылі трагічны канец апісванага здарэньня.

Выкладаньне тэорыі Жукаў ілюстраваў паасобнымі творамі аўтараў-марксыстаў, процістаўляючы ім прыклады з творчасьці пісьменьнікаў чужых пролетарыяту. З гэтых прыкладаў яшчэ яскравей выявілася, што галоўнае зусім ня ў здатнасьці некаторых асоб, а ў іх умельстве асьвятляць тое, што паказваеш, у правільнай расстаноўцы сіл, якія кіруюць героямі. І Міхал Мікалаевіч адчуваў—як-бы вырасла значэньне паасобных таленавітых твораў, каб іхнымі аўтарамі быў ужыты марксыцкі мэтод аналізу.

Чыталі і разглядалі і паасобныя апавяданьні, напісаныя рабочымі, што ўдзельнічалі ў гуртку. Адно такое апавяданьне, якое малявала сямейную драму на грунце сучасных пабытовых адносін і канчалася судом, выклікала шмат спрэчак, у якіх прыняў удзел і Міхал Мікалаевіч. Яму здалося, што ўсе ўдзельнікі гуртка з вялікаю ўвагаю чакалі яго ацэнкі, калі ён папрасіў слова.

Міхал Мікалаевіч падрабязна разабраў апавяданьне, адзначыў жывасьць і праўдзівасьць разгортваньня сужэту, сказаў некалькі пахвальных слоў на адрас здольнасьці яго аўтара, але накінуўся на судовы прыгавар, сьцьвярджаючы, што ён зьяўляецца зусім непраўдападобным і зьнішчае дашчэнту яскравую праўдзівасьць усяго апавяданьня. Адказваючы Міхалу Мікалаевічу, аўтар пад агульны сьмех усягу сходу вынуў з кішэні газэтную выразку і сказаў, што ён сьпісаў судовы прыгавор літаральна з судовае справаздачы Маскоўскага абласнога суду...

Кіраўнік гуртка Жукаў спыніўся на гэтым інцыдэнце і адзначыў, што крымінальны кодэкс СССР мае на мецэ ня кару злачынца ў паказаных адпаведным артыкулам межах, а меры соцыяльнае абароны грамадзтва. Можа нават здарыцца, што злачынец не патрабуе ізоляцыі і можа быць на волі, бо злачынства ім зроблена пад уплывам выпадкова складзеных няшчасных абставін і зусім не зьяўляецца паказьнікам для характарыстыкі яго асобы, як шкоднае, што наша суровае законадаўства тым і адрозьніваецца ад законадаўства буржуазных краін, што там за кожнае злачынства паложана і адпаведная кара, ад якое суд ня мае права адыйсьці, а ў нас вінаваты нават у вялізным злачынстве можа зусім не падлягаць да меры соцыяльнае абароны, і наадварот, мізэрнае злачынства можа быць расцэнена, як найцяжэйшае ў залежнасьці ад яго абставін і, галоўнае, ад мотываў, якія рушылі і кіравалі злачынствам.

4

У гуртку Міхал Мікалаевіч пазнаёміўся з даўно вядомым яму па прозьвішчы драматургам Круцікавым, п'есы якога ішлі ў шмат якіх тэатрах цэнтральных гарадоў СССР. Круцікаў быў комуністам і гэту прычыну Міхал Мікалаевіч лічыў галоўнаю пры вызначэньні кіраўнікамі тэатраў ды Галоўрэпэрткомам, годнасьці яго п'ес да сцэны, бо, паводле думкі самога Міхала Мікалаевіча, п'есы Круцікава адрозьніваліся прымітыўнаю шаблённасьцю, пісаліся ім з нявыказнаю хуткасьцю на любую тэму сёнешняга дня і ня мелі ані якое мастацкае вартасьці.

Круцікаў знаў па прозьвішчы Міхала Мікалаевіча, чытаў яго романы, але да яго паставіўся наводдаль, з некатораю непавагаю, так, як малады замежны ўрач ставіцца да старога расійскага профэсара, у якога веды грунтуюцца на даўно аджылых мэдыцынскіх ісьцінах.

Круцікаў ужо чуў, што п'еса Гронскага забаронена і загаварыў з ім на гэтую тэму.

— Уся справа ў тым, што цяпер усюды неабходна ўжываць мэтоды матэрыялістычнае філёзофіі Маркса. Бяз іх нельга напісаць ня толькі нічога каштоўнага, але нават проста сярэдняга. Яны—магутная зброя ў нашых руках і я вам шчыра раю пераключыцца на нашы рэйкі. Кіньце сантымэнтальшчыну, кіньце ідэалістычны падыход да тэмы, зрабеце стрыжнем п'есы моцнага барацьбіта-комуніста, наблізьце самую тэму

да жыцьця, зьвяжэце яе з сёнешнім днём—і будзеце мець поўны посьпех. І вось ёсьць шматгадовая практыка і здольнасьць, вы надзвычайна добра ўладаеце дыялёгамі, значыцца, уся справа толькі ў зьмесьце.

Міхал Мікалаевіч крышку падняў брыву, калі Круцікаў ацэньваў яго літаратурныя здольнасьці, але надумаў не зьвяртаць увагі на „юнца, што зазнаўся“, якім лічыў свайго размоўцу.

— Вось я канчаю новую п'есу „Вада“,—казаў далей Круцікаў,—і ўпэўнены, што яна мецьме вялікі посьпех. За тэму я ўзяў процідзейнасьць сялян, што агітуюцца кулакамі да пабудовы гідраэлектрычнае станцыі, пусьціўшы якую ня зможа больш працаваць вадзяны селавы млын. Я перанёс у сілавое асяродзьдзе тую барацьбу, якая некалі на Захадзе ішла супроць пранікненьня ў прамысловасьць машыновае вытворчасьці. Вазьмеце такі фон,—і на ім у вас поўная воля маляваць і паасобныя любоўныя гісторыі, і барацьбу за пяцігодку, за электрыфікацыю краіны, і супраціўленьне кулацтва, што набывае вельмі складаныя і адмысловыя формы. Дзея разьвінаецца, вядзе да перамогі лініі партыі, да перамогі над кулакамі,—і фінал гатоў. У наш час надзвычайна лёгка пісаць п'есы. Я не разумею тых, якія гавораць, што наша мастацкая літаратура ня можа ўгнацца за тэмпамі нашага росту. Тэмы проста хмарамі носяцца ў паветры: хапай любую на свой густ. Канец п'есы—відавочны: перамога нашых ідэй. А ў сярэдзіне—ды сапраўды-ж ня мае вялікага значэньня, ці возьме верх каханьне Глашы да комсамольца, ці шчасьлівую яе супраціўніцаю стане Маша. Любоўная фабула—служыць толькі эпізодычнаю ўстаноўкаю для ажыўленьня дзеі ды наданьня ёй некаторае вастрыні.

— Чакайце,—перабіў Міхал Мікалаевіч,—я ніяк не магу згадзіцца з тым, што п'есу можна напісаць за некалькі гадзін ці дзён. Мне заўсёды здавалася, што трэба найглыбейшым чынам абдумаць асобу ды характар герояў, сужэт, абстаніны, конфлікты, а на гэта трэба багата часу, усё гэта трэба пераварыць у сваім сузнаньні, распрацаваць кожную дробязь...

— Гэта таму, што вы па старой прывычцы ўсё концэнтруеце вакол асоб ды іх перажываньняў,—перабіў Круцікаў.—А цяпер на першым пляне павінна быць жывое сучаснае творчае жыцьцё, якое вядома нам з штодзенных з ім сутычак да апошніх дробязяй і пад паказам якое зусім не даводзіцца так багата думаць. Да таго-ж вы з уласьцівою да беспартыйных папутнікаў нясьмеласьцю падыходзіце да асобных вострых палажэньняў, ня ведаеце, як іх трактаваць, баіцеся іх. А мы, члены партыі, дастаткова ўзброены, каб разабрацца ў любых самых складаных абставінах, а адсюль і нашы тэмпы творчасьці ня могуць і не павінны быць марруднымі.

— Аднак, ня ўсе вашы таварышы думаюць так, як вы. Вазьмеце, напрыклад, Бязыменскага. Ён напісаў „Стрэл“ пасьля доўгага падрабязнага вывучэньня жыцьця трамвайнага парку, працаваў над п'есаю бадай два гады...

— Затое ён і напісаў адну п'есу,—перабіў Міхала Мікалаевіча Круцікаў.

5

Тры званкі ў пярэдняй. Мар'я Рыгораўна адчыніла дзьверы.

— Таварыш Гронскі дома?—запыталася ў яе Грузьдзёва.

Мар'я Рыгораўна кінула на комсамолку нязычлівы погляд.

— Ён вельмі заняты. А вы па якой справе?

— Я хацела з ім пагаманіць. Я абяцалася яму напісаць для жывое газэты нашага заводу...

— Калі вы прынесьлі рукапіс, дык пакіньце мне, я яму перадам,—пачала Мар'я Рыгораўна, але, пачуўшы званок, падышоў сам Міхал Мікалаевіч.

— Ліда?—ускрыкнуў ён, але зараз-жа зірнуў на жонку, што насупілася цямней хмары, і замяўся.—Добрага здароўя, заходзьце, калі ласка,—запрасіў ён Грузьдзёву.

Мар'я Рыгораўна моўчкі адышла ў бок і прапусьціла яе ў пакой.

— Распранайцеся,—запрасіў Гронскі Грузьдзёву, стараючыся знайсьці адпаведны тон. І чорт яму даў упяршыню ў жыцьці абазваць Грузьдзёву скарочаным імем. Проста, успамянулася, што так завуць яе на заводзе. Валтузься цяпер з жонкаю, у якое па твары пайшлі ўжо чырвоныя плямы.

— Можа я вам вельмі перашкоджу? Вы вельмі заняты?—нясьмела гаварыла Ліда, зразумеўшы складанасьць становішча Міхала Мікалаевіча.

— Не, не, калі ласка,—адказаў Гронскі, павесіў яе паліто на вешалку і запрапанаваў крэсла.

— Можа я вам перашкаджаю?—з націскам на „я“ запыталася белымі губамі Мар'я Рыгораўна.—Але прабачце,—зьвярнулася яна да Грузьдзёвай.—У нас усяго адзін пакой і пайсьці мне няма куды.

— Чым-жа ты можаш перашкодзіць?—адказаў Міхал Мікалаевіч.—У нас з таварышам Грузьдзёваю ніякіх сакрэтаў няма,—падкрэсьліў ён.

— Ты нават не пазнаёміў яшчэ мяне са сваім новым сябром,—заўважыла Мар'я Рыгораўна.

— А і сапраўды!—расьсьмяяўся Міхал Мікалаевіч.—Пазнаёмцеся: гэта—Ліда... ня ведаю, як вас па бацьку... Грузьдзёва, член бюро комсамолу заводу, дзе я цяпер працую.—А вы,—зьвярнуўся ён да Грузьдзёвай,—мабыць ужо дагадаліся, што гэта—мая жонка.

— Вядома, дагадалася,—адказала Грузьдзёва.—Добрага здароўя, і прабачце, калі я прышла ня ў час,—сказала яна Мар'і Рыгораўне.

— Вы ўжо што-небудзь напісалі?—запытаўся ў Грузьдзёвай Міхал Мікалаевіч.

— Так. І хацела параіцца з вамі,—адказала яна, вымаючы з кішэні невялікі скрутак папераў, і азіраючыся на Мар'ю Рыгораўну.—Я думала

ў першую чаргу напісаць наконт пяцігодкі ды пазыкі, але ня ведаю як вышла...

— А вы прачытайце і абмяркуем разам.

— Здаецца вельмі дрэнна вышла. Тут яшчэ ня ўсё, а толькі накіды. А думала так: на сцэне павінна быць карта пяцігодкі з паказальнікамі посьпехаў за мінулыя два гады, і хто-небудзь будзе даваць такія тлумачэньні:

У прамысловасьці вялікія дасягненьні
У выніку захадаў верных,—
Мы дамагліся продукцыі павялічэньня
Па ўсім СССР,
З дробнае вёскі, параскіданае,
Вырастае аснова асноў—
Колектыўныя аб'яднаньні
Паасобных сялянскіх двароў.

Пасьля будзе сказана, што мы затрачваем на пяцігодку 64 з палове мільярды рублёў і што праз унутраныя пазыкі трэба атрымаць, каб пагасіць гэтую суму, шэсьць мільярдаў, а далей зноў вершы:

У банкіраў ў доўг ня просім,
Самі сабе ў доўг даём.
Шэсьць мільярдаў на будаўніцтва ўкоцім
Праз свой унутраны заём.
Заводзкія карпусы
Падымаюць галасы:
Каб лепш правесьці наш заём,
Мы ўсе на спаборніцтва ўстаём.

Пасьля трэба сказаць як-небудзь, што ў нас у СССР штогод прапіваецца адзін мільярд дзьвесьце мільёнаў рублёў, што гэтая сума, памножаная на 5, якраз дае столькі, колькі трэба дадаць, каб цалкам пагасіць расходы па індустрыялізацыі краіны і рэконструкцыі ўсяе гаспадаркі. Вось пакуль што і ўсё.

— Як гэта ў вас усе выходзіць,—сказала Мар'я Рыгораўна,– у прамысловасьці—дасягненьні, у сельскай гаспадарцы—нячуваныя посьпехі, а ў крамах ды на рынках нічога няма. Нават шпулькі нітак ні за якія грошы не дастанеш!

Міхал Мікалаевіч паморшчыўся.

— Паслухай, Мусік,—сказаў ён і густа пачырванеў, заўважыўшы, што ў Грузьдзёвай уздрыгануў рог роту,—мы-ж тут ня зьбіраліся спрачацца па сутнасьці пяцігадовага пляну, а падшукваем толькі афармленьне для агітацыйнага выступленьня ў жывой газэце.

— Табе ніяк не да твару быць агітатарам за тое, у што ты сам ні на грош ня верыш!—адказала Мар'я Рыгораўна, гледзячы ва ўпор на Грузьдзёву, як-бы хочучы разгадаць прад ёю свайго мужа, што мабыць разыгрывае на заводзе ролю стопроцантнага прыхільніка савецкае ўлады і ўсіх мерапрыемстваў, што ёю ажыцьцяўляюцца.

— Ты не права,—замешана перабіў яе Міхал Мікалаевіч.—Я, праўда, не эканоміст і не магу разьбірацца ў тэорыі, што цяпер праводзіцца, але я не належу да ворагаў пяцігодкі.

— А хіба можна быць пісьменьнікам і не вывучаць нашага соцыялістычнага будаўніцтва?—зьдзіўлена запыталася Грузьдзёва.—Я заўсёды думала, што гэта абавязковая ўмова для літаратурнае творчасьці.

— Вядома, вядома,—засьпяшаўся Міхал Мікалаевіч.—Вы зусім правы. Я вывучаю, ад таго і пайшоў на завод, каб стыкнуцца шчыльна з жывою творчасьцю. Ведаеце лягенду пра Антэя, які з некім змагаўся,—я забыўся з кім іменна,—той яго перамог, але кожны раз, калі Антэй, падаючы, датыкаўся да зямлі, ён набіраўся новае сілы і, урэшце, перамог свайго спаборніка. Вось і я хачу даткнуцца да крыніцы сілы і энэргіі— да заводу.

— А вас хто-небудзь перамагае? Вы змагаецеся?—запыталася ўсьміхаючыся Грузьдзёва.

— Мяне нядаўна перамог Галоўрэпэртком, забараніўшы маю п'есу.

— Якая гэта п'еса? Мне так хацелася-б яе прачытаць...

— Я сумняваюся, каб вы маглі яе ацаніць,—сказала з свайго кутка Мар'я Рыгораўна.

— Як хочаце. А наконт майго твору, што вы скажаце,—зьвярнулася Грузьдзёва да Міхала Мікалаевіча.

— Бачыце...—замяўся ён.—Замысел добры, але што датычыцца да самых вершаў, дык яны слабаватыя. А ўрэшце, бадай і нельга спрэс публіцыстыку ўкласьці ў бездакорныя поэтычныя формы, так што вашы давядзецца прызнаць здавальняючымі. Пішаце далей, напішаце ўсё цалкам, тады мы паправім разам некаторыя дробязі, і частка жывое газэты будзе гатова. Але я меркаваў, што вы спыніцеся не на такой агульнай тэме, а на спэцыфічных фактах з жыцьця нашага заводу. Мне здаецца, што было-б цікавей. На тэму пяцігодкі, індустрыялізацыі і гэтак далей можна знайсьці вершы нашых сапраўдных поэтаў.

— А я зраблюся калі-небудзь „сапраўднаю“?—запыталася Грузьдзёва

— Паводле гэтых вершаў меркаваць абсалютна няма як. Можа ў вас ёсьць іншыя, у якіх вы гаворыце, напрыклад, пра каханьне, пра разлуку і да таго падобнае? Такія вершы завуцца лірычнымі. Пакажэце мне іх і яны дадуць больш матэрыялу, каб мець уяўленьне аб вас, як аб поэце.

— У грамадзянкі Грузьдзёвай наўрад ці знойдуцца агульныя з тваімі любоўныя тэмы,—пачуўся рэзкі голас Мар'і Рыгораўны.

Грузьдзёва ўстала, згарнула свае лісткі і палажыла ў кішэню.

— Усяго добрага, Міхал Мікалаевіч. Лепш мы з вамі пагамонім, як вы прыдзеце да нас на завод.

Яна горда кіўнула Мар'і Рыгораўне, узяла паліто і вышла з пакою. Гронскі засьпяшаўся, каб зачыніць за ёю дзьверы.

— Да пабачэньня. Шкода, што вы мяне не папярэдзілі пра тое, што да вас нельга прыходзіць,—сказала яна і вышла на ганак.

Міхал Мікалаевіч вярнуўся ў хату.

Мар'я Рыгораўна стаяла каля яго пісьмовага стала, рукі яе дрыжэлі, а вочы гарэлі шаленствам...

6

У клюбе Фэдэрацыі пісьменьніцкіх аб'яднаньняў, на вуліцы Вароўскага, адбылася першая конфэрэнцыя Ўсерасійскага таварыства драматургаў ды компазытараў.

Гронскаму, як удзельніку брыгады, удалося атрымаць уваходны білет, і ён стараўся не прапусьціць ніводнага пасяджэньня, каб даведацца, урэшце, пра сакрэт сучаснае творчасьці і зразумець, што іменна цяпер патрабуецца ад драматургаў. Упяршыню на такой конфэрэнцыі выступіў з дакладам прадстаўнік Галоўрэпэрткому таварыш Гандурын. Гронскі з напружанаю ўвагай слухаў ягоную прамову, але вельмі сумняваўся, што да мастацкае творчасьці можна дапасаваць мэтоды марксызму. Паводле дакладчыкавых слоў выходзіла, што каб напісаць нават маленькую клюбную ці эстрадную п'еску, дык трэба пусьціць у ход цэлы арсэнал філёзофскіх тэорый, глыбокага аналізу грамадзкіх адносін, што ў пэрсонажах трэба даць адлюстраваньне клясавае барацьбы, і што толькі ў гэтым выпадку твор набудзе грамадзкую значнасьць ды каштоўнасьць. Гронскі слухаў і адчуваў, як перад ім апускалася цяжкая жалезная заслона, якая дашчэнту яго аддзяляла ад сцэны, бо ўсе гэтыя ўмовы здаваліся яму абсолютна невыканальнымі і, перш за ўсё, зусім непатрэбнымі. І крыўдней за ўсё было тое, што дакладчык яскрава і зусім правільна намаляваў унутраны стан самога Гронскага, калі гаварыў пра драматургічную творчасьць прыстасаваньняў. Гандурын даў у прыклад п'еску, у якой ёсьць усё, што, як здавалася аўтару, патрэбна: ёсьць станоўчы бальшавік, ёсьць станоўчы комсамолец, шмат гаворыцца пра неабходнасьць ударніцтва, соцыялістычнага спаборніцтва, выкананьня прамфінпляну і да таго падобнага. Але ўсё гэта не асьветлена ніякім унутраным адчуваньнем, не эмоцыянальна, нікога нікуды ня кліча. А вось тыя тыпы п'ес, якія загніваюцца, якія адпадаюць ад рабочага колектыву, якія перашкаджаюць будаўніцтву,—абмалёваны на шмат яскравей, аўтар разумее іх на шмат лепш, яны—жывыя, яны заражоныя дзеяю, у іх няма ні шаблёну, ні манэкеннасьці, яны—зьвіняць. Гронскі жыва ўявіў сабе, з якою лёгкасьцю выходзяць з-пад ягонага пяра іменна такія тыпы, і як яму даводзіцца напружвацца, каб вылучыць з свайго выабражэньня комуністаў, ударнікаў, комсамольцаў... Яму раптам стала не па сабе, як чалавеку, якога нечакана разьдзелі дагала ў багатай прысутнасьці апранёных людзей. Ён скоса аглядаўся кругом і стараўся падмеціць, ці ня кідае хто-небудзь на яго сьмяшлівага погляду, які казаў бы, што об'екта нападу дакладчыка ведаюць усе па прозьвішчы. Гэтае адчуваньне было

яшчэ больш дзіўным таму, што Гронскі яшчэ ніколі ня пісаў такіх п'ес, пра якія гаварыў Гандурын, але сам сябе адчуваў, што гаворка ідзе іменна пра яго і пра тых, хто стаіць з ім у адным шары... Адкуль ён возьме ідэолёгічную завостранасьць, насычанасьць ды правільную трактоўку найвялікшых проблем, якія вырашае краіна, калі ён ніколі ня цікавіўся політыкаю, ня быў ні ў якіх партыях ды організацыях, не вывучаў Маркса, ня чытаў Леніна і ўвесь быў заняты індывідуальнымі чалавечымі перажываньнямі чыста інтымнага парадку: каханьне, рэўнасьць, зайздрасьць і да таго падобныя адчуваньні, зусім ня зьвязаныя з соцыяльнымі пытаньнямі грамадзкага жыцьця, з клясаваю барацьбою, з экономікаю краіны? Гандурынаў даклад зрабіў на яго цяжкае ўражаньне. Як-бы над ім паставілі крыж, як-бы Гронскі і ўсе іншыя, да яго падобныя, былі адчынена і назаўсёды прызнаны лішнімі, непатрэбнымі і нават шкоднымі людзьмі, хоць дакладчык і гаварыў пра неабходнасьць перавыхаваньня папутнікаў і пра гатоўнасьць партыйных і грамадзкіх організацый памагчы такому перавыхаваньню і пераключэньню на новыя творчыя шляхі, якія адпавядаюць вялікаму пэрыоду соцыялістычнага будаўніцтва.

Пра гэта-ж, з юнацкім запалам і невычарпальным тэмпэрамэнтам, гаварыў старык Фэлікс Кон, гэтае-ж паўтарыў у сваёй прамове намесьнік наркому асьветы Эпштэйн, да гэтага-ж заклікалі і іншыя прамоўцы і ставілі гэтую грамадзка-выхаваўчую работу на першае месца новае драматургічнае організацыі. Але Гронскі адчуваў, што нават пры думцы пра тое, што яму трэба перавучвацца, нешта вывучаць, засесьці за сур'ёзныя кнігі, старацца зразумець тое, да чаго няма і ня было ніякая цікавасьці,— у яго падымаецца рэзкі ўнутраны протэст, зьяўляецца варожасьць да няпрошаных парадчыкаў, што хочуць перавярнуць яго ўжо складзены сьветапогляд і прымусіць яго—пяцідзесяцігадовага старыка—пачынаць нанава жыць.

Ён вышаў з залі пасяджэньняў і пайшоў хадзіць па пакоях клюбу. Зноў успомнілася, што клюб месьціцца ў тым самым старасьвецкім панскім доме, які апісаў Талстой у „Войне и Мире", як дом графаў Ростовых, і погляд суняўся на закавулках самотных бакавых пакояў, і хацелася ўгадаць, дзе іменна стаяў куфар, на якім Наташа ды Соня выплаквалі сваю дзіцячую крыўду, і ў якой іменна вялікай залі стары Ільля Ростаў танцаваў свайго „Данілу Купара".

7

Бялова Гронскі сустрэў у харчэўні саюзу пісьменьнікаў, куды прышоў паабедаць, бо Мар'і Рыгораўне ў той дзень не ўдалося дастаць продуктаў і яна запрапанавала мужу абыйсьціся бяз хатняга абеду. Ен запрасіў яе пайсьці ў харчэўню разам, але яна катэгорычна адмовілася, чым ён быў вельмі здаволены.

— Чулі цікавую навіну?—запытаўся ў Гронскага Бялоў, падсаджваючыся да ягонага століка.

— Не. Пра што?

— П'еса Круцікава „Вада" забаронена Галоўрэпэрткомам.

— Як гэта? Што вы кажаце?—выпусьціўшы лыжку, сказаў, Міхал Мікалаевіч, раптам пачуўшы пры гэтай навіне радаснае ўзбуджэньне.

— Толькі што даведаўся пра гэта. Аказваецца, ён напісаў сваю п'есу так, што ўсё спачуваньне гледачоў будзе якраз на баку кулакоў, якія падбухтоўваюць сялян супроць пабудовы гідраэлектрычнае станцыі. Апрача таго ў ёй скажоны нейкія партыйныя дырэктывы.

— Значыцца ня толькі мы пападаем пад бічы ды скарпіёны, але і партыйныя драматургі!—пацiраючы рукі, сказаў Гронскі.

— Сёньня тут усе і гавораць толькі пра гэтае здарэньне. Круцікаў-жа, яшчэ задоўга як кончыць сваю п'есу, усюды раззваніў пра яе, як пра ўзор прававернае драматычнае творчасьці. Як ён цяпер глядзецьме нам у вочы?

— Упэўняю вас,—як і раней,—адказаў Гронскі.—Будзе з задаваньнем сьцьвярджаць, што яго не зразумелі, можа нават намякне, што ў Галоўрэпэрткоме сядзяць староннія людзі...

— А я бачу ў гэтай забароне надзвычайнае здарэньне,—сказаў Бялоў.—Галоўрэпэрткам тут лішні раз давёў сваю поўную бесстароннасьць, сваю незалежнасьць і адзіную лінію да ацэнкі сцэнічных твораў, ня гледзячы на тое, хто зьяўляецца іх аўтарам. Вось гэта сапраўды радуе, бо некаторыя шапталіся па завугольлі, што комуністам усё можна, а беспартыйных заціскаюць так, што і дыхаць няма чым...

— Ну, Пятро Пятровіч, рабіцца сьпеваком Галоўрэпэрткому я вам не параю. Ваша ўзьнятасьць, па-мойму, толькі даводзіць, да якое ступені вяліка наша бясправае,—холадна зазначыў Гронскі.

Бялоў запытаўся пра самаадчуваньне Мар'і Рыгораўны, папрасіў перадаць ёй яго прывітаньне, разьвітаўся і пайшоў.

За суседнім столікам чулася гучная гаворка.

— Я сьцьвярджаю,—грымеў глухім басам стары артыст Грохаў-Закатальскі, які напісаў некалькі нязначных п'ес для клюбнае сцэны,—што з таго часу, як злучылася Маскоўскае таварыства дрампісьменьнікаў з Ленінградзкім і як нарадзіўся гэты—як яго—Усераскомдрам, дык я перастаў атрымліваць гонорар. Я ня супроць культурнае работы сярод членаў таварыства, я прыхільнік усіх захадаў да ўцягненьня нас у соцыялістычнае будаўніцтва,—але-ж я павінен на што-небудзь жыць.

— Усё гэта можна сказаць больш спакойна, без такое інтонацыі,—зазначыў композытар Курганаў, што сядзеў разам з ім, і якога бадай штодня лаялі за тое, што ён гадоў шэсьць таму назад напісаў фокстрот.

— Ну, баценька, я ўсё жыцьцё жыў інтонацыямі. Я кажу справу, а вы зьвяртаеце ўвагу толькі на форму. Вось што, дарагі, папросім-тка графінчык за ўпакой Драмсаюза. Пры ім, клянуся вам, жылося лягчэй. Дурны

я быў, што не пайшоў па лёгкай дарозе, якую абралі іншыя. Сіліўся нешта пісаць сваё... А ці не прасьцей, узяць, скажам, добрую, старую „Вясёлую ўдаву“, пераіначыць у ёй некалькі сказаў, перарабіць назву на „Удава вяселіцца“, запісаць сябе аўтарам тэксту і атрымліваць кожны месяц па цэлых кіпах чырвонцаў. Ведаеце, ёсьць такія лаўкачы, у якіх такім спосабам 42 п‘есы па ўсім СССР ідуць... Палічыце, калі такі аўтар атрымлівае за кожную хоць-бы па чвэртнаму білету ў месяц,—а сапраўды-ж яны заграбаюць шмат больш,—проста масьленка!

Гронскі прыслухоўваўся да гэтае гаворкі і быў вельмі здаволены, што Мар‘я Рыгораўна не захацела ісьці з ім у харчэўню. Яна займела-б на цэлы месяц матэрыялу, каб папікаць яго ў непрактычнасьці і няўмельстве прыстасавацца.

8

Вярнуўшыся дахаты Міхал Мікалаевіч не застаў дома Мар‘і Рыгораўны. Яна пайшла да свае старое сяброўкі Марвінскае, якое Міхал Мікалаевіч ня любіў, добра паабедала ў яе і вярнулася ў добрым настроі. Даведаўшыся ў мужа пра якасьць абедаў у харчэўні саюзу пісьменьнікаў, яна прыгатавала чай і дастала вішнёвае варэньне, якое падавалася толькі ў тым выпадку, калі да іх прыходзіў у госьці хто-небудзь з прыемных ёй знаёмых, накшталт Бялова. З гэтага Міхал Мікалаевіч убачыў, што вечар мае быць на рэдкасьць прыемным і сам падпаў пад добры настрой.

— Успамянулі мы з Вераю Васілеўнаю стары час, нашу моладасьць, паплакалі і аблягчылі душу,—гаварыла Мар‘я Рыгораўна, наліваючы мужу чай і падсоўваючы вазачку з варэньнем.—Які ты быў тады прыгожы, Міша. Памятаеш, як ты заехаў да мяне на 12-ю лінію, каб разам ісьці на студэнцкі канцэрт? Мой дзявочы пакой чуў першыя твае апавяданьні... Як гэта было даўно... Як-бы вякі прайшлі з таго часу!

— Так. Быў час,—адказаў Міхал Мікалаевіч.—Мы ўсе так чакалі рэволюцыі. Памятаеш Вэйсмана? Ён скончыў юрыдычны факультэт і гараваў, што яго ні разу ні арыштавалі. Пасьля, калі ён ужо быў памочнікам прысяжнога паверанага, замяшаўся ў нейкую гісторыю і адсядзеў тры месяцы ў турме. Як ён быў рад! Казаў, што гэта зусім неабходна для кар‘еры. А цяпер—яго выключылі з колегіі абаронцаў і недзе выслалі за ўдзел у спэкуляцыях. Вядома, ён вінаваты, але трэба было разабраць прычыны, якія яго прымусілі так апусьціцца.

— Гэты Вэйсман мне заўсёды не падабаўся,—заўважыла Мар‘я Рыгораўна.

— Я не кажу пра асабістыя сымпатыі. Чалавек, які шукаў арышту для кар‘еры і раней ня мог карыстацца павагаю з боку перадавых людзей. Памятаеш нашу кватэру на Пяскох? Колькі разоў яе наведвалі жандары, але ім нічога не ўдалося знайсьці.

— Але цябе ўсё-такі арыштавалі, і я хадзіла на спатканьні, насіла перадачы.

— А твая першая перадача асталася ў мяне ў памяці так ярка... Я сядзеў у „Крастох“, раптам адчыняецца фортка ў дзьвярох і наглядчык перадае скрутак. У ім з пяць памяранцаў, скрыначка фінікаў і яшчэ нешта. На скрыначцы фінікаў наклейка гандлю нейкага Манусьяна, і літары М, А, Н і Я падкрэсьлены ледзь прыкметнымі кропкамі, якія я разгледзеў і пазнаў, хто прыслаў мне прывітаньне. Мы тады былі яшчэ мала знаёмы. Гэтыя абставіны сыгралі ролю ў нашых адносінах...

— Так, я купіла тады табе садавіны ды фінікаў на апошнія грошы і скрынку з фінікамі ўзяла, здаецца, толькі таму, што вельмі ўжо добрае было прозьвішча ўласьніка фірмы. А памятаеш памяранцы з укладкаю?

— А як-жа,—засьпяшаўся Міхал Мікалаевіч.—У сярэдзінку былі закладзены тоненькія трубачкі з паперы, і на іх я з такою радасьцю чытаў некалькі ласкавых слоў. Іх можна было пасланць і простым лістом, але яны ня былі-б тады такімі блізкімі.

— Вядома. Лісты чыталі жандары і перакрэсьлівалі нейкаю гадкаю жоўтаю фарбаю.

— За намі сачылі, але мы не адчувалі тады ні капелькі страху. Неяк адчувалася, што мы цесна зьвязаны з усёю Расіяю, з усім, што ёсьць у ёй лепшага. Мы зьдзекваліся з паліцыі ды з жандараў. Памятаеш старога Панцялеева, уласьніка выдавецтва? Ён купляў портрэты Пабеданосцава, Плевэ, Трэпава і вешаў іх на сьцяну ў ватэр-клёзэце... Жандары вар'яцелі ад злосьці, але ў крымінальным укладаньні ніяк нельга было знайсьці артыкулу на такое злачынства. Я іншы раз пытаюся ў сябе, дзе дзелася даўнейшая бадзёрасьць ды ўпэўненасьць? Яе няма... Афінагенаў напісаў п'есу „Страх“. Яго гэрой, стары профэсар, сіліцца давесьці, што цяпер галоўным стымулем у дзеі людзей зьяўляецца адчуваньне страху. Ён, бадай, праў. Мне здаецца, што ўся інтэлігенцыя, за выключэньнем невялічкае кучкі, якая захапілася тэорыяй Маркса і ў ёй знаходзіць адказ на мулкія пытаньні рачаіснасьці, жыве пад уплывам страху. Гэта страх не перад ДПУ ці перад трыбуналам. Нам няма чаго баяцца, бо мы нічым злачынным не займаемся. Гэта страх ад самоты. Мы папаліся ізолявана ад жыцьця, нам няма месца, мы ўсюды чужыя. Я, напрыклад, пішу так, як выліваецца на паперу, але я не ведаю ці патрэбна каму-небудзь гэтая мая пісаніна? І гэтае сумніва разбурае маё натхненьне, пазбаўляе мяне ўпэўненасьці ды бадзёрасьці. Раней я заклікаў да ведомае мэты, нападаў на мяшчанства, граміў самавольства і насільле, і я ведаў, што я—голас усіх чэсных перадавых людзей. А цяпер жыцьцё ідзе міма мяне, і я дарэмна стараюся ўчапіцца за яго, зразумець яго,—і не магу.

— І шукаеш дапамогі ў твае Лідачкі на заводзе?—перабіла яго Мар'я Рыгораўна.

Лірычны настрой Міхала Мікалаевіча раптам прапаў, і ён адчуў, што і тут, у сваёй сям'і, ён таксама самотны, што нічога не асталося ад тае бадзёрае і энэргічнае курсісткі, з якою ён некалі абмяркоўваў тэмы задуманых твораў, рыхтаваўся да публічных выступленьняў, раіўся ў цяжкіх пытаньнях, што Мар'я Рыгораўна—чужы яму чалавек, варожы да ўсялякае спробы адыйсьці ад мінулага.

9

У пакоі ў Бялова было накурана. На стале блішчэлі вадкім золатам келіхі з віном. Разьлівала чай Мар'я Рыгораўна, якая ўзяла на сябе ролю гаспадыні.

Курганаў сядзеў каля піаніны. Ен толькі што скончыў іграць свае новыя рэчы, да якіх слухачы аднесьліся з вялікаю пахвалою; паводле просьбы прысутных сыграў свой стары фокстрот, які нарабіў яму цяпер так багата няпрыемнасьцяй, і павярнуўся да стала. Мар'я Рыгораўна пакарысталася перапынкам, каб запрапанаваць яму чаю і наліць кілішак коньяку.

На канапе сядзеў, кудлачачы рукою параскіданыя валасы, малады пісьменьнік Шумілаў, пра якога крытыкі гаварылі зычліва, але папікалі за адсутнасьць цьвёрдае ўстаноўкі і перасьцерагалі ад магчымага споўзваньня ў мяшчанства. Шумілаў выпіў два келіхі віна і ўжо быў узбуджаны: ён гаварыў моцна, размахваў рукамі, яго вочы блішчэлі і словы ня зусім гладка ішлі з языка.

— Пачакайце, дайце сказаць мне,— закрычаў ён, перабіўшы ацэнку ігры і творчасьці Курганава.—Вось што, таварышы,—пачаў ён, калі ўсе змоўклі, і раптам зьвярнуўся да Бялова.—Пятро Пятровіч! Я прашу слова. Можна?

Усе расьсьмяяліся.

— Вы-ж ужо самі ўзялі сабе слова,—зазначыў Бялоў.—Апрача таго мы-ж сабраліся сюды не на пасяджэньне.

— Усё-такі патрэбен парадак. Мне, мабыць, будуць пярэчыць, так што лепш, калі мы выберам мілага Пётру Пятровіча за дырыжэра нашага музычна-літаратурнае таварыскае гутаркі. Ці правільна я фармуляваў шыльду нашае вечарынкі?—зьвярнуўся ён нечакана да Курганава.

— Зусім правільна,—адклікнуўся седзячы ў кутку Гронскі, перш, чым Курганаў сабраўся што-небудзь адказаць. Ён ня чуў пытаньня, бо гаварыў з Мар'яй Рыгораўнаю.

— Ну, і добра,—сказаў Шумілаў і наліў сабе яшчэ віна.—Я хачу падзяліцца з вамі думкаю. Правільней кажучы, задаць вам таварыскае пытаньне. У мяне ёсьць тэма, якая просіцца на паперу, і я яе не магу ўтрымаць. Тэма гэтае годна на элёгію ці ноктюрн ў музыцы, а ў літаратуры належыць да тых, якія любіў Пшыбышэўскі. Нешта ў чыне рэквіему. Вы скажаце ўпадніцкія настрої? Няхай! Няхай я буду тройчы

ўпаднікам, але за тое я на сто процантаў шчыры. І няхай мяне лаюць за гэта. У Ніцшэ Заратурства сказаў: „З усяго напісанага я люблю толькі тое, што напісана крывёю. І гэтую сваю рэч я хачу напісаць жывою гарачаю крывёю свайго сэрца. Але я адхіліўся. Прабачце. Мне хацелася зрабіць гэты маленькі ўступ. Дык вось мая тэма. Мільён гадоў таму назад з туманнасьцяй, што блукалі ў сусьвеце, зрабілася зямля. На зямлі паступова зьявілася жыцьцё. Я прызнаю тэорыю Дарвіна, але няхай мне хто-небудзь растлумачыць, чаму коні ды каровы смокчуць ваду губамі, а сабакі хлебчуць языком? Урэшце, гэта ня так важна. На зямлі зьявіліся людзі. Як толькі яны аб'ядналіся ў самыя прымітыўныя формы грамадзкага жыцьця, дык зразу-ж сталі паднявольваць адзін аднаго. Сотні тысяч гадоў моцныя ўстанаўлялі такі парадак, пры якім яны маглі-б жыць за лік слабых. Ад барбарскага рабства чалавечая грамада перайшла да так званых культурных спосабаў эксплёатацыі мноства людзей для таго, каб адзінкі—у большасьці бяздарныя шэльмы—маглі карыстацца ўсімі багацьцямі жыцьця і нічога не рабіць карыснага. Гэта—пэрыод капіталістычнага панаваньня буржуазіі. І вось надзвычайна шмат самаахвярных таленавіцейшых людзей аддалі і аддаюць сваё жыцьцё і ўсю сваю сілу, каб зьнішчыць гэтае рабства, каб зрабіць людзей вольнымі. Наперадзе ўсіх па гэтым пачэсным шляху пайшла наша дзяржава. Кастрычніцкая рэволюцыя 1917 году, перамогі на франтох грамадзянскае вайны, цяперашняе соцыялістычнае будаўніцтва. Аграмадныя тэмы на вялізныя палотны! Колькі іх яшчэ будзе напісана. Ня зроблена-ж яшчэ нічога, вы разумееце?—нічога таго, што хоць крышку адлюстравала-б гэтую барацьбу тытанаў соцыялізму, гэты сапраўдны патос будаўніцтва ва ўмовах нязьнішчанага яшчэ жабрацтва і варожага атачэньня. Імпэрыялісты рыхтуюць вайну з СССР. Я не сумняваюся, што война будзе, і мірнае насельніцтва падпадзе пад атруту ўдасканаленымі газамі, можа ў першую-ж чаргу загінем мы ўсе, што сядзімо тут. Але нават, калі вайны і ня будзе—дзеля чаго пісаць? Лепшыя тварэньні чалавечага гэнія асуджаны на зьнішчэньне, і іхнае пагібелі нельга перасьцерагчы нічым... Падумайце, фараоны, каб пакінуць пасьля сябе памяць, прымушалі рабоў будаваць піраміды, у якіх будавалі свае ўсыпальні. Гэтыя піраміды жывуць чатыры тысячы гадоў і камень ужо выветраў, шчыліны паглыбляюцца. Праз некалькі тысяч гадоў ад іх не астанецца нічога. Пройдуць мільёны гадоў—сэкунда сусьветнага часу—зямля астыне, усё жывое загіне, і на земнай кулі нельга будзе адшукаць аніякіх прыкмет таго, што некалі тут жыло чалавецтва, змагалася, пакутавала, рабіла казачныя геніяльныя вынаходкі, будавала дзіўныя будынкі, вострым аналізам свайго розуму адчыняла таямніцы прыроды, утварыла найвялікшую культуру, перамагала час і прастору, тварыла дзіўныя творы мастацтва, музыкі, літаратуры, якія мы абзываем ха, ха, ха!—няўміручымі! Значыцца, мы ўсе—ня гледзячы на наш гэні—мізэрныя рабы прыроды, якая прысудзіла ўсё чалавецтва ня толькі да сьмерці, а і на

моцнае забыцьцё. Яна пераробіць у прах усё тое, над утварэньнем чаго мы працуем, ад чаго мы захапляемся, дзеля чаго ахвяруем ня толькі нашаю сілаю, але і самім жыцьцём. Нашто-ж усё гэта, нашто? Сонца патухне, зямля астыне, і ўсё жывое памрэ. І калі пасьля калі-небудзь сонечная сыстэма, што носіцца ў прасторы, наблізіцца да якога-небудзь іншага сьвяціла, якое сагрэе зямлю, зноў адродзіць на ёй жыцьцё, дык будучае чалавецтва, мабыць, паўторыць усе нашы памылкі, усе зьверствы і жорсткасьці нашых мінулых вякоў, і ягоныя архэолёгі ня знойдуць аніякое адзнакі, аніякое пылінкі ад нашага цяперашняга існаваньня, ніводнае рыскі, па якой яны маглі-б даведацца, што тут у нашай круглай праклятай турме—на земнай кулі—некалі жылі людзі! Ні-чо-га!!

Шумілаў залпам выпіў келіх віна і наліў яго зноў да краю.

— І цяпер скажэце мне, — гаварыў ён далей патухшым голасам,—ці льга прыдумаць больш удасканаленую кару, большы зьдзек, чым лёс нарачоны чалавецтву? Нахабства зьдзеку якраз у тым, што навука адчыніла нам будучыню, што нашы гэніяльныя мазгі пазналі яе... Якое было-б шчасьце, каб мы асталіся на ўзроўні жывёлы, калі-б ня ведалі... Але не, мы ведаем! Мы ўкусілі ад дрэва пазнаньня і зразумелі, што памром сьмерцю. Тут разгадка гэтае дрэўнае легенды... Тысячы гадоў чалавецтва пакутавала ў думцы пра свой прысуд. Яно, у роспачным намаганьні перамагчы зьдзеквальныя законы прыроды, утварыла міт пра няўміручасьць душы, яно жорстка—пад пагрозаю лютае кары — забараніла хоць крышку сумнявацца ў гэтым міту. І некалькі тысяч гадоў людзі верылі ў сваю няўміручасьць, у вечнае жыцьцё, і былі шчасьлівымі. Але праклятая прагнасьць да ведаў была ненасытнаю. Яна штырхала чалавечы розум да новых і новых вынаходак, яна прымушала людзей усё глыбей і глыбей пранікаць у галіну таямнічага, яна разбурала легенды і на іх месца ставіла дакладныя і няшчадныя вывады навукі. І разьляцелася, як мыльны пузыр, вера ў няўміручасьць, і людзі ўбачылі перад сабою страшэннае бяздоньне, поўнага згіненьня, да якога цягне нас халодны ды спакойны час, і няма цяпер на краі гэтага бязьдоньня аніякае травінкі, за якую льга было-б ухапіцца здрантвелымі пальцамі і ў апошнім намаганьні хоць на міг утрымацца ад спаду ў чорнае бяздоньне. Я праклінаю жыцьцё, праклінаю навуку, праклінаю нашы ненажорлівыя мазгі, якія мы перарабілі на дасканалейшую зброю мучэньняў саміх сябе, разьвіўшы іх, пашырыўшы межы нашае мысьлі да бясконца, зразумець якіх ня маем магчымасьці, рассунулі наша жыцьцё на мільёны гадоў назад і на бясконца нязьмерны ніякімі лічбамі час наперад і зразумелі тое, што ня можа быць і не павінна пазнавацца намі: нашу прысуднасьць, нашу нямінучую пагібель і бясьсьледнае згіненьне. Мы ня мелі права даходзіць да гэтага, але дайшлі. І ў нас цяпер асталася адна магчымасьць, толькі адзінае выйсьце, адно шчасьце: у выбраную намі хвіліну нам самім раздрабіць кавалкам волава нашу недарэчную маленькую чарапную каробку, якая стараецца зьмясьціць у сабе тое, што не зьмя-

шчаецца, зразумець недасяжнае. Ты, прырода, дала мне вядомую колькасьць гадоў жыцьця. Але гаспадар яго ня ты, а я. Захачу — і замест тых некалькіх, што асталіся мне, гадоў, я перарву сваё жыцьцё цяпер, калі ты гэтага не чакаеш, калі мне, а не табе гэтага захочацца. Ї ў гэтай магчымасьці стаць вышэй прыроды, падпарадкаваць сваё жыцьцё маёй уласнай волі—маё адзінае шчасьце і гордасьць. Але гэтага мала: я адчуваю сябе поўным гаспадаром ня толькі над сабою, але і над іншымі. Я іду па вуліцы. Сьпераду ідзе маладая прыгожая жанчына. Яна гаворыць з сваім падарожнікам, яна сьмяецца, яе вочы зьяюць, яе голас зьвініць шчасьцем. А ў, мяне ў кішэні, у маёй руцэ ляжыць нешта маленькае, халоднае, і яго я трымаю, палажыўшы палец на спуск і адчыніўшы засьцярожнік. Мне варта выняць гэтае нешта, накіраваць на яе, націснуць спуск—і яе сьмехатлівы твар афарбуецца бледнасьцю, яе сэрца перастане біцца і яна стане праціўным трупам, у якім зараз-жа, у гэту-ж хвіліну пачнецца процэс загніваньня. Я адчуваю сябе гаспадаром яе жыцьця, я повен гордасьці, я адчуваю сваю ўладу над прыродаю. Мы ня можам зрабіць нашага жыцьця бясконцым, але мы маем права перарваць яго ў любую хвіліну, калі нам захочацца. У гэтым—наша адзінае шчасьце. Вось мая тэма.

Ён стомлена сеў на канапу і залпам выпіў віно.

— Галоўліт не прапусьціць,—парушыў нехта маўчаньне.

Усе расьсьмяяліся.

— А вы не прабавалі пагаварыць пра гэта з кім-набудзь з членаў партыі?—запытаўся Пятро Пятровіч.

— Ї ня буду!—рэзка адказаў Шумілаў. — Яны мяне ніколі не зразумеюць. Для іх ня існуе асобнага чалавечага жыцьця. Їх цікавіць толькі колектыў.

— А я ўпэўнены, што яны змаглі-б расьсеяць ваш цяжкі настрой,— заўважыў Пятро Пятровіч.

— Яны ўсім арсэналам сваё цяжкае марксыцкае артылерыі ні на волас ня могуць зьмяніць законаў прыроды. Мяне абзываюць таленавітым, чакаюць ад мяне нейкае надзвычайнасьці. Але хіба бомба з атрутным газам, кінутая варожым аэроплянам, пачне шукаць розьніцы між талентам і няздараю? Урэшце, бомба,—гэта глупства. Няхай адбудзецца сусьветная пролетарская рэволюцыя і навек будуць зьнішчаны войны, — астанецца тая-ж самая сьмерць ды вечнае забыцьцё...

Да Шумілава падышоў Гронскі.

— Вы не ўпамянулі яшчэ пра адзін спосаб стаць вышэй за прыроду, якая асудзіла нас, якая паварочвае ў наша сэрца вострым нож нуды пры думцы пра сьмерць, вы знайшлі спосаб прагнаць усе нашы пахмурыя думкі і зрабіцца вясёлымі ды жыцьцярадаснымі ў любую гадзіну дня і ночы. Гэты сродак тут. Вось ён!—падняў ён угару бутэльку з віном.— Адкінем пэрыоды ды мільёны гадоў, а абмяжуемся маштабам сёнешняга вечара. Вып'ем ды папросім паважанага Курганава сыграць нам яшчэ раз

ягоны няшчасны фокстрот, які падпадае пад такі загон іменна таму, што вельмі таленавіта напісаны.

— Але табе шкодна піць, Міша. Ты забываешся на сваё сэрца!— умяшалася Мар'я Рыгораўна.

— К чорту сэрца!—закрычаў Міхал Мікалаевіч.—Калі я не хачу ў гэту хвіліну пусьціць у яго кулю, дык я зальлю ягоны трэпет перад бясконцасьцю—коньяком.

Ён наліў вялікую чарку і зьвярнуўся да жонкі.

— Я п'ю за здароўе Лідачкі з заводу, якая расьсьмяялася-б у адказ на прамову Шумілава.

— І за пролетарыят, які горда пагарджае законы сусьвету і робіць сваю добрую справу тут, на зямлі, разбураючы рабства і напаўняючы наша лагоднае жыцьцё вялізным і надзвычайным зьместам, — дадаў Пятро Пятровіч.

— Эх, таварыш Бялоў, — заўважыў паэт Гаражанкін, што да гэтага часу маўчаў. — Вы астаецеся чысьцейшым ідэалістам нават тады, калі хочаце гаварыць па-марксыцку.

Пятро Пятровіч паставіў недапітую чарку на стол і ўстаў.

— Калі так, то слухайце мой адказ на прамову Шумілава. Ягоныя ўпадніцкія настроі маюць сабе за аснову ягоны эгоцэнтрызм. І ён зусім лёгічна зьвёў усе свае развагі да замкнёнага ад усяго навакольнага быцьця яго самога, да ўласнае прысутнасьці, да права безадказнага распараджэньня сваім жыцьцём, да адмаўленьня колектыву. Сьветапогляд Шумілава быў-бы, мабыць, з прагнасьцю ўспрыняты сьлімаком, калі-б ён мог думаць, бо ўкладаецца ў ягоную шалупку цалкам і поўнасьцю. Яму перашкаджае, аднак, усё чалавецтва, і Шумілаў прысудзіў яго на пагібель і на поўнае забыцьцё. Ён перанёсься да тае эпохі, калі патухне сонца і ахаладае зямля, да эпохі, аддалёнае ад нас на такую непамерную колькасьць стагодзьдзяў, якая блізка да бясконцасьці. Але няхай будзе так, як ён гаворыць. Перанясемся ў гэтую бясконца аддалёную ад нас эпоху і асьвятлім яе сьвятлом ведаў не цяперашняга году, як гэта робіць Шумілаў наўпярэчкі ўсім законам дыялектычнага мэтоду, а з вершалін навукі будучыні, якія мы можам прадбачыць, прасачыўшы шлях яе разьвітку да сёнешняга дня. Зірнеце ўсяго на пяцьдзесят год назад. Што мы мелі тады ў галіне навукі? Я не бяру на сябе сьмеласьці пералічыць хоць-бы толькі галоўнейшыя вынаходкі, зробленыя за паўвека, а назаву толькі некаторыя. У 1880 годзе чалавецтва толькі нясьмелымі крокамі падыходзіла да самых прымітыўных формаў скарыстаньня нядаўна адчыненае электрычнае энэргіі. Яно ня мела ніякага ўяўленьня пра кіноматографію, пра радыё, ды пра вадкае паветра, пра паветраныя аэростаты, як мы кажам, дырыжаблі, пра аэропляны. Напомню вам, што ў сярэдзіне 1890-х гадоў францускся акадэмія навук зрабіла аднагалосную пастанову: ня прымаць наогул на разгляд проектаў лётальных апаратаў, што цяжэй за паветра, бо гэтае задачы ня зьдзейсьніш...

Пяцьдзесят гадоў назад ня было аўтомобіляў, не адважваліся і думаць пра тое, каб даткнуцца хірургічным нажом да сэрца, ня ведалі пра дзейнасьць залозаў унутранае сэкрэцыі, ня было супроцьдыфтэрытных, супроцьчумных, супроцьтыфусных і шмат якіх іншых прышчэпак, ня ведалі бэтонных пабудоў, і ў кожным доме яшчэ захаваліся спэцыяльныя клешчы, каб зьнімаць нагар з сальных сьвечак. Гэніяльная думка Маркса вострым скальпелем аналізу ўскрыла зьмест грамадзкіх адносін, выявіла ролю паасобных клясаў і азначыла нямінучасьць перамогі пролетарыяту і організацыі ім новых, нябачных формаў грамадзкага жыцьця чалавецтва, дзе ня будзе багатых ды бедных, эксплёататараў ды рабоў, прывілеяваных ды бяспраўных, пры якіх чалавецкі гэні разгорнецца ва ўсю неабдымную шырыню сваіх бясспорных здольнасьцяй, і да мінімуму будзе скарочана затрата чалавечае сілы на набытак сродкаў да існаваньня. Гэта тэорыя Маркса тады яшчэ была ўспрынята вельмі нязначнаю колькасьцю змагароў за соцыялізм, і толькі цяпер, разьвітая Леніным, стала асноваю для пабудовы першае ў сьвеце пролетарскае дзяржавы, грамадзянамі якое мы зьяўляемся. Улічыўшы дасягненьні навукі на працягу ўсяго паўвека, параўнаўшы гэтыя дасягненьні са стагадовым папярэднім пэрыодам, мы з неабвяргальнаю яскравасьцю бачым шалёнае паскарэньне росту адчыненьняў ды вынаходзтва, аграмаднейшае павялічэньне сродкаў, з дапамогаю якіх чалавек падпарадкуе сабе ўсё новыя ды новыя, яшчэ ўчора яму невядомыя, сілы прыроды. І вось Шумілаў упэўніў сябе і хоча ўпэўніць нас у тым, што праз сотні тысяч вякоў сонца патухне, і наша круглая турма ў сусьветнай прасторы пераробіцца на цёмны, мёрзлы камок матэрыі, што нясецца па сьпіралі ў бясконцасьць, і зьнікнуць усялякія сьляды згінуўшага чалавецтва. Але ён так думае іменна таму, што ня ўмее, ці ня хоча думаць дыялектычна. Я ведаю, цьвёрда ведаю, што праклянёная Шумілавым прагнасьць да ведаў, якая адкідае, як непатрэбныя рызманы, старыя забабоны ды вераваньні і будуе новае жыцьцё на асновах чыстае і неабвяргальнае навуковае мысьлі, прывядзе да новых і новых адчыненьняў, пра якія мы ня можам і марыць, што нязьмерна раней, чым настане прызначаны страх абядненьня цеплавое сонечнае энэргіі, будзе знойдзены спосаб раскласьці атом і вызваліць нявымерную атомную энэргію і гэтым ці іншым шляхам, але будзе вынайдзена магчымасьць тут, у нас, на нашай зямлі дабываць і рэгуляваць цяпло і сьвятло, неабходнае для існаваньня чалавецтва. Вы ня можаце папікнуць мяне ў тым, што я фантазую. Ня скажаце вы, што навука дасягнула найвышэйшае вяршыні свае магутнасьці, што вынайдзена рашуча ўсё, і што будучым пакаленьням астаецца толькі пэражоўваць жвачку нашых дасягненьняў, што пасьля 1931 году ніякія вялікія вынаходкі немагчымы. Вось той, хто асьмеліўся-б сьцьвярджаць гэта, быў-бы найвялікшым фантазёрам, калі не безнадзейнаю тупіцаю! Мы падпарадкуем сабе законы сусьвету, нашы справы жыцьмуць вечна, і няўміручым зьяўляецца чалавецтва, што

вызваляецца ад улады прыроды і падпарадкуе сабе яе сілы. Няхай памрэ кожны з нас, але не памрэ ніколі ніводная часьцінка нашае энэргіі, затрачаная чалавечым колектывам на дасягненьне гэтае вялікае мэты.

Ён выцер хусьцінкаю лоб і сеў на крэсьла.

— Чыстакроўнейшы ідэалізм,—праказаў Міхал Мікалаевіч.

## 10

Гронскі сьпяшаўся да аўтобуснага прыпынку, але, праходзячы міма новага высокага дому „Известий ЦИК СССР", убачыў у акне аб'яву, пра выхад дзесятае кніжкі часопісу „Новый мир" і прозьвішча Бялова ў ліку аўтараў тых твораў, якія там зьмешчаны. Яго ахапіла злосьць. У будцы ён купіў гэту кніжку, знайшоў апавяданьне і, стаўшы ў чаргу на аўтобус, пачаў яго чытаць.

Апавяданьне звалася „Дробязь". Пятро Пятровіч апісаў, як рабочы знайшоў спосаб прыладзіць да варштату нейкае нязначнае прыстасаваньне, якое аказалася вельмі важным для ўсяго заводу. Апавяданьне было напісана простаю моваю, было падобны хутчэй на нарыс, але пакідала глыбокае ўражаньне. Ён быў працяты асабліваю цяплынёю, якая прымушала задумацца над сужэтам і ўскрываць глыбокую цікавасьць рабочага да вытворчасьці, якая магчыма толькі ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва. Бялоў не рабіў ніякіх вывадаў, але яны напрашваліся самі сабою: чытач відавочна ўпэўніваўся ў перавазе нашых савецкіх мэтодаў гаспадараньня, пры якіх адчыняецца шырокая магчымасьць для рабочае ініцыятывы, зьнікае гадкі характар працы, няўхільны ва ўсялякім капіталістычным прадпрыемстве, і мысьль спадарожнічае кожнаму самаму нескладанаму процэсу вытворчасьці, адухаўляе яго, ператварае простага выканаўцу нават нескладанага заданьня ў адшуканца і творцу нашых паляпшэньняў.

Міхал Мікалаевіч хутка прачытаў апавяданьне, скамячыў кніжку і сунуў у кішэню. Значыцца—Пятро Пятровіч здолеў знайсьці дарогу да пераключэньня свае творчасьці на новы шлях. Праўда, ягонае апавяданьне пасавала па велічыні ягоным дарэволюцыйным романам ды аповесьцям, але-ж гэта толькі адна з першае спробы. Няўжо ён здолее даць вялікі твор у гэтым-жа духу?

Міхалу Мікалаевічу здалося, што назва апавяданьня „Дробязь", гучыць затоеным выклікам да яго, да Гронскага, які так часта гаварыў пра сваю грэблівасьць да дробязяй. Тэма... Але такую тэму можна вычытаць у любой газэце.

— Але, аднак, я ня вычытаў!—сказаў раптам уголас Міхал Мікалаевіч і тыя, што стаялі ў чарзе, азірнуліся на яго са зьдзіўленьнем.

Мар'я Рыгораўна сустрэла яго дакорам за тое, што ён спазьніўся на абед: крупнік перастаяў, смажаньне высахла, трэба было пазваніць тэле-

фонам, папярэдзіць. Як-бы можна званіць тэлефонам, чакаючы на вуліцы аўтобуса.

Пасьля абеду Міхал Мікалаевіч сеў за стол і пачаў складаць дэклярацыю пра даход за леташні год. У дэклярацыі было шмат пытаньняў, на якія надта цяжка было адказаць.

У яго запісной кніжцы акуратна было запісана, колькі і адкуль ён атрымаў ганарару за артыкулы, за апавяданьні ды п'есы, некаторыя з іх яшчэ ішлі ў правінцыяльных тэатрах. Агульная сума склала нешта каля 6000 рублёў. Аднак, у яе ўваходзілі авансы за заказаныя літаратурныя работы. Работ гэтых Міхал Мікалаевіч яшчэ не зрабіў і ня ведаў ці здолее зрабіць пры цяперашніх абставінах, а таму парашыў гэтых грошай у дэклярацыю ня ўпісваць,—раптам давядзецца іх вярнуць назад.

Вядома, некалькі сотнень рублёў падатку, а грошай няма, і адкуль іх цяпер атрымліваць, калі не даюць працаваць! Цікава было-б ведаць, якія літаратурныя заработкі Пётры Пятровіча? Некалі ён быў далёка ззаду, а цяпер, мабыць, перагнаў на шмат тысяч. Прыстасаванец!

Мар'я Рыгораўна ўжо выцягнула з кішэні ягонага палітона часопіс і прачытала апавяданьне Бялова.

— Надзвычайна добра напісана, — сказала яна кладучы кнігу на кніжніцу.—Я заўсёды гаварыла, што Пятро Пятровіч таленавіцейшы за цябе. (Міхал Мікалавіч ні разу яшчэ ня чуў такога сьцьвярджэньня ад яе). А галоўнае—практычней. Паглядзі: ён здолеў узяць маленькую тэму, якая цалкам адпавядае нашым запатрабаваньням, але не прымушае крывіць душою, і распрацаваў яе так добра, так зьмястоўна. Вышла надзвычайная рэч, якая, вядома, апрача часопісу, выйдзе і асобным выданьнем і дасьць яму добры заработак. А ты ганяешся за вырашэньнем аграмадных пытаньняў, працуеш над імі па месяцох і садзішся ў лужу, бо ня ўмееш да іх падыйсьці. Вось і цяпер, хіба ты ў апошні час штонебудзь пішаш? Перабіраеш сваё старое і толькі. Ці ня думаеш ты толькі заняцца яго пераробкаю? Гэта ня порткі, якія кравец можа пераніцаваць і зрабіць годнымі да ўжываньня. Ды ў цябе ў архіве нічога і няма апрача кветак, каханьня, рэўнасьці ды ўсялякіх нікому непатрэбных перажываньняў. Ці не!—раптам праказала яна зусім іншым тонам.—Ледзь не забылася. Скажы мне адрас Шумілава.

— Нашто табе?

— Я хачу пайсьці да яго. Я доўга думала пра яго прамову на вечарынцы ў Пётры Пятровіча і прышла да прakананьня, што ён скончыць самагубствам. З такімі думкамі жыць нельга. Трэба на яго зрабіць уплыў. Калі за гэта ніхто ня хоча ўзяцца з яго сяброў, дык вазьмуся я.

— Што за глупства! — вырвалася ў Міхала Мікалаевіча. — Ты-ж яго зусім ня ведаеш.

— Гэта ня грае ролі. Жанчына заўсёды зможа знайсьці шлях да сэрца і праканаць. Ён такі таленавіты. Ён патрэбен Расіі. Дзе ён жыве?

— Разуменьня ня маю.

— Ты ніколі ня хочаш мне памагчы. А, ўрэшце, я даведаюся пра ягоны адрас у Пётры Пятровіча.

Міхал Мікалаевіч прамаўчаў, але падумаў, што калі ўмяшалася Мар'я Рыгораўна, дык шансы на магчымасьць самагубства Шумілава значна пабольшыліся.

11

Міхал Мікалаевіч пароўся ў сваіх старых рукапісах зусім не дзеля таго, каб заняцца пераніцоўкаю на новы лад даўно напісанага. Ён шукаў даўнейшага натхненьня. Перачытваючы паасобныя накіды сваіх аповесьцяй ды раманаў, ці не надрукаваныя інтымныя апавяданьні, дзе ён запісваў у мастацкай форме свае сустрэчы ды ўражаньні, што ні ў якім разе не падлягалі ўвазе Мар'і Рыгораўны, ён стараўся выклікаць у сябе лірычны настрой, пад уплывам якога іх пісаў. Ён добра памятаў, што часта жаданьне пісаць ня зьвязвалася ні з якою адмысловаю тэмаю, што, ахоплены настроем, ён садзіўся за стол, падсоўваў да сябе кіпку акуратна нарэзанае шчыльнае глянцаватае паперы, браў у рукі асадку або аловак, ня ведаючы, што яшчэ напіша, і самі сабою выраствлі радкі, зьяўляліся вобразы, і адзін за адным адкладаліся ўбок напісаныя лісткі, і, бадай, ня трэба было перарабляць закончаных сказаў. Але на гэта трэба было, каб Міхала Мікалаевіча нічога не адхіляла, каб на стале стаяла лямпа з мяккім зялёным шоўкавым каптурком, каб папера была вышэйшае якасьці і не задзіралася шурпатасьцямі ад канца новага сталёвага пяра і каб збоку стаяў гранёны графін з коньяком і тонкая хрусталёвая чарачка пяшчотным звонам адклікалася на самы лёгкі дотык. Ніводнае з гэтых умоў цяпер ня было, і гэтай прычыне Міхал Мікалаевіч прыпісваў усе свае няўдачы.

Але пісаць трэба, што-б там ні было. Трэба напісаць нешта яркае ды вострае, трэба паказаць, што ёсьць яшчэ шмат пораху ў ягонай парахоўніцы, што ён уяўляе з сябе куды большую творчую каштоўнасьць за прыстасаванца Бялова. Ён возьме буйную тэму, распрацуе яе з надзвычайнаю ўважлівасьцю, разгорне яе вялікі твор соцыяльнае значнасьці, пра яго загавораць, будуць пісаць артыкулы, успамянуць старыя заслугі. Хутка-ж будзе 30 гадоў ягонае літаратурнае дзейнасьці!

Успамянулася, што 20-гадовы ягоны юбілей быў адсьветкаваны саюзам пісьменьнікаў, які прысьвяціў Гронскаму спэцыяльны вечар. Характарыстыку ягонае творчасьці даў крытык Жураўлёў, з прамовамі выступалі Замяцін, Бялоў, поэта Лазінскі, газэты адзначылі юбілей артыкуламі. Зусім ня тое было з 25-гадовым юбілеем творчасьці Гронскага. Сабраліся толькі яго блізкія сябры, а організацыі ды друк абышлі яго моўчкі. Цяпер ён напамяне пра сябе.

Тэма ўжо зусім склалася. Рабочы-вылучэнец пападае ў кіраўніцтва трэстам, прабуе праводзіць там ударніцтва ды соцспаборніцтва, але не сустракае падтрыманьня і выклікае да сябе варожыя адносіны занепа-

коенага балота службоўцаў. Ягоныя спробы пазнаёміцца з агульным ходам працы трэсту расцэньваюцца, як умешка не ў сваю справу, старыя чыноўнікі над ім спадцішка зьдзекуюцца, мясцком ды партыйная ячэйка заняты змаганьнем з правым ды „левым“ ухіламі і не зьвяртаюць на вылучэнца патрэбнае ўвагі. У дырэктара трэсту, які разьдзіраецца на часткі пасяджэньнямі, нарадамі, узгодкваньнямі ды ўвязваньнямі ўсялякіх пытаньняў, няма нават пяці хвілін, каб хоць раз пагаманіць з ім. Вылучэнец адчувае, што яго сілы прападаюць у змаганьні з канцылярышчынаю ды бюрократычным бяздушшам, але раптам падыходзіць чыстка апарату. Вылучэнец па чыстцы грае кіраўнічую ролю, і з яго дапамогаю з трэсту выкідаецца ўсялякае сьмецьце, што асталося ад старое эпохі, а разам са сьмецьцем вылятае і дырэктар, які ня бачыў за папяровым справаводзтвам жывых задач свайго трэсту і дапусьціў шэраг прарываў. Дырэктарава месца займае вылучэнец, і настае поўнае аздараўленьне.

Перад Гронскім ужо выразна абмалёўваліся фігуры: галоўнага інжынэра Тутолміна, бывалешняга кіраўніка заводу купца Істоміна, начальніка канцылярыі Макаева,—бывалешняга князя, што меў разам са сваім братам каўкаскі рэсторан у Пецярбургу на Неўскім проспэкце (Гронскі там неаднойчы быў у стары час), рахункавода Бірулькіна, бывалешняга даверанага гандляра аўсом ды сенам, мільянэра Бахрамеева, дырэктара трэсту Прамухіна, які перайшоў да комуністаў у 1919 годзе з партыі соцыял-рэволюцыянэраў. Слабей за ўсіх абмялёўваўся галоўны герой аповесьці вылучэнец Вядзёркін, але з ім Гронскі спадзяваўся справіцца. З жаночых фігур ён намеціў дырэктараву жонку, таксама бывалешнюю соцыялістку-рэволюцыянэрку, якая бурчэла на мужа за тое, што ён дрэнна скарыстоўвае сваё становішча адказнага работніка, ды злавалася на бальшавікоў, якія зьдзейсьнівалі ўжо цяпер соцыялізм, да якога яна імкнулася з умоваю, што ён настане гадоў праз 200 (такую Гронскі сустракаў) і зьбіраўся напісаць гэты тып з натуры, машыністку-стэнографістку, якая сілілася заваяваць ды падабраць пад сябе дырэктара і рэзка перамяніла да яго адносіны пасьля чысткі, загнаную няпісьменную вартаўніцу, што нездаволена спробамі ліквідаваць яе няпісьменнасьць. Гэтага хопіць. Мімаходзь будуць накіданы сакратар партыйнае ячэйкі ды старшыня мясцкому.

За аповесьць ён атрымае некалькі тысяч рублёў і ўзбудзіць хадайніцтва, каб дазволілі паехаць за мяжу, пабудзе ў Германіі, у Францыі, пажыве ў Італіі, а далей—як складуцца абставіны. Мар'я Рыгораўна, вядома, будзе прасіць, каб ён узяў яе з сабою. Ён напіша адпаведную заяву, але зможа ўсё ўладзіць так, што ёй адмовяць, а пасьля разам з ёю—будзе скардзіцца на заціскі, што робяцца жонцы вядомага пісьменьніка без усялякае прычыны.

Трэба брацца за справу. Але дзе пісаць? Дома—нельга. Мар'я Рыгораўна будзе перашкаджаць, трэбаваць, каб ён прачытваў ёй кожны

зьвянчак, рабіць свае недарэчныя папраўкі, крытыкаваць. Але галоўная справа ня ў гэтым. Думка пра тое, што яна, пазнаёміўшыся з тэмаю, скрывіць губы і пракажа сваім бразгучым голасам: „значыцца, пробуеш пераключыцца?“—адбірала ўсялякую ахвоту працаваць. Пётры Пятровічу дазвалялася ўсё. Яна захапляецца ад яго новых апавяданьняў, хоць ад іх за вярсту нясе няпрыкрытым прыстасаваньнем, але яму, Міхалу Мікалаевічу, яе мужу, нельга і блізка падыходзіць да сучасных тэмаў. Гэта зараз-жа будзе раскваліфікавана, як падхалімства, як крок, які губляе назаўсёды ягоную вартасьць і творчую незалежнасьць.

Трэба ісьці з дому. Але чым растлумачыць гэта? Каб ён кінуў жонку зусім, і пераехаў жыць да другое жанчыны, дык гэта было-б успрынята за меншую абразу, як тое, што ён ёй проста скажа, што ён ня можа працаваць у яе прысутнасьці і ня мае патрэбы ў яе ацэнцы свае творчасьці. Яна-ж да гэтага часу ўпэўнена, што зьяўляецца ягоным натхняльным геніем, бяз удзелу якога ён анічога ня можа напісаць.

Аднак, выхад знайшоўся. Ён будзе хадзіць у бібліотэку і пісацьме там. А ёй скажа, што зацікавіўся якім-небудзь спэцыяльным пытаньнем навуковага характару, запрапануе нават калі-небудзь пайсьці разам і прадэмонструе перад ёю адпаведныя кнігі, сьпісак якіх на гэты выпадак можна падрыхтаваць.

12

Усё абышлося добра. На дапамогу Міхалу Мікалаевічу прышлі зусім нечаканыя абставіны. Мар'я Рыгораўна знайшла спосаб пазнаёміцца з Шумілавым, забрала яго ў рукі, і цяпер яны абое захапляліся сьпірытызмам, пранікаючы ў таямніцы патойбаковага сьвету і знаходзілі ўцеху ў гутарках з вядомымі людзьмі глыбокае дрэўнасьці. Праўда, думкі гэтых гістарычных людзей, якія Мар'я Рыгораўна падрабязна перадавала Міхалу Мікалаевічу, былі надзвычайна падобны да таго глупства, якое ён прывык чуць ад жонкі, калі яна пачынала гаворку на філёзофскія тэмы, але на Шумілава яны рабілі дабрачыннае ўражаньне. Ён, як казала Мар'я Рыгораўна, ужо пакінуў піць (падпарадкуючыся катэгорычнаму загаду Юлія Цэзара) і зьбіраўся кінуць курыць. Міхал Мікалаевіч ніяк не чакаў такога павароту падзей, і ягонае ўражаньне пра Шумілава ўпала да нуля. Мар'я Рыгораўна радавалася, што выратавала гэта маладое ды чыстае сэрца ад пагібелі, што яму пагражала, а Гронскі ды іншыя, даведаўшыся пра зьмену ў жыцьці Шумілава, гаварылі, што цяпер ён загінуў куды горш, як-бы сваячасова кончыў сам з сабою.

Аповесьць расла, і акуратна паскладаныя яе кіпкі лістоў Міхал Мікалаевіч хаваў пад замок у пісьмовым стале, думаючы, што яе давядзецца аддаць перадрукоўваць на машынцы, а грошы трымаюцца ў Мар'і Рыгораўны. Аднак і тут падвязло: папалася невялікая работа, за якую ён атрымаў некалькі дзесяткаў рублёў і пакінуў іх сабе, нічога не сказаўшы пра іх жонцы.

Ён працаваў хутка і не заўважваў, як ляцеў час. „Трэба паказаць ударніцтва ў літаратурнай творчасьці“,—думаў ён і ўспамінаў удачнае чатырохрадкоўе вершу, напісанае Лідаю Грузьдзёваю для заводзкае насьценнае газэты і што цяпер вісела за лёзунг у чырвоным кутку заводу:

Ударнік, помні, твой паход
Не на адцінак каляндарны
Ударным будзе кожны год
І кожны ў годзе дзень—ударным!

Каб удалося на некалькі гадоў захаваць энэргію ды лёгкасьць, з якою сьлізгала пяро па паперы, двума-трыма штрыхамі малявала асобныя портрэты ды эпізоды і набліжала разьвязку!

Каб правільней адлюстраваць жыцьцё, дык Міхал Мікалаевіч пабыў на чыстцы каноплятрэсту. Дэталі сходу і асобныя тыпы, што кінуліся яму, далі лішні матэрыял для больш дакладнае характарыстыкі герояў ягонае аповесьці.

Цяжэй за ўсё было апісаць вылучэнца. Тут Міхал Мікалаевіч адчуваў у становішчы каня, які выверНуў цяжкі воз з каляіны і цягнуў яго па мокрай клейкай гліне, што ліпкімі зьмеямі накручвалася на колы, засмоктвала ногі і ўдзесяцярала цяжар паклажы.

Міжволі прышоў у галаў тып справаводніцы—старое дзяўчыны, узлаванае на ўвесь сьвет, якая знаходзіць пацеху толькі ў зводах ды паклёпах. Гэтая справаводніца ні прапусьціла ніводнага пасяджэньня камісіі па чыстцы, заплавіла прэзыдыум вуснымі і пісьмовымі паведамленьнямі пра кожнага з супрацоўнікаў і плавала, як рыба у вадзе, да таго часу, пакуль камісія не паставіла пытаньня пра яе самую, як пра злосную паклёпніцу, і ня выкінула яе з установы. Тып гэтае справаводніцы Міхал Мікалаевіч намаляваў, бадай, цалкам з Мар‘і Рыгораўны, зьменьваючы яго толькі так, каб яна не магла ў ім пазнаць самое сябе, і карыстаючыся заўсёдным яе бурчэньнем супроць бальшавікоў наогул і паасобных комуністаў у прыватнасьці.

## 13

Сканчэньне аповесьці супала з востраю гаворкаю паміж Шумілавым і Мар‘яй Рыгораўнай, якая цяпер усюды заяўляла, што Шумілаў—поўная няздара і што ён напушчае на сябе байранізм ды прысуднасьць толькі на тое, каб здацца іншым, і ловіць у свае цянёты даверлівых жанчын. Прычынаю да гэтае сваркі, як мог улавіць Міхал Мікалаевіч, быў Сократ, выкліканы Шумілавым на сьпірытычным сэансе тады, калі Мар‘я Рыгораўна не хацела гэтага, і вельмі рэзка адазваўся пра яе разумовыя здольнасьці. Яна цяпер усюды заяўляла, што адзіны чалавек, які яе разумеў і разумее,—гэта яе муж, і абкружыла Міхала Мікалаевіча яшчэ большаю ўвагаю.

14

З хваляваньнем, якое нагадвае дні далёкага юнацтва, Міхал Мікалаевіч падымаўся па лесках, што вялі ў рэдакцыю часопісу „Красный Путь“, куды ён аддаў сваю аповесьць. Ён выбраў гэты часопіс таму, што адказным рэдактарам тут быў чалавек, які ўважліва адносіўся да папутнікаў і як мог памагаў ім зразумець патрабаваньні, якія ставяцца і літаратуры рэконструкцыйным пэрыодам гаспадаркі.

Рэдактар прыняў Гронскага вельмі ветла, запрапанаваў яму крэсла і выняў са стала ягоны рукапіс.

— Члены рэдакцыйнае колегіі прачыталі і абмеркавалі вашу новую аповесьць. Яна, бязумоўна, гаворыць пра некаторы паварот у вашай творчасьці, але не зьяўляецца зусім здавальняючай. Цэнтральная фігура вылучэнца ў вас ня вышла. Вышаў нейкі лякаваны манэкен, прычэсаны пад пролетара няўдалым цырульнікам. Як яскравыя ды праўдзівыя ў вас іншыя тыпы, дык неяк штучны ды ненатуральны цэнтральны. Гэта надае аповесьці акурат адваротны сэнс таму, які вы, вядома, хацелі ёй даць. У такім выглядзе яны проста контррэволюцыйны. Я раю вам карэнным чынам перарабіць яе. Няўжо вы ніколі ня сустракаліся з вылучэнцамі, не гаманілі з імі, ня бачылі іх на рабоце? Яны ня маюць нічога агульнага з вашым Вядзёркіным. Перарабеце яго, ажывеце, укладзеце ў яго пролетарскую простасьць у дасягненьні да пастаўленае мэты, рабочую сьмякалку—і тады мы можа яе надрукуем. Урэшце, вы маеце літаратурнае імя і шматгадовую практыку, і мне ня трэба вам рабіць такіх навучаньняў...

15

З рэдакцыі Міхал Мікалаевіч пайшоў, не зьвяртаючы ўвагі на дарогу. Марасіў дробны восенскі дождж, і клаў на ворс яго паліта маленькія празрыстыя галачкі. Паветра было насычана сьцюдзёнаю сырасьцю, што залазіла ў рукавы, за каўнер і прымушала корчыцца праходжых.

Міхал Мікалаевіч спусьціўся да мосту на рацэ Маскве. Прайшоў да сярэдзіны яго і суняўся. Унізе, па паверхні вады паўзьлі струмянькі ветру, разьбягаліся дрыжэньнем і трапалі памокшы сьцяг каля прыстані.

Гронскі намацаў у кішэні паліто адсырэлы рукапіс, выняў яго і з размаху кінуў у рэчку. Лісткі разьляцеліся і пападалі на ваду белымі чвартушкамі і паволі зарушыліся па плыні. Ня гледзячы на іх, Гронскі пайшоў далей. У ягонай галаве дакучліва чэканіўся аднекуль з памяці выплыўшы радок вершу.

Госпадзі, ды-ж нам так мала трэба:
Адшукаць свой дом і адпачнуць...

З расійскае пераклаў

Я. Скрыган.

# ПАД МЕСТАЧКОВЫМ МЕСЯЦАМ

**В. Сташэўскі**

*(Працяг)*

## Гутаркі пад гукі мандаліны

Малады бухгальтар коопэратыву скончыў работу і ўзяўся за мандаліну. Падводзіў балянс свайго дня. Крама—праз сенцы. Той, хто быў у краме, сьпяшаўся купляць, бо ведаў, што скора зачыніцца. Бухгальтар ніколі ня мог дагадацца, што мандаліна — самы лепшы сыгнал канца працы для работніц коопэратыву. Стэфка, дык тая адразу бярэ іншую хаду. Як толькі пачуе пераборы „Спор новобрачных“, так і крутне. Увіхаецца тады яна за прылаўкам так, што падлога ўгінаецца больш, чым ад бочкі з газаю. А мужчыны толькі пахвальваюць: „во хада, во будзе некаму жонка“. А Стэфка зарагоча на ўсю краму. Ды што на ўсю краму... Яе сьмех прабіваецца праз гоман мужчын у сенцы, урываецца ў канцылярыю і б‘е па балянсе бухгальтара-мандалініста. У такі момант яна можа не дасыпаць, перасыпаць, ускінуць на талеркі вагі ня тыя „кілы“. І ўсё гэта бяз усякіх дрэнных думак, толькі, каб хутчэй адпусьціць пакупнікоў. А яны так-то і сьпяшаюцца выйці. Купіў у торбачку солі і стаіць. Пакурваюць, пра жыцьцё гудуць іх словы. А жыцьцё—яно шырокае, шырокае... а словы важкія, важкія, грузныя... І няма на сьвеце такое вагі, на якой-бы можна было ўзважыць усе словы. Многа-ж іх разьвялося ў вёсках і мястэчках. І няма яшчэ такой бухгальтэрыі, каб падлічыць іх. І так бывае нараджаюцца ў глушы і марна гінуць мудрыя і дарагія словы.

Мужчыны пачалі патроху выходзіць. Хто дадому, а большасьць—у канцылярыю.

Сапсавалі бухгальтару ўсю романтыку.

— А ну, рэзьні што-небудзь, каб міскі і талеркі ў краме пайшлі ў скокі!—кажа адзін.

— О, гэта мусіць былі-б цікавыя скокі,—дадае другі.

— Стэфка за дзень не пазьбірала-б чарапкоў, дармо, што ўвішная,—прыбаўляе трэці.

І пайшло:

— Пасьля такіх скокаў давядзецца з гаршка есьці.

— А думаеш міскі будуць адны скакаць,—яны запросяць кавалераў.

— Якіх?

— Ёсьць-жа там: збанкі, гаршкі, чыгуны.

— Ну дык і будзе каша.

— А ты такую каштаваў?

— Я не каштаваў, але памятаю, калі адступалі з-пад Мазурскіх азёр, дык у адным месцы зрабіў такую кашу. На фальварку добрая шкляная шафа. Замкнёная. А есьці хочацца. Жарвуў прыкладам — адчынілася. Адны чаркі і талеркі. Другі раз зазьвінела, і пасыпаліся чарапкі.

— А колькі там рассыпалася вашых чарапкоў?

— Якіх нашых?

— Салдацкіх.

— Было і гэта.

— Ды яшчэ як было.

— Ды яшчэ ня гэта будзе.

— Цяпер газамі будуць душыць.

— А можа да гэтага і не дапусьцяць.

Ї цягнецца нітка: мандаліна — талеркі — чарапы, Мазурскія азёры — людзкія чарапы—удушлівыя газы...

На сьцяне вісіць плякат авіяхэма: чалавек у процівагазе.

— А страшны чалавек, калі ён у масцы.

Увайшоў Ясіноўскі:

— Э, дык-жа тут сапраўднае ігрышча.

— Сто пяцьдзесят плацім музыку штомесячна,—адказвае яму адзін.

— А што ты думаеш, вы яму перадалі? Папрабуй, навучыся. На ўсё, браце, трэба навука.

Ясіноўскі падышоў да бухгальтара, падаў яму руку і яшчэ некаторым бліжэйшым да стала.

— А вайна мусіць падсоўваецца да нас,—кажа адзін.

— А мы яе адапхнем,—адказвае другі.

— Пра якую гэта вы вайну?—умяшаўся Ясіноўскі.

— Пра тую, што рыхтуецца на нас.

— А калі мы ня хочам?

— Дык-жа яны перш запытаюць.

— Каб-жа пасьпець нам з гэтымі комбінатамі,—з тонкаю ўсьмешкай заўважыў Ясіноўскі,—тады мо' спакойней было-б ваяваць.

Мужчыны загулі:

— Калі ўжо чакаць вайны, дык навошта той клопат з гэтымі будовамі, ды перабудовамі?

— Ат, пра вайну мы гаворым адзінаццаць гадоў. Калі-б гэта з першага дня нічога не рабілі, спадзяючыся на вайну, дык што-ж бы з гэтага было?

— Ну, я табе скажу,—заўважае Ясіноўскі, — ня пахла яна тыя гады так, як у гэтым годзе.

— Як гэта яна ня пахла, калі тырчэлі абгарэлыя коміны?

— Ніхто ня можа ведаць, як яно будзе,—рашуча заявіў адзін стары,— як бог дасьць, так і будзе.

Увайшоў Ціхон.

— А па-мойму: як скажа Ціхон, так і будзе,—кінуў Ясіноўскі і затуліў усьмешку ў расплюшчанай на губах папяросе.

— А што Ціхону будзе абыходзіць тая вайна, ён змайструе колгас і будзе спацыраваць па дзядзінцы,—заўважыў адзін.

Ціхон маўчыць. Стаіць, слухае і чакае зручнейшага часу, каб выйці адсюль.

Увайшоў Іван Падзёньнік.

— А вось і анжынэр.

Мужчыны перанесьлі сваю ўвагу на Івана, а Ціхон гэтым часам і падаўся за дзьверы.

— Ну, мо' ты, Іван, комбінат пачаў будаваць, ці яшчэ не гатовы пляны?

А Іван сваім тоненькім галаском і васыпаў:

— Як не гатовы? Стаіць ужо на агародзе дзядзькі Ясіноўскага, чмыхае.

— А чаго ён чмыхае?

— Вядома, пара ідзе,—і засьмяяўся Іван мацней за ўсіх, бо лічыў, што адказаў вельмі трапна.

— Чуеш, Ціхон, комбінат гатовы, а твой колгас нешта кульгае.

— А дзе-ж ён дзеўся?

— Пайшоў дадому.

— А як там у вас яшчэ абмяраюць агарод, ці ўжо скончылі?—пытае адзін Ясіноўскага.

— Нешта даўно нікога ня відаць,—адказвае Ясіноўскі.

— Ярунда. Як пачалі, так і скончылі,—дадаў Іван.

Некаторыя засьмяяліся, хто з комбінату, а хто з Івана.

— А па-мойму, дык нічога тут няма сьмешнага,—падаў голас адзін стары.—Я не кажу, што каб канешна на іх (Ясіноўскага) агародзе, але будаваць трэба. Трэба і млын, трэба і пільня і можа якую і фабрыку. Што гэта яно нам пашкодзіць? Яно ўсё гэта да зарэзу патрэбна.

Ясіноўскі растлумачвае:

— Ніхто ня кажа, што не патрэбна. Патрэбен, як ты кажаш, і млын добры, і пільня, але-ж так-бы і казалі: пабудуем млын і пільню. А то тлум наводзяць на народ. Комбінат нейкі выдумалі... Перабудуем мястэчка. Таго сюды, а таго туды...

Увайшоў Віктар і яшчэ адзін комсамолец.

— Чаму ты ня ідзеш на сыграўку?—зьвярнуўся ён да мандалініста.

— А браткі, я-ж і забыўся. Ну, выходзьце мужчыны, зачыняю.

## Ясіноўскі хамутоў не шкадуе

Зіму агортвае паўднёвы мяккі ветрык. Лёгенька іграе ў валасох махнатых каўняроў, а далей не залазіць, а калі і прабяжыць па распаранай шыі, бадзёрыць чалавека сваімі сьвежымі ласкавымі павевамі. І адчуваецца тады вільготная цяплынь вясны.

У вокнах аганькі.

Запалілі людзі ў печах.

Раскудлачваецца над комінамі дым, поўзае па стрэхах, разносіць на дварох і вуліцах прывабны пах вячэрніх страў:

— Але-ж нехта сьвяжыну ўсмажыў на ўсё места,—голас Ясіноўскага.

Прайшлі далей.

— А тут малодзівам запахла,—той самы голас.—Ты-ж цяпер, Іван, куды?

— А так што, дадому.

— Будзеш цэлы вечар дома?

— Не, мо' куды пацягнуся.

— Падыйдзі да мяне.

— Можна будзе.

Разышліся мужчыны.

Каля клюба, як заўсёды, гурт хлапчукоў падросткаў. Відаць, што тут была сьнежная бойка, бо сапуць усе, нераўнуючы, як ганчакі. Прыходзіць Ясіноўскі, а гурт зноў замятусіўся. Адзін хлапчук, увесь аблеплены сьнегам, сашчапіўся з другім.

— А ну, хто каго?

— А ну, ну?—выгукваюць з гурту.

— Пецька трымай!

— Лаўрык, бяры на ножку!

Відаць Лаўрык такі і ўзяў на ножку. Абодва пакаціліся пад ногі Ясіноўскаму. Узрыгануўся гурт гарачым сьмехам.

Ясіноўскі спыніўся.

Качаюцца хлапчукі ўчарэпіўшыся адзін за аднаго.

— Доўга ты будзеш тут качацца?

Лаўрык умомант ускочыў на ногі. Суровы голас бацькі:

— Пшоў дадому!—загадаў Ясіноўскі і хлапец пачыкіляў.

А гурт хлапчукоў яшчэ доўга шавяліўся і рассыпаў па вуліцы свой срэбра-звонкі сьмех.

Пад нагамі мяккі сьнег.

Шырока ступае Ясіноўскі, нібы з сявенькаю па сваім шырокім палетку. Гэта ня тое, што Іван, пстрыкнуў, засеяў за дзень увесь шнурок і пайшоў з сякерачкаю ў падзёньнікі.

Разьмінуўся з Лёвам: „Вось яшчэ дзе ходзіць брыда арцельная. Але чорт іх бяры, каб хоць гаспадаркі не чапалі. Здаецца не пасьпеюць яны ні з комбінатамі, ні з колгасамі“.

Насустрач ідзе Сымон.

„Таксама брыда, а не чалавек. Але з ім трэба справу ўлагодзіць. Няхай лепей будзе лішні прыхільнік, чым вораг“.

— Адкуль гэта ты, Сымон?

— Да рымара заходзіў, а ён паехаў у горад.

— Рамонт які робіш?

— А няхай яно згарыць. Разьехаўся хамут, і каб сказаць стары, дык не. А тут заўтра трэба ў лес ехаць. Так і ня прыдзецца, прападзе колькі дзён.

— Так, гэта вышла ў гаспадарсьцьві нязручна.

— Трэба яшчэ схадзіць да старога Міхайлы, мо' ён возьмецца падрапараваць яго.

— Як-жа ён падрапаруе, калі ён хворы?

Сымон маўчыць.

— Калі-б ад майго дэраша падыйшоў, я мог-бы табе пазычыць.

— Ды ён то падыйдзе,—схіліўшы галаву адказаў Сымон.

— Ну дык і вазьмі на колькі дзён. Бо я, калі паеду, дык на гнедай.

Сымон маўчыць.

— Вось праз якую гадзіну зойдзеш, а я скажу хлопцу, каб прынёс са сьвірня ў сенцы і ты, значыць, возьмеш.

— Ну добра, я вам аддзякую.

— Ды што там будзем лічыцца,—ціха прабубнеў Ясіноўскі,—вялікае тут што. Заходзь.

Прышоў Ясіноўскі на свой двор. Спыніўся каля хлява, паслухаў як пырхаюць ядучы авёс коні, як шавеляцца ягняты, і накіраваўся да гумна. Яно воддаль, за меншым садам. Там нічога асаблівага няма, каб хто мог лёгка ўкрасьці што небудзь. Калі тры пуды падэшвы там ёсьць, дык-жа яна не валяецца на таку. Шмат трэба перавярнуць усяго, каб знайсьці. А жалеза і цьвікі, зноў-жа, ня так лёгка выцягнуць. Але каму цяпер можна верыць? Хавалася так, каб парабак ня бачыў, ды яго цяпер няма, а можа другі злы дух нюхам чуе. О трэба замыкаць і добра замыкаць. Дастаў з-за шула вінтавы ключ і праз хвіліну замок сашчапіў два вялікіх прабоі. А цяпер да сьвірня. Гэта-ж самая дарагая будыніна. Сьвірань—гэта не падпаветка. Тут хлеб—аснова чалавечага жыцьця. З-за яго і непарадкі. А што, каб даў людзям столькі хлеба, колькі чалавек хоча? Разумеецца ня сухі кавалак хлеба, а ўсё іншае, як сала, крупы, малако. Усёроўна мусіць ваявалі-б. Праўда, у сьвяшчэнным пісаньні сказана: „Не единым хлебом будет жив человек, но и всяким словом, исходящим из уст божьих“. Слабое „пісаньне“. Як зьясі кавалак хлеба з каўбасою, ці палянлвіцаю, дык тады і ад „слова“ будзеш сыты. А па адных „словах“ хутка выпруцішся.

Так, разважаючы ў думках, Ясіноўскі дабраўся да каўбас, якія віселі ў сьвірні над засекам. Пара, дзьве... пяць, шэсьць... і трынаццаць. Вось гэту трынаццатую я ім і паднясу. Няхай ведаюць маю дабрату. Ага,

траба-ж узяць у сенцы хамут. Прычыніў дзьверы. Ключ вужакаю палез у дзірку тоўстага вушака, зашыпеў на зарубінках засаўкі.

Замкнёна.

Калі гаспадар адыходзіў, рыпнула дошка на ганку, так, як заўсёды.

Кожная рэч дае які-небудзь уласьцівы ёй гук. І чалавек так прывыкае да гэтых гукаў, так занатоўвае іх, што даволі яму крыху зьмяніцца адразу адчуе. Пакуль што ніякіх зьмен няма. Таксама рыпяць вароты ў гумне, дзьверы і сьвірні, такі-ж самы даюць свой гук і клямкі.

Ясіноўскі спакойна накіроўваецца ў хату.

Раптам залементаваў сабака і кінуўся да гаспадара.

— Чаго? Чаго ты? Што гэта я злодзей табе які?

Сабака змоўк, вільнуў хвастом. Пасьля зноў адскочыў і дзяўкнуў.

— Чаго цябе чэрці дрэнчаць? На, Мурза, на!

Сабака падбег, прылашчыўся.

— Ну, чаго ты?

Сабака нэрвова адскочыў.

— Што табе за ліха? Спрасонку ты, ці што?

Адламаў кавалак каўбасы:

— На табе, Мурза, бо зьядуць і невядома, як будуць сьцерагчы, а ты ў мяне добры вартаўнік.

Іван з Сымонам прыйшлі разам. Гаспадыня ведае, што трэба рабіць. А на Лаўрыка Ясіноўскі:

— Пшоў!—дай людзям сесьці.

Іван тут бывалы чалавек. Ён нават паказвае гэта перад Сымонам. І проста садзіцца на даволі віднае месца. Сымон-жа яшчэ мнецца ў кухні, страсае з лапцей сьнег.

— Праходзьце, праходзьце, не зважайце. Не такая ўжо ў нас тут чыстата,—запрашае гаспадыня.

— Кінь ты, Сымон, там тупаць,—дабаўляе свой голас гаспадар.— Вось пасядзімо крыху, пагутарым, а там мажа што і выгутарым у гаспадыні.

— Калі ў цябе ёсьць што, дык мо' і выгутарыш,—адказвае гаспадыня і ломіць ужо лучынкі.

— Тое, што ў мяне, гэта значыць маё дзела, а ты глядзі, каб за табой ня было астаноўкі.

Іван рагоча.

Сымон адчувае сябе ніякава. Задраўся тады крыху як былі ў Івана...

— От, пакуль яшчэ, як той казаў, сядзімо на месцы, дык яно яшчэ знойдзем і выпіць, і закусіць, а як пагоняць у імшары, тады будзем шарыць.

— Не-э-ээ!—завёў Іван,—нікуды яны нас не пагоняць, дудкі. Няхай ад саўгасаў адразаюць мне хутар, тады пайду.

— Правільна,—зазначае Ясіноўскі.—Я гэта заўсёды кажу.. У крайнім случаі, хоць-бы адзін добры хутар далі на нас дваіх. А Ціхон мусіць цяпер і сам ня рад, што ўлез у гэты колгасны камітэт.

— А пэўна-ж.

— Са мною, відаць, сустракацца ня хоча.

— Бо ведама дурань.

— Можа ў партыю падаецца?

— Хі-і-і! Абыйдуцца без яго.

— Праўду ты кажаш, Іван, што дурань ён. Думае, што я з партыйнымі ня маю знаёмства. Хто-ж іх карміў апошнія гады салам, калі ня я? А як пачаўся да мяне падкоп—трасцу. Спыніў значыць дзела і ніякае прадажы не раблю. Але каторы добры да мяне, я знайду кавалак, другі. Вось, калі быў той зямельны загадчык, Круцько, таму я ніколі не адмовіў-бы, бо значыць чалавек. Бывала зойдзе, пагаворыць... Сказаць што ён піў, дык не. Ну так дзеля кампаніі чарку, другую. На табе, зьмянілі. А гэты новы дзікам паглядае. Перабудову робіць. Ха-ха-ха!

— З Ціхонам,—дадаў Іван.

— Фацэця, ха-ха-ха!

На стале зьявіліся кіслыя гуркі.

— Я казаў Ціхону: трэбуй, значыць, зямлі з саўгасу і табе не павінны адказаць. Напішы ў армію сыну, каб адтуль націскаў. Ня ведаю ці пісаў ён што, ці не.

— А Дзяніс ужо адслужыў,—сказаў Іван.

— Ага і я чуў, што ён здаў молібізацыю і паступіў у рэдахцыю,—дадаў Сымон.

Ясіноўскі натапырыў вусы.

— Як, у рэдакцыю?—паціснуў плячыма.—Што гэта там за рэдакцыя такая?

— От будзе там дровы пілаваць так, як і тут у мястэчку,—кажа Іван.

— Калі дровы, дык яно нічога...—заспакойвае сябе Ясіноўскі.—Я бо гляджу, што Ціхон паважна абцірае вусы.

На стол зьяўляецца сала і каўбаса.

— Ну ў мяне гатова, а ў цябе нешта ня відаць,—заўважыла гаспадыня гаспадару.

— Прынясі з сянец,—загадвае Ясіноўскі Лаўрыку.

— Адну, ці дзьве?

— Нясі адну, а тая няхай набудзе халод... э, нясі дзьве. Ну, сядайце, хлопцы. Ды што ты, Сымон, з нейкім сьцясьненьнем.

— Яму мусіць нязручна, што ён тады, у мяне выпіўшы, бурчаў трохі,—пачаў Іван.

Але Ясіноўскі адразу замахаў рукамі:

— Ды што там... Ёсьць аб чым казаць... Калі чалавек вып'е, ды ў сваёй кампаніі скажа якое слова, дык за гэта мы павінны крыўдзіцца? У хаце за чаркаю мы можам і пасварыцца, толькі, значыць, трэба ве-

даць політыку. Каб ня трымаць ніякае злосьці ўнутры і моцна трымацца адзін за аднаго. О! А я так думаю, што Сымон ніколі супраць мяне ня пойдзе. Вып'ём, Сымон.

— Не, чаго-ж ён пойдзе,—запішчаў Іван.

— Дык я-ж, здаецца, нічога такога...—пачаў гаварыць Сымон.

— Выпівай!

Спакойна вячэраюць людзі, што „бог паслаў“, успамінаюць грамадзян свайго мястэчка. Каго пахваляць, каго паганяць. Іван шчыра расказвае, выказвае сваю думку. Ясіноўскі сваю. Прыходзяць да вываду, што ніякая сіла не парушыць мястэчка так, каб яно рассыпалася, каб земляробаў павыганялі адсюль. „Гэта не цара скідаць“. Тут іншы інтэрас. Захочам раскідаем і заложам колгасы ці што, а не захочам будзем сядзець на сваім месцы.

І ніхто не сказаў Ясіноўскаму: добра вам сядзець у такой хаце, з такім садам, агародам над рэчкаю, а ў дадатак валока зямлі, гандаль салам і так „пабочныя“ даходзікі, як праца наймітаў. Праўда, узімку іх, здаецца, ня відаць, толькі адна „сваячка“ з шаснаццацігадоваю дзяўчынаю.

Калі б успомніў Іван, як Ясіноўскі „частаваў“ яго гадоў тры таму назад, калі Іван пілаваў яму дошкі, можна было-б што-нібудзь сказаць, але-ж ці можа Іван успомніць дрэннае, калі апошнім часам Ясіноўскі стаў такім добрадзеем, што ў мястэчку такога і ня знойдзеш.

Вып'ем!

А гарэлка, яна часамі выпучвае зьявы, а часьцей атульвае іх густым туманам і чалавеку цяжка разабраць, у які колер апрануты той ці іншы прадмет. Прадметы робяцца няяснымі, а думкі чалавека, яны вельмі добра афарбоўваюцца ў розныя колеры. Іван чуе словы, а ў які колер яны апрануты ён і ня бачыць.

Вячэраюць людзі „што бог паслаў“.

Сымон пачаў схіляць галаву.

— Трымайся, Сымон!—торкае яго Іван.

— Нічога, ён яшчэ вып'е,—запэўняе Ясіноўскі. А ў думках:

„Цікава, што ты будзеш мармытаць сёньня. Ці трымаецца яшчэ ў цябе жала, ці выпусьціў. Няхай тут у маёй хаце гаворыць... Паслухаема“.

Сымон нічога не гаварыў. Хамут-жа... па караўкі трэба заўтра ехаць, зарабіць-жа трэба.

— Вы думаеце я шкадую зямлі?—кажа на адыходзе Ясіноўскі. Каб быў такі закон, я сёньня-ж аддаў-бы вам, але-ж забярэ камітэт і аддасьць чорту лысаму. Ну, барані божа, забяруць пад гэты комбінат агарод, тады я прапаў, гэта мне браткі цяжка перажыць, бо я тут кладу ўсю сваю сілу. Ён мяне трымае на нагах.

— Хто забярэ?—тоненька ўзяў Іван.—Ніякага комбінату ня будзе.

— Хто-ж яго ведае. Мералі, мералі, ды нешта прыціхлі.

— Нічога ня будзе. А калі збудуюць які млынок, дык гэта можна і на старым месцы.

— Дык я-ж так кажу. Ну, брэткі, як-бы яно ня было, будзем трымацца адзін аднаго. Так, Іван?

— Абязацільна,—пісnуў Іван у абоймах Ясіноўскага.

— Бывай, Сымонка,—цмокнуў і таго. Вось табе хамут... вазі здаровы. Не сьпяшайся адносіць. Я абыдуся.

Хістаючыся, выходзілі з ганка: Іван і за ім Сымон з хамутом.

Забрахаў сабака, кінуўся пад ногі.

— Цыц!—гукнуў на яго Ясіноўскі.

Сабака вільнуў хвастом і змоўк.

„Госьці“ пайшлі.

Бразнула засаўка каліткі. І толькі нешта вельмі скрыпуча, аж скаланула гаспадара. „Мусіць і цябе трэба памазаць, каб ня скрыпела“. Глянуў яшчэ Ясіноўскі на зорнае неба: „хараство ў небясах“, струменем выпусьціў ён думку разам з тым, што непакоіла яго жывот і падаўся ў дом.

*Трэснуў плот і не заўецца гарбузіньне Ясіноўскага*

Ясіноўскі добра спаў, позна ўстаў, і з добрым апэтытам сьнедаў. Проста на дзіва. Пасьля ўчарашняй чаркі і такі апэтыт. А тут табе і сонца пусьціла зайчыка на стол. Папівай чаёк з малачком, са сьвежым сырам. Што каплі поту на ілбе, дык гэта-ж ня шкодзіць, і прыказка Ясіноўскага гаворыць ясна: „не папацееш—галодны будзеш“. Няхай каплі, няхай цурчыць з ілба, а збан парнага малака вып'ю.

А жонка нешта ўтаропілася ў вакно.

— Глядзі ты, бачыш!

— Што?

— Павярніся хутчэй, глянь!—штырхнула жонка.

Ясіноўскі глянуў і адразу ўхапіў шапку, кажух, на хаду надзеў і выбег на агарод.

— Што вы робіце, што гэта такое?—загукаў ён.

Два чалавекі раскідала прасла плоту.

— Вы-ж бачыце, што мы робім.

— А хто гэта вам дазволіў?!

— Ня толькі дазволіў, а нават за гэта нам заплацяць,—жартуе адзін.

— А я забараняю, я навяду сьледзтва! Спынеце!

— Чаго ты, дзядзька, вылупіўся? Пакрычы вунь на тэхніка.

Ясіноўскі павярнуўся. Ідзе тэхнік, а за ім восем фурманак вязуць бярвеньне.

Праехалі праз разгародку, і каля самае аселіцы пачалі складаць. Стаіць Ясіноўскі, мерае вачыма сваю шырокую сядзібу. „А ці многа займе гэты іх комбінат? Мо' паставяць якую будку, тады нявaрта залішне турбавацца. Пагавару з тэхнікам“.

Тупае Ясіноўскі, чакае.

Фурманкі паехалі, застаўся адзін тэхнік, дастаў кніжачку і пачаў нешта крамзоліць. А з-за плячэй голас:

— Скажэце, таварыш, ці шмат вы тут будзеце займаць месца?

— А што?

— Цікаўлюся, ці вялікая будзе фабрыка.

— Пакуль што займаем увесь агарод, а там будзем пашырацца ў той бок і ў бок рэчкі.

— Займаеце, значыць, усё гэта?

— Усё,—адказвае тэхнік.

— „Значыць усё"—адказаў у сваім нутры Ясіноўскі.

— Пабудуем, дзядзька, комбінат, электрыку дамо, павесялее мястэчка.

— Па-ве-ся-ле-е...—расплылося па ніжняй губе Ясіноўскага.

На агарод узьяжджалі новыя фурманкі і сярод іх—Сымон са сваёй буланаю, а буланая ў хамуце Ясіноўскага.

„Каб цябе вывезьлі ў хвойнік" прашыпела ў надламанай пячонцы Ясіноўскага. І ходзіць ён з такою пячонкаю па сваёй сядзібе. Каб гэта была такая сіла, падпаліў-бы агарод, альбо ўтапіў-бы яго ў якое бяздоньне: Ня мне, дык і ня вам. Вось тады прывезьлі бярвеньня, а агароду і няма. Праваліўся". Ходзіць Ясіноўскі з такімі думкамі і адчувае, што быццам сам правальваецца ў бяздоньне.

А сонца трымае цьвёрды курс на раньнюю вясну.

Капае са стрэх. Скора пойдуць раўчукі з прыгуменьня ў сад, на агарод, а далей—на аселіцу і ў рэчку. Зацвыркоча жаваранак. Заклякоча бусел. Прачнецца агарод... А тут бярвеньня, цэгла... Новы гаспадар. Ня ўзыдзе на градках мак, пятрушка... Не заўецца гарбузіньне, агурэчнік...

Паглядзім, што пасадзіць новы гаспадар.

### *Нарадзілася трынаццаць. Імя—Комунар*

Сабралася ў Райвыканком чалавек восемнаццаць. Калі рабіць колгас, значыць рабіць яго сёньня, бо час ня чакае.

Позна ўжо. Праз які тыдзень трэба ісьці ў поле.

— Паглядзім, што выйдзе з таго комбінату.

— З комбінатам выйдзе, а ў нас ня выйдзе.

— Бо там-жа робіць дзяржава, а тут трэба самім.

— І тут будзе дапамога.

— Адложым!

— Няма чаго адкладваць!

Гудзе сход.

— Запісаліся ў колгас дваццаць два. Тут прысутнічае восемнаццаць,—абвяшчае старшыня сходу.

— Я прышла, каб выпісацца.

— Хто там хоча выпісацца?

-- Я—Сымоніха.

— А Сымон пра гэта ведае?

— Няхай сабе ведае, ці ня ведае, а я заяўляю.

— Ну, што-ж, сілком ніхто трымаць ня будзе.

— І я таксама не магу састаяць,—заяўляе стары Анісім.

— А вы, дзядзька, чаму ня можаце састаяць?

— А так што, слабы здароўем і хачу памерці ў сваёй хаце.

— Дык-жа з хаты вас ніхто чапаць ня будзе.

— Не, я не пайду. Няхай запісваюцца ўсе, дык пры канцы і я. А да суседа: ня будуць чапаць... Кось, кось пакуль у аглоблі.

— Таварышы, ніякага высяленьня з мястэчка вас ніхто рабіць ня будзе. Мы аб гэтым некалькі разоў казалі: ня слухайце провокацыі. Партыя і комсамол будуць усімі мерамі дапамагаць вам, першым арганізатарам соцыялістычнай гаспадаркі ў мястэчку.

— А чаму мы павінны быць першымі, няхай хто другі,—падаў голас той, што „хачу памерці ў сваёй хаце“.

Тут ужо некаторыя з маладых колгасьнікаў ня ўстрымаліся:

— Ідзі ты, дзядзька, на сваю печ і не раскідай нам справы.

— Ну дык і пайду.

— Ідзі!

Стары не пайшоў. Ды ніхто, апрача Сымоніхі, не пакінуў сходу. Аднак, у колгасе з дваццаці двух чалавек засталося дванаццаць.

— Таварыш землямер, нарысуйце на дошцы плян зямельнага вучастка.

— А мы ведаем. За рэчкаю.

— Нічога, няхай нарысуе.

У землямера ёсьць некалькі плянаў на паперы. Адзін з іх ён дае патрымаць, і, відаць, з яго крэйдаю пераносіць на дошку.

Цясьней згуртаваліся колгасьнікі каля дошкі. Наперадзе сядзіць, прыжмурыўшы вочы, Ціхон. Углядаецца стары ў тыя рыскі, якія выводзіць землямер, думае, яго фантазія таксама рысуе плян.

У гэты час, да стала падыйшоў малады, рослы ў вайсковым шынэлі, хлапец.

— О-о-о!... Дзяніс!

Ціхон падняў галаву, глядзіць, не пазнае свайго сына. Дзяніс адразу пазнае бацьку, проста па шапцы, па кажушку. Вітаецца з усімі, нарэшце з бацькам. З усімі вітаўся па-вайсковаму, браў пад казырок. Узяў і бацьку. Але тут-жа нагнуўся, і па ранейшай прывычцы, пацалаваў бацьку ў руку.

Такая радасьць, якую адчуваў цяпер Ціхон, рэдка бывае.

Старшыня Райвыканкому нядаўна ў гэтым раёне. Дзяніса бачыць першы раз, але чырвонаармейскі шынэль падбадзёрыў і яго.

— На пабыўку, таварыш?

— Так, на пару дзён.

— Гэта твой бацька?—паказвае старшыня на Ціхона.

— Так.

— Падрывае нам усю работу. Ня ведаем, што з ім рабіць.

Ціхону гэты жарт старшыні спадабаўся. Ён з лёгенькаю ўсьмешкаю глянуў на старшыню і зараз-жа апусьціў вочы, бо цяпер усе глядзелі на яго.

— Комсамолец?—пытае старшыня Дзяніса.

— Кандыдат партыі.

Ціхон расьце. А ў думках: „от псяюха, і не напісаў“.

— Далёка дзе служыш?—пытае старшыня.

— Я дэмобілізованы. Цяпер працую ў рэдакцыі.

Землямер глянуў на Дзяніса, пасьля зрабіў на дошцы яшчэ некалькі рысак і далажыў:

— Ну вось прыблізна ў асноўным плян вучастку.

За рэчкаю, насупраць сядзібы Ясіноўскага, на лепшым кавалку зямлі напісана: 170 *га.* Гэта пад яравыя засевы. Увосень плошча пашырыцца ў бок балота.

— А калі ў нас будзе не дванаццаць, а трыццаць сем'яў?

— Тады яшчэ лепш: тады займаецца ўся плошча да самага лесу.

— А калі будзе 100 сем'яў?

— А тады займаем і на гэты бок рэчкі.

— А тут малавата будзе зямлі. Калі-б далучыць сюды Драздоўскія хутары, о, тады-б вышла якраз.

— О, іх цяжка паварушыць гэтых хутаранцаў,—падаў голас Ціхон.

— Нічога, паварушым дзядзька,—адказвае старшыня.—Я думаю, што колгас іх сумее паварушыць, як сьледуе.

— Вучастак зямлі добры, няма чаго казаць, а вось аб'езд дрэнны. І далёка і грэбля паскудная.

— Дык вось я хачу сказаць далей,—зварачаецца землямер,—сёлета-ж мяркуецца асушка балота. Гэтая дуга рэчкі, якая падыходзіць да агарода Ясіноўскага, дзе значыць будзе комбінат, выпрамляецца. Адносіцца далей.

— Як, адносіцца рэчка?

— Так, будзе пракапана новае русло. А ў проекце мы маем новую грэблю, якая будзе ісьці ад комбінату, проста на ваш колгасны вучастак. Значыць, тут-жа будзе пабудаван новы мост.

— І гэта будзе зроблена на працягу гэтага лета,—зазначае старшыня.

Шмат яшчэ гутарылі аб пляне. Разрасталася творчая фантазія маладых колгасьнікаў. Толькі некаторых брала сумненьне наконт балота:

— Кажаце балота: хоць сенажаць і паша дрэнная, але ўсё-такі ёсьць, а тады можам застацца і бяз сена і бяз пашы.

Тут узяў слова Дзяніс:

— Я, таварышы, за свой кароткі час прабываньня ў рэдакцыі, два разы выяжджаў на раён, дзе зроблена мэліорацыя. Тое, што там пасьля асушэньня вырасла за адзін год, дык старое балота не дало-б таго за пятнаццаць год.

І Дзяніс даў малюнак буйных зялёных аўсоў, вікі.

— Касою не павернеш. Паехаў я, калі была ўборка. Такое гушчыні коп найлепшых харчоў я ня бачыў.

Слухаюць колгасьнікі. Калі-б можна было ў гэты момант сфотографаваць іх выабражэньні, мы ўбачылі-б: аднаго сярод густых коп вікі з аўсом, другога з возам вікі па новай дарозе, трэці стаіць з возам каля свайго невялічкага гуменца і думае, як яго ўціснуць у дзьверы, чацьверты складае вялікі стог, пяты будуе вялікую адрыну і г. д.

А вось адзін з іх шосты, ці дванаццаты (гэта ня важна) падаў голас:

— Ну, а калі ўсё мястечка пойдзе ў колгас, дык як мы тады будзем дзяліць зямлю?

— Ха-ха-ха!—выбухнуў сьмех. Адзін хлапец, дык траха не зваліўся з табурэткі.

— Чаго ты пакаціўся?—закрычаў на яго гэты чалавек.

А Ціхон зварачаецца да яго:

— Колгас-жа, ён не падзяляе зямлі, а злучае, каб значыць у адно.

— Ну, дык я ведаю! Гэта ўсё ў адно месца?

А той малады з табурэткі:

— Зямлю-ж не пацісьнеш так, як сьнежку. Разараў межы, вось табе і ў адным месцы.

— Ну, дык я ведаю! Але гэта будзе такі кавалак?

— А ў саўгасе як?—задае пытаньне Ціхон.

— Я ведаю!..

— Нічога, дзядзька. Кавалак зямлі вызначаны. Пачынайце гуртам, колектывам працу.

Падняўся той, што „хачу ў сваёй хаце памерці".

— Я слухаў тут... і так што скажу, як гласіць мая галава. Калі так яно ў парадку пойдзе, як тут казалі, тады і я застаюся.

— А вы-ж выпісаліся,—адказаў адзін.

— А я прашу, так што, назад упісаць.

— Няхай сам дасьць расьпіску, а то будзе па дваццаць разоў выпісвацца.

Дзядзька з крыўдаю адказвае:

— Добра табе гаварыць пра расьпіскі, калі ты граматны. А мяне хто вучыў?

Далей зварачаецца ён да старшыні:

— Таварыш, старшыня, так што я няграматны і прашу вас даць за мяне расьпіску.

— Добра, дзядзька, я за цябе паручаюся,—адказаў старшыня.—Прымаем?—зварачаецца ён да калгасьнікаў.

— Прымаем!—адказалі хорам.

І ў гэтым простым галасаваньні кожны адчуў магутную сілу колектыва. Назва яго—Комунар.

— Тады ўпішэце і мяне,—адазваўся адзін моцны сераднячок Марчук, калі комунараўцы закончылі сход.

Пытаньне з Марчуком засталося адчыненым.

Позьнім вечарам выходзілі з памяшканьня Райвыканкому трынаццаць маладых колгасьнікаў-комунараўцаў.

— Дык колькі-ж гэта нас? Здаецца трынаццаць.

— Трынаццаць.

— От на яго дзіва, няхай-бы адным больш альбо адным менш.

— Чаму?

— Лічба такая.

— Плюнь на забабоны.

— Ды яно-ж так, але народ пачне выдумляць штукі.

— Няхай выдумляюць. А мы організаваліся і пабачым, што выйдзе з іх сьмеху.

Месяц скрыўлена паглядаў з-за цьвінтара. У ім відаць адбіўся настрой тых, хто трывожна тупаў па мястэчку і чакаў вестак са сходу: „колгас раскідаўся“ і пачуў—„колгас ёсьць. Імя яму—Комунар“.

Няпрыемная сёньня „лічнасьць“ у мэстачковага месяца.

— Бачыш, як скрыўлена паглядае ён.

— Гэта паглядае Ясіноўскі,—жартуе малады комунаравец.

Слова „Комунар“ абляцела ўсё мястэчка.

Адзін Сайка Балагол закінуў яго ў хат дзесяць.

Комунар! Комунар!

Трынаццаць! Трынаццаць!..

Гарэла газовачка ў варажбіткі Аўдолі. Тры жанчыны схіліліся над ёю.

— Скажэце, бабулька, як яно будзе?

Варушыцца старая на прымурку:

— Што, ня чую, галубкі.

— Скажэце нам пра жыцьцё.

— Ня чую, галубкі.

— Пра жыць-цё!

— Ня чую і ня ведаю галубкі мае.

Адна палажыла кавалак сала. Бабулька пашавялілася і дастала з пячоркі карты.

— Іх трынаццаць чалавек, бабулька.

Марудна раскладваюцца карты. Трасуцца рукі. Шавеляцца губы.

— Трынаццаць кажаце... так і паказвае. Нічога ня будзе. Трынаццаць, ды яшчэ на сыходзе маладзіка... Нічога ня будзе. Усё будзе добра,—шыпела старая баба-варажбітка.

А ў хаце Ціхона, у невялічкім гурце сям'і і яшчэ трох колгасьнікаў разьвіваліся гутаркі сходу. Расказвалі Дзянісу пра ўсе местачковыя навіны, пра тую брахню, якая сыпецца на іх, організатараў колгасу, на

камітэт, пра тое, як Ясіноўскі ходзіць і сябруе з Іванам Падзёньнікам, з Сымонам.

— Спачатку ўсё казалі: „гэта яўрэі хочуць выкінуць хрысьцян у колгас, каб самім застацца ў мястэчку...“ А сам нябось, з нэпманамі моцна сяброўства трымае. „Пазабіраюць,—кажа,—лепшыя агароды. Комбінат заграбе вакол сябе лепшую зямлю. Ім будзе выгада, а нам злыбеда“.

— Гэта пра злыбеду ня ён казаў, а Іван.

— Ну, а Івана хто навучыў? Думаеш сам Іван такое выказвае? Ён цягне тую нітачку, якую даў Ясіноўскі. А дзядзька Ціхон адказвае Івану: „А які ў мяне ці ў цябе агарод. Калі-б прышлося выкапаць упоперак магілу, дык і ня хопіць. Мёртваму ня хопіць, а ня тое, што жывому“.

— Ясіноўскі з частых і да мяне пад‘яжджаў,—дадае Ціхон.—„Трэбуй,—кажа,—зямлі з саўгасу. Напішы сыну, каб з Чырвонай арміі націскаў“.

— Цяпер, як пачалі вазіць бярвеньне на агарод, дык ён і апусьціў галаву.

— Сьмешна вышла ў яго з Сымонам. Частаваў, частаваў таго, пазычыў хамут, а як убачыў, што той прывёз бярвеньне на агарод, дык на другі-ж дзень паслаў хлопца сыскаць. А мы яму кажам: не аддавай пакуль што, вазі бярвеньне, а пасьля аддасі. Дык ён нешта з тыдзень вазіў.

Шмат аб чым расказвалі Дзянісу, а Дзяніс ім.

Вячэралі.

І трэба-ж гэтай маці, зафарбавала чарніцаю і паставіла на стол пляшку. А Дзянісу наліла ў кубачак чаю з жалудоў.

А назаўтра чарнілі Ціханаву хату. Падглядзілі ў вакно. „Колгасьнікі гуляюць. Ціхонаў радахтар кубкам п‘е... Як бачыш спалошчуць гэты колгас“.

На другі дзень сакратар райкому партыі пытаўся ў Дзяніса.

Дзяніс расказаў як было.

— Застанься на пару дзён,—кажа сакратар,—прывядзі ў парадак вопісь маемасьці, і наогул дапамажы нованароджанаму.

— Так, я тут трохі пабуду.

## Сьмерць Ясіноўскага... пеўня

Была тады сьнежная зіма, а вясна прышла, як кажуць, у тры дні і няміласэрна цiснула зіму. Ішла яна тады густымі раўчукамі, злосна размывала дарогі, вуліцы. А на рэчцы білася аб палі старога маста, калаціла яго. Вясна ішла шырокаю, нястрымнаю паводкаю. Быццам сто рэчак Бузучанак злучыліся і поруч ідуць. Якою нікчэмнаю ўяўляецца тая маленькая летняя рэчачка. А тут—шырыня, сіла!

Яна адняла ў Ясіноўскага аселіцу, яна забрала агарод. Затапіла яго бярвеньнем.

Стаіць Ясіноўскі каля вярбы, нарэзаў пучок дзеля „Вербніцы“: „Эх, залі ты, вадзіца, на якую гадзіну мой агарод, спалашчы ты гэтае бярвеньне комбінатнае!“ А певень на плоце і над вухам:

— Ку-ку-рэээку!

Ясіноўскі ўздрыгануўся.

— Ну, воўчае мяса, я цябе сёньня кукурэкну!

А куры на двара:

— Кудах-тах-тах!.. Аж заліваюцца. Гэтае кудахканьне здалося яму нейкім злосным сьмехам са свайго гаспадара.

— І вас парэжу, павыдыхалі-б вы.

Ідзе дадому, падняў аскабалак і пусьціў у чараду.

Жонка стаіць на ганку:

— Чаго ты іх ганяеш?

— А каб яны павыдыхалі!—прабурчэў Ясіноўскі.

Увайшоў у хату:

— Рэж пеўня!

— Што ты звар‘яцеў? Навошта яго рэзаць?

— А я табе кажу рэж!

— Ты-ж з сёнешняга дня посьціш.

— Пагавары яшчэ...

Пеўня зарэзалі і гэтае „воўчае мяса“ Ясіноўскі зьеў.

## Сустрэча Першамая

Пачалі колгасьнікі вазіць гной. З гэтым управіліся хутка. Бо колькі там таго гною. Мала ў каго дзьве каровы. Бо ўсё больш па аднэй. Коняй таксама. Была ў Анупрэя жаробка, дык „разбазарыў“. Праўда, засталася добрая кабыла, лепшая за ўсе коні, але-ж жарэбная, трэба шанаваць. Пачалі араць на раньні ячмень. Топіцца і пара коняй. А тут не адзін вузенькі загончык трэба падняць, а шырыню... Чухае патыліцу Ціхон: „ці ўробім мы гэты кавалак зямлі?“, але маўчыць. Здаецца кожны з іх так думаў, але маўчаць, працуюць.

Аграном, які рабіў разьбіўку на палеткі, адчуў гэта і пайшоў на параду ў райвыканком.

Заўтра дзень Першага Мая.

На мястэчку вывешваюцца плякаты. Прыбіраюцца ўсе дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы. Кожная стараецца зрабіць, каб было найбольш прыкметна, найбольш орыгінальна. Настаўнік сямігодкі матэматык, адначасна дае лекцыі і маляваньня. Ён ужо некалькі дзён выпрацоўвае „проекты-эскізы“. А калі пачалі ўпрыгожваць, дык зьявіліся новыя варыянты. У школе, там лягчэй. Там ён настаўнік. Сказаў вучням: павесьце лёзунг сюды, а серп і молат сюды, там ён і будзе павешаны. А вось там, у клюбе, цяжэй. Паводле проекту „художніка“ портрэту Карла Лібкнэхта

прызначана месца на сьцяне клюба каля крайняга вакна, а Луначарскага бліжэй да ганку. А яны зрабілі наадварот. Але-ж матэматыка навука „точная“:

— Не гадзіцца, таварышы.

— Чаму, чаму?

— Кажу вам, што не гадзіцца. І тут нарабілі. Дайце проект. Глядзеце, гірлянда ідзе такою хвалістаю лініяй, а вы зрабілі ізломамі.

— Ну дык што?

— Ну дык і тое, што трэба перарабіць.

Пайшоў.

Хлопцы паспрачаліся паміж сабою, заставілі так і пайшлі ўпрыгожваць залю.

„Художнік“ пайшоў праверыць упрыгожваньне будынку Райвыканкому. Там у яго зусім іншы „стыль“. Там геомэтрыя. І піфагоравы штаны і сумежныя вуглы і шмат іншых даказаных і недаказаных тэорэм.

Выходзіць сакратар райкому партыі. Глядзіць. „Художнік“ падыходзіць да яго:

— У асноўным гатова. Толькі комсамольцы ня выконваюць так, як гэта вызначана ў проекце.

— Ня выконваюць? Я ім зараз задам перцу. Пойдзем, паглядзім.

Прыходзяць.

„Художнік“ тлумачыць:

— Портрэту Карла Лібкнэхта прызначана месца вунь там, а Луначарскаму тут. А яны зрабілі наадварот. Гэта раз. Другое: гірлянды павінны ісьці хвалістымі лініямі, а яны іх паламалі.

— Дык-жа на будынку выканкому таксама такія простыя лініі?

— Э, там зусім другі стыль. Там свая прогрэсія.

Сакратар глядзеў, але асаблівага „зла“ у рабоце камсамольцаў не знайшоў. Аднак ён запытаў іх:

— Вы, гэта, чаму ня робіце так, як намеціў Піліп Іванавіч?

— А якая розьніца ў тым, што мы зрабілі?

Пілін Іванавіч дае тлумачэньне:

— Рама ў Карла Лібкнэхта сіняя?

— Сіняя.

— А вокны жоўтага колеру. Сіні колер паміж жоўтым адразу выдзяляецца, а ў Луначарскага рама карычневая. Карычневы і жоўты колер не даюць гармоніі. Я памяшчаю яго бліжэй да ганку. А хвалістыя лініі даюць некаторую мяккасьць, плаўнасьць...

— А на што нам тая мяккасьць?—пытае адзін з комсамольцаў.

— Ну знаеце,—адказвае Пілін Іванавіч,—у кожнага з вас могуць быць свае „вкусы“ і такім чынам, мы ўпрыгожваньне клюбу можам сёньня не закончыць.

— Закончым!—адказалі комсамольцы.

— Канчайце, рабяты,—адказаў сакратар і далей з сур'ёзнаю ўсьмешкаю дадаў,—трымайцеся проекту Піліпа Іванавіча.

Здаецца Піліпу Іванавічу больш нічога ня трэба. Як яны закончаць—гэта ня так важна, важна, што сам сакратар райкому прызнае яго проект.

— Вось ня ведаю, як там у арцелях. Калі маеце час, давайце пройдзем глянем туды.

— Пройдзем,—адказвае сакратар.

А там, на сьцены былое сынагогі, наставілі пажарных лесак, лазяць па страсе, гукаюць: „закідай, падтрымай зьнізу", работа як на пажары.

— Тут павінны зрабіць добра,—кажа Піліп Іванавіч.

Увайшлі ў двор. Глядзіць Піліп Іванавіч:

— Братцы мае! Што яны нарабілі?..

Усё пайшло па-свойму.

— Дайце сюды проект!—трэбуе Піліп Іванавіч.

— Што?—крычыць са страху Піня.

— Проект дзе?

— Няма. Дзеці гулялі ды падралі,—адказвае кравец Гірша.

— Ну вось бачыце, якія адносіны,—зварачаецца Піліп Іванавіч да сакратара.

— Мы па-новаму проекту!—гукае зьверху Піня.

— Мы па сваіх выкрайках,—дадае сьмяючыся Гірша.

— Я думаю, што яны зробяць ня дрэнна,—кажа сакратар.—Пойдзем, Піліп Іванавіч, на комбінат.

— А там хіба што робіцца?

— Так, павінны нешта зрабіць.

Падыходзяць.

Стаіць арка, на ёй літары з планак: „За індустрыялізацыю БССР", а маляр Зыська, той самы, што падфарбоўваў на царкве Мікалая і Панцеляймона, фарбуе літары яскраваю чырвонай фарбаю, ды яшчэ напявае: „Гэта бой наш астатні за працоўны народ"...

А будаўнікі канчалі будаўнічую вышку.

— Давай, Іван, яшчэ адну лату!—гукае з вышкі Віктар.

— Чыстую, ці мо' паўлатоўку?—пытае Іван Падзёньнік.

— Чыстую!

Каля вышкі стаіць вялікая, абцягненая чырвонаю матэрыяй гвязда.

— Як вам падабаецца гэта?—пытае сакратар Піліпа Іванавіча.

— А я вам скажу, што гэта будзе выглядаць вельмі добра.

Больш ён нічога не казаў, бо тое, што ён убачыў, было зусім нечакана. А толькі запытаў:

— Значыць комбінат такі сур'ёзна будзе будавацца?

— А вы думалі мы ў зайчыкі гуляем?

— Не, я асабіста лічу, што гэта вельмі добра, абавязкова... І я вельмі рад... Расьсеюцца ўсякія мяшчанскія гутаркі і ўсё такое...

Падышлі да коопэратыва. Тут Піліпу Іванавічу ня было чаго папраўляць, але ён ускочыў на лескі, паправіў яловую лапку каля Карла Маркса.

— Пакуль што бывайце, Піліп Іванавіч. Калі сёньня што і ня так, дык затое заўтра паправім.

Вясеньнім халадком засьцілаліся лугі і рэчка. Гэта было надвячоркам. Сонца хавалася за невялікую хмарку. Адна яна ўтрымалася на небасхіле, а так усё неба—чыстае. У хатах рыхтавалі раньнія вячэры, каб пасьпець на ўрачысты вечар. Клюб цесны, спозьнішся, дык і будзеш таўчыся ў калідоры. „Сёньня шырокі сход рабочых, партыйных, комсамольскіх, колгасных і арцельных організацый, прысьвечаны сьвяту працы—Першаму Маю“ напісана ў афішы. Контроль на вечары ўзяў цьвёрды курс ня пускаць іншых. А гэтыя іншыя прышлі раней за ўсіх і таўкуцца на ганку. Усё моладзь, ды больш нэпманская, але-ж і ёй ня хочацца стаяць за плотам. Цісьнецца. Прайшлася тут і Цэйта.

— Сёньня па білетах?

— Бяз білетаў, але па організацыях.

Пайшла. Але яна ўпэўнена, што будзе ў клюбе.

Колгасьнікі з сем'ямі занялі пяць доўгіх лавак.

Клюб перапоўнены. Чакаюць, гудуць. Комсамольцы грымнулі песьню.

Кожны год адбываюцца такія вечары і здаецца тыя самыя даклады, аднак гэта толькі з надворнага боку, а па сутнасьці кожны год уносіць у грамадзкае жыцьцё савецкае краіны значныя зьмены, кожны год азначаецца выразным поступам наперад. А сёньня, і з надворнага боку сход выглядае інакшым. Мы тут бачым новую сям'ю колгасьнікаў, над сцэнаю мы бачым новыя лёзунгі. У залі мы ня бачым Ясіноўскага. Праўда, ён яшчэ з голасам ходзіць, але ён ведае, што не яго „компанія“ сабралася тут. „Тут, значыць, паслухае Іван і яшчэ сёй-той, а яны ўжо скажуць, альбо сёньня позьнім вечарам, альбо заўтра“.

На сходзе пасьля дакладу абвясьцілі парадак заўтрашняй дэмонстрацыі. У сьпісу кіраўнікоў колён Ціхон пачуў сваё прозьвішча. Ен і да гэтага ведаў, якога парадку трымацца заўтра. Ды і ўсе арганізацыі ведалі і таму старшыня сходу—старшыня райвыканкому падрабязна на пляне ня спыняўся. Ён так і сказаў:

— Я ня буду падрабязна разьясьняць вам, бо гэта будзе відаць заўтра.

Выбух аплёдысмэнтаў.

## З зарніцай Першамая і з гвяздаю Кастрычніка—у паход да сонечнае будучыні

У мястэчку яшчэ спалі, калі сонца ў сваім сэзонным убраньні выходзіла на сьвята. Яно паступова пачало аглядаць мястэчка. І першае, з чым сустрэлася сонца, гэта была будаўнічая вышка з чырвонаю гвяздаю ўверсе. І дзіўна, у сярэдзіне ў гэтай гвязьдзе гарыць агонь. А Ясіноўскі цьвёрда наказваў сыну Лаўрыку: „Там яны паставілі ліхтар у гвязьдзе,

цупнеш трапна, дык яна і пойдзе дымком". Лаўрыку не хацелася. Яму страшэнна падабалася гэтая высокая гвязда на „іх“ агародзе. Але наказ бацькі, гэта ня чмыханьне шэрага ката. Вышаў вечарам хлапец з хаты, а каля вышкі гарыць касьцёр. Стораж пільнуе матэрыялы. Гвязда сьвяцілася ўсю ноч і як бачыце спаткалася з сонцам.

Вітаньне табе, Будаўнічая Гвязда!

Вітаньне табе, Першамайскае сонца!

Прачыналіся людзі, хадзілі па двары, па вуліцы. Бразгала сярод мястэчка помпа арткалодзежа. Нябрытыя беглі да цырульніка, каб „задним числом и ходом“ пагаліцца. Ніхто не прачнуўся, ня вышаў на вуліцу з хаты Лейбы... Ды гэтага амаль ніхто не заўважыў.

Працоўнае мястэчка гуртавалася па сваіх організацыях.

Колгасьнікі тупаюць па двары, дастаюць плугі, выводзяць коні, запрагаюць. А наперадзе—дробная каламажка з дышлем і запрэжана пара коняй.

А Сайка Балагол—тыц сюды носам.

— Гэрст? (чуеш). Што вы пазапрагалі плугі? Сёньня-ж сьвята.

— Няўжо сьвята?—нібы ўсур'ёз пытае Аляксей.

— Ну, сёньня-ж Першамай.

— Што-ж ты, Ціхон, нарабіў?—кажа далей Аляксей.

А Ціхон усьміхаецца ў свае парыжэлыя вусы.

— Ну, ужо раз сабраліся, дык выпрагаць ня будзем. Паедзем.

Аб адзінаццатай гадзіне раніцы пачаўся рух організацый. Першымі зьявіліся на плошчу беларуская і яўрэйская сямігодкі. Цёплы дзень апрануў дзяцей у лёгкае адзеньне. Колам рознакаляровых кветак абвілася трыбуна. І зьвінела плошча новым звонам, звонам яснай Першамайскай раніцы!

Падыходзілі профсаюзныя організацыі, комсамол, арцелі, пажарнікі. Апошнія заўсёды з оркестрам. Бедныя музыкі! Хоць іх на аднаго і прыбавілася, значыць стала пяць, але калі наблізіўся саўгаскі трактар, дык і заціснуў іх музыку. Раве „акаяны“ па бруку, ня толькі шыбы ў воknах, а сьцены дрыжаць. Усе павярнуліся ў той бок, адкуль чуваць гул трактара, а тут з другога боку, валіць да трыбуны новая колёна. А гэта хто?

— Глядзі, глядзі! Гэта-ж нашы!

На каламажцы, на пары коняй ехаў Ціхон і старшыня сельсавету. Ціхон трымае сьцяг, а за каламажкаю шэсьць пар коняй у плугох.

Вось гэта новыя колёна прыцягнула ўвагу ўсіх. Оркестр спэцыяльна для яе секануў марш. Начальнік раймільцыі—камандуючы парадам—паказаў месца. Выстраіліся. Ціхон ня ведаў, што яму рабіць, як яно значыць палагаецца: сядзець на каламажцы ці зьлезьці. Іншыя колгасьнікі таксама ня ведалі, дзе ім стаяць: ці за плугамі, а коні наперадзе, ці стаць наперадзе коняй. Тут выручыў старшыня сельсавету. Ён падбег да трыбуны і там запытаў у камандуючага.

— Ясна, што людзям трэба стаць наперадзе,—адказаў той.

Так старшыня і перадаў Ціхону:

— Ясна, што наперадзе стаяць людзі.

З Ленінскае вуліцы выходзіла колёна саўгасу.

Наперадзе конна, на трох добрых конях: дырэктар, сакратар парт'ячэйкі, старшыня рабачкому. У сярэдняга ў руках сьцяг. Далей група рабочых і служачых з плякатамі. На адным з іх: „Братняе вітаньне колгасу Комунар". За людзьмі лапоча трактар і кіруе гэтым трактарам на дзіва ўсім—жанчына. А за трактарам нешта з дваццаць пар коняй з плугамі і драпакамі. Колгасныя коні натапырылі вушы. Слухаюць, як гудзе трактар. Але побач сталі саўгаскія коні. Заспакоіліся колгасныя.

— Вось гэта дык выезд!—заўважыў Аляксей Ціхону.

— Пачакай, калі пашырымся і замацуемся, дык і ў нас выйдзе ня горай.

Аляксей хітры, ён сам ведае гэта, а пытае, каб падагрэць Ціхона.

А неарганізаваны „элемэнт" з двух бакоў абгарнуў трактар. Кожны плішчыцца наперад. А трактар ідзе—цісьнецца, таўчэцца „элемэнт".

З другіх канцоў мястэчка падыходзілі вучні і сяляне суседніх вёсак.

Лёгенькі вясеньні ветрык шавеліць сьцягі на трыбуне, у руках школьнікаў, жыжкі ў грывах коняй. А сонца рассыпае мяккія ласкавыя праменьні.

Узьвівайся-ж, песьня піонэрская!
Комсамол! Вышэй свой сьцяг уздымай!
Вітаньне сьвяту працы!
Вітаньне Першамаю!
Скончыўся мітынг.

Колёны пайшлі па мястэчку. Песьні, музыка, гул трактара зьліваліся ў такі акорд, якога нідзе ніякі музыка віртуоз ня мог узяць на сваёй скрыпцы. Міхель стаіць з-боку. Акорды шчыплюць яго сэрца. Вочы напаўняюцца сьлязьмі. Ён нікуды здаецца ня думаў ісьці. І вось сам ня прыкмеціў, як бурлівая хваля захапіла яго і паімчала. Апамятаўся тады, калі дэмонстрацыя наблізілася па вуліцы, да яго дома. Спыніўся з боку.

— Валі, Міхэль, далей!—голас Віктара.

— Станавіся сюды!—гукнуў Іван Падзёньнік.

І Міхель паплыў.

Вось арка на будаўніцтве комбінату. Праз яе ў момант напаўняецца былы агарод Ясіноўскага жывымі кветкамі.

Ніколі так не расквіталі на агародзе макі!

Ніколі так высока над мястэчкам не ўздымалася гвязда, як цяпер на вышцы соцыялістычнае будовы комбінату!

Закладка зроблена.

Колёны рушылі на мост і па грэблі выходзілі ў поле.

Падымаліся на горку.

Трапыхае вясна крыльлямі і звонам жаваранкаў, усьміхаецца пупішкамі і сочнымі лісточкамі на дрэвах і расьцілае на лугох ізумрудныя дываны.

А колёны з грохатам і песьняй падымаюцца на горку.

Як добра быць у такіх радох!

Як лёгка падымацца на гару!

А паглядзеце вы на твар, сур'ёзны твар Ціхона: ён быццам мружыцца, а радасьць з перапоўненых грудзей яскрава прабіваецца і разганяе маршчыны—сьлед ліхой мінуўшчыны.

Скажы, Белдзяржкіно: дзе вандруе ў такі час твой об'ектыў? Ці бачыць ён вось такі твар Ціхона? Ці бачыць ён такі вось рух, такога тысячагаловага і тысячагалосага героя?

Вось колгасная зямля. Два слупы і плякат:

„Шырэй колгасныя рады! За соцыялістычную гаспадарку! Няхай жыве КП(б)Б!

Падышлі колёны. Наперад выходзіць трактар. Ціхон перадаў сьцяг старшыні сельсавету, а сам узяў у рукі невялічкі сьцяжык.

Маленькая пэўза.

Ціхон махнуў сьцяжыкам і трактар, а за ім параконныя аратыя рушыліся.

Праходзяць аратыя. А вось і Мотка Кучар за плугам.

— А ну, ну, цікава. Як будзе араць Мотка!

Мотка пачуў гэта і ўсьміхнуўся. Ён за тыдзень перад гэтым добра вывучыў усю „арацельную арытмэтыку“ і цяпер цьвёрда і ўпэўнена трымаў плуг у баразьне.

Пайшлі ўпоперак разрэзваць вузкія загоны, межы. Увачавідкі зямля ўздымалася пульхнаю ральлёю. А нехта з натоўпу выгукнуў:

— Глядзеце! бачыце:

> Зямля зьмяняе колер.
> А межаў не спазнаць!

А хтосьці пад лопат трактара адказвае:

> Бо пайшла на полі
> Колгасаў баразна!

Папрабуй поэта напісаць так, не панюхаўшы сьвежае ральлі і дзёрны з мяжы? Панюхаеш, тады сама „муза“ прыдзе і загаворыць.

Дэмонстранты групамі разышліся па полі, лузе. Частка накіравалася ў лес. Найбольшая група дарослых, разам з кіруючымі асобамі раёну, накіравалася на тую лінію, якая вызначала простую дарогу праз балота, рэчку і злучала колгаснае поле з комбінатам і мястэчкам. Абмяркоўвалі надыходзячыя мэліорацыйныя работы. Гэта было, фактычна, першае масавае абгаварэньне вельмі цікавых будаўнічых работ цяперашняга сэзону.

А школьнікі на сухім лузе—пчаліны рой. З імі і оркэстр. Кружацца ў карагодах сонечнае вясны і маладосьці!

Аратыя працавалі ў полі каля паўтары гадзіны. У вызначаны час трактар даў гудок—сыгнал збору. З розных канцоў пачалі зьбірацца дэмонстранты. Каля аркі зноў выстрайваюцца колёны. А трактар знарок прайшоў праз поплаў і паказаў як можна рэзаць цьвярдзейшую цаліну. Вось ён накіраваўся да аркі, а за ім і ўсе аратыя.

Праз невялікі час мястэчка зноў напоўнілася гулам, песьняй—гімнам сьвяту вольнай працы, сьвяту Першага Мая!

З поля зварачалася ня трынаццаць колгасьнікаў, а сямнаццаць. Гэтых чатырох ніхто ня ведаў. А выявіліся яны тады, калі колгасьнікі адпрагалі коняй.

Прышлі і заявілі:

Прымеце хіба і нас.

Сярод іх быў знаёмы ўсім Сымон.

## „Эміграцыя“ Лейбы

— Сходзім, Віктар,—кажа Піня,—да майго бацькі. Запытаем, як ён сябе адчувае, якое ўражаньне зрабіла наша сьвята.

Пайшлі.

На прабоях вісіць замочак.

Глянуў у ваконца. Раптам адскочыў ад гэтага, падбег да другога. Віктар заўважыў зьдзіўленьне на твары Піні і сам уваткнуўся ў вакно.

— Та бачыш што?—пытае Піня.

— Бачу, што нічога ня відаць,—адказвае Віктар.

— Што гэта можа азначаць?

— Змыўся недзе стары.

— Калі?

— А ты-ж два дні як ня быў дома.

— Так. Няма і варштаціка, дзе ён дзеўся?

Вышлі на вуліцу. З суседняе хаты, што насупраць, выглядала Бэрчыха.

— Вы нічога ня бачылі?—пытае Піня.

— Што я бачыла...—адказвае нехаця яна,—а нашто мне вельмі бачыць? Паехаў, дык і добра зрабіў.

— А куды?

— Што ты да мяне прычапіўся? Дагані, папытайся.

— А калі ён выехаў?

— Я не запісвала. Запытайся ў балаголаў.

Піня і Віктар накіраваліся да Сайкі. Уваходзяць.

А той на ўсю хату смокча курыную ножку і быццам не прыкмячае іх. Смокча, пакручвае ў руках, хоць там болей няма чаго смактаць.

Піня моўчкі падышоў да стала, глядзіць.

А той смокча.

— Кінь!—гукнуў Піня.

Сайка падняў костачку ўверх, як падымаюць палец для пагрозы, бараду ўніз, а вочы на Піню:

— Што значыць кінь?

— Дзе мой бацька?

— У цябе ёсьць бацька?

— Гавары-ж ты па чалавечаскі!.

— Хочаш па чалавечаскі? Я скажу табе па чалавечаскі: садзіся!

— Ды ладна!

— Садзіся я табе раскажу. Прыходзіць твой бацька Лейба. Але гэта ня бацька, а цень. Што скажаш, Лейба, пытаюся я. Але гэта ня Лейба, а страшная ноч. Такія ў яго вочы. „Ты хочаш, каб я спакойна памёр?“, пытае ён. А словы дрыгаюць. А я яму адказваю: спакойная сьмерць, гэта—самая сьмярдзючая сьмерць. Ня раю табе, таварыш Лейба. Калі ты на старасьці хочаш спакойна пажыць... О, гэта зусім іншы інтарэс. „Я пра гэта і хачу казаць“, адказвае Лейба. Ну, дык што ты вытыкаеш наперад сьмерць? Яму няма чаго казаць. Бачу—дрыгаюць у старога губы. Садзіся, кажу я яму, вось якраз, як і табе. Ён якраз так, як і ты, сеў. Відаць, што вы нейкія сваякі.

— Кінь, Сая, жартаваць!

— Ух, які ты гарачы!

— Кажы проста.

— Проста?—Сайка нібы раззлаваўся.—Я проста запрог каня і проста завёз яго ў Лошню да швагра, туды, дзе знаходзіцца твая маці.

— А што сказала мама?

— Яна сказала: „Лейба звар‘яцеў“.

— Праўду мама сказала.

— Ну, якая там праўда мы яшчэ ня бачым.

— Надоўга ён паехаў? Не казаў?

— Да канца свае сьмерці.

Піня і Віктар вышлі.

— Вось адкалоў нумар твой стары,—пачаў Віктар.

— Можа тут крыху і маёй віны...—адказвае Піня.—Я мала паказваўся дадому. Не гаварыў з ім, ня даў яму развагі...

А па мястэчку распаўсюджваліся чуткі: „Піня прагнаў бацьку. Піня плюнуў бацьку ў твар, і той пашоў упрочкі“. А пры сустрэчы з Пінам адны дакаралі яго, другія спачувалі, трэція лічылі, што гэтым пачынаецца кара Піні за яго бязбожніцкія паводзіны. „Сам бог павесіў замок на дзьверы яго хаты“.

Думае Піня: „Што яны маюць да мяне? Чаго яны спачуваюць, шыпяць?“.

— Пашлі ты іх усіх да чортавай мацеры,—кажа Піню Віктар.

— Я паслаў, але мне хочацца вывучыць бацьку. Мне хочацца запытаць яго: ад чаго ты ўцякаеш? Чаму я стаў такім ненавісным? Ведаеш

што, Віця, давай сходзім, папрабуем адамкнуць замок, мне хочацца паглядзець у хату.

— Адамкнуць мне яго—раз чыхнуць.

Падышлі. Драпаецца ў вакне кот. Весялей стала. Адамкнулі.

У хаце было вельмі брудна. З сяньніка выцярушана салома, чарапкі, міскі, гразь і абрэзкі скуры на тым месцы дзе стаяў варштат. Вузенькі сяньнічок Піні як звычайна ляжаў на тапчане. Над ім, на кручку вісеў ручнічок і старая рубашка. Тупае Піня па хаце. А кот так лагодна выгінаецца каля ног, абкручвае сваім хвастом.

— Ну што? Прагаладаўся, коцік?

— Мяў-угу!

— Дзе-ж мне цябе дзець?

— Забірай, пойдзем да мяне. Там у каморы будзе яму работа. З голаду не прападзе.

Пайшлі на кватэру Віктара.

## Вужака поўзае

На працягу тыдня на былым агародзе Ясіноўскага была пабудавана вялікая шофа і нейкая высокая будка з аполкаў.

— Скажы, Іван, што гэта за злыбеду такую вы там выстраілі?—пытаецца нейк надвячоркам Ясіноўскі.

— Пад шофаю будзе пільня. А ў той высокай закрытай будыніне—стаяцьме рухавік.

— Ага. Ну і гэта называецца комбінат?

— Не, гэта толькі спачатку, каб падрыхтаваць матэрыялы. Пільня пойдзе. А комбінат, ён будзе мураваны. Бачыце падвозяць каменьне, цэглу. Праз два тыдні паедуць на станцыю па цэмант.

— Значыць цэмантовы будуецца?

— Цэмантовы.

— Ну, а колгас з якога цэманту робіцца?

— Якi-ж там цэмант. Там аруць, сеюць...

— А прыганятым, значыць, Ціхон?

— Ды ўжо-ж мусіць ён.

— Фацэця з гэтых чатырох! Зайгралі на Першамая музыкі, дык яны і ў колга-ааас. Ха-ха-ха! Вясёласьць на адзін дзень. А цяпер нешта падгінаюць хвасты.

— Хто?

— Ёсьць такія. Ды хоць-бы і Сымон. Але ён разумна зробіць, калі запагоду вырабіцца адтуль.

— Ня ведаю.

— Я табе скажу Іван так: пільню і млынок вы паставіце, гэта яно відаць, а што колгас пад восень паляціць у вырай, дык гэта яно так сама відаць.

З работы ішоў Віктар.

— Ну, пайду, а то няма часу. Заходзь, Іван.

— Ну, што кажа твой сябра?—пытае Віктар Івана.

— Чаму гэта ён мой сябра?

— Ну а чый-жа, мой?

— А чаму гэта ён мой? Ён для мяне добры чалавек і ўсё.

Ясіноўскі стаіць за каліткаю і высокім шчыльным плотам і чуе гэта.

Аднае раніцы выяжджае Ясіноўскі ў поле і бачыць: Іван і Сымон з сякерамі пайшлі на комбінат. „Ага, адзін ужо сколгасіўся". Сымон працаваў тры дні. Пасьля Ясіноўскі зноў бачыў Сымона з баронамі на колгасным полі. Праўда, Сымон няпрывычны быў да шырокіх палеткаў. У яго быў вузенькі загон. За дзень ён узарэ і пасее на цэлы кілёмэтр даўжыні. І то, гэта рабілася для таго, каб людзі не казалі, што ў Сымона пустуе шнур. Асноўным-жа сродкам існаваньня ў яго былі: піла, сякера, склюд. І вось, цяпер, калі ён глядзіць на будаўнічую вышку, калі ён чуе стук сякеры—яго проста цягне туды. А тут яшчэ і з жонкаю нелады. І вось не пайшоў Сымон у поле дзень, другі.

Пытаюць яго колгасьнікі:

— Ты што, Сымон, захварэў, ці як?

— Сказаць, што я хворы, дык не, а толькі прасіў-бы я вас, браткі, аслабаніць мяне.

— На колькі дзён?

— Ды зусім.

— Ага, значыць, ты хочаш выйці з колгасу?

— Я ня тое, каб выйці, але сямейная жызьня прымушае.

— Ну і ня трэба нам такіх!—выгукнуў адзін.

— Ня трэба такіх!—падтрымаў другі.

— Пачакайце,—спыніў Ціхон.—Я пагавару з яго жонкаю. Пойдзем, Сымон. Прышлі. Сымоніха з хаты.

— Пачакай, Сымоніха. Што гэта ў вас тут выходзіць?

— Нічога ў нас ня выходзіць. А што выходзіць, дык якое каму дзела?

— Мы лічымся, як-бы сказаць, адна сям'я, дык я і пытаюся,—спакойна кажа Ціхон.

А Сымоніха і пачала сыпаць.

— Іван, дык ходзіць на работу, зарабляе грошы і ніхто яго не дапякае, жыве і пражывае... А тут яшчэ невядома, што будзе з гэтым колгасам... можа пачнецца вайна...

Ціхон папрабаваў гаварыць, але бачыць, што словы яго ніяк не прышчапляюцца. А Сымон маўчыць. Ціхон вярнуўся і сказаў колгасьнікам:

— Прыдзецца выпісаць з чляноў. Цёмная сіла.—І гэтыя словы Ціхона адносіліся нястолькі да цемнаты Сымона і Сымоніхі, колькі да тых, хто ўсякімі сродкамі стараўся разбурыць колгасныя рады.

А нітачка цёмнае сілы, нібы вужака, ішла праз Івана, абгарнула Сымоніху, Сымона і пайшла далей. Абвіла яшчэ адну жанчыну колгасьніцу і пачала завівацца вакол яе мужа. А той абарваў. Адсек хвост. А вужака засталася жыць. Поўзае, каб яшчэ ўшчыпнуць маладое колгаснае цела.

## Пад звон кляновых жукоў

А вось узяліся і за балота. Вышукальныя работы праведзены былі за мінулае лета.

— Пусьцяковая работа,—кажа кіраўнік работамі.—Я не на такім балоце працаваў, што гэта за балота? Скаварада.

— У нас цяпер усё пусьцяковая работа. Забраў у чалавека кавалак поля, пасьля сенажаць, агарод... І так яно дойдзе да варывенькі,—пачаў адзін стары.

— Яно-ж к гэтаму ідзе,—дадаў крыху маладзейшы.

Хваля пачала разгойдвацца.

— Напэўна-ж лепшы кавалак балота забярэ колгас.

— А што гэта за шышка такая колгас гэты?

— А такая, што Ціхон у Радзівіллы выходзіць.

— Пакінь ты, дурань, ляпаць. Прычым тут Радзівіл?

— А ты што за разумнік такі? Сена чалавеку трэба?

— Такога сена карова ня хоча есьці, а ён кажа чалавеку—гы-гы-гы?

— Выскаляйся... зьясі і сам.

— Пачакай, што гэты шнурок табе дае? Многа ты бярэш з яго сена?

— Колькі-б ня ўзяў. Няхай сабе адны рэзьгіны, але я ведаю што яно маё.

— Ну дык і цяпер яно будзе тваё. Толькі ўсяго, што прыдзецца па сухім хадзіць.

— Не па сухім, не па мокрым ня прыдзецца нам хадзіць. Ціхон там будзе спацыраваць.

— Чаго ты прыпёрся да Ціхона?—умяшаўся адзін колгасьнік.—Што думаеш, мы на шаснаццаць сямействаў забяром усю сенажаць! Начорта яна нам.

— Увабраўшы такі поплаў, аселіцу, дык яно здаецца павінна было-б хапіць. Але-ж дабру кажуць канца няма,—адазваўся Гальяш.

— А вы чаго, пазайздросьцілі іх дабру? Дык ідзеце ў колгас,—кажа кіраўнік работамі.

— А гэта мы паглядзім, як каго прыняць,—адказвае колгасьнік.

— Правільна, правільна,—згаджаецца кіраўнік.

— Дык вось бачыце, і вы кажыце: правільна. Я то не прашуся і здаецца ніхто ня просіцца, і я ня супроць таго, каб асушыць балота, а толькі... (шкадую свайго поплава і Ясіноўскага аселіцы і агарода падказвае адзін). Што значыць шкадую? Ясіноўскі не памёр, каб яго шкадаваць

і я таксама жыву, а толькі, значыць, кожны з нас чалавек. А то аднаму сенажаці—во (паказаў пальцам на шыю), а другому—во (паказаў паўпальца).

— Правільна,—пацьвердзіў той, што „чалавеку трэба сена“.

— Дурань ты са сваім „правільна“. Калі ў Ясіноўскага і Гальяша, вось гэтага самага Гальяша было „во-о-о-о“, а ў цябе „во“, дык ён маўчаў. Ён даваў табе сена? Хвігу ён табе даваў (на пятую капу—дадаў адзін). О, правільна. Яму чатыры, а табе пятая.

— Ніякае пятае капы я нікому не даваў. А па-другое, я заўсёды казаў: у каго няма—значыць дзяржава павінна паклапаціцца,—адказаў Гальяш і больш сёньня не гаварыў.

А жабы на балоце ў вужарыне:

Крр-уа, крр-уа“. „Кум-кума“. „Кум-крр-уа“.

— Чуў я такую песьню,—сказаў Ціхон, калі пачуў пра гутарку Гальяша.

Колгасьнік расказваў сваім:

— Капаюць нас, усякія штукі выдумляюць. Можа няхай яно згарыць гэтае балота. Няхай мо‘ стаіць так, як стаяла. Абыйдземся без яго. Яшчэ добра, што мы тут у мястэчку, а каб жылі асобна, дык глядзі, што нарабілі-б яны нам.

— Ну, калі ўсяго баяцца, дык чорт яго на сьвеце жыў,—сказаў другі.

— Няхай пагамоняць,—кажа Ціхон,—а вось, як зробяць балота так, як расказваў мой Дзяніс, дык тады і давольны будуць.

— Дык-бо яны лічаць, што мы забяром усё.

— Хопіць і ім.

А там, на вуліцы, пад клёнам, яшчэ доўга гаманілі. А вакол снавалі залацістыя кляновыя жукі. Цёплы майскі вечар. Звоняць жукі. Доўга. Позна. Гуляе на мястэчку моладзь і працоўныя і непрацоўныя. А тут і месяц з хітраю ўсьмешкаю. Каму сьмех, а каму хоць тапіся ад каханьня, ад недастачы кавалера і наадварот. Міхель зноў на ганку Майзэльсона з Розаю, з другімі. А Цэйта прагульваецца з адным „няважным“ райработнікам. Піню падчапіла лесбелаўская машыністка, комсамолка Дуся. Што значыць падчапіла? Яна проста гуляе з ім, як з таварышам. Прынамсі так заўсёды адказвала Дуся. Гэта здаровая мажная дзяўчына. „Ундэрвуд“ ня скора яе ссушыць. Здароўем бог ня скрыўдзіў, і пачуцьці моцныя. А толькі дзе ты тут разгорнешся? Знайшоўся-б малады, па сэрцу малайчына... задрыжаў-бы месяц і ясьней-бы засьвяцілі зоры. Не ў натуры Дусі сьпяваць любоўныя рамансы, на роялях ня іграе, голасам па нотах і тым больш. А трэба ўзяць любімага „парнішку“. Не аддаваць-жа Піню ў рукі Цэйты. І выбрала Дуся любімую тэму Піні: пэрспэктывы чалавечага жыцьця. Думала, што той падтрымае, разгаворыцца і тады можна будзе перайці да бліжэйшых пэрспэктыў. Ад „общего“ падыйці да „частності“. Узяць, скажам, у прыклад яе і яго. Піня слухае, маўчыць. Цяжкаватая для Дусі такая тэма, ды яшчэ ў такі вечар. Яна няпры-

кметна зьбілася з „высокіх матэрый“ уздыхнула на месяц і пачала гаварыць, пра местачковую „скуку“. Чуў ён гэта і ад Цэйты. Там гэта зразумела. Там другія сямейныя абставіны, другое выхаваньне. Тая ня ведае, дзе дзецца. А ў гэтай іншыя абставіны. Але пракляты месяц стаіць над усім мястэчкам. Глядзіць на яго і Цэйта і Дуся. Ён выдаў ім зусім аднальковыя карткі на права каханьня. І ён сабе спакойна ўсьміхаецца. І гэта азначае: „калі каторая Дуся ня ўмее кахаць, калі каторая Галена ці Люба прыдушаны цяжкаю працаю, ці голадам і таксама „ня ўмеюць“ кахаць, дык гэта-ж вінавата Зямля, а ня я“. Ну пачакай-жа двурогі чорт, ня сьмейся з зямлі. Цяпер яна не такая, як была гадоў дваццаць таму назад, дабярэцца да цябе, тады трымайся! Ходзяць парамі, сустракаюцца, разьмінаюцца. Піня, як відаць, ня хоча ісьці ў канец вуліцы за мост, за мястэчка. Цэйта ня прымае прапановы таго „няважнага“. Зразумела, што калі адна з гэтых двух пар выйдзе са „строя“— зараз-жа выбывае другая.

— А ну, па кватэрах шагам марш!—камандуе Віктар. Ён зварачаўся аднекуль дадому і рашыў, калі ён нагуляўся, дык хопіць і ўсім. Піню гэта было якраз на руку.

— Ну дык я пайду, Дуся. Я ў Віктара жыву, дык нязручна позна прыходзіць і непакоіць людзей.

— Я ведаю, што ты ў яго жывеш. Ну, бывай...

— Ну, я пайшла,—кажа свайму партнёру Цэйта.

А той:

— Што такое, чаму так раптам?

— А такое, што пара.

Цэйта бачыла, як пайшоў Піня, а Піня бачыў, як пайшла Цэйта.

*(Працяг будзе).*

# КАЛЯ АДЧЫНЕНАЙ БРАМЫ

**Ц. Доўгапольскі**

*Роман у двух частках*

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

### I. У Шурыных бацькоў

Казённы лес, які ўпіраецца ў правы бераг Дзьвіны, праразаючы пецярбурскую шашу, цягнецца імшыста і грузка на Сураж, на Веліж, заварочвае на Нова-Сакольнікі і Себеж,—цяпер ужо савецкі лес пачаў выплёўваць з сябе бандыцкія гнёзды. Дзе-ні-дзе ў глыбі багністага лесу астатнія дні свае дажываюць маленькія групы белагвардзейцаў. Вакольныя кулакі ўжо не нясуць туды самагону, і калі конны прыяжджае ў вёску па харчы і сена, гаспадыня (гаспадар правіць абору і яму няма калі займацца з гэтым „госьцем“) яму адказвае:

— Апошні раз, браце. Абрыдла гульня: сена каштуе грошы, і авёс таксама, а хлеб, сала і масла бязумоўна цану маюць. Бяры, браце, і прыбірай ногі... Мужык мой кажа, што трэба вам зьявіцца і здацца бальшавікам.

За апошнія год і тры месяцы Лесарубаўка забылася ўжо пра апошні напад бандытаў на старшыню павятовага выканаўчага камітэту т. Хавкіна, забылася ўжо пра Глонца, таго самага, які на парозе школы забіў бандыта, сеў на каня і лесам паляцеў на гуту, вярнуўся назад у Лесарубаўку з узброенымі рабочымі і павёз забітых у горад. Толькі Шура, адзіная Ігнатава дачка помніць Глонца.

Ціха цяпер у Лесарубаўцы... Раніцою выпаў ціхі, цёплы дождзык, і зараз квітнеюць палі і ўхмыляюцца шматтысячнымі вачыма на сьвежае, выкупанае ў халодных хвалях Дзьвіны сонца... Лесарубаўскі настаўнік капаецца ў сваім агародзе. Пухкая зямля ўсмоктана расою. Ухмыляецца настаўнік у вільготную, рыжаватую бараду сваю.

У Шурыных бацькоў першая заўсёды прачынаецца Марыля; Ігнат прачынаецца пазьней, калі Марыля канчае кароў даіць і гоніць іх туды, уніз, дзе пасьвяць лесарубаўскае стада, калі да гэтага часу ня прыдзе падпасак, дванаццацігадовы Янка з заспаным тварам, босы, бялявыя рэдкія валасы якога хаваюцца пад саламяным капялюшам, які нізка спускаецца на вочы, з доўгім пугаўём у дужай маленькай руцэ.

Марыля крыху занядужыла і таму першым сёньня ўстаў Ігнат, пакінуўшы Марылю ў шырокім, драўляным ложку.

Адчула Марыля пуставатасьць у другой палове ложка; важна і цяжка перавярнулася на другі бок і кажа мужыку:

— Ігнаце, падымаешся? Пабудзі-ж Алеську, няхай кароў падоіць.

Але калі Ігнат выходзіць на двор запрэгчы каня,—трэба авёс сеяць, ён сустракае ўжо Алесю з поўнай дайніцай малака.

— Абедзьве, каровы падаіла?

— Абедзьве, тата. Як маці?

— Песьціцца яна ўжо занадта. Усё здаецца ёй, там баліць, тут баліць. Як паедзеш, ёй ужо мімаволі прыдзецца выздаравець...

— А ты такі заўтра едзеш.

— Заўтра, тата, усяго толькі месяц да экзамену засталося.

Шпарка сыходзіць Шура ўніз, у склеп, з вядром малака, працэджвае яго, налівае поўныя гарлачыкі і пакрывае іх круглымі, ужо часам патрэсканымі бярозавымі накрыўкамі, п'е з кружкі малако, вылазіць са склепу, закасвае рукавы сваёй палатнянай кофты і пачынае мыць бялізну, якую трэба сёньня папаласкаць, высушыць, папрасаваць, каб заўтра з сабой у горад узяць.

Яна адчыняе вокны на кухні. З двара ў хату ўрываецца сакавіты пах квітнеючых вішань, шчабятаньне, гудзеньне веснавой радасьці. З высокай бярозы, што каля старэнькай царквы, далятае блізкі крык зязюлі Ку-ку!-Ку-ку!-Ку-ку!

Ня можа Марыля ў ложку ляжаць. Трэба курэй накарміць, парасятам есьці даць, яшчэ пару курэй трэба на яйкі пасадзіць.

Садзіцца Марыля, ніжэй на лоб насоўвае хустку, надзяе старыя чаравікі, паварочваецца ў бок абраза і пачыне жагнацца. Раз, другі раз, трэці і яшчэ і яшчэ, усё больш горача і імпэтна і выходзіць да Шуры.

Шура ўжо ў аднэй сарочцы з хусткай на галаве, расчырванеўшыся, мыліць і мые, выкручвае бялізну раз і другі раз і зноў мые, і ў такт рытму работы сваёй сьпявае новую песеньку, прывезеную з гораду.

— Як адчуваеш сябе, маці?—Алеся выпростваецца, тужэй завязвае хустку і зноў мые.

— Няма, дачка, былой моцы. Была маладой калісьці, як ты... Цэлы дзень працавала, тыдзень цэлы працавала, а прыдзе нядзеля—першая танцорка, лявоніху, казачка, галоп!

— Што гэта за танец такі—галоп?

— Пападзьдзі навучылі мяне. Парамі соўгаюцца туды і сюды. Але шпарка, шпарка... Трыццаць год таму, калі лесарубаўскі пан царкву пабудаваў... у нашай вёсцы пратаярэй быў, вось тут у нас у хаце... Пасху сьвяцілі... Пападзьдзі ажно зайздросьцілі мне: пратаярэй ды каб да звычайнага селяніна пасху пайшоў сьвяціць. Укахаўся ў Марылю,—гаварылі па кутках плёткаркі-пападзьдзі.

Стары распусьнік.

— У вас там, у школе ўсе сьвятыя—распусьнікі, не карай, божа, за мае словы. Трэба да курэйісьці.

Бярэ Шура на плечы памытую бялізну і пратоптанай сьцежкай ідзе да ракі. Паабапал сьцежкі—высокае жыта, наліваецца і красуе.

Бераг ракі высокі і камяністы павольна спушчаецца ўніз. Асьцярожна ступаюць босыя ногі, абмінаючы вострыя каменьні, раскіданыя па ўсім беразе, аж да вады.

Вада тут надзвычайна чыстая. Але сёньня вады мала. Плыты выцягнуліся паўз аголены бераг. Усяго толькі некалькі бярвеньняў боўтаюцца на вадзе. Палошча Шура бялізну сваю. Кожны ўдар пранікам гучна праразае паветра і моцным рэхам раздаецца на другім беразе.

— Добры дзень,—чуе Шура голас з ракі. Гэтак рана і ты працуеш ужо?

Яна пазнае Міколу. Ён сядзіць у маленькім чаўне і гоніць да берагу некалькі бярвеньняў.

— Ты, бачу, таксама „працуеш“,—адказвае яму Шура,—адкуль бярвеньні гоніш?

— Сумленна зробленыя.

— Ня відаць, Коля, каб ты іх сумленна зарабіў.

— Ад савецкіх плытоў адбіў, сам іх па вадзе пусьціў.

— Мала табе ня будзе, Мікола, бярвеньні з гуты?

— Не, ня з гуты... Чаму будзе? Лес зараз сялянскі.

— Добра, добра, тады ведаць будзеш, каму плыты належаць.

Мікола плыве да берагу. Вылазіць з чаўна, выцягвае на бераг крадзены лес і падыходзіць да Шуры. Расшпіленая кашуля цягнецца па мокрых палатняных штанах, з якіх відаць босыя нагі. Сонцам асмаленая шыя глыбока ў кашулі сядзіць.

— Каб ты, Шурачка, менш ля комуністаў цёрлася,—штурхае яе нагой у сьпіну.

— Ня біся, Мікола, ідзі адгэтуль. Я тут купацца буду.

— Я таксама, давай разам купацца.

— Ня хуліган, Мікола. Адыдзі.

— Што ты мне зробіш?

— Пяском вочы засыплю.

— Няўжо-ж?

— Праўда... Ну, ідзі адсюль, мне распранацца трэба.

Ледзь толькі Мікола пасьпеў з берагу падняцца, як пачуў ззаду плёск вады. Шура саскочыла з плытоў і паплыла ўздоўж ракі.

„Як плыве яна“,—Мікола спыніўся, скруціў цыгарку, закурыў, страліў сьлюной і адышоў у жыта.

Калі Шура, з мокрымі і моцна зьвязанымі дзьвюма касамі вярнулася назад дахаты, Ігнат ужо сядзеў за сталом. Вялікая печ ужо добра разгарэлася, але Марыля гэтым не задавальняецца. Яна падкідае яшчэ некалькі сухіх галінак, якія ўчора Ігнат з лесу прывёз.

— Маці, бліны?

— Аладкі,—падсмаж, я адпачну крыху.

— Па матцы расьцеш, Шурка,—са здавальненьнем кажа Ігнат, седзячы на покуці за сталом і пераж оўваючы добрае сьнеданьне сваімі яшчэ маладымі зубамі.

Ходзіць Шура ўзад і ўперад—ад распаленай печкі да стала і ад стала да печкі. У драўлянай місцы засталася яшчэ грэчневая рошчына на дзьве-тры патэльні аладак. Адну, дзьве, тры, чатыры, пяць,—разьлівае Шура драўлянай лыжкай аладкі па гарачай патэльні і шпарка ўстаўляе ў печу. Праз тонкае сялянскае палатно яе сукенкі пранізваецца дзявочая пекната.

— Вось добра, Шурка, добра. Сьвежыя, і гарачыя, і тлустыя,—аблізваецца Ігнат. Марыля, як быццам не пра яе гавораць, бліжэй падсоўвае да Ігната растопленае масла і спрабуе ў рот аладку ўзяць, але нешта ня лезе ёй у рот.

— Еш, еш, Марыля,—набіўшы повен рот аладак, спрабуе ўгаварыць яе Ігнат.

Нехаця праглынае Марыля яшчэ адзін кавалак, падымаецца, жагнаецца некалькі разоў у бок абразоў і бярэцца за гаспадарку.

— Палоць расаду трэба, масла зьбіць, кіслае малако ў печы асадзіць, да цялят схадзіць, да курэй, да парасят... Ці мала работы ў гаспадарцы.

## II. Мікола швэндаецца

У раёне Лесарубаўкі ўсё яшчэ адбываліся напады на савецкіх і коопэрацыйных працаўнікоў, на яўрэяў-сялян, на праежджых. У пачатку вясны патапілі баржу з савецкім збожжам, абрабавалі коопэрацыйную краму, забілі старшыню валаснога выканаўчага камітэту, выразалі яўрэйскую сям'ю. Частка мобілізаваных таварышоў з губэрскага цэнтру была паслана ў бандыцкія мясцовасьці, дзе сялянства, якому абрыдла далей весьці гэтую небясьпечную гульню, пакрысе пачалі даносіць пра бандыцкія гнёзды, якія ўсё яшчэ дзе-ні-дзе хаваліся ў багністым лесе. Асобныя бандыты, а часам і групы, прыходзілі са зброяй, заяўляючы:

— Даволі. Рабіце з намі, што хочаце.

Пётра, Ігнатаў сын, адзіны комуніст у Лесарубаўцы, не пайшоў тады на фронт, дзе савецкія палкі мелі рашучыя, бліскучыя перамогі. Ён прызначаны быў за загадчыка гуты, за старшыню надзвычайнае тройкі па ліквідацыі бандытызму ў яго раёне.

Пётра толькі прыехаў з гораду і зайшоў да бацькі. Ён прывёз з ЧК важны загад—ніякіх рэпрэсыўных захадаў ня ўжываць да тых асобных бандытаў-сялян, ці нават цэлых бандаў, якія варочаюцца са зброяй у руках і заяўляюць, што прызнаюць савецкую ўладу і хочуць распачаць работы на полі.

Вакол плякату, які быў наклеены на дзьвярах сельсавету, зьбіраліся сяляне і з нейкім сумненьнем чухалі патыліцы.

— Я хачу бачыць таго дурня, які прыдзе да іх са зброяй у руках. Гэта пастка ЧК,—скруціў цыгарку Мікола і са сьвістам плюнуў у бок.

— Бунтуеш, Мікола? Чаго яны варты зараз: чырвоныя перакулілі ў мора барона Ўрангеля і яму ўжо адтуль не вярнуцца. Бальшавікі зараз толькі аднаго хочуць: каб селянін за плуг узяўся.

Стаяць старыя сяляне, бараду ў руцэ трымаюць, утаропілі вочы ў плякат, паволі разважаюць, ды ўсё больш думаюць.

— Пабачым,—кажа Мікола, і яшчэ мацней чухае сябе ў бок.

Гута знаходзілася ў надзвычайна цяжкім стане. Ванныя печкі ў некаторых месцах патрэскаліся і патрабавалі фундаментальнага рамонту. Рабочы пасёлак, рабочыя кватэры былі надзвычайна занядбаныя. Столі працякалі. Пётра энэргічна ўзяўся за работу. На беразе ракі заводзкія, добра-ўзброеныя, вартавыя ахоўвалі прыплыўшыя плыты з лесам—бярвеньні, дошкі і дранку, якія Пётра як мага хутчэй стараўся вывезьці да гуты. У Лесарубаўцы ён склікаў сход вакольных вёсак. Сяляне спрачаліся за цану.

— Ня трэба нам паперак.

— Я-ж тое і кажу, што за работу атрымаеце мануфактуру, шклянкі, шкло, таварам плаціць будзем.

З гуты сапраўды прывезьлі ў Лесарубаўку фурманку са шкляным таварам. Замест дзьвюхгаловага арла на гарнцавых бутэльках, а таксама на краі пятнаццатага нумару лямпавага шкла, гута выдрукавала новую савецкую марку з сярпом і молатам.

Мікола выцягнуў са скрынкі вялікую гарнцавую бутэльку і маруднa ледзь-ледзь прачытаў:

... „Вэ Эс Эн Ха.
Гута імя Варкіна“.

— Ці гэта шклянка для гарбаты? Мікола паказаў яе ўсім. Гляньце, нікудышная і зялёная, як траўка, і ўзяўшы ўвартаўніка сельсавету старую даваенную граншліхаваную шклянку, ён паказаў яе ўсім.

— Вось гэта шклянка.

Сяляне ўсьміхаліся і хітра паглядалі на Пётру.

„Мо‘ зусім арыштаваць яго“—падумаў Пётра, але ён адразу перадумаў і спакойна адказваў:

— Ня турбуйся, Мікола, за грамаду. Гута жыць будзе і без цябе і без каня твайго. Ты нявольнік, халоп ты, Мікола. Ты-б хацеў, каб лесарубаўскія сяляне назад пана з-за мяжы выпісалі. Напішам, братцы, яму ліст... пану... Сядай пісаць, Мікола...

Міколу аж прабрало...

— Не разводзь, Пётра, баек пра пана... Дзе твая мануфактура?

— Не патрэбны мне—ні ты, ні конь твой. Ты ня з намі—з імі, хто з голаду ў лясох паздыхае... Браткі! Штодзень пасьля работы расплач-

вацца будзем. Заўтра на гуту мануфактуру прывязу, сукно чорнае, хусткі, паркаль, каго я калі ашукаў? Няхай скажа.

— Ігнат і ігнацёнкі нікога не ашукаюць,—кажа адзін селянін.

Сход разышоўся, каб запрэгчы коняй.

Пётра пайшоў дадому. Там застаў ён настаўніка, які толькі прыехаў з гораду і прывёз з аддзелу народнае асьветы важныя навіны—патрабаваньне, каб у працягу тыдня вызваліць памяшканьне школы, вычысьціць, выбеліце, дэзынфэкцыю зрабіць—у Лесарубаўку на цэлае лета прыяжджае дзіцячая колёнія.

— Ведаю,—сказаў Пётра.—Да нас у вёску прыбывае 60 дзяцей—яўрэйскіх.

— Яўрэйскіх? Прасьвятая багародзіца,—пачала жагнацца Марыля. Пётра засьмяяўся.

— Чаго палохаешся, маці,—абняў Пётра Марылю,—добрыя дзеці, ня горш за нашых сялянскіх, праваслаўных. А з імі загадчыца, добрая дзяўчына, маці.

— Яўрэйка?—спытаўся настаўнік.

— А як-жа-ж? Увесь штат яўрэйскі. Загадчыца таксама,—Ганкай яе клічуць.

— Няма яўрэйскага імя Ганка,—сказаў настаўнік з нейкім глухім яму неўласьцівым голасам...—Мо' Ханка?

— Адгадалі. Яе якраз Ханкай завуць.

— Ханка,—гэта мажліва,—заспакоіўся настаўнік і пачаў з кішэні вымаць лісты для Ігната.

Ліст быў ад Міхася, старэйшага Ігнатавага сына, які мае скончыць авіяцыйную школу. У лісьце была фотакартка групы вучняў, сярод якіх Марыля пазнала свайго Міхася і пачала цёрці нос фартухом.

— „Гэтымі днямі мы ўзьняліся надзвычай высока. Я сябе зараз на машыне адчуваю вельмі добра... Што скажаш, маці, праразаць хмары ды ўздымацца ўсё вышэй ды вышэй, толькі ня пужайся,—я сябе ў надхмар'і адчуваю, як на сенавале. Абы толькі машына працавала і рукі працавалі, а калі часам крута прыдзецца, дык ёсьць апошні сродак—выскачыць“.

— Не давядзі божа—і Марыля зноў жагнацца пачала.

За Пётрам прыехала з гуты фурманка.

— Сёньня ў горад едзеш, Шура? Ён падышоў да сястры, пацалаваліся і вышаў з дому.

Да вечару Шуры трэба ўжо на чыгуначнай станцыі быць, прыдзецца пехатой ісьці, бо бацька з канём на полі, авёс сее.

Шура падрыхтавала торбу з харчамі, бялізнай, летнімі сукенкамі, прасунула раней правую, а потым левую руку праз бакавыя вяроўкі, што на торбе былі, добра ўпарадкавала ўсё гэта на сьпіне і лесам пайшла на станцыю.

Як толькі Шура ўвайшла ў лес, ёй насустрач выйшаў па-сьвяточнаму прыбраны Мікола.

— Куды ідзеш, Шура?—пачаў Мікола.

— На станцыю.

— Так, да комуністаў... А ты?

— Хачу праводзіць цябе.

— Ну, і плённую працу знайшоў.

— Дай торбу, дапамагу табе несьці.

— Сапраўдны кавалер.

— Усё харчы?

— Харчы.

— Усіх комуністаў накорміць! Ха-ха-ха.

— Чаму гэта ты такі зайздросны?

— Хто табе кажа, што я зайздросьціў ім?

— Дык чаго ты шляешся. Гэткі хлапец, ды за дзявочымі спадніцамі цягнецца.

— Жыдкі ў горадзе, цябе, мусіць, Шурка...

— Ёсьць сярод іх добрыя хлапцы.

— Лепшыя за мяне, Шура?

— Сьмяешся, Мікола, „лепшыя за мяне“? Хто ня лепшы за цябе? Ты яшчэ хочаш раўняцца з нашымі хлапцамі? Сорам, Мікола, пустапасам расьцеш.

— Мала яшчэ зарабіў сёньня? Ведаеш, чаго варты гэтыя тры бярвеньні, калі іх на дошкі расьпілую?

— Лепш-бы ты ўжо не хваліўся.

— Шура, ехаць з табой у горад?

— Ты мяне затрымліваеш, Мікола. Табе няма па што ў горад ехаць, а мне трэба на цягнік сьпяшацца.

— Шурка, помні, Шурка.

— Чаго хочаш?

— Вярніся назад дадому.

— Глупства гаворыш.

— Шура...

— Бывай здароў, Мікола. Ты, бачу, мяне знарок затрымліваеш, каб я на цягнік спазьнілася.

Шура сьпяшалася, ледзь ня бегла.

Міколу не выпадала бегчы за Шурай і ён спыніўся.

„Дагнаць Шуру, ці вярнуцца дадому“—думаў ён.

Няхай хоць заўважыць яна, што ён чыста паголены, як зухавата круцяцца яго вусы, нават залаты пярсьцёнак на яго руцэ не заўважыла яна. Гнеўным варочаўся назад Мікола ў Лесарубаўку.

Ідучы дахаты Мікола прыкмеціў Ігната. Ён конна сядзеў на сваёй клячы, якая цягла па зямлі жалезную барану зубцамі ўверх, за ёй бегла жарабё.

— Шурка фанабэрыць пачала,—з намі, мужыкамі, яна нават гаварыць ня хоча.

— Ці мала дзяўчат табе, Мікола... здаецца, у цябе столькі дзяўчат, колькі галяндэрскі певень каля сябе курэй мае,—сказаў Ігнат.

— Але твая Шурка...

— Кінь пра яе... Яна яшчэ малая дзяўчына.

Агародам пайшоў Мікола дадому.

## III. На разъезьдзе

У дзіцячым доме, а таксама ў настаўніцкіх колах усе сьцьвярджалі, што былая швачка Ханка мае добры пэдагогічны падыход і вельмі добра жыве са сваімі дзецьмі. Усяго толькі пару месяцаў таму назад усе з такім зьдзіўленьнем глядзелі, што Ханку вылучылі на пэдагогічную работу.

— Абы толькі комуністка.

Зараз яна зрабілася сэрцам дзіцячага дому. Дзеці толькі каля яе і гуртуюцца, а пэдагогічная рада ўсё часьцей пачала прыслухоўвацца да яе парад і прапаноў. На Ханку і ўсклалі абавязак, выехаць на лета з дзецьмі ў вёску.

— Яна даволі працаздольная,—сказала Надзея Львоўна, настаўніца, якая пачала ўжо ў скронях сівець, якая ўсяго толькі тры гады таму назад мела сваю ўласную яўрэйскую жаночую гімназію, а зараз у дзіцячым доме яна працуе толькі за паёк...—Факт, што яна працаздольная, але аднэй працаздольнасьцю багата ня зробіш. Песталоці вялікім пэдагогам быў таму, што добра адукаваны быў. Фрэбель, Лесгафт... Калі віцэ-губэрнатар да мяне ў гімназію прышоў—яна з правамі была—праверыў веды вучнёвак і пачаў гутарыць з аднэй вучаніцай—якраз з дачкой швачкі—па-француску—гучэла па ўсім горадзе, у газэтах пісалі. Калі-небудзь я пакажу вам клясны журнал з надпісам самога віцэ-губарнатара.

У дзіцячым доме сёньня быў вялікі непарадак. Усе камісіі рыхтаваліся ў дарогу—у Лесарубаўку. Заўсёды чыстыя спальні, сёньня не пазнаць было. На цяжкіх, шпітальных ложках валяліся дзіцячыя матрацы, коўдры, саламяныя падушкі бяз навалачак. У швальным пакоі дзіцячага дому каля Ханы тоўкліся дзесяткі голых дзяцей, якія тут-жа прымяралі спаднічкі, штанішкі, а на дварэ доўгім шнурам сушылася дзіцячая бялізна. Над ночвамі і балеямі нагіналіся дзіцячыя сьпіны, каб пасьпець вымыць сарочкі, спаднічкі, якія з якой-небудзь прычыны яшчэ бруднымі ляжалі.

— Вады, вады, гарачай вады.

Бляшанымі каструлямі лазілі дзеці ў кіпучы медзяны кацёл, які дастаўся ім у спадчыну ад нейкага ваеннага атраду; адзін хлапчук увесь час падкладваў у печ пад кацёл сухое гольле, каб бязупынна падтрымліваць вясёлы аганёк, а другія дзеці цяжка паднімалі са студні вядзёркі халоднай вады, вышэй галавы ўздымалі іх і далівалі кацёл.

Лёмка, старшыня харчовай камісіі, з пучком ключоў пад дзягай, вынес з кладоўкі груду накладзеных, адзін на другі, чыста памытых і папрасаваных торбачак,—паёк Надзеі Львоўны.

— Мэрсі, дзетка,—і хацела яго абняць, але ён шпарка адскочыў ад яе і, трымаючыся за ручкі дзьвярэй, хутка прагаварыў:

— Пяцьдзесят грам момпасе, сто грам маннай крупы, чатыраста грам разынак, дзьве каробкі малака, два кілё маісу, хлеб і мяса.

— Добра, добра, дзетка,—і стоячы ля люстэрка схавала ў густой чорнай галаве высьлізнуўшы пучок сівых валасоў, нацягнула на пальцы свае лайкавыя, пацёртыя ўжо ад старасьці, пальчаткі, шчыра разьвіталася і абчэпляная рознымі торбачкамі пакінула дзіцячы дом. Маленькая дзяўчынка праводзіла яе гарэзным рэвэрансам, а другая група дзяцей стрымнай гіронічнай усьмешкай.

Паводле пастановы агульнага дзіцячага сходу, сёньня павінна выехаць у Лесарубаўку першая камісія. Аддзел утылізацыі абяцаў фурманку прыслаць.

Хутка пасьля абеду каля дзіцячага дому спыніўся Моўша—балагол. Моўша—у суботнім чорным сурдуце.

— Вы, рэб Мойша, па-суботнаму апрануліся,—заўважыла Ханка, абкружаная з усіх бакоў дзецьмі.

— Ледзь выкруціўся ад цяжкой фурманкі... Додл паслаў мяне сюды. Давайце ехаць, а вы, пацаны, прэч з карэты, ня люблю я гэтых пасажыраў.

Ханка, Лёмка і Рэйзэлэ лёгка і хутка селі ў вазок. Увесь дзіцячы дом вышаў іх праводзіць. Фурманка, абвешаная з усіх бакоў дзецьмі, малодшымі і старэйшымі, цяжка кранулася з месца.

— За кола ня трымайцеся і, зьвяртаючыся да Ханкі, дадае:—распусныя яны ў цябе... Не... Вы, мусіць, пугаўя хочаце паспытаць?

Па адным пачалі дзеці злазіць з фурманкі.

Праз пару гадзін Моўша ўзьехаў на мяккі шлях, што вядзе ў Лесарубаўку. Здалёку ўжо было відаць чыгунку, а таксама і чыгуначны мост.

Тым самым мяккім шляхам Шура ішла на станцыю. Сонца смаліла твар. Яе сьпіна ўжо добра адчувала цяжар торбы, якая муляла ёй плечы і грызла пад пахамі ад едкага поту.

„Адпачыць ля маста, можа выкупацца“,—думала яна.

Чыгуначны мост мае сваю багатую гісторыю. Ён драўляны. Падарваныя чыгуначныя часткі валяюцца абсмаленымі на пясчаным беразе гэтае ціхае рэчкі. Машыністы, вядучы цягнік, лаюцца моцна і злосна, абціраючы зашмальцаваным рукавом потны лоб і шырока абвіслыя вусы.

— Вязі іх, бальшавікоў, цягні, трасца матары... фу-фу... ліха іх бяры.

Шура зьняла свой мех і хацела прысесьці.

— Няможна! Прэч адсюль!—пачула Шура голас з маста. На ім стаяў узброены чырвонаармеец.

На тым баку маста, ля берагу ракі вартоўня, зьбітая са старых шпалаў, з чатырма маленькімі вокнамі ў бок тракту. Там знаходзіліся крыху большая чырвонаармейская варта. На лаўцы сядзелі два чырвонаармейцы. Адзін з іх, сьпяшаючыся, завязваў брудныя шнуркі споднiх штаноў, якія зьвешваліся па яго босых нагах, схапіў стрэльбу ў рукі і пабег да тракту.

— Шура!—узрадаваўся лесарубаўскі селянін... Таварышы!—крыкнуў ён, гэта-ж наша, з маёй вёскі... Схапіў шурын пакунак пад паху і абое яны спусьціліся ўніз да хаткі, асьцярожна абходзячы густую сетку драцяной загароды, якой мост быў навакол абкружаны.

З вартоўні вышаў стары яўрэй, абросшы барадой, з вясёлым тварам, з акулярамі на кончыку носа. Ён прысеў на лаўку, углядзеўся ў Шуру, хвіліну памаўчаў і пасьля спытаўся:

— Куды гэта пехатой адна ідзе гэткая дзяўчына? Адкуль і куды?

— У горад. А вы, стары, што робіце тут?

— Я, дзяўчына, што раблю тут? Я тут вялікую работу раблю. Я кравец, яўрэй я... І латаю салдацкія штаны.

— Так зусім,—зьдзівіліся Шура і не спускала сваіх вачэй са старога. „Знаёмы твар“,—думала яна. Дзе гэта яна магла яго бачыць?

— Гэта добры стары. Ён ужо блізка тыдзень, як у нас працуе. Мы для яго швэйную машыну з гораду прывезьлі,—сказаў адзін.

Вакол Шуры сабралася ўся варта—босыя, брудныя, абадраныя.

Шура разьвязала торбу.

Чырвонаармеец, там на мосьце, абапёрся абедзьвюма рукамі аб стрэльбу і па-дзіцячы зайздроснымі вачыма пазіраў уніз, дзе шэсьць чырвонаармейскіх ротаў стараліся палегчыць Шурыну торбу.

— Ешце, дзядуля,—прапанавала яму Шура.

— Хіба можа кавалак хлеба адрэзаць, добры, відаць, жытні хлеб.

Раптоўны блізкі шум разладзіў гэтае выпадковае сьняданьне, разагнаў чырвонаармейцаў на свае месцы.

— Гэта ідзе чацьверты,—і адзін схапіўся за стрэльбу, пабег на тракт і зачыніў пераезд.

... Восемдзесят шэсьць, восемдзесят сем, восемдзесят восем,—лічылі Лёмка і Рэйзэлэ вагоны з таго боку пераезду.

— Стой! Вашы дакуманты?

Моўша спыніўся. Ханка саскочыла з фурманкі і паказала вартавому дакумант. Глядзеў пячатку, круціў паперку ва ўсе бакі.

— Можаце ехаць,—сказаў ён, варочаючы назад дакумант.

— Яшчэ далёка да Лесарубаўкі, таварыш?

— Я сам з Лесарубаўкі, вось дзяўчына тая сёньня адтуль.

Шура ішла насустрач. Яна лёгка паднялася на насьціл.

А стары ўсё стаяў ля вартоўні, далоньню засланіўся ад сонца і ўважліва ўглядаўся на тракт. Ён пагладзіў на сабе пацёртыя штаны, што

віселі на ім, як на кіёх, нацягнуў на худыя плечы шырокі пінжак свой з адкрытымі круглымі берагамі.

— Бацька Глонца,—паказаў Лёмка.—Ханка, глянь, Глонцаў бацька.

— Рэб Калмэн, што вы робіце тут?—з нейкім зьдзіўленьнем сустрэла старога Ханка.

— Чаму гэта я, а ты, Ханка, а дзеці... На цябе шолам*), Моўша.

— Ты што тут мост вартуеш, Калмэн?

— Так, мост... Тыдзень таму, я тут у яўрэйскага селяніна талмуду дзяцей вучыў. Зараз гэты яўрэй у горад выехаў, а я тут застаўся, рэволюцыю як-небудзь залатаць.

Дзяўчаты пазнаёміліся.

— Пашто вы ў Лесарубаўку едзеце?—хціва спыталася Шура.

— Мы паселімся ў вас на цэлае лета.

— Дзіцячы дом?

— Дзіцячы дом.

— Дык гэта вы загадчыца?

— Так.

— Заяжджайце да нас, у гуту паведаміце, брат прыдзе, ён ведае вас, Пётра.

— Пётра, гэта ваш брат?

Ханка пачырванела.

— Так вы, таварышка, павінны ведаць, хто гэты стары. Глонцаў бацька... Гэта дзяўчына, рэб Калман, вашага сына ад сьмерці выратавала.

— Шчыра дзякую... Спасіба, спасіба.

Дзеці расьсьмяяліся. На іх гледзячы засьмяяліся і Шура і Ханка.

Шура сьпяшалася. Яна са ўсімі разьвіталася і пайшла.

— Прыяжджайце, стары да нас малако піць. І вы ўсе таксама прыяжджайце да нас. Маці мая адсталая, але добрая кабеціна, школа недалёка ад нас, праз агарод.

— Час ужо і нам ехаць,—сказаў Моўша;—позна, позна, ужо ноч надыходзіць.

Ханка з дзецьмі селі ў фурманку.

Вечарэла. Сонца вісела ўжо на вершавінах дрэў.

Вартоўня схавалася ў лясным цяні.

Калман падышоў да рэчкі, памыў рукі і распачаў вячэрнюю малітву.

## IV. Два гады таму

Бацькі гораду, выдатнейшыя гаспадары, багацейшыя купцы, Шлоймэ зяць, мясцовая інтэлігенцыя, усе партыі, нават Бунд з яго моцнай організацыяй—усе, усе сёньня выкінуты на звалку.

Нават Бунд.

---

*) Дзень добры.

А два гады назад? Вы былі бундаўцам скажаце? Быць можа, вы былі ў камітэтчыках?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Моцная організацыя, але...

Пасяджэньне мясцовай організацыі Бунду яшчэ не пачалося. І Ісроэл, старшыня камітэту, бегла праглядаў сьпіс членаў організацыі, адзначаных у альфабэтным парадку і з паказаньнем профэсіі. Колькасьць членаў за кароткі час нязвычайна павялічылася. Ісроэл чытаў:

— Набівальшчык папярос, кравец, крамнік, столяр, бляхер, ганд...

— А гэта хто?—спытаўся Ісроэл.—Гэта Шлоймэ, які на рынку гандлюе?

— Ён самы. Гэтымі днямі запісаўся. Трохрублёўку ўнёс.

Ісроэл нездаволены адклаў убок кнігу.

— Усяго толькі ўчора я яго на рынку... Ашукваў селяніна... Брыдка...

— Як-бы ня было,—апраўдваўся сакратар, падсоўваючы Ісроэлу нейкую паперку для подпісу,—як-бы там ні было, згодна пастановы X конфэрэнцыі, мы маем права прыняць яго ў організацыю. Сяброўскі ўзнос заплаціў, ну, а дысцыпліне падпарадкуецца. Ён дробны гандляр, бедны...

— Калі-б мы захацелі пакапацца ў асабістым жыцьці кожнага паасобнага члена Бунду, дык наткнуліся-б... Вось у мінулую суботу адзін таварыш, бундавец, з вялікім энтузіязмам замяшчаў кантара ў сінагозе Беры-Лейба. Рэлігія, бязумоўна, прыватная справа кожнага,—кажа наша програма, але ўсё-ж такі... бундавец у ролі боскага служкі...

— Вы гаворыце не пра выдатнага таварыша, а пра звычайнага. Але што-б вы сказалі, каб член губэрскага камітэту партыі пачаў-бы гаварыць мінхэ*).

— Ну, гэта ўжо выдумкі.

— Не, факт. Гэта адбылося ў часе выбарчай кампаніі. Мы тады сядзелі ў сынагозе, чакалі канца мінхэ, каб выступіць з прамовай. Гляну ў я ў бок і бачу нашага славутага агітатара ў гэткай сьвяшчэннай позе: апэтытна хістаецца, моліцца.—Што ты робіш?—торгаю я яго за рукаў.—Дурны,—адказвае ён мне шэпатам,—ты нічога не разумееш. Гэты нумар дасьць нам галасы.

— З гэтага сьпісу я-б некалькі дзесяткаў асоб выкінуў-бы,—запальчыва схапіў сьпіс Додл кравец.—Вось Алтар. Яму ня месца ў Бундзе. Успомніце, як ён сябе трымаў у часы рэакцыі. Мала што ў пятым годзе ён... Ты мне падай восьмы і дзесяты гады—той час, калі я з сінагогі мясьнікоў цягаў бомбы...

— Я адразу зразумеў, што зноў пачнецца гісторыя пра бомбы.

— Так. Я іх цягаў з вышак, а ня ты. Схавайся.

Назаўтра сакратар камітэту паслаў у газэту наступную корэспондэнцыю.

---

*) Перадвячорная малітва.

„Наша організацыя ўсё мацнее і набывае ўсё большую популярнасьць у горадзе. Само сабою разумеецца, што ўсе мясцовыя рабочыя з намі. З намі таксама ідзе ўся дэмократычная інтэлігенцыя і дэмократычна настроеныя элемэнты. Група ЕС працуе з намі ў поўным контакце.

Поалей-сіоністы... Наша організацыя штурхнула іх да звычайных сіоністаў. Няхай танцуюць на сваіх вечарынах з так званымі прыстойнымі дзяўчатамі. Рабочыя нічога супольнага з імі ня маюць.

Як абіралі ў гарадзкую ўправу, мы блёкаваліся з мясцовымі эсэрамі, якія працуюць, галоўным чынам, сярод салдат. Побач з эсэрамі ідуць народныя соцыялісты, яны групуюць навакол сябе ўскрайных земляробаў. Такім чынам, у нас аб'ядналіся ўсе соцыялістычныя сілы, блёк стварыўся моцны.

Ва ўсіх мясцовых установах Бунд багата мае сваіх прадстаўнікоў. Нашы прадстаўнікі ўваходзяць у выканком, у думу, знаходзяцца на адказных пасадах".

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Правадыр мясцовых сіоністаў, Бэнцман, аднойчы спыніў на вуліцы Додля-краўца.

— Калі ў нас першае пасяджэньне будзе? Час, ужо час зрабіць вобшчыну.

— Вам, мабыць, рабіць няма чаго? Рака не гарыць. Бомбы ня рвуцца.

— Перадайце камітэту,—пакрыўдзіўся Бэнцман,—што гэта-ж скандал. Паўсюды даўно ўжо працуюць вобшчыны.

Додл пусьціў уход дыплёматыю.

— Дапусьцім, што вобшчына ўжо ўтворана,—але што вы там рабіць будзеце?

Бэнцман загарэўся. Ён абцёр лысіну, якая раптам пакрылася потам, і крыкнуў:

— У нас дзесяцітысячнае яўрэйскае насельніцтва. Хто будзе абараняць яго інтарэсы?

— Па вашай думцы, значыць, мы, бундаўцы, ня маем сіл абараняць інтарэсы яўрэйскіх рабочых?—Додл хмурыў лоб.—У такім разе нам няма пра што з вамі гаварыць.

— Ня ўсе-ж бундаўцы!—крыкнуў з апошніх сіл Бэнцман.

Додл умеў спрытна дапякаць сіоністаў. Ён сказаў:

— Вы пра буржуазію клапоціцеся, а буржуазіі вобшчына непатрэбна. Увогуле, наш камітэт мае прасіць ЦК аб пераглядзе ўсяго гэтага пытаньня. Мы знаходзім, што вобшчына лішні клопат. Такая наша думка.

— Бандыты!—коратка вылаяўся Бэнцман і ўцёк.

Цэлы тыдзень пасьля гэтага Додл, пахваляючыся, апавядаў таварышом пра тое, як ён спрытна падчапіў сіоніцкага верхавода.

— Ух, і ўзяў я яго ў работу.

Найбольшую і апошнюю перамогу атрымала організацыя Бунду ў часе выбараў на яўрэйскі зьезд. Корэспондэнт тэлеграфаваў:

„Сіоністы, а таксама рабінаўскі сьпіс, пацярпелі страшэннае паражэньне. Абодва сьпісы атрымалі разам менш галасоў, чым адзін Бунд“.

Моцная была організацыя Бунду. Адзіная ў горадзе. Можа быць адзіная ва ўсім раёне. Але... меў Бунд пад носам у сябе няпрыкметнага, але злоснага ворага, які шмат разоў атручваў радасьць бундаўскіх перамог, ставіў кіраўнікоў організацыі ў надзвычайнае дрэннае становішча. Ворагу было імя—Глонц.

Сухі, касьцісты, з патропаным тварам, з вачыма надзвычайна вялікімі, коса пастаўленымі, у хутравай шапцы, якая хавала галаву і палову твару, у падранай салдацкай шынэлі—чалавек гэты адштурхваў ад сябе.

Першы час Глонца рэдка сустракалі ў грамадзе рабочых-яўрэяў.

Дзіўных таварышоў падшукаў ён сабе. Увесь час цягаўся з рускімі салдатамі. Цэлымі днямі праседжваў у салдацкіх бараках, заўсёды з яго кішэні тырчэлі пачкі петраградзкіх газэт. Называлі Глонца рабочым-будаўніком, але ніхто ніколі ня бачыў яго на пабудовах.

— Вось гэты хлапец,—казалі людзі,—гандлюе самагонам, сам п‘е гарэлку.

— Але ён заўсёды пры газэтах.

— Што газэты. Самагон у іх заварочвае.

— Агідная асоба.

— Так. Тып дэклясаванага яўрэйскага рабочага.

— Крот. Сапраўдны крот!

— Робіць гадкае ўражаньне.

— Адразу відаць—дэфэктыўны. Тып злачынца.

— Паразыт!

— П‘яніца!

— Злодзей!

— Адным словам, Глонц!

Толькі аднойчы Глонц зьявіўся на сход Бунду. Ён адразу папрасіў слова. Яго зьяўленьне на трыбуне (сход адбываўся ў сынагозе) выклікала сапраўдную сэнсацыю.

— Кажу вам загадзя,—пачаў Глонц голасам, які выклікаў шмат у каго дрыжыкі (а старшыня нахіліўшыся да свайго суседа, шапнуў яму: „антыпатычная пэрсона“),—кажу вам загадзя,—пачаў Глонц на ламанай расійскай мове,—што я, таварышы, ня бундавец і ніколі бундаўцам ня быў і ня буду.

Прысутныя зарагаталі. Паасобныя галасы пачалі патрабаваць „спыніць гэтую комэдыю“, прагнаць Глонца з трыбуны. Бяскроўны твар прамоўцы яшчэ больш зьбялеў. Глонц спакойна чакаў, пакуль сьціхне шум.

— Бунд, кажаце вы, рабочая організацыя?—нарэшце гаварыў ён далей,—але вось спытаюся, чаму гэтая рабочая організацыя прымае ў свой склад крамнікаў, гандляроў, спэкулянтаў? Хіба гэтыя зайцы могуць змагацца разам з намі за соцыялізм?

Сход зноў забурліў.

— Прэч. Ганеце яго з трыбуны!

— Хай говорыць, кажы, кажы—імкнуўся перакрычаць усіх, выклікаючы зьдзіўленьне ўсяго сходу, Додл-кравец.

Аднак далей гаварыць было немагчыма. Глонц сышоў з трыбуны.

— Яго паслалі да нас сіоністы,—кінуў думку нехта з публікі і з ёю згадзілася большасьць сходу.

У піку шчырым бундаўцам Глонц пачаў часта хадзіць на сходы організацыі. Ён заўсёды браў слова, выступаў з вымаганьнямі, якія гучэлі вельмі дзіўна для вушэй шмат каго з прысутных. Яшчэ адно: ён пачаў гаварыць па-яўрэйску.

— Патрабуйце, таварышы, стварэньня рабочага клюбу. Мы павінны адчыніць клюб для рабочых, толькі для рабочых.

Ці:

— Я вось наведваю сходы Бунду. І заўважаю адно: вы змагаецеся выключна з сіоністымі, пра іх толькі і крычыцё. Падумаеш, якая важная справа. Шмат важней разабрацца ў пытаньнях, высунутых рэволюцыяй. Петраградзкія рабочыя ідуць зусім па іншым шляху. Трэба спытацца ў сябе, што з сябе ўяўляе Керанскі? Куды вядзе наша рэволюцыя? Ленін кажа...

Нязвычайна мяцежна гучэла прамова „гэтага хама ў поўным сэнсе слова“. На сходах-жа прысутнічалі бундаўцы з 15—20-гадовым стажам.

— Закрый свой фонтан,—ня вытрымліваў хто-небудзь з ганаровых.— Новы опэкун рэволюцыі знайшоўся. Смаркач!

— Глонц!

— Самагон прадай!

Так звычайна крычалі з месц, а старшыня, абарочваючы да Глонца свой сумуючы твар, спыняў яго:

— Таварыш, вы не да справы гаворыце. Даволі!

Але Глонц, як нейкая немач, як стыхія, як лёс, прымушаў людзей размаўляць з ім. Гаварылі з жаласьцю, з гіроніяй, з гневам, але зусім замоўчваць яго выступленьняў ніхто ня мог.

— Мабыць, усё-ж у яго ў галаве нешта варушыцца,—асьмельваліся заўважыць некаторыя.—Нечага-ж ён хоча.

— Глупства,—адмахваліся другія.—Нахапаўся бальшавіцкіх баек. І ён кажа „ўчрадзілка“, а не ўстаноўчы сход. Я-б яму схвастаў у морду, гэтаму балбатуну.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## V. Глонц дзейнічае

На поўдні, на поўначы, усходзе і захадзе разгараліся вялікія баі. У магутнай схватцы сашчапіліся два сьветы. І кожны з бакоў, што змагаліся, кідаў у бойку ўсё новыя хмары байцоў. Нейкая невядомая магутная сіла выкінула ворага з ціхіх, утульных, сытых, вякамі абжытых месцаў. Малады пераможца, худы, змардаваны, са скручанымі пальцамі, з запалымі грудзьмі, брудны і па-жабрачаму апрануты, усё далей, усё хутчэй гнаў ворага, які ўжо падобны быў на чараду спалоханых сьвіней, абкружаную з усіх бакоў спрактыкаванымі паганятымі, з даўгімі бізунамі ў руках. Ня можа чарада хоць на момант спыніцца, ці зьвярнуць у бок, бо балюча хвошча доўгі бізун па тлустых бакох сьвіней, пятлёй абвіваецца навокал вушастых галоў, высьцябаючы заплыўшыя тлустасьцю вочы.

Дваццацітысячнае насельніцтва гораду назірала за вялікім змаганьнем і за тым, як трымае сябе пераможца. Толькі малую частку насельніцтва натхняла гэтае змаганьне і гэтыя перамогі. Сотні і тысячы прыгнечаных ня верылі ў посьпехі пераможцаў і з хвіліны на хвіліну чакалі націску новых сіл ворага, які зьнішчыць, скрышыць мяцежнікаў і тых, хто спачувае ім.

А людзі з клясы сытых, толькі ўчора прагнаныя з багатага папасу, штодзень уцягвалі ноздрамі горкае паветра і зьвярыным сваім чуцьцём пазнавалі блізасьць ворага.

У доме ў Алтара зачынілі ўсе вакеніцы, узялі на зашчапку дзьверы, некуды выправілі на ноч служанку і, запрасіўшы цесьця і цешчу, прыступілі да працы.

— Першым чынам, куды падзець золата?

— Для золата, дачка мая, у мяне на прымеце добрая мясьцінка. Вось гліна, і вось сякера. Трэба выдзяўбсьці з задняй сьцяны печы дзьве— тры цагліны і замураваць там золата.

— А гадзіньнічкі, а пярсьцёнкі?

— Як-жа іначай? Усе каштоўнасьці туды пакладзем.

— А не сапсуюцца яны там?

— Ах, лепшай мясьціны ня трэба.

— А срэбра?

— Вось. Са срэбрам горш справа. Срэбра прастор любіць... Быць можа, паглыбіць склеп? Паглыбіць і ў яму паставіць скрынку, добра прычыніць яе і зьверху засыпаць зямлёй?

— А нікеляваны самавар?

— Самавараў не адбіраюць.

— Самавары таксама адбіраюць.

— А мікалаеўкі?

— На золата зьмяніць. Яны ляжаць за хлевам. Трэба паглядзець, ці не падмочаны яны.

— Прынесьці, прынесьці. Высушыць, адпрасаваць і прадаць. Сёньня-ж прадаць.

— А раптам нас высяляць з дому?

— Тады дрэнна. Але трэба спадзявацца, што яны доўга не пратрымаюцца.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сонны горад патануў у акіяне ночы. Цяжкі сон напаў на людзей, перамог іх, і пустымі і чорнымі былі вуліцы.. Завые сабака, закрычыць певень—і зноў зьнямее ноч.

Толькі ў двух дамох ня спалі людзі. У адным доме разлажылі на доўгіх арыстократычных абедзеных сталох, на крэслах, на ложках, на падлозе мокрыя шматкі асыгнацый у сто і дваццаць пяць рублёў. А ў заднім пакоі прыбудоўцы, у акруговым выканкоме, сядзелі пяцёра і спрачаліся, ці напасьці адразу на ўвесь горад, ці здаволіцца дзесяткам выбраных дамоў і зараз-жа, у гэтую-ж хвіліну прыступіць да справы.

Перамагла другая прапанова.

І вось Глонц і яго два таварышы, прыежджыя, набілі сьвежым абоймамі наганы і пайшлі ў ноч.

На аднэй з вуліц ім бліснула ў вочы істужка сьвету, якая прабівалася праз шчыліну ў вакеніцах. Трое падыйшлі да дзьвярэй і пазванілі.

— Хто звоніць?

— Адчынеце! Зараз-жа!

— Хто гэта?

— Глонц. Адчынеце-ж!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А назаўтра мясьнікі закупілі для гарнізону дваццаць пяць галоў буйнай рагатай жывёлы за наяўныя грошы. І атрымалі служачыя думы, нават вартаўнік, за цэлых тры месяцы пэнсію, а таксама авансы... І дадзены быў мясцовым шаўцом заказ на трыста пар ботаў для гарнізону. І дадзена было профсаюзам пазыка на безадкладныя патрэбы, а загадчыка нардому камандыравалі ў Маскву, загадалі яму закупіць электрычную апаратуру для кіно, якое пачне працаваць па-новаму. І яшчэ адпусьцілі і гарадзкой турме пяцьдзесят пудоў жытняе мукі.

У той-жа дзень, у пасьляабедзены час, пад'ехаў Глонц з двума ламавозамі пад дом, у які ўчора ўначы заходзіў. Наган боўтаўся ў яго пры боку.

Фурманы пачалі з пісьмовага стала, яны яго паклалі вельмі выгодна нагамі ўгару, потым яны згрэблі два даўнейшых крэслы, тузін аксамітных крэслаў, два нікелевых ложкі і толькі пад канец адкруцілі ад раялю тры чорных нагі і з цяжкасьцю вынесьлі рояль з дому.

— Усё забрана?

— Канапа! Канапа!

Калі фурманы выносілі канапу, вулічныя хлапчукі ўжо прабавалі клявішы раялю.

— Дадому марш, гультаі,—крычаў фурман Мойша.

Ложкі Глонц адвёз на кватэру старшыні выканкому. Там яго спаткала маладая жанчына, яна цёпла ўсьміхалася. Мяккую пышную канапу паставілі ў прыймовай выканкому, дзе яна стаіць і дагэтуль. Рабочыя тады ўжо любілі пасядзець і жартліва пагушкацца на ёй.

А ў доме, дзе так нядаўна сушылі мікалаеўскія асыгнацыі, у доме, дзе людзі не пасьпелі замураваць кубэлак з золатам, вызваліліся дзьве мужчынскія пасьцелі,—іх гаспадароў перавялі ў другую кватэру, менш выгодную, але затое вельмі пэўную, моцна атынкаваную ў сярэдзіне і знадворку, а Глонцу і яго сябру Пётру з Лесарубаўкі далі добра мэбляваны пакой якраз у доме гэтых гаспадароў і да вечару яны абодвы пасьпелі прыстроіцца ў ім.

У вечары адчынілася чарговае паседжаньне гарадзкой думы. Узрушаныя начнымі візітамі Глонца, зьявіліся на паседжаньне ўсе гласныя, пачынаючы ад бундаўцаў і канчаючы народнымі соцыялістамі і польскім Коло. Гласныя на гэты раз зьявіліся дакладна ў час.

На стале старшыні думы ляжаў бліскучы белы разгорнуты, акуратна разьлінаваны аркуш паперы, з выразна надрукаваным на машынцы сьпісам гласных па прозьвішчу, імю і па бацьку. У канцы кожнага радка ўсьміхаліся вабныя лічбы.

— За месяц—пяцьсот рублёў, за тры месяцы—тысячу пяцьсот.

— Таварышы,- падняўся з месца адзін з гласных, народны соцыяліст.— Пачуцьцё таварыскасьці прымушае мяне падпісацца і браць пэнсію ад Савету рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў. Але, атрымліваючы гэтую тысячу пяцьсот рублёў, якія, паміма ўсяго, па сутнасьці дробязь згодна курсаў,—атрымліваючы гэтыя тысячу пяцьсот рублёў, я заяўляю што ад гэтых асыгнацый пахне чужым потам і чужой крывёю, ад іх нясе спэцыфічным пахам, хай прабачаць мяне таварышы бундаўцы,—ад іх пахне Глонцам. Што датычыцца Глонца, я думаю, у нас думкі не разыходзяцца... Так? Не разыходзяцца. Прашу сакратара зафіксаваць... Тут адзін яўрэй абрабаваў другога яўрэя—гэта яшчэ можна апраўдаць. Але я маю на ўвазе бедных сялян-салдат, якія праліваюць кроў за ўсіх нас. Вы павінны прызнаць, што колькасьць яўрэяў у арміі вельмі невялікая— так, я прашу гэта зафіксаваць... вельмі невялікая.. Так. І вось. Глонцы дзейнічаюць у нас у горадзе сярод сваіх аднаверцаў, такое становішча яшчэ цярпіма. Але, калі яны ўрываюцца ў цэрквы і манастыры, якія мільёны маіх братоў глыбока шануюць да сёнешняга дню... Я кажу, мільёны маіх братоў, бо паходжу з вёскі, бацька мой быў селянінам. Так, селянінам. Калі Глонцы, значыць, зьневажаюць сьвятыні нашых цёмных сялян,—вось тут я ўжо ня ведаю, якая чашка вагі пераважвае, ці зьдзек над мільёнамі сапраўды веруючых, ці мая прыналежнасьць да партыі народных соцыялістаў... І калі я вось зараз спатыкаю дзьве маніфэстацыі—адну з абразамі наперадзе, з харугвамі, сьвяшчэньнікамі, і другую, якую вядзе Глонц... Я... прашу зафіксаваць гэта... Тады, тады, мне цяжка

гаварыць... Сьлёзы душаць мяне... Я бы пайшоў з маім праваслаўным народам, я бы зьліўся з братамі маімі.

І гласны сеў на сваё месца.

Яшчэ не пасьпеў сход ачуняць, ашаломлены прамоваю гласнага, як у дзьвярох вырас Глонц, у новым кажусе, з портфэлем пад пахай і рэвольвэрам пры боку. Яго твар зьзяў... Правае вока, якое звычайна вышэй сядзела за левае, на гэты раз нібыта зьнізілася і новы незнаёмы выраз надало твару Глонца.

Дзіўная ціша ў паветры. Дзесяткі галоў спусьціліся нізка, нізка, сотня вачэй зьбянтэжана пазірала на сьцяну наперадзе, на стол, у кут, але не на Глонца, якога не хацелі бачыць.

— Прашу слова для пазачарговай заявы. Ад імя Губвыканкому рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў абвяшчаю гарадзкую думу распушчанай. На сваіх пастох могуць застацца толькі наступныя таварышы (Глонц пералічыў некалькі прозьвішчаў). Астатнія гласныя атрымліваюць месячную пэнсію і з гэтага моманту перастаюць называцца гласнымі.

Загрукацелі рассунутыя крэслы. Прысутныя падняліся з месцаў, ад нямога хваляваньня твары ва ўсіх былі чырвоныя і пакрытыя потам. Аднак, знайшоўся адзін чалавек, які падышоў да Глонца, працягнуў яму руку і весела сказаў:

— Тут пахла здыхляцінай, калі ня горш. Вы ў час прышлі, таварыш. Хай жыве Савет дэпутатаў! Перадайце, таварыш, што я ганаруся тым, што трапіў у лік некалькіх чалавек, якім саветы давяраюць.

Вартаўнік думы хадзіў вельмі зьбянтэжаны і ўсё сумняваўся, ці абавязаны ён цяпер падаваць гласным футры. Хіба яны хворыя самі апрануць іх? А раптам таварышу Глонцу не спадабаецца?.. Шкада, што Глонц ня ў шубе. Вось бы яму прыслужыць—чым ён горшы за былых гласных.

## VI. „Глонц учыняе пагром“

Паважаныя гаспадары і гаспадынькі стаяць па нядзелях на варце за гарадзкой мяжой і добрымі весткамі спатыкаюць сялян-беларусаў, якія накіроўваюцца з вазамі ў горад.

— Дровы і сена, і калёсы, і бочкі, і кару, і дзёгаць—не вязеце браточкі ў горад, адбяруць.

Зловіць селянін лейцы левай рукой, пугу схопіць правай рукой і гайда назад да бясьпечнай зоны. Адлічыць некалькі прыдарожных слупоў і спыніцца. За ім другі, трэці... І вось весела робіцца за горадам, сэрцы паважаных гаспадароў і гаспадынек, якія ўсё жыцьцё правялі на далёкай і бруднай ускраіне, расьпірае радасьць.

— Рынак да нас пераехаў Хэ-хэ...

Залазіць селянін усёй пецярнёй у даўно нямытыя валасы, патыліцу шкрабе, за каўняром шукае—пытаецца з тугою ў голасе;

— Хто-ж адбярэ?

-- Глонц.

— Які гэта Глонц?

— Ну, камісар Глонц.

— Як гэта адбярэ?—ня можа зразумець селянін.

— Возьме і адбярэ. Цяпер няма—маё. Наша цяпер. Усё наша. Комуна, брат!.. Каму так, каму не...

— А авёс?—пытаецца нясьмела селянін.

— Ах ты дурань. Пра авёс пытаешся. Ты думаеш, што казённыя коні тваім аўсом задушацца?

— Не, добры авёс вязу.

— Пакалькі пуд?

— За дзесяць фунтаў солі аддам.

— Які-ж ты разумны, аднак. Аднак. Чатыры хунты даю. На рынку, ведаеш, колькі атрымаеш за свой авёс?

— Што?

— Квітанцыю, ха-ха-ха... Паперку.

— Як гэта... Чатыры фунты за пуд?

— Менш таргуйся, сьпяшайся. А то яшчэ зловяць. Глонц гэта хлопец—о-о-о... Ён усюды пралезе.

— Як кажаш—Глонц?

— Ну, так, Глонц.

— Бач, чорт... Добра, куды везьці? За пяць хунтаў аддам.

— Не, чатыры даю. Памятай, потым таней прадасі.

Узьбіраюцца нарэшце здаволеныя гаспадары і гаспадыні на драбіны і разам з селянінам падганяюць пузатых, каротканогіх коняй. Конік бяжыць млявым трушком, трымаючы спушчаныя лейцы ў руках, падскаквае за драбінамі селянін.

Калоцяцца жываты ў каня і яго гаспадара, лапці топяцца ў балоце.

Шырока расчыняюцца рыпучыя вароты, купцы ўяжджаюць у двор і, сьпяшаючыся, баючыся нечаканасьці, дапамагаюць селяніну разгрузіць воз. Потым выцягваюць з цёмнага кутка мяхі з шэрай конскай сольлю, адважваюць селяніну скупую порцыю яе і, зачыніўшы за ашуканым прадаўцом вароты, ідуць радасныя і шчасьлівыя ў пакоі.

— Пакуль Глонц разьвернецца, пакуль пачнецца гэтая самая комуна, я нарыхтаваў на зіму дровы і трохі хлеба, і трохі сена, і аўса, і бульбы. Вось карова ацеліцца—будзем з мясам і малаком. Уласна кажучы, уся соль... у солі. Селянін бяз солі ня можа жыць. Трэба было-б купіць яшчэ некалькі пудоў солі і схаваць яе ў высеўках.

А сяляне вяртаюцца ў свае вёскі з пустымі вазамі, і толькі пад сядзеньнем парыцца ў мяху некалькі хунтаў конскай солі ды за пазухай у селяніна трасецца некалькі карабкоў з запалкамі. Цяпер селянін на рынку не разгуляецца. Усе крамы—і жалезныя і мануфактурныя і якія збожжам гандлююць—закалочаны, з іх вывезены і недзе далёка і глыбока захованы тавары. Але, багатыя мужыкі ведаюць, дзе і як купляць

цьвікі і мануфактуру. Яны ўяжджаюць у горад глухімі, забалочанымі завулкамі, спыняюцца каля знаёмых крамнікаў. У шырокіх панадворках па-гаспадарску адпрагаюць коняй, адвальваюць крамніку мех з бульбаю і потым разам з ім расьпіваюць гарбату з сахарынам, на які гаспадыня ня скупіцца. А пасьля абеду, перахрысьціўшыся шырокім крыжам, ідуць у царкву.

А Глонц яшчэ пацягваецца ў сваім ложку, ахутваючыся ў байкавую коўдру, просіць Пётру кінуць яму папяросу і запалкі.

Нарэшце ён паднімаецца, адсоўвае фіранку і, пазіраючы на вуліцу, успамінае, што сёньня яму трэба выйсьці ў горад раней, выцягвае з-пад падушкі дзьве проклямацыі, якія ён надоечы сарваў з плоту яшчэ мокрымі ад клею.

— „Людзі праваслаўныя“,—пачынае ён чытаць, але з далейшым тэкстам справіцца ня можа.

За апошнія месяцы Глонц крыху навучыўся грамаце. Газэту чытае амаль добра, яму таксама больш зразумелымі зрабіліся паперкі, якія друкуюцца на машынках. Але з пісьмовым тэкстам у яго нічога ня выходзіць. Ні аднэй сапраўднай літары не знайсьці там. Хіба гэта „з“? А гэта „р“? А вось такая чарвяточына... Няўжо „т“? Ён зайздросьціць сваім таварышом, калі тыя бегла чытаюць розныя тэксты, асабліва зайздросьціць машыністцы—яна розныя почыркі разьбірае.

— Пётра, прачытай яшчэ раз,—просіць Глонц.

— Дрыжыш, чорт. Баішся?—задушаць цябе.

— Калі ўжо да гэтага дойдзе—дык нас абодвух задушаць—чытай.

Пятру ня хочацца вылазіць з-пад добрае цёплае коўдры, і вось чытае ён лежачы на сьпіне:

„Людзі праваслаўныя!

Прыходзьце ўсе ў царкву на богаслужэньне. Давядзеце, што наша рэлігія дорага нам, што мы не дазволім жыдом і антыхрыстам зьдзекавацца над намі, як яны зьдзекуюцца над нашымі сьвятынямі і манастырамі, якія яны гэтымі днямі абрабавалі пад Петраградам. Хіба нас так мала? Ці мы дурныя, ці ня маем сілы, што дадзім усякім Глонцам таптаць нас нагамі?

З намі бог“.

„Праваслаўныя людзі“

Глонц, сьпяшаючыся, нацягнуў штаны, басяком падышоў да тэлефону,

— Старшыню выканкону можна?.. Дык вось, у царкве сёньня адбудзецца мітынг. Маюцца пагромныя лістоўкі. Яны пішуць, што „з намі бог“. А з намі... павінен быць хоць дзесятак конных. Міліцыя хай узмацніць пасты.

— Глупства, нічога ня будзе. Яны пагаворацць, паплачуць і разойдуцца па хатах.

— А я лічу, што хто-небудзь з нас павінен сёньня прысутнічаць у царкве.

— Што-ж, калі хочаш—прысутнічай... Чым рызыкуеш? Апрача рэбраў у цябе нічога не зламаюць. Ха-ха-ха...

Як толькі Глонц раззлаваны пачаў насоўваць боты (анучы, чорт вазьмі, так і ня высахлі), раздаўся стук у дзьверы. У пакой увайшоў Ісроэл і адзін бундавец, пакінуты на працы ў управе. Ён быў нечым спалоханы. Выцягнуў Ісроэл з кішэні некалькі штук пагромных праклямацый і падаў Глонцу.

— Разам з маімі дзьвюма будзе пяць,—засьмяяўся Глонц.

— А вы таксама сарвалі?

— Так, два экзэмпляры. Вось яны.

— Што-ж рабіць? Пахне пагромам.

— Нічога страшнага... Быць можа, сходзіце ў Выканком да старшыні?

— А я думаю, каб вы пайшлі.

— Мне некалі, іду ў царкву.

— У царкву? Вы ў сваім розуме?

— Я павінен паглядзець бандытаў. Хай будзе што будзе.

— Я-б вам ня раіў рабіць гэтага... Не, не... я вас проста ня пушчу ў царкву. Вас заб'юць, Глонц.

— Мяне, Глонца?

— Я сур'ёзна думаю.

— Не, браткі, у царкву ўсё-ж ткі пайду. Але вось што: вы заўсёды ў тэатры круціцеся... Апранеце мяне як трэба. Ну, хоць-бы ў салдацкую адзежу. Пётра, даволі спаць. Ты насі мой кажушок, а я апрану тваю шынэль.

— Я рашуча адмаўляюся,—усхваляваўся Ісроэл.—Вам нельга ісьці ў царкву. Ваш камітэт не павінен вам дазволіць гэтага.

— У вас, ці ведаеце, бундаўскі падыход,—упікнуў Глонц,—прашу вас, ну, вусы прыляпеце, бародку... Хай жыве пролетарская дыктатура.

Ісроэл зьнік на некалькі хвілін. Вярнуўшыся, ён узяўся за працу.

— Вы здагадваецеся, чаму я вам падвожу правую брыву?—гаварыў ён паміж справай. Каб левае вока не здавалася прыўзьнятым.

— Вас выдаюць вочы... Яны ў вас сядзяць... Левае выскачыла нязвычайна высока. А ну, пакажэцеся яшчэ раз... Добра. Я ўсё зрабіў для таго, каб вас не пакалечылі ў, так званым, сьвятым месцы. А ўсё-ж я вам параю добра падумаць. Вы вельмі рызыкуеце жыцьцём.

— Яшчэ аб адным прашу вас,—гаварыў спакойна Глонц, нібы зусім не прыслухоўваючыся да парад грымёра.—Як-небудзь выклічце маладую гаспадыню з сталовай. Будзе карысьней, калі яна мяне ў гэтым убраньні ня ўбачыць... Яна ня супроць таго, каб я памяняўся месцам з Алтарам: яго з турмы, а мяне ў турму. Калі-б гэта залежала ад яе, яна-б з большай прыемнасьцю дала мне месца на „беленькім пясочку".

Ісроэл яшчэ раз паправіў левую брыву Глонца і застаўся здаволеным сваёй працай.

— Як ваша думка?—зьвярнуўся ён да Пётры,—пазнаюць яго?

З дзіцячай цікавасьцю пазіраў шыракаплечы Пётра на Глонца. Ён захапляўся.

— Спрытна. І ніхто цябе, Глонц, не пазнае. Я вось не пазнаю цябе.

Ісроэл вышаў разам з Глонцам. У сталовай Глонц паглядзеўся ў люстэрка і не пазнаў сябе. Вельмі бадзёра вышаў ён на вуліцу.

Ісроэл накіраваўся на кватэру старшыні выканкому.

— Вы як, лічыце сапраўды становішча сур'ёзным?—разважаў старшыня.—Узмоцненая варта мае і свае адмоўныя бакі. Вораг пачынае занадта верыць у свае сілы, пачынае лічыць сябе неперараможным. Гэта надае яму бадзёрасьці.

— А я думаю,—пярэчыў Ісроэл,—што добра ўзброеная варта, наадварот, паслабіць дух мясцовых кулакоў. Па сутнасьці ўсе яны трусьлівы народ. Яны героі тады, калі не сустракаюць супраціўленьня. Мая думка, што абарону трэба ўзмацніць.

— Добра... добра... Вы выяўляеце залішнюю нэрвовасьць. Глонц таксама званіў мне.

— Глонц?

— Чаго вы дзівіцеся?—супакойваў Ісроэля старшыня. Званіў гадзіну назад... Я выстаўляю дзесятак конных, міліцыю ўзброю вінтоўкамі. Трэба думаць, што гэта зробіць уплыў на тых, што моляцца. Хопіць, праўда?

— Як відаць, хопіць.

Ісроэл надзвычайна здаволены выходзіў з выканкому. Ён думаў, мы ня ўмеем працаваць. Нас ня слухалі. А гэтыя не цырамоняцца, не вагаюцца. У іх усё робіцца моцна, катэгарычна.

А Глонц тымчасам ужо прашоўся па некалькіх вуліцах, перасек пусты рынак—і вось ён ужо каля царквы. Наперадзе яго дыбае некая сялянка, крок у крок за ёю падымаецца ён па каменных сходках царквы і раптам спыняецца, бялее: і ён, і Ісроэл забыліся зьмяніць яго старую, шмат каму знаёмую, шапку. Ці ня позна вярнуцца? Добра,—тут-жа вырашае Глонц. Ён здымае з галавы шапку і, жагнаючыся, уваходзіць у царкву, прабіраецца скрозь густы натоўп наперад. Ён цяпер шукае вачыма знаёмых—не знаходзіць. Сьпявае поп, яму дапамагаюць мужчынскія і жаночыя галасы. Сялян у царкве мала.

Нечакана Глонц убачыў непадалёку ад сябе двух знаёмых паштовых чыноўнікаў. Ён павярнуўся да іх сьпіной, і вочы яго ледзь не спаткаліся з затуманеным поглядам народнага соцыяліста. Народны соцыяліст маліўся, з выглядам замілаванасьці і жалю на твары. У соцыяліста пляскаты твар з жоўтаватым бляскам. Яшчэ мацней блішчаць яго рэдкія валасы, зачэсаныя на прабор, і яго нявысокі лоб.

Служба, нарэшце, скончылася, і поп, нясьмела аглядаючыся, пачаў казаньне. З кожнай хвілінай прамова яго рабілася ўсё больш упэўненай і крыклівай.

— ...Ізноў надышоў сумны час... Мы ведаем прыклады з расійскае гісторыі, калі маці-Расіі нашай ня раз пагражала небясьпека. Але ўвесь час яна выходзіла з цяжкага становішча. І вось цяпер мы зноў перажываем цяжкі час... Выганяюцца сапраўдныя рускія людзі. Улада ў руках антыхрыстаў—яўрэяў і палякаў. У нашым горадзе таксама ашукваюць сялян і гарадзкі праваслаўны люд. Хто цяпер служыць у канцэлярыях? Хто кіруе горадам?—Кажуць пра нейкага Глонца... Я яго ня ведаю, ён зусім малады, але ён распараджаецца ўсімі, ён забірае ў сялян апошні воз з дровамі, ён рабуе ўсіх і ўсё... Хто ведае, быць можа ён ужо рыхтуецца, па прыкладзе яго аднаверцаў у іншых гарадох, напасьці на нашу бедную царкву.

Шум нарастае ў царкве. Чуюцца выклікі.

— Злавіць Глонца і выпусьціць яму кішкі.

— Браткі, пойдзем біць яўрэяў!

— Бі жыдоў!

— Я заклікаю вас да супакою,—сказаў поп,—малітоўна працягваючы рукі. Не забывайцеся, дарагія прыхаджане, што новая ўлада абараняе яўрэяў.

— Жыдоўская ўлада,—зараўла ўся грамада,—зьнішчыць жыдоўскую ўладу.

— Зьнішчыць уладу. Бі камісараў!

Глонц прасоўваўся бліжэй да дзьвярэй. Яшчэ пяць крокаў—і ён на волі, па-за гэтай, распаленай злосьцю, грамадой. Але два мышыных вочкі аднекуль з боку раптам зірнулі на яго, востра і злавесна глянулі, гэта народны соцыяліст убачыў Глонца, але ня мог вырашыць, ці ён гэта. Нібы ўжалены зароў народны соцыяліст на ўсю царкву.

— Браткі, Глонц у царкве!.. Вось Глонц!.. Лавеце Глонца!..

Поп крычаў.

— Заклінаю вас сьвятым крыжам!.. Згубіце сябе... і мяне... і мяне!..

Дарэмна! Людзі ўжо кінуліся шалёнай чарадой з царквы з крыкамі:

— Глонц!..

— Глонц!..

— Лавеце Глонца!..

Глонц скакаў па сходках царквы ўніз да брамы—вырваўся. Паштовыя чыноўнікі гналіся за ім, яны як-бы стаялі на чале натоўпу прасьлядоўцаў. У кірунку да рынку імчаўся Глонц... Ніводнага міліцыянэра... З правае кішэні выцягнуў набіты наган. Стрэліў. Прасьлядоўцы дрогнулі, разьбіліся на некалькі кучак. Убег у нейкі двор, зачыніў за сабою фортку. Пераскочыў праз адзін плот, праз другі, ускочыў у чужую пралётку.

— Гані пад вакзал!

Прыехаў.

— Дайце Губвыканком... Станцыя? Дайце Губвыканком...

Станцыя не адказвае. З боку гораду даносяцца адзіночныя стрэлы, крыкі, далёкія крыкі, як у часе пажару.

У горадзе пагром.—Убег на тэлеграф падагнаны сьмяротным страхам рамізьнік.

— Просты провад з губэрняй,—кідаўся Глонц.—Гатова?.. Дзяжурны Губвыканкому?.. Уласаў?.. У горадзе пагром. Тэрмінова шлеце дапамогу... Контррэволюцыя ўзьнімае галаву...

Праз гадзіну ў горад уварваліся тры бранявікі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## VII. Данос на Глонца

Маліто́ўны сход „маладых“ хвалюецца.

Новасьпечаныя багацеі, маладыя гаспадары, якія атрымалі ў спадчыну ад сваіх бацькоў ганаровыя лаўкі каля ўсходняй сьценкі і буйныя, вайной узгадаваныя гандлёвыя, справы,—гарачыя гэтыя малойчыкі мітусяцца па сынагозе, вымольваючы ў кожнага парафіяніна па слову для прашэньня.

— Трэба ў прашэньні адзначыць, што Глонц ўцягвае ў няшчасьце целы горад, што ён разбурае цэлую акругу,—сказаў выходзячы з сынагогі рабін.—Апрача таго, абавязкова трэба адзначыць, што грамада падтрымлівае ўладу.

— Міністэрская галава—а... Нібы без яго ня ведаем. А што-ж напішам, што мы супроць улады?—злуецца нейкі крамнік.

— Давайце абгаворым гэта пытаньне. Па-першае, куды адрасаваць прашэньне? У губэрню ці сюды? Калі мы пададзім тут, дык трэба сабраць некалькі рублёў.

— А каму ты мяркуеш унесьці грошы?

— Вядома каму, старшыні.

— Ну, ён грошы ня возьме.

— Я не кажу, што іменна ён возьме. Жонка яго возьме, і гэта ўсё роўна.

— О, калі-б можна было пагаварыць з ёю, трэба раней пагутарыць з Глонцам.

— Але-ж ты сам даносіш на Глонца, ідыёт. Схавайся там, Цалке з мясных радоў.

— Я ня хачу, каб мною затыкалі ўсе дзіркі.

— А ты не ганарыся, Цалке. Яшчэ грошай табе не давяраюць. Гэта, па-першае. Па-другое, ці паслаць заяву ў конвэрце, ці адправіць дэпутацыю? Калі спынімся на дэпутацыі, дык трэба ведаць, каго вызначыць. Не пашкодзіла-б прапанаваць і бундаўцам...

— Бундаўцы з табой ня пойдуць.

— ...Гэта, па-другое. Па-трэцяе, што мы ў заяве напішам? Першым чынам трэба вызваліць сьвяшчэньніка. Гэта павінны мы пісаць, заспакоіць насельніцтва. Довад—ён-жа да пагрому не заклікаў? Жонка старшыні—набожная баба, яна падтрымае нашу просьбу.

— А што будзе з арыштаванымі яўрэямі—Алтарам і Шлойме?

— Гэта ня наша справа. Не падабае нам... яны спэкулянты.

— А ты хто?

— Хто я—ведаеш ты, а хто ты—ведаю я. Ён страшыць мяне паходжаньнем, дурны. Знайшлі час, каб хадайнічаць за арыштаваных яўрэяў. Дык вось асноўнае пытаньне—гэта наконт Глонца. Мы павінны патрабаваць, каб яго прыбралі з гораду. Вы над рабінам ня сьмейцеся: мы так і напішам—стаім за ўладу, але Глонц нам непатрэбны. Карайце нас золатам, але не крывёю... Так... А калі пазбавімся ад уласнай балячкі, тады будзем ведаць, на якім мы сьвеце. Непатрэбны нам яўрэйскія бальшавікі, янія ведаюць, што ў каго ў гаршку варыцца.

— Ці жарты, о-го Глонц! Хто рэквізуе—Глонц. Хто канфіскуе—Глонц. Хто на нас накладае кожны дзень новыя контрыбуцыі?—Зноў Глонц. Хто пасадзіў сьвяшчэньніка ў вастрог?—Ён-жа. Хто так страшна пакараў Шлойме і яго зяця?—Усё Глонц, Глонц...

А старшыня нібыта ня шкодны тып. Нават вельмі цікавы, будзь ён пракляты... Сапраўдны забойца.

— Нічога падобнага. Зносны чалавек... Але ў цябе, кажуць, канфіскаваныя боты ды валёнкі. Што-ж, тут ты можаш быць у прэтэнзіі.

— А ты рукі націраеш ад злараднасьці? Ты мне лепш скажы куды падзеўся твой вагон з цьвікамі?

— Колюць цябе мае цьвікі, га?

— Бо ты злодзей і гад.

— Я злодзей? Яўрэі, чуеце, ён мяне кліча злодзеем.

— Зачыні плявацельніцу, зладзейская морда.

— Сабачы скурадзёр! Што ты мне зробіш?—скажы! Маіх сабак ня выпатрашыш? Хай...

— Паслаць да цябе з пяцьма падводамі... Туды за гумно, пад сьмецьце—гэта, здаецца мне, здолею зрабіць.

— Каб за табой і за тваёй камісарыхай катафалку паслалі,—абазвалася зьверху з жаночай палавіны жонка гандляра цьвікамі.—Мае цьвікі яго колюць у сэрца... Ідзі лепш дадому і пасачы за сваёй жонкай. Яе камісара тут у сынагозе няма, а ў царкву ён таксама ня ходзіць. Сорам табе. Мае цьвікі яго колюць.

— Аратарка? Зачыні сваю ляпу, аратарка. Што гэта за словы ў сьвятым месцы?..

— Сапраўды—крычаць унізе,—лемантаваць і клясьці няма чаго. Калі ў яўрэя канфіскуюць яго цьвікі, мы ад гэтага не пабагацеем.

— Гэта правільна.

— Далей. Куды дэпутацыя пойдзе—дадому да яго?

— Дома ён ня прымае.

— Ён павінен прыняць. Ён мусіць прыняць. У выканкоме заўсёды сапраўдны кірмаш. Там можна сустрэцца з усякім чортам, якраз на Глонца і нарвешся... Але давайце паслухаем, што-ж ён там напісаў.

Пісака нізкі на вочы малады чалавек з акулярамі на носе, устае з-за стала і ідзе да самай вялікай кучкі народу. Яго ўсе абкружаюць.

— Я пішу на імя старшыні, а ня ў губэрню.

— Пачынай... Цішэй...

— З таго часу, як новая ўлада ўзяла горад у свае рукі...

— Савецкае ўлада,—папраўляе нехта.

— Яж так і думаю, савецкая ўлада...

— Трэба пісаць, а ня думаць.

— Дайце яму чытаць далей.

— Савецкая ўлада, наш горад не адставаў ад суседніх гарадоў, як у сэнсе ўпарадкаваньня арміі.

— Чырвоную гвардыю пішы.

— Я-ж так і думаю... Чырвонай гвардыі, так у выкананьні іншых патрэб рэволюцыі.

— Вось, вось гэта добра.

— ...Патрэб рэволюцыі. Вось чаму ў горадзе панаваў парадак. Але вось таварыш Кроквер, ён-жа Глонц, сваімі бестактоўнымі ўчынкамі, як, напрыклад, гісторыя ў царкве, пачаў хваляваць, тэрорызаваць...

Чытальнік не пасьпеў скончыць абзацу, як уварваўся ў сынагогу Фоля-адвокат.

— Вы чытаеце, здаецца мне, тую самую заяву,—залапатаў ён,—добра, добра. Я толькі хачу вас віншаваць. Прыехала цэлая камісія ў аўтомобілі. Старшыня ляціць з пасады.

— Малое няшчасьце!

— Цішэй, дай паслухаць!

— Арыштаваных яўрэяў вызваляюць!

— А конфіскаванае золата?

— Табе золата захацелася? Залатуху вазьмі сабе.

— Дайце паслухаць нарэшце.

— А поп?

— Поп, а таксама гласны будуць сядзець. Іх адсюль павязуць. Што датычыць Шлоймэ і яго зяця, дык я дакладна ня ведаю, ці выпускаюць іх з турмы, ці высылаюць у канцлягер.

— Ня дрэнная пасада, га?

— Цішэй. Дайце паслухаць.

— Жонку старшыні прымушаюць зьвярнуць нікелевыя ложкі. Яна ня хворая дрыхнуць і на драўляных. Іншая мэбля застаецца ў выканкоме і ў клюбе, так як разьмеркаваў Глонц.

— А Глонц.

— Глонц? Скончыўся Глонц, яўрэі. Ён прызначаны за начальніка ў фінансавы аддзел... загадчыкам...

— О-ё-ёй!

Прысутныя стаялі з адчыненымі ратамі.

— Кропка.

— Канец.

— Цяпер усё пойдзе на смарку.

— Цяпер, яўрэі, можам надзець торбу і пачаць жабраваць.

— А я прапаную зусім новы крок,—крыкнуў, задумаўшыся, ініцыятар усяе справы.

— У мяне ў галаве ўзьнікла новая ідэя. Я прапаную, яўрэі, зараз адправіць дэпутацыю... Вы ведаеце да каго?

— Папярэджваю вас,—замахаў рукамі Фоля-адвокат. Яго, незапрошанага да цэрамоніі складаньня заявы, цяпер ахапіла вялікая зларадн-насьць,—майце на ўвазе, што новы старшыня—петраградзкі рабочы. Для яго чалавечае жыцьцё, што муху скінуць,—дзьмухнуў—і ты ўжо ў лягеры.

— Не завірайся, Фолька. Я зусім не намякаю на старшыню. Я прапаную паслаць дэлегацыю... ведаеце да каго?

— Ня зьдзекуйся, кажы!

— Да Глонца!

Гэтая прапанова ашаламіла ўсіх. Ачунялі ад Фолькінага здоснага рогату. Ён высмейваў дурную ідэю наконт Глонца. Аднак, больш удумлівыя яўрэі падтрымалі прапанову.

— Гэта выхад, людзі.

— Я ўжо даўно думаю пра гэта.

— Надзвычайна!

— Здаровая думка!

— Гэта ідэя!

. . . . . . . . . . . . . . . .

Тав. Варкін, новы старшыня, уяўляў сабой вялікую процілегласьць ранейшаму старшыні. Ён прыехаў у горад без сям'і. Худы, моцны, рухавы і вельмі гамонкі, тав. Варкін абудзіў да сябе сымпатыю ня толькі сярод рабочых, у прыватнасьці, усе казалі, што ў яго „вельмі разумная ўсьмешка“.

Зараз-жа, як толькі прыехаў новы старшыня, ён інкогніта адправіўся ў клюб. Ён там прабыў хвілін 10, запраста, па-таварыску гутарыў з рабочымі, яго інкогніто было, вядома, хутка раскрыта.

Заўсёднікі ўспаміналі:

— Стары-ж старшыня за ўвесь час, пакуль жыў у горадзе, нават не зазірнуў у клюб.

Назаўтра па горадзе ўжо расклейвалі афішы—„Профсаюзы і рэволюцыя“—даклад старшыні выканкому тав. Варкіна....

— Глянь ты, гэты новы—казалі ў горадзе,—ён з сапраўдных...

Ня гледзячы на ўсё гэта, сынагогальнікі вырашылі адправіць дэлегацыю да Глонца. Дэлегаты сабраліся ў „сынагозе маладых". Пастанавілі паслаць пьцёх: чатырох мужчын і адну жанчыну—камісарыху.

— Ня вельмі прыбірайцеся,—дапякалі камісарыху.—Здаецца-ж не на вясельле ідзем! Баба застаецца бабай.

— Я не разумею,—злавалася камісарыха.—Я да яго не жабраваць іду. Па-вашаму, каб апранацца як у багадзельні?

— Пакінь яе,—прымiраліся другія.—Яна маладая жанчына... Яна разумней за цябе... Нічога, нічога... у мяне другое пытаньне: вы ўпэўнены што нас пусьцяць да яго?

— Разумны! Мы-ж павінны будзем яго пусьціць. Бо мы яго чакаць будзем.

— А хто вам адчыніць пакой?

— Яго бацька, Калман.

— А як быць з тым злобам, яго таварышам?

— Ён паехаў на раён.

Гадзіньнік паказваў тры. Дэпутацыя ўжо даўно прабралася ў пакой Глонца і цяпер сядзела, як на вугольлях: вось-вось адчыняцца дзьверы і ўвойдзе ён. Гутарылі.

— Вы толькі паглядзеце што зрабілася з габінэтам Алтара,—круціла галавой камісарыха.—Ужо лепш зусім ня жыць, чым цярпець усё гэта. Ці думалі вы калі-небудзь, Калман, што настане час, калі лепшыя людзі гораду прыдуць з дэпутацыяй да вашага басяка?

— Калі ласка, ня лайцеся,—злаваў Калман.—Ніхто па вас не пасылаў.

— Як вы думаеце, рэб Калман, прыдзе на іх пагібель?

— Ведаеце, што я вам скажу—папакутайце і вы крыху.

Глонц зьявіўся не адзін—разам з ім прышлі Варкін і некалькі адказных працаўнікоў. Яны захацелі агледзіць кватэру Алтара, каб прыстасаваць яе пад установу. Камісія абыходзіла ўсе пакоі, нават кухню, затрымалася ў сталовай і ў спальні, якая блішчэла двума нікелевымі ложкамі.

— А цяпер зойдзем да мяне,—прапанаваў Глонц.

Ён адчыніў дзьверы свайго пакою, і кроў адразу прышла яму ў твар.

— Што гэта значыць?—закрычаў ён, раптам зазлаваўшы.—Хто вас сюды пусьціў.

— Твой бацька сказаў, што ты павінен вось вось вярнуцца,—ад страху мармыталі дэлегаты.

— Ты іх сюды пусьціў, бацька?

— Чаго-ж ты так раззлаваўся,—прабаваў трымацца стойка стары. Глонц зьвярнуўся да зьбянтэжанай кучкі дэлегацыі.

— Што вам патрэбна? Чаго вы сюды прышлі?

— Таварыш Крокевер,—выступіла наперад камісарыха.—Вы цяпер у фінаддзеле, дык мы таму хочам пазнаёміць вас з нашым становішчам.

— Вон!—Глонц яшчэ больш зазлаваў.—Усе вон! І ты, бацька, выйдзі.

Варкін рукой спыніў Глонца.

— Не гані брат, бацьку. Ня трэба,—загаварыў ён,—Давай ужо іх паслухаем. Чаго вы сюды прышлі, грамадзяне?—зьвярнуўся ён да дэлегацыі.—Вам павінна быць вядома, што савецкі працаўнік прыймае просьбітаў ва ўстанове.

— Яўрэі!—шапнуў галоўны дэпутат сваім.—Я прапаную аддаць заяву, якую мы пісалі для старога начальніка. Аддаць і кончана.

— Аддай,—падтрымалі яго ўсе.

Нечая доўгая рука палезла за пазуху, паварушылася там і выцягнула на сьвет божы заклееены конвэрт. Толькі цяпер усе заўважылі, што ў пакоі вельмі цесна і душна. У ім павінны быць зьмясьціцца чатыры крамнікі, пятая—камісарыха, Глонц, яго бацька і два адказных.

Тав. Варкін, 25-гадовы петраградзкі рабочы, упяршыню трапіў у тыповы яўрэйскі горад. Усё тут было для яго нова, поўна нязвычайнай цікавасьці! З несхаванаю цікавасьцю ён раскрыў пададзены яму конвэрт, сеў выгодна ў крэсла і зьнізу ўверх пачаў разглядаць скаргу на Глонца.

— А чаго прышла гэтая мадам?—Спытаўся раптам Варкін.

— У яе конфіскавалі партыю валёнак.

— Навошта мадам столькі валёнак?

— Вы задаеце дзіўнае пытаньне,—запішчэла камісарыха.

— Не, ня дзіўнае. Валёнкі носяць абаронцы рэволюцыі. Яны ім больш патрэбны.

— Дык, па-вашаму, я адна павінна абуваць усю рэволюцыю?—не супакойвалася камісарыха.

— Вы і сяляне, якія авец выкармілі, і рабочыя, якія валёнкі валялі, усе мы павінны дапамагаць рэволюцыі.

Варкін агледзеў грэблівым поглядам сытую постаць камісарыхі, устаў і зьвярнуўся да дэпутацыі з невялікай прамовай.

— Дарма вы скардзіцеся на таварыша Крокевера.—казаў ён.—Уласна, ён выратаваў вас ад пагрому,.. Вызваліць сьвяшчэньніка нельга. Гласнага мы таксама ня выпусьцім. Што датычыцца контрыбуцыі, дык мы так ставім пытаньне; сотні і тысячы рабочых і сялян гінуць на франтох. Сяляне, апрача ўсяго, яшчэ корміць нашу армію. А вы—калі па сваёй ахвоце хочаце дапамагчы рэволюцыі, мы гэтую дапамогу прымем. Дабром прапануем вам. У іншым выпадку мы прымусім вас дапамагаць. Змаганьне пачалося не на жарт. Ідзеце.

Гуськом вышлі крамнікі з пакою. Ужо з сталовай камісарыха прасунула галаву ў дзьверы... і крыкнула:

— Бывайце здаровы, адзье, таварыш старшыня.

## VIII. Каецца...

Вузкі праход падзяліў уздоўж вастарожнае камеры двое жорсткіх драўляных, у чалавека шырынёй, ледзь ад зямлі прыўзьнятых нараў якія цягнуліся ад дзьвярэй да вакон. На нарах, справа ад уваходу, ляжалі нікому тут невядомыя людзі, пра якіх ніхто не клапаціўся чаму і як яны тут апынуліся, за што яны арыштаваны. Усе яны, закрыўшыся з галавою коўдрамі, спалі, відаць, смачна і моцна. Усе, відаць, здаровыя людзі, звыклыя да цяжкага, гарапашнага жыцьця, людзі з моцнымі нэрвамі, якім усёроўна дзе спаць і як спаць. Калі надыходзіць час сну, яны сьпяць і іх нішто ня турбуе.

На другіх нарах, насупроць ляжалі ўсе паміж сабой знаёмыя гарадзкія людзі. Ля вакна спалі два паштовых служачых, якія першыя пусьціліся з царквы бетчы за Глонцам; разам з імі з адчыненымі вачыма ляжаў поп, добра ўтуліўшыся ў сваю чорную драпавую расу. Далей ляжаў, вужакай скруціўшыся, гласны,—народны соцыяліст, які ў думе прамову трымаў, поруч з імі са сну енчылі два яўрэі, у якіх адабралі некалькі бутэлек самагону, Шлёма, яго зяць Алтар, якіх арыштавалі ў тую самую ноч, калі ў іх конфіскавалі золата і замочаныя кацярынкі. Алтару на гэтых мулкіх нарах ня спалася. Яго вельмі непакоіў цяжкі сон цесьця, які ляжаў побач з ім, уткнуўшы галаву ў пухавую падушку, прысланую з хаты разам з таласам і тэфілум *).

Алтар, Шлёмаў зяць, прысеў, закурыў цыгурку, утапырыўшы вочы ў твар пабуджанага цесьця.

— Значыцца ў вастрозе я, ды разам з цесьцем,—муліла ў яго галаве.

Алтар сьлез з нараў і падышоў да вакна. Ужо было далёка за поўнач. З вуліцы яшчэ чутны былі адрывістыя сказы шпацыраваўшых, гукі оркестру, малады дзявочы сьмех.

— Адкуль гэта могуцьісьці гэтак позна? Са сходу ці з тэатру,— думалася яму.

У галаве блыкалі нейкія дзіўныя думкі, далёкія ад яго сям'і, ад яго асяродзьдзя, да якога ён гэтак прывык.

Алтар успомніў свае вучнёўскае гады, раней чым ён гімназію скончыў, ён кіраваў тады нелегальным гуртком, з рабочымі хаўрусаваў.

Алтар успомніў, як ён тады гутарку правёў у сваім гуртку. Ён чытаў брошуру Каўцкага: „На заўтра“. Былі надзвычай жвавыя спрэчкі і сход зацягнуўся далёка за поўнач. Асабліва спрачаліся адносна форм барацьбы ў пачатку соцыяльнай рэволюцыі. Малады таварыш, ён добра помніць яго, Гдаліям яго звалі, выказаў гэткія думкі, якія навялі жах на шмат каго з прысутных таварышоў.

— Гэта прыме вялізарныя формы. Ракою кроў будзе ліцца. Гэта вам жартачкі—соцыяльная рэволюцыя...

*) Рэчы, якія яўрэй адзявае на лоб і руку, калі моліцца.

На абедзьвух нарах ляжала чалавек пятнаццаць. У камеры цесна было, у паветры сьмярдзела ад начы і парашы, якая стаяла тут усярэдзіне праходу. Таму Алтар не адыходзіў ад вакна, убіраючы вільготнае паветра з вуліцы праз зламаную шыбу жалезных кратаў.

— Як вы думаеце, адразу нас расстрэльваць будуць?—раптам пачуў ён чыйсьці голас ззаду.

Алтара ажно закалацiла.

На парашы, у споднях, сядзеў народны соцыяліст. Яго твар быў жоўты, як воск, вочы ў ямінах, шчокі ўпалыя. Па яго рухах відаць было, што яго, мусіць, здорава ў трасцу кідае.

— Значыцца, нас расстраляюць?—зноў спытаўся народны соцыяліст, зашпільваючы гузікі на штанах, якія за час сядзеньня ў вастрозе зрабіліся даволі шырокімі для яго жывота.

— Каго гэта вы думаеце—нас?

— Мяне, вас, іх...

— Мяне?

— Мая справа зусім дробная,—няўпэўнена і ціха адказаў Алтар.— Падыход да мяне зусім не прынцыповы, а пераважна практычны: ім патрэбны былі мае грошы, ну і забралі мае грошы.

— У вас, Аляксандар Міхайлавіч, моцныя нэрвы, з гіронічным запалам сказаў народны соцыяліст.

— Не забывайцеся, што я марксыст з 1905 году. Пра гэта ўсе ведаюць.

— Скажу вам па праўдзе, Аляксандар Міхайлавіч, што за апошнія 10—12 год, што я вас ведаю,—дапякаў яго народны соцыяліст,—нешта нічога рэволюцыйнага ад вас ня відаць было. Наадварот, на мяне асабіста вы рабілі ўражаньне сьвядомага, а з пункту погляду бальшавікоў небясьпечнага ворага рабочых. Я, як дырэктар гімназіі, лічыўся лявейшым за вас. Мне здаецца што вы яшчэ адзін козыр маеце—вы-ж яўрэй, так? Вы-ж яўрэй. Гэта вялікі козыр...

Алтар не адказаў.

Ён адышоў ад вакна, узьлез на нары, выпрастаўся, каб як-небудзь заснуць.

Ад шолаху прачнуўся цесьць.

— Ты-ж зусім ня сьпіш?—сказаў ён... Ведаеш, што я рашыў? Усю адказнасьць я бяру на сябе. Я скажу, што золата і царскія—мае...— што яны мне зробяць...

— Ён скажа,—злосна падняўся Алтар з свайго месца,—няшчасным ты мяне зрабіў,—пачаў ён раптам яму тыкаць:—ня трэба было цябе слухаць як і дачку тваю. Гаварыў я, што нам трэба пайсьці з імі, што нам трэ' было адступіць з імі разам, дык трэба было слухацца мяне. не давялося-б тады тут дранцьвець...

— Хочаш багатага цесьця мець, дык і ад ліха не адмаўляйся,—гукнуў нехта з суседзяў яму ў вуха.

Пачало днець. Прачнуўся поп. Яго доўгія сівыя валасы былі ў хаотычным непарадку. Сваімі пальцямі ён улез у валасы, расчасаў іх і заплёў дзьве касічкі.

— Шлёмка, сёньня ты павінен вынесьці парашу,—сказаў ён.

Стары зьлез з нараў і адразу выканаў сваю работу.

Калі Шлёмка вярнуўся з свае работы, некаторыя арыштаваныя ўжо трымалі бляшаныя кубкі ў аднэй руце, а ў другой кавалкі чорнага сьвежага хлеба—за ноч народ прагаладаўся—і са смакам елі.

— Дзякуй, Шлёмка, за хлеб, і зяцю твайму таксама падзяка.

- Нешта, кажуць, што твой хлеб ямо,—бяз усякай гіроніі сказаў нехта з сялян.

— Шлёмкін хлеб, мы ўжо даўно зьелі, зараз бальшавіцкі хлеб ямо,— заўважыў другі.

У камеры павесялелі.

Пачулася, як нехта камеру адчыняе. Дзьверы шырока адчыніліся і вастрожны вартаўнік з цэлым пукам ключей зайшоў у камеру.

— Хадзеце ў канцэлярыю,—сказаў ён Алтару.

Алтар сустрэў у канцылярыі сваю жонку. Па-сяброўску і нават спачуваючы гутарыў з ёю нейкі старэйшы вастрожны чын, які служыў яшчэ тут з дарэволюцыйных часоў.

— Новыя асобы тут паказаліся. Цяжка зараз служыць,—сказаў ён паціху і пайшоў з канцэлярыі.

Яны абодвы маўчалі.

— Што нам усё-ткі пакінулі?—пачаў Алтар.

— Нічога. Ложкі нам назад зьвярнулі.

— Што ў хаце?

— У габінэце зараз знаходзіцца Глонц з гэтым хлопцам з прадкому з Пётрам. Прэласьцю зараз ад габінэту сьмярдзіць, прайсьці нельга, муціць... А на Параску дык зараз і пакрычаць няможна. Яна хатняя работніца,—цэлая гаспадыня.

— Трэба прызвычайвацца. Заварылі кашу не на адзін дзень.

— Нічога ня можна прадбачыць... Бо...

— Давай пра гэта не гаварыць... Зайдзі да Ісроэля, перадай яму гэты ліст, пагутары з ім... Турэмны начальнік, як бачыш, даволі сымпатычны чалавек. Ён знарок нас адных з вока на воку ў канцылярыі пакінуў.

Алтар, Шлёмкін зяць, за апошнія дзесяць год прайшоў даволі вялікі жыцьцёвы шлях: раптам і рашуча парваў ён з рэволюцыяй і ў працягу некалькі год, плюнуўшы на ўсіх яе ворагаў і сяброў, дамогся дыплёму аб сканчэньні вышэйшай школы, ажаніўся, зрабіўся славутым чалавекам у горадзе, нават вышэй іншых вядомых асоб, заняў некалькі старшынскіх, з добрай аплатай, пасад у радзе ўстаноў і таварыстваў, ужываў чыстую ад усякіх жаргонаў расійскую мову, набыў багатую бібліотэку з двума томамі: „Капіталу".

Калі прышоў 1917 год, Алтар, афіцыйна, у Бунд не ўвайшоў, але на выборчым сходзе ён выступіў супроць прамоўцы сыяніста. Яго прамова была кароткая і вельмі ўдалая. Яму горача пляскалі. Захоплены воплескэмі, адказваючы на пісульку, ён казаў:

— Тут пытаюцца ў мяне, за каго я буду галасаваць, трэба адказаць, я буду галасаваць за соцыялістычны блёк.

Апошнія словы зрабілі вялікі эфэкт. У залі грымела. Але ўсё гэта было ў вясеньнія месяцы 1917 г.

. . . . . . . . . . . .

. , . . . . . . . . . .

Калі Ісроэль прышоў дахаты, ён знайшоў на стале Алтара ліст.

„... Зьвяртаюся, браце, да цябе, як да старога таварыша,—пісаў Алтар.—Ты можаш вызваліць мяне і ты можаш мяне ў турме згнаіць.. Да цесьця я зараз ніякіх адносін ня маю. Я рашыў зьвязаць свой лёс з агульнай пролетарскай сям'ёй“...

— Зараз ён зьвязвае свой лёс з агульнай пролетарскай сям'ёй,—з абурэньнем сказаў Ісроэль і гэтак моцна ўдарыў кулаком па стале, што ад грукату саскочыла з ложку яго жонка.

— Ты-ж хлапчука перапужаў. Што здарылася?

Ісроэль стаяў з лістом у руках бледны і абураны. Моўчкі ён паказаў жонцы на ліст.

Ісроэліха, заспакойваючы сына, які расплакаўся, шпарка вадзіла вачыма па чыстых каліграфічных радкох Алтаравага ліста.

— Што комуністы пра нас ня кажуць, дык яны бязумоўна маюць рацыю, што мы згоднікі, прымірэнцы. У нас нейкая кацiная памяць. Даволі было Алтару кароткую прамову трымаць, як ты і Хаім Міхкес і ўвесь камітэт адразу ўсё даравалі яму... Ня можна было даць яму галаву падняць,—ціха сказала яна і паклаўшы ў люльку заснуўшага сына, зноў у рукі ўзяла Алтараў ліст.

— Маеш рацыю,—нізкім голасам згадзіўся Ісроэл.

— Усё-ж нешта трэба зрабіць, каб выратаваць Алтара з рук Чэкі.

— Палец аб палец ня ўдару для гэтага.

У хату ўвайшоў Додл-кравец.

— Да сьмерці есьці хачу,—сказаў ён, і, адчыніўшы, дзьверцы буфэту, адрэзаў кавалак хлеба, пасыпаў яго сольлю і стоячы пачаў есьці, пакідаючы ў хлебе сьляды моцных сваіх зубоў.

Ісроэл расказаў Додлу пра Алтараў ліст. Додл засьмяяўся.

— ЧК ня ведае, што ёй трэба рабіць. Не за кацярынкі і не за залатыя дзесяткі Алтара арыштаваць трэба было. Гэткіх, як Алтар, і другіх за контррэволюцыю арыштоўваюць. Увесь час рэакцыі ён хадзіў нага ў ногу з нашымі спрадвечнымі крывавымі ворагамі. Я, чамусьці пачынаю думаць, што ён руку прылажыў да даносу на нас, які быў знойдзены ў губэрнатарскім стале... Помніш яго патрыотычную прамову

на другі дзень пасьля першай рэволюцыі ў 1917 г.? Помніш яго прамову?... Як сказаў ён?—спытаўся Додл.

...Ісроэліха прачытала:

Шырока ты, Русь,
Развернулася.

Гэта было недарэчна сказана.

Не атрымаўшы адказу ад Ісроэла, Алтар праз некалькі дзён напісаў ліст у павятовы выканаўчы камітэт.

— „Рэволюцыя прымушае мяне пролетарызавацца, я разумею ўсю гэтую гістарычную патрэбнасьць і таму я з гэтым згодзен. Я ўсё-ж думаю, паважаныя таварышы, што як чысты пролетары з марксыцкай сьвядомай ідэолёгіяй, я бязумоўна вельмі патрэбны для рэволюцыі. Вызвалеце мяне і бярэце мяне як раўнапраўнага члена пролетарскай сям'і“.

— Спытаймася тутэйшых таварышоў. Што кажа Ісроэл?—спытаўся на паседжаньні новы старшыня выканкому.

— Каб быць контррэволюцыянэрам, трэба быць чалавекам з цьвёрдай воляй. Я думаю, што Алтар зараз для нас не зьяўляецца небясьпекай,—прыдушаным голасам скончыў Ісроэл.

Ледзь ці ня ўсе згадзіліся з гэтай думкаю.

## IX. Першая брацкая магіла

Ужо тыдзень, як зачынілі буфэт рабочага клюбу.

Прадком не дае цукру, а піць у рабочым клюбе гарбату з сахарынай, у той час, як у „адказнай сталоўцы“ лопаюць (усе яны лопаюць), а гарбату п'юць тры разы на дзень і ўсё салодкую, па тры кавалкі цукру ў шклянку, тады не... Тады да д'ябла.

— Сьпяклі-б хоць пшанічных апрэснакоў на сахарыне,—дык прадком мукі пшанічнай не дае. Каб рабочаму клюбу пшанічнай мукі не далі! Дзе гэта відана? Знаходзяць прычыну: усяго толькі некалькі пудоў для хворых засталося... Для хворых... Але адкуль-жа яны бяруць пшанічную муку на розныя там коржыкі для сталоўкі адказных працаўнікоў? Гэта-ж сапраўдная загадка. Яны кажуць, што за грошы купляюць... У каго, у мяшочнікаў? Нешта ня верыцца, яны проста па ордэру атрымліваюць.

— Вось гэта—дык дыктатура пролетарыяту. Вось гэта—комунізм!

— Шкурнікі.

— Эх, чаго-ж вымагаць ад комуністаў, калі бундаўцы і тыя ня лепшыя. Кожны дзень, як у бога дзень, Ісроэліха з двума вялікімі чыгунамі прыходзіць у сталоўку і набірае там усякага добра: смажанага мяса, катлеты, кампот з сушаных яблык...

— На цукры?

— Мусіць на цукры... Хіба-ж яны на сахарыне варыць будуць... Падумайце толькі—тры стравы, а мы, што ў нашай сталоўцы атрымліваем? Сёньня была капуста з гнілой воблай, з конскім пансаком.

— Ай гэты шрапнэльны пансак, як пазбавіцца ад гэтай шрапнэлі?

— Пансаку ўжо таксама няма, для нас ужо авёс рыхтуюць...

— Аўсяную кашу.

— Ага!

— З маслам?

— З маслам... Ёсьць каму масла даць. Зьясі з алеем. Ты-ж рабочы.

У клюбе надзвычайна холадна. Шыбы засыпаны сьнегам, закуты лёдам. Грубкі ня паленыя. Усярэдзіне пакою дыміць бляшаная печка, якая ніяк ня хоча, каб гарэлі гэтыя сырыя дровы, якія толькі сёньня расьпілавалі і пасеклі.

Цемнавата. Ня відаць за тры крокі. Ледзь толькі паблісківаюць дзіскі электрычных лямпак. Кожную хвіліну гаснуць ды зноў загараюцца. Электрычная станцыя апальваецца дзёгцем. У горадзеніводнага фунту нафты.

У клюб уваходзяць два рабочых-будаўнікі. Яны з работы прышлі. Яны разьбіраюць драўляныя крамы. Частку будаўнічых матэрыялаў перавозяць у народны дом, дзе мяркуюць яшчэ адзін флігель дабудаваць. Частка матэрыялаў расьпілуюць на дровы. За сваю работу рабочыя атрымліваюць натурай. Па дзесяць фунтаў солі ў дзень і шурку дроў за ўвесь час работы.

Закурваюць. На кавалак газэтнай паперы высыпаюць пашаткаваную кару, выймаюць з печкі вугаль, закурваюць.

— Загадчык аддзелу комунальнай гаспадаркі сёньня мне папяросіну даў.—Колькі, пытаюся яго, атрымліваеце, таварыш, папярос у месяц?

— Тры сотні кожны месяц,—адказвае ён,—дзесяць штук на дзень.

— Ведаеце, які паёк у гэты месяц атрымліваюць „адказныя“?

Відаць з болем у сэрцы, выкідаючы з роту жорсткія, лічаныя словы, гавора адзін будаўнік: мяса—8 фунтаў, цукру—2 фунты, масла, разынкі, сала, пуд і пяць фунтаў жытнёвай мукі, а што я атрымаю?—7 фунтаў жытнёвай і 20 фунтаў аўсянай мукі. Жыві на гэтым цэлы месяц.

— Ого, ня дзіва, гэта-ж адказны паёк,—трасе галавою другі.

— А боты, бялізну, адзеньне—усё гэта ім задарам... Вы футру на старшыні бачылі? А ў яе, у старшыніхі, ратонду на лісінай футравіне, бачылі?

— За лісіную ротонду і нікелевыя лыжкі яго з пасады зьнялі.

— Ня зьнялі з пасады, яму другую пасаду далі.

Адзін рабочы прынес жменю сухіх трэсак. Печка распалілася. Прыходзяць яшчэ і яшчэ. Рабочыя і работніцы. Прыходзіць група моладзі. За заслонай сабраўся драматычны гурток. Адчыняюцца дзьверы і на парозе зьяўляецца ўзрушаны Додл.

— Додкелэ, ты таксама?

— Чаго, я таксама?

— Змачны абед сёньня быў?

— Да д'ябла. Сталоўка ніяк з вашай галавы ня вылазіць... Ідзеце есьці... Чатыры месцы ў сталоўцы вызваліліся... ...У вёсцы забілі чатырох адказных працаўнікоў...

Усе абкружылі Додла.

— Таварышы! Забілі двух з прадкому. Таварышы, забілі тав. Варкіна!

— Новага старшыню?

— Новага старшыню, таварышы, і таварыша Глонца таксама. Забітых у горад вязуць... Усе краўцы, якія тут знаходзяцца, за мной, у саюз.

Жалобная вестка маланкай абляцела ўвесь горад. Вестка аб забойстве Глонца, які цяжка паранены ехаў у горад, не адпавядала сапраўднасьці і гэта вельмі цешыла рабочых і злавала гандляроў.

— Ніякая куля яго ня бярэ, лепш-бы яго забілі, замест гэтага, нават гоя.

Было ўжо пасьля поўначы. На двары ціха было. За вечар выпаў мяккі сьнег. Больш паўтысячы рабочых вышлі за горад сустрэць забітых таварышоў; пасьля прышоў туды і оркестр.

Рабочыя яшчэ здалёку заўважылі жалобную процэсію. У сялянскіх санях ляжалі забітыя. Глонц сядзеў на першых санях з забінтаванай галавой, схаваўшы рукі ў рукавы. Забітых праводзілі тры конных міліцыянэры.

У глыбокай маўклівасьці рушылася процэсія ў горад. Оркестр гучна зайграў „Вы жертвою пали", ззаду брахалі сабакі. У вокнах у нізкіх драўляных хатах, у белым, нібы мерцьвякі, адзеньні паказаліся фігуры.

Забіўшы Варкіна, бандыты забралі яго портфэль і апустошылі ўсе яго кішэні. Ніводзін з тутэйшых таварышоў ня ведаў адрасу яго бацькі ці сваякоў. Пайшлі да Варкіна на кватэру. На стале яго пакою знайшлі портрэт дзяўчыны, тут-жа ляжаў яшчэ нераскрыты ліст з штэмпелем суседняга гораду, адкуль Варкін сюды на работу пераехаў.

Адзін з таварышоў узяў у рукі гэты ліст, раз, ды яшчэ раз прачытаў адрас і нібы робячы нейкае злачынства, раскрыў ліст. „Сумна без цябе, сумна,—пісала нечая жаночая рука.

— Я змагу прыехаць да цябе толькі ў канцы тыдню". Таварышы Варкіна ня ведалі што рабіць, і ўрэшце, рашылі даць тэлеграму па адрасу, які быў у лісьце: „Варкіна забілі. Пахаваньне ў... дзень".

А процэсія рушылася ў нардом. Па аднаму пачалі здымаць забітых з саней і пераносіць на сцэну. Абодвы супрацоўнікі прадкому былі так зьнявечаны, што іх цяжка было пазнаць. Варкін ляжаў з напоўадчыненымі вачыма, сьцяўшы зубы, якія відны былі скрозь адчыненыя вусны.

Адбыўся кароткі мітынг. Глонц расказаў, як у часе сну на іх напалі бандыты. Цудам нейкім яму, Глонцу, удалося выратавацца.

Парашылі пахаваньне рабіць у поўдзень. Пахаваць на пляцу каля выканкому.

Рабочыя пачалі рыхтавацца да пахаваньня. Сталяры за ноч зрабілі труны. Швачкі абшылі труны чорным крэпам. Група рабочых з сякерамі і рыдлёўкамі ачысьцілі месца, вызначанае для брацкіх магілак, ад сьнегу, лёду, каменьняў, дабраліся да жоўтага пяску.

Назаўтра, з ранішнім цягнікам прыехала з губэрні дэпутацыя на чале з старшынёй губэрскага выканкому. Гэты дзень якраз прыпаў на сьвяточны. Да 1000 членаў профсаюзаў гораду далучыліся сяляне вакольных вёсак і гарадзкія жыхары. Уперадзе несьлі забітых, за імі на фурманцы сядзеў Глонц. Далей—мясцовая організацыя. Бундаўскі хор сьпяваў бундаўскую „Клятву“. Процэсія прайшла праз усе вуліцы гораду і толькі пасьля гэтага падышла да брацкіх могілак.

Назаўтра да Варкінай кватэры пад'ехала фурманка. У ёй сядзела яшчэ зусім маладая дзяўчына. Шпарка выскачыла яна з саней, паднялася на чатыры сходкі ганку і пазваніла.

Ёй адчыніў Глонц. У поўнай маўклівасьці, ён адвёў яе ў пакой Варкіна. Яна падыйшла да стала, кінулася ў крэсла і заплакала. Глонц не пасьпеў яшчэ прынесьці ёй шклянку вады, як яна кінула плакаць, выцерла вочы, паглядзелася ў люстэрка, якое яна трымала ў рэдыкулі і зьвярнулася да Глонца:

— Пакажэце мне, таварыш, магілу Варкіна.

Яны пашлі абодвы. Дзяўчына падышла да магілы. Віселі сьцягі, малыя і вялікія. Ляжалі вянкі, на якіх былі надпісы па-яўрэйску і па-беларуску. Яна доўга стаяла каля сьвежай магілы маўклівая, засмучоная.

З хат павыбеглі жанчыны, каб паглядзець на прыехаўшую дзяўчыну. Камісарыха і яшчэ адна гандлярка таксама падыйшлі да брацкай магілы.

— Яна-ж яўрэйка...

*(Працяг будзе).*

## ТРЭЦЯЯ СТРЭЧА

### Цішка Гартны

Міна Зальцман пільна сачыла за Лукашом Пятровічам—той старэнна і ўважліва выводзіў на дошцы эліпсіс. Закругляў некалькі разоў, паўтараючы адзін і той-жа сказ:

„Эліпсіс—гэта, во, такое формы круг".

З боку Міны чуліся гіранічныя рэплікі. Яна некалькі раз ушчунна сьцішала няўважлівага слухача, адаля абярнулася, каб яго папікнуць у неэтычнасьці, як угледзела вясёлы, ласкальны твар Грышкі Палякова.

— Няўжо гэта ты, Грышка? Як табе ня брыдка. На лекцыі, калі...

— Слухай, слухай, я не мяшаю... Хутка расстанемся, тады...

— А ты ўжо вытрымаў усе залікі?

— Заўтра канчаю...

— Даюцца?

— Пакуль што ні на адным не спатыкнуўся...

„Эліпсіс гэта, во, такое формы круг".

Міна ўтарашчыла ўзрокі ў спрытна-выведзеную Лукашом Пятровічам фігуру эліпсіса.

І далей да канца лекцыі, якая ўжо не перарывалася болей, яна ўважліва, непаварушліва сядзела на адным месцы.

Міна не заўважыла, як у аўдыторыі асталося каля дзесяці чалавек—усе паціху зьмыліся.

А з імі—і Грышка Палякоў.

„Якi-ж, аднак, няпэўны хлопец",—папікнула яна свайго таварыша.

І рухава выбегла з аўдыторыі.

* * *

Міне Зальцман вельмі хацелася паступіць на курсы тэхнікаў. А ўмовы паступленьня былі вядомы Грышку Палякову. Нават ніхто іншы, як ён, надаумілў гэта Міне. Падахвочваў дзяўчыну, падбіваў...

„А калі тэрмін стукаецца ў дзьверы, ніяк яго не злавіць."

Міна намерылася ва што-б сабе ня было спаймаць заўтра раніцою Грышку Палякова і...

Яна не пасьпела акрэсьліць далейшага, што выйдзе з іх гутаркі, як Грышка пераняў яе пры выхадзе з адзявальні.

— Ты-ж гэта адкуль?

— Цябе чакаў.

— Чакаў?

Гэта дзяўчыну пальсьціла.

— Я табе патрэбны, Міна?

— Ну, як-жа з курсамі?

— Еду... А ты?

— Ня ведаю... Я-ж прасіла цябе скажы, паведамі—або-ж дапросішся. А яшчэ таварыш...

У спрэчках, хвілінамі даходзіўшых да адкрытае сваркі, яны прайшлі да Мінінай кватэры і холадна разьвіталіся.

* * *

Праз некалькі дзён Міна Зальцман пачула ад свае таварышкі, бляхаркі Двэйры Зыськінай, што Грыша Палякоў ужо ў Ленінградзе.

Ён нават і не хацеў ехаць так раптоўна, але цэхавая ячэйка комсамолу настаяла.

„Што-ж парадзіш—маё сарвалася",—пашкадавала Міна, і пасьля доўгіх раздумаў вярнулася на прадпрыемства.

Ізноў у руках малаток замяніў асадку, а пераменны гоман слухачоў—бразгі і гудзеньне бляшанай пасуды.

Чаму-ж, яна гатова працягаць работу бляхаркай, зусім ня цяжыцца ёю... І навучаньне, бач, Міна аддала-б заводу. Але вучыцца... Ёй так-бы хацелася яшчэ год-другі павучыцца!

* * *

На трэці дзень пасьля ўзвароту ў цэх Міну Зальцман выклікалі ў бюро комсамольскае ячэйкі і паведамілі.

— На завод прышло запатрабаваньне вылучыць таварыша-жанчыну ў трупу тэатру рабочае моладзі. Мы ведаем, што вы, таварыш Зальцман, маеце заданьні...

Г-о-а!

Міна перш хацела пахваліцца сваімі хоць і неадмысловымі, а ўсё-ж выразнымі здольнасьцямі да мастацкага расказу, пасьля пасаромелася.

„Можа я толькі для сябе гэта".

Але, падумаўшы, асьмелілася.

— Я ахвотліва пайду; мяне нават цягне да гэтага... толькі я прашу ад ячэйкі таварыскага падтрыманьня.

— Ячэйка табе акажа ўсямерную дапамогу.

У словах сакратара Юдкі Алехіна нельга было сумнявацца, і Міна дала згоду.

Назаўтра яе ўжо ня было ў цаху.

Таварышкі адабральна паківалі галовамі.

— Міна выб'еца на дасканалага артыста. Яна настойлівы таварыш,— адзывалася Мініна сяброўка Эстэр.

Але былі і такія, што іначай глядзелі на таварышчына вылучэньне.

* * *

Заводзкі колектыў на ўрачыстым паседжаньні падводзіў вынікі асобнага кварталу. Тысячная маса рабочых напаўняла вагромністую салю кіно-тэатру. Пасьля паседжаньня, на якім раздаваліся прэміі ўдарнікам, ішло концэртнае аддзяленьне.

Афішы з учарашняга паведамлялі пра гэта, і прысутныя на паседжаньні ведалі пра склад выступаючых. Між іншымі нумарамі значылася і выступленьне артыстаў з тэатру рабочае моладзі.

Сярод іх работніцы з бляхарні спадзяваліся сустрэць сваю таварышку Міну, але ня былі ўвераны ў гэтым.

А можа яна асталася на гастролях у Віцебску, дзе адбываліся спэктаклі тэатру Аль бо...

Ну, хто мог ведаць напэўна—гэта былі паасобныя дагадкі.

Але яны спраўдзіліся.

Ужо ўрачыстая частка паседжаньня падыходзіла к канцу, калі ў салю вайшло некалькі чалавек моладзі.

Эстэр агледзелася на вайшоўшых і—што вы думаеце?—стрэлася ўэрокамі з Мінаю Зальцман.

Таварышкі горача прывіталіся. Эстэр выдзеліла між сабою і суседкаю кавалачак вольнага месца для Міны.

* * *

Вазьмі Міна і завядзі гутарку з Эстэр—бязумоўна яна прапусьціла-б тое, што адбывалася на сцэне.

А ў гэты момант помдырэктара Мілер канчаў сьпісак ударнікаў, прыстаўленых да ўзнагароды.

Чарга падышла да Грышкі Палякова, майстра сьлесарнага цэху, які „за старанныя адносіны да працы, за ўпартае змаганьне, за якасьць продукцыі, за прыкладнае інструктаваньне цэху, за кіраўніцтва брыгадай надзяляецца месцам на курорт...

Воплескі рабочых правялі словы Мілера.

— Эстэр, ты чула фамілію?

Міна недаравальна прапусьціла апошнія словы Мілера, ці не дачула іх.

— Мэрам-бы Палякоў, га?

Але, на дзіва, і Эстэр зашапталася з суседкаю.

— Напэўна Палякоў...—дапусьціла яна.

Міна-б распытала, каб ды ёй ня трэба было ісьці „за кулісы“ Але таварышы з трупы ня далі агледзецца, як пацягнулі яе з сабою...

Аднак яшчэ да выступленьня Міна праведала ад распарадчыка вечара, што—так!—у ліку ўдарнікаў і Грышка Палякоў.

* * *

Можа-б спакайней Міна выходзіла на сцэну, каб выпусьціла з памяці Грышку Палякова. Ну, той, як цьвік у сьцяне, сядзеў у яе думках.

Ударнік! Штурмавік! Нагароджаны прэміяй, герой працы!

„Ён будзе чакаць концэрту—чаму-ж не! А калі астанецца—я стрэну і вылаю! Грышка—хлус. Прасіла-ж яго разам паехаць у Ленінград!“

Напісаны Мінаю фэльетон-расказ вымагаў драбнюткіх, нязначных варыацый, каб яго накіраваць хоць некалькімі словамі ў адрас Грышкі Палякова. Ды ці-ж варта адплачваць пасквілем, як-ні-як, а добраму таварышу...

Няхай ужо будзе, як напісана ў першым варыянце...

— Акторка тэатру рабочае моладзі, наша вылучэнка Міна Зальцман прачытае свой фэльетон.

Распарадчык паляпаў у далоні. Саля адгукнулася воплескамі.

А Міна, хоць і прывыкла да гэтага, неяк засаромелася і пачырванела.

І першыя сказы не прачытала, а выдавіла скрозь губы, саматугам...

Але далей, падыходзячы к самаму цікаваму месцу, паправілася і фінал быў раскошны.

Тысячы рук аплёдыравалі, а тысяча першая—рука Грышкі Палякова кінула чырвоную гвазьдзічку.

Міна бісіравала здольнай дэклямацыяй вершу Александровіча „Мястэчка“.

Таварышкі з бляхарні, радуючыся за Міну, моцна ёй завідавалі.

* * *

Няхай другія чакаюць за „кулісамі“, а яна, Міна Зальцман, выйдзе на салю, ну, хоць-бы да Эстэр і запытае ў сяброўкі яе думак пра фэльетон-расказ.

Мініны ўзрокі абягалі тысячную масу гледачоў, калі яна апынулася ў дзьвярах з-за сцэны.

Дзе-ж Эстэр?

Пытаньне было ў думках, але яго пачуў Грышка Палякоў, ну зусім нечакана вынырнуўшы, як з-пад зямлі.

На яго маладым бледнаватым твары стаяў выразны пытальнік да Міны.

— Няўжо—а ты...

— Так, так, так...

Гэта выходзіла з кіўкоў Мінінай галавы...

Сказаць яна не пасьпела і нават апошні ківок абарвала рука таварыша з трупы.

— Трэба сьпяшыць у клюб гарбароў.

Звоняць! Чакаюць! Лаюцца!

Хутка!

І дарма Грышка Палякоў вартаваў да квадранцу часу—Міна не паказалася—яна вышла з кіно-тэатру чорным ходам.

Вышла і вынесла з сабою характарны танец віртуоза Бобіка.

Грышка Палякоў ня мог усачыць, чакаючы яе.

* * *

Ці-ж то дзіва, што вылучэнка прышла наведаць завод?

Не, Міна Зальцман не адарвалася ад рабочых і ад прадпрыемства, і не адарвецца.

Яе настроі і перажываньні—вядомы многім... Яна іх ня тоіць... Навошта? Міна судзіла:

Рабочы—будаўнік новага жыцьця, гаспадар савецкае краіны.

Рабочая кляса будуе соцыялізм.

Усё, усё на абслугоўваньне гэтых вялікіх задач.

Пролетарская культура, тэатр, навука, мастацтва...

Міна вылучана ў атрад будаўнікоў тэатру рабочае моладзі.

Гэта тэатр для рабочых. Ён мусіць быць зеркалам рабочага жыцьця, рабочых імкненьняў, нячуванае стройкі... Рабочае асяродзьдзе—крыніца, з якое тэатр мусіць чэрпаць свой рэпэртуар...

Перад Мінаю шляхі тэатру адчыняліся ва ўсёй сваёй паўнаце і разгорнутасьці.

Пра іх яна казала Эстэр на сходзе работніц бляшанага цэху, а часта—перад выступленьнямі, таксама.

І зараз...

Толькі Міна Зальцман на гэты раз прышла на завод зусім ня з гэтай мэтаю.

Яе завод прыцягнуў, як работніцу.

* * *

— Прадстаўніку тэатра рабочае моладзі мае ніжэйшае!

Сакратар комсамольскае ячэйкі, жартаўлівы Юдка Алехін быў тымжа, якім яго праведала Міна.

— Ну, зараз...

— Я прышла па справе.

— Наконт прыстаўленьня?..

— Кінь, таварыш Алехін, кінь. Я...

Мінін настрой тлумачыў недасказанае...

— Артыстка ў трагічнай ролі?

— Я хочу назад у бляхарню.

Ужо сакратароў твар абярнуўся ў вострае зьдзіўленьне.

— Так, на завод... Не магу абыйсьціся... Якая з мяне акторка...

— Ты сапраўды, Міна?

Або яна каму хлусіла?

Далей гутарка перашла ў памяшканьне партколектыву...

І тады, як рабочыя сьпяшылі на абед, Міна ішла з заводу, адчуваючы сябе так, мэрам-бы яна сёньні працавала ў бляхарні.

* * *

Альбо токарны цэх—дык вялікая наўда?

Міна скончыла профшколу, і, пэўна, патрапіць справіцца з фрэзэрным станком. Зразумела, перш нескладаныя опэрацыі, далей—болей...

Майстар пакажа—абы была ахвота і жаданьне.

А пра Міну ведалі, што яна таварыш цьвёрды і настойлівы.

І ў цэх яна вайшла, як выходзіла на сцэну—спакойна і ўверана.

Нават майстар Грос зацікавіўся.

І быў нават зьдзіўлены, калі Міна сьмела і ўладна пусьціла фрэзэр.

* * *

Разец сьпярша мэрам-бы баяўся Міны і акуратна драў з цьвёрдае буксы пакручастыя, зьмяістыя стружкі. А далей—выпадак—Міна загледзелася і разец даў вышчэрб.

Каб яна ведала, хто быў гэтаму прычынай.

Н-ну-у!

Ды позна...

Грышка Палякоў, як майстар цэху, спачувальна глядзеў на Міну.

Але яго займаў не зламаны разец, а засмуцелая здарэньнем работніца.

— Каго я бачу?

— Дзівішся?

— Не чакаў!

— Асудзіш?

— Што ты, Міна...

Праз дзесяць хвілін новы разец, на новым ходу станка, пад наглядам маладога майстра струміў дымком з-пад цьвёрдае сталі.

— Я цябе тут не чакала.

— Майстрам?

— Ты ўжо нават у майстрах?

— Ну, ведаеш...

— Што...

— Ты ўцёк ад мяне ў Ленінград, можна сказаць тайком.,.

Грос здалёк ківаў пальцам, а яму адсьмейваліся...

Ды ня ў страту рабоце, не.

Тыя паўгадзіны, якія Грышка Палякоў пастаяў каля Міны Зальман, далі дзяўчыне многае ў справе асвойтаньня станком...

* * *

Майстар токарнага цэху Грышка Палякоў пералічаў новых штурмавікоў ъ свае брыгады.

У сьпісу першай з новазапісаных значылася Міна Зальцман.

Але яе ўжо ведала брыгада не па сьпісу. Хуткае асвойтаньне станком перагаварвалася амаль ня ўсімі рабочымі цэху.

Міна рашуча заваёўвала кваліфікацыю токара, токара-ўдарніка.

* * *

— Завод мае чатыры месцы на курсах політэхнікуму. Можа, таварыш Зальцман, маеце ахвоту?

Міна нядоўга думала.

— Паеду.

Яе запісалі кандыдаткай.

І ўжо праз тыдзень Грышка Палякоў праводзіў сваю таварышку на вакзал.

— Я буду чакаць цябе ў якасьці тэхніка.

— Ня сьмейся.

За гэтымі словамі Міна мастацкі продэклямавала баявое чатырохвершые з Безыменскага.

Грышка Палякоў таварыскі шчыра паціснуў Міне Зальцман руку і хутчэй пасьпяшыў у завод на начную зьмену.

# III УДАРНЫ ЗЬЕЗД НАСТАЎНІЦТВА БССР

С. Рычкоў

III усебеларускі настаўніцкі зьезд, які адбыўся ў другой палове лютага г. г. у Менску, мае вялікае палітычнае значэньне і зьяўляецца адной з яскравых старонак у жыцьці і рабоце настаўніцкіх мас Савецкай Беларусі.

Гэта быў ударны зьезд, закліканы вырашыць задачы яшчэ большага ўцягненьня асноўнай настаўніцкай масы ў актыўную пасьпяховую работу, якая павінна праводзіцца баявымі тэмпамі, рэволюцыйнымі ўдарнымі формамі і мэтодамі, работу па дапамозе партыйным організацыям, саветам, пролетарска-савецкай грамадзкасьці ў вырашэньні адказьнейшых і складанейшых задач рэконструкцыйнага пэрыоду, задач трэцяга вырашальнага году пяцігодкі. Гэта быў зьезд, закліканы яшчэ больш мобілізаваць асноўныя настаўніцкія масы вакол свайго правадыра—комуністычнай партыі, на барацьбу за яе, компартыі, генэральную лінію, на барацьбу з опортунізмам у тэорыі і практыцы, асабліва з правым опортунізмам як галоўнай небясьпекай на даным этапе. Гэта быў зьезд, які падвёў вынікі работы асноўнай настаўніцкай масы па ўдзеле ў вырашэньні, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, задач ленінскай нацыянальнай політыкі, вынікі барацьбы савецкага настаўніцтва з усімі скрыўленьнямі ў нацыянальным пытаньні, барацьбы з найбольш небясьпечным у даны пэрыод вялікадзяржаўным шовінізмам, беларускім контр-рэволюцыйным нацдэмократызмам, з шовінізмамі іншых колераў. Гэта быў зьезд які вызначыў конкрэтныя шляхі далейшага, яшчэ больш пасьпяховага змаганьня савецкага настаўніцтва БССР, пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ленінскага ЦК, за ленінскую нацыянальную політыку.

У задачу III усебеларускага настаўніцкага зьезду ўваходзіла—пры дапамозе бальшавіцкай самакрытыкі з усёй рашучасьцю выявіць усе правалы, прарывы па асобных вучастках культурнага будаўніцтва, нацыянальнага па форме, пролетарскага, соцыялістычнага па зьместу, будаўніцтва, якое пры штодзенным ленінскім кіраўніцтве КП(б)Б, у сваім активе мае вялізарнейшыя посьпехі. У задачу зьезду ўваходзіла ня толькі рашуча ўскрыць недахопы, правалы ў культбудаўніцтве, але і знайсьці прычыны іх, вызначыць конкрэтныя шляхі іх хутчэйшай і лепшай ліквідацыі, шляхі дапамогі партыйным і савецкім організацыям па ўцягненьні ў справу культурнага будаўніцтва ўсё новых і новых слаёў пролетарскіх і працоўных мас, па стварэньні яшчэ большай арміі культ-

страляе, каго б'е, каму помсьціць. У асобе гэтых перадавікоў ён адчуваў наступленьне на яго дыктатуры пролетарыяту, адчуваў выразнае правядзеньне клясавай лініі. Другі полюс—гэта невялічкая частка настаўніцтва, настаўніцтва, якое выпадкова трапіла, прымазалася да шэрагаў савецкага настаўніцтва. Гэта чужакі ў настаўніцкіх шэрагах, клясавы вораг або яго агенства. Інакш як шкодніцкай гэтую частку настаўніцтва назваць нельга. Гэта тая частка настаўніцтва, на якую абапіраліся ў сваёй контр-рэволюцыйнай дзейнасьці беларускія нацыянал-дэмократы, адкуль яны чэрпалі сваіх прыхільнікаў. З гэтага лягеру кулакі вербавалі сваіх абаронцаў. З гэтага лягеру былі чутны галасы супроць індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі сельскай гаспадаркі, супроць соцыялістычнага наступленьня, супроць дыктатуры пролетарыяту. З гэтага смуроднага і бруднага месца вырастаюць кветкі махровага антысэмітызму, вялікадзяржаўнага шовінізму, контррэволюцыйнага беларускага нацыянал-дэмократызму, шкодніцтва і г. д. Зусім зразумела, чаму зьезд ня мог прайсьці міма пытаньняў палітычнай дыфэрэнцыяцыі ў шэрагах настаўніцтва, чаму ён даваў прыклады таго, як клясавы вораг і яго агентура рабілі і робяць свае контррэволюцыйныя вылазкі, чаму ён падрабязна спыняўся на пытаньнях барацьбы са шкоднікамі ў настаўніцкіх шэрагах, чаму ён у сваіх прапановах падкрэсьліў неабходнасьць хутчэй вызваліцца ад шкоднікаў у сваіх шэрагах, ад гэтай часткі настаўніцтва.

III усебеларускі настаўніцкі зьезд асаблівую ўвагу зьвярнуў на нацыянальнае пытаньне. Чырвонай стужкай на зьезьдзе праз усе даклады і спрэчкі праходзіла нацыянальнае пытаньне. Зьезд з вялікім задавальненьнем адзначыў, што вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР зьяўляюцца вынікам ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня комуністычнай партыяй бальшавікоў Беларусі і яе ЦК. Пасьлядоўнае ажыцьцяўленьне і кіраўніцтва нацыянальнай палітыкай КП(б)Б забясьпечылі росквіт культурнага будаўніцтва БССР нацыянальнага па форме, соцыялістычнага па сваім зьмесьце. На III зьезьдзе прысутнічалі настаўнікі, прадстаўнікі братэрскіх нацыянальных савецкіх рэспублік, аўтономных вобласьцяй (Украіны, Башкірыі, Мардовіі і інш.), якія ў сваіх выступленьнях фактамі, лічбамі паказвалі, як растуць і мацнеюць братэрскія савецкія рэспублікі, як пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі пасьпяхова ліквідуецца праклятая спадчына мінулага і нацыянальная варожасьць, як вырастае нябачнымі тэмпамі культурны ўзровень, матэрыяльны дабрабыт прыгнечаных пры царызьме рабочых, працоўных розных нацыянальнасьцяй, як пасьпяхова ў гэтых рэспубліках, вобласьцях будуюцца новыя фабрыкі, заводы, колгасы, саўгасы, якая моцная сувязь паміж рабочымі, працоўнымі масамі ўсіх нацыянальнасьцяй Савецкага Саюзу. На зьезьдзе было прадстаўлена больш 15 розных нацыянальнасьцяй. Ня гледзячы на тое, што выступленьні былі на розных мовах (беларускай, яўрэйскай, польскай, нямецкай, расійскай, украінскай, мардоўскай і інш.), зьезд добра зразумеў кожнага выступаючага

таварыша, бо ўсе выступаючыя гаварылі на адной клясавай мове—мове дыктатуры пролетарыяту, на мове пераможнага будаўніцтва соцыялізму. „Яшчэ больш згуртаваць свае шэрагі вакол выпрабаванага кіраўніка—комуністычнай партыі, з яшчэ большым уздымам удзельнічаць разам з пролетарыятам і пад яго кіраўніцтвам у разгортваньні соцыялістычнага наступленьня, праводзіць выразную клясавую лінію ў сваёй рабоце, пільна сачыць за клясавымі ворагамі, моцна біць па ўсіх яго вылазках, паўсьці ў паход па марксыцка-ленінскую тэорыю, рашуча змагаючыся з рознага колеру буржуазнымі тэорыямі на ідэолёгічным фронце, з рубіншчынай, з дзеборыншчынай і г. д., моцна трымаць сьцяг ленінізму, мобілізуючыся на барацьбу за генэральную лінію партыі“—такі быў агульны характар выступленьняў, такая была адзіная мова, зразумелая для ўсіх дэлегатаў зьезду. І калі асноўная маса настаўніцтва на спробы контррэволюцыйных беларускіх нацыянал-дэмократаў прыцягнуць яе на свой бок адказала рашучым адпорам нацыянал-дэмократам у часе шкодніцкай дзейнасьці Некрашэвічаў, Лёсікаў, Ластоўскіх і К-о, на самым зьезьдзе беларускі контррэволюцыйны нацдэмократызм атрымаў яшчэ больш руйнуючы адпор. З усёй яскравасьцю былі выкрыты соцыяльныя карэньні нацыянал-дэмократызму, поўнасьцю сарвана маска, за якою хаваўся кантррэволюцыйны твар Ластоўскіх, Некрашэвічаў, Лёсікаў, Баліцкіх, Ігнатоўскіх і „іжэ з імі“. Бязьмежнае абурэньне ахоплівала кожнага дэлегата зьезду, калі прыводзіліся прыклады тых ці іншых агідных контррэволюцыйных дзеяньняў нацыянал-дэмократаў.

„Контрррэволюцыйныя нацдэмы меркавалі зрабіць нас сваёй агентурай, але яны памыліліся, лёкаі фашызму, нацыянал-фашызму. Ганьбуем памочнікаў інтэрвэнтаў, патрабуем самага суровага пакараньня ўсёй чорнай зграі здраднікаў, лёкаяў буржуазіі. У адказ на іх дзейнасьць абвяшчаем сябе мобілізаванымі на работу бальшавіцкімі тэмпамі за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады“—такі быў голас зьезьду.

Зьезд прыняў пастанову—„лічыць несумяшчальнымі пропаганду нацдэмаўскіх поглядаў са знаходжаньнем у шэрагах саюзу, на рабоце ў навучальных установах“.

Мобілізуючы сябе і ўсё савецкае настаўніцтва на бязьлітасную барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам, зьезд сконцэнтраваў агонь на вялікадзяржаўным шовінізьме, як на найбольш небясьпечным у даны пэрыод. „Працягваць і ўзмацняць барацьбу з праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму, як найбольш небясьпечным на даным этапе, дабіцца поўнага выкананьня пастаноў комуністычнай партыі аб беларусізацыі, пастаноў XVI зьезду ЎсеКП(б), XIII зьезду КП(б)Б, пастаноў кастрычніцкага пленуму ЦК КП(б)Б па нацыянальным пытаньні“—была аднагалосная думка ўсяго зьезду.

III усебеларускі настаўніцкі зьезд быў зьездам інтэрнацыянальнай солідарнасьці. Савецкае настаўніцтва 16 розных нацыянальнасьцяй—было адзінай сям'ёй.

Зьезд з вялікай зацікаўленасьцю заслухаў прамовы былых паслоў у польскі сойм тт. Рак-Міхайлоўскага, Бурсэвіча, якія намалявалі жудасны малюнак соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня рабочых і працоўных мас Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны, разгулу фашыцкага тэрору, пагромаў, зьдзекаў, гвалтаў польскага імпэрыялізму, які разам з сусьветным імпэрыялізмам рыхтуе напад на СССР. Зьезд рашуча пратэставаў супроць пагромаў, крывавых жудасных катаваньняў, якімі польскі фашызм думае задушыць нарастаючы рэволюцыйны рух у Заходняй Беларусі, Заходняй Украіне, Польшчы. Праз галовы польскага фашызму савецкае настаўніцтва БССР у асобе свайго III зьезду зьвярнулася з адозвай да таго настаўніцтва Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны, якое ідзе пад сьцягам братэрскіх комуністычных партый разам з пролетарыятам па шляху да перамогі пролетарскай рэволюцыі. Зьезд узяў на сябе абавязацельства палепшыць справу інтэрнацыянальнай сувязі, яшчэ шчыльней зьвязацца з перадавой часткай настаўніцтва капіталістычных краін, дапамагчы ім лепш азнаёміцца з вялізарным соцыялістычным ростам Савецкага Саюзу, БССР як аднэй з ім непадзельнай часткі, дапамагчы ім гэтым самым у барацьбе з агульным клясавым ворагам і сусьветнай буржуазіяй.

Асноўным актуальнейшым пытаньнем на III зьезьдзе было пытаньне аб задачах настаўніцтва ў рэконструкцыйны пэрыод. Нашая краіна ўступіла ў пэрыод соцыялізму. У ёй адбываюцца вялізарныя соцыяльна-экономічныя зрухі. Пытаньне „хто-каго" вырашана ў прамысловасьці на карысьць соцыялізму. Камандныя вышыні прамысловасьці—у нашых руках. Прыватны капітал выбіты адсюль беззваротна. У нашай краіне завяршаецца пабудова фундаманту соцыялістычнай экономікі. Цэнтральнай фігурай, асноўнай і галоўнай апорай партыі на вёсцы зьяўляецца колгасьнік. Кулак моцна пабіты, мы дабіваем кулака. Дабіваем яго разгортваньнем соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, суцэльнай колектывізацыяй. Шырока разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсім фронце абвастрыла клясавую барацьбу. У перадсьмяротных сутаргах клясавы вораг кулацкім абрэзам, шкодніцкім падручнікам, рубіншчынай, Лёсікамі, Некрашэвічамі, Рамзінамі, Ларычавымі, Шэрамі, Громанамі, Сухановымі—спрабуе затрымаць пераможны рух соцыялізму. Уздымам творчага энтузіязму, рэволюцыйнымі формамі і мэтодамі работы, хваляй соцспаборніцтва, ударніцтва, скрознымі брыгадамі, грамадзкім буксірам—адказвае пролетарыят на заклік сваёй партыі—перамагаючы цяжкасьці, змагаецца за выкананьне і перавыкананьне прамфінплянаў, за поўнае ажыцьцяўленьне лёзунгу „Пяцігодку—у чатыры гады".

У гэты час там, у краінах капіталізму, пануе глыбокі экономічны заняпад, крызіс, які ператвараецца ў крызіс палітычны, беспрацоўе, жабрацтва, голад, галеча шматмільённых пролетарскіх працоўных мас, разгул фашызму, які мяркуе затрымаць нарастаючую хвалю рэволю-

цыйнага руху і шалёна рыхтуецца да нападу на СССР. Рэконструкцыйны пэрыод, трэці вырашальны год пяцігодкі патрабаваў ад зьезду, ад усяго савецкага настаўніцтва па-бальшавіцку вырашыць пытаньне конкрэтных шляхаў сваёй далейшай работы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. І з гэтай задачай зьезд поўнасьцю справіўся. Усе пастановы зьезду якраз і накіраваны на тое, каб чырвонаштандарнае настаўніцтва БССР яшчэ з большай напружанасьцю, энэргіяй працавала на тых вучастках работы, куды яно пастаўлена комуністычнай партыяй, урадам. У свой час асноўная маса настаўніцтва дала партыі абяцаньне быць яе лепшым агітпропам на вёсцы. Па ўдзеле ва ўсеабучы, ліквідацыі няпісьменнасьці, ўдзеле ў першай бальшавіцкай вясьне, асноўная маса настаўніцтва вытрымала палітычны экзамен. Гэта дае ўпэўненасьць у тым, што і на далейшы час чырвонаштандарнае настаўніцтва БССР ня толькі не пасабіць, але і значна ўзмоцніць тэмпы сваёй вытворчай і грамадзкай работы. У асобе свайго III зьезду савецкае настаўніцтва БССР моцна ўдарыла па апалітычнасьці, нэўтральнасьці, абвясьціўшы іх непасрэднай дапамогай клясаваму ворагу, контррэволюцыі, інтэрвэнтам. У асобе свайго III зьезду савецкае настаўніцтва гаварыла, што зараз ня можа сябе лічыць, ня можа быць савецкім настаўнікам той настаўнік, які замкнецца ў сваёй лусцы, ня будзе мець сувязі з пролетарска-савецкай грамадзкасьцю, які будзе стаяць у баку ад вялізарных зрухаў у нашай краіне, які ня будзе прымаць актыўнага ўдзелу ў пабудове соцыялізму. Асноўная фігура настаўніцтва—гэта настаўнік-ударнік у школе, ударнік у грамадзкай рабоце, актыўны змагар за справу пролетарскай рэволюцыі, настаўнік, шчыльна зьвязаны з рабочым, колгасьнікам, настаўнік, які пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі па-бальшавіцку вядзе барацьбу за яе генэральную лінію, які стаіць у першых шэрагах соцыялістычнага наступленьня, які на справе даводзіць, што ён поўнасьцю зразумеў, практычна пераламляе пастановы XVI зьезду ЎсеКП(б), XIII зьезду КП(б)Б. З рэспубліканскай трыбуны III зьезду савецкае настаўніцтва аб гэтым рашуча заяўляла, гаварыла аб практычнай рабоце, якую яно ўжо праводзіць у гэтым напрамку. У простых словах, але глыбокіх па сваім сэнсе, лепшая частка настаўніцтва гаварыла, як яно, перамагаючы цяжкасьці, вядзе барацьбу за выкананьне задач, пастаўленых партыяй перад савецкай інтэлігенцыяй.

Задачы настаўніцтва ў рэконструкцыйны пэрыод вялікія і складаныя. Для выкананьня іх патрэбна ня толькі жаданьне, але і адпаведная падрыхтаванасьць. „Не супакойвацца на тым, што ёсьць ужо добрая практыка ўдзелу ў вытворчай, грамадзкай рабоце, вучыцца аўладаць, узбройвацца рэволюцыйнай, марксыцка-ленінскай тэорыяй, узбройвацца пастановамі зьездаў комуністычнай партыі, каб быць падрыхтаваным для актыўнай і пасьпяховай работы ў рэконструкцыйны пэрыод“—такое было слова, такая была пастанова зьезду. Гэта зусім правільная пастанова. Гэтая пастанова цалкам адпавядае тым запатрабаваньням, якія

Зьезд улічваў гэта. Усе свае пастановы ён выносіў, выходзячы з задачы ўзмацненьня абароназдольнасьці нашай краіны. І невыпадковы быў той уздым, энтузіязм, з якім зьезд сустракаў прыходзіўшых з прывітаньнямі байцоў Чырвонай арміі, з якім было прынята прывітаньне правадыру Чырвонай арміі т. Варашылаву, праведзены зборы на дырыжабль „Клім Варашылаў“ і г. д. Усё гэта паказвала на тое, што савецкае настаўніцтва разумее, што сучасны момант патрабуе асаблівай клясавай пільнасьці, напружанай работы па ўзмацненьні абароназдольнасьці нашай краіны. „Аддамо ўсе сілы на будаўніцтва соцыялізму, па-ўдарнаму будзем працаваць на тых вучастках, куды нас паставіла партыя і савецкая ўлада. Няхай вораг паспрабуе зрабіць замах на заваёвы Кастрычніка—чырвонаштандарнае настаўніцтва БССР, усё, як адзін, стане са зброяй у руках на абарону краіны дыктатуры пролетарыяту“—так заявіў зьезд, так сказала праз зьезд усё чырвонаштандарнае настаўніцтва Савецкай Беларусі.

Палітычнае значэньне III зьезду вялікае. Ён зьяўляецца новым этапам у жыцьці, рабоце савецкага настаўніцтва БССР. Этапам рашучага і беспаваротнага прыходу асноўнай масы пролетарыяту, яго авангарду—комуністычнай партыі, этапам паходу асноўнай масы настаўніцтва за выкананьне пастаўленых компартыяй перад савецкай інтэлігенцыяй задач. Асноўнай фігурай, пераважнай фігурай настаўніцтва стаў настаўнік, актыўны змагар за справу дыктатуры пролетарыяту. Савецкае настаўніцтва пад кіраўніцтвам компартыі мобілізавалася на барацьбу за пяцігодку ў чатыры гады. Савецкае настаўніцтва зразумела, што яно працуе на адказьнейшым вучастку соцыялістычнага будаўніцтва, на вучастку падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў і разгортвае тут ударныя баявыя тэмпы работы. З яшчэ большай клясавай загартаванасьцю, з яшчэ большым энтузіязмам прыступае чырвонаштандарнае настаўніцтва БССР да работы ў найадказьнейшы пэрыод. Компартыя па-ленінску вырашае задачу „паставіць настаўніка на такую вышыню, на якой ён не стаяў і ня можа стаяць ні ў адной капіталістычнай краіне“.

Партыйныя, профсаюзныя, савецкія і грамадзкія організацыі на мясцох узмоцняць сваё кіраўніцтва работай сярод настаўніцтва, абкружаць яшчэ большым таварыскім давер'ем, падтрыманьнем савецкага настаўніка, дапамогуць яму яшчэ ў большай ступені быць уцягнутым у соцыялістычнае будаўніцтва, дапамогуць яму хутчэй пазбавіцца ад чужакоў у сваім асяродзьдзі, быць у першых шэрагах актыўных удзельнікаў бальшавіцкага правядзеньня другой бальшавіцкай вясны, усеабучу, ліквідацыі няпісьменнасьці, політэхнізацыі асьветы.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі савецкае настаўніцтва БССР на справе павінна давесьці і з дапамогаю ўсёй пролетарскай грамадзкасьці давядзе, што яно вартае таго, каб насіць вялікую назву чырвонаштандарнага настаўніцтва.



Акадэмік Н. Я. Мар.

# БОЙКІ НА МОВАЗНАЎЧЫМ ФРОНЦЕ [1])

Проф. В. І. Баркоўскі

## Уступная прамова перад дакладам

Я дазваляю сабе, перад сваім дакладам, сказаць некалькі слоў. Спачатку аб тэме.

Тэма—„Бойкі на мовазнаўчым фронце“.

Як бачыце, тэма вялізная, якую нельга абхапіць у адным дакладзе.

Бо павінна быць вырашана галоўнейшая чарговая задача — па якім шляху пойдзе Інстытут мовазнаўства Бан.

Вось таму я ны лічу, што мой даклад можа ўсебакова асьвяціць пастаўленую тэму

Мая задача—намеціць проблему, паказаць яе важнасьць, асноўны шлях далейшай работы.

Значыцца, за гэтым дакладам павінен быць цыкль дакладаў па асобных пытаньнях, цыкль дакладаў, які даваў-бы вычэрпваючы фактычны матэрыял.

Такім чынам, я не бяру на сябе функцыі аракула, які вяшчуе ісьціны па ўсіх пытаньнях.

У гэтым тыя гаварышы, якія жадаюць атрымаць вычэрпальную крытыку, вычэрпваючыя паказаньні, бязумоўна, убачаць недахоп, я-ж лічу, што выказаны мною пагляд—адзіна правільная ўстаноўка.

*Даклад.*

„Дыктатура пролетарыяту ёсьць упартая барацьба, крывавая і бяскроўная, гвалтоўная і мірная, ваенная і гаспадарчая, пэдагогічная і адміністратарская, супроць сіл і традыцый старога грамадзянства“ (Ленін, т. XVII, стар. 136).

„... клясавая барацьба, а таксама і барацьба з нацыянал-дэмакратызмам яшчэ ня скончана. Мы толькі нанесьлі руйнуючы ўдар нацыянал-дэмакратызму. Нашы задачы заключаюцца ў тым, каб да канца і з карэньнямі ліквідаваць рэшткі нацыянал-дэмакратызму. Для гэтага патрабуецца штодзенная і самая бязьлітасная работа і барацьба. Нам неабходна быць заўсёды на варце, праявіць яшчэ

[1]) Даклад проф. В. І. Баркоўскага ў Інстытуце мовазнаўства беларускай акадэміі навук 5 лютага 1931 году.

больш клясавай пільнасьці і чуласьці. Толькі пры такіх умовах мы з посьпехам вырвем з карэньнем рэшткі нацыянал-дэмократызму" (даклад старшыні СНК БССР т. Галадзеда на III сэсіі ЦВК БССР IX скліканьня).

Адчыняючы першае пасяджэньне падсэкцыі матэрыялістычнай лінгвістыкі сэкцыі літаратуры, мастацтва і мовы комакадэміі 27 кастрычніка 1928 г. т. Фрычэ (цяпер ужо нябожчык) зазначыў:

„... у лінгвістыцы працягвае панаваць старая, дзесяцігодзьдзямі пасьвянцоная формальная і ідэалістычная традыцыя.

Але ў нашай краіне, дзе мы маем шчасьце і здавальненьне працаваць, уся культурная атмосфэра, уся разумовая атмосфэра насычана мікробамі марксызму, адзіна карыснымі, здольнымі ня толькі руйнаваць, але і ствараць. І таму зусім натуральна, што ў такой атмосфэры гістарычны і дыялектычны матэрыялізм стыхійна ўрываецца ў навуковыя пабудовы нашых лінгвістаў, што нашы лінгвісты стыхійна, на грунце сваіх навуковых вышукаў, прыходзяць і вымушаны прыходзіць да марксыцкіх або блізкіх да марксызму палажэньняў і высадаў. Наперадзе ідзе Н. Я. Мар—творца яфэтычнай тэорыі...

... сама яфэтычная тэорыя на нашых вачох перараджаецца і ператвараецца ў матэрыялістычную, дыялектычную марксыцкую лінгвістыку"... (Н. Я. Мар „Актуальныя проблемы і чарговыя задачы яфэтычнай тэорыі", Комакадэмія, М.—1929 г., стар. 5—6).

Гэта было сказана ў 1928 годзе, а ў зборніку, які вышаў у 1929 годзе „Мовазнаўства і матэрыялізм"—мы ізноў чытаем: У Ленінградзкім дзяржаўным унівэрсытэце яшчэ зусім нядаўна, а ў некаторых іншых вузах і па гэты час—пад сьцягам „Уводзіны ў мовазнаўства" (самая ідэолёгічная ад усіх лінгвістычных дысцыплін!) галовы студэнтаў-філёлёгаў узмоцнена начыняліся і начыняюцца бодуэнаўскім суб'ектыўным ідэалізмам (Я. В. Лоя „Супроць суб'ектыўнага ідэалізму ў мовазнаўстве", стар. 131—132 паказанага зборніка).

„Лінгвістыка", кажучы словамі Фрычэ, „менш за ўсё закранута гэтым магутным струменем рэорганізацыі навуковага мысьленьня і навуковай будоўлі" (Н. Я. Мар „Актуальныя проблемы яфэтычнай тэорыі, стар. 5).

Ідэалізм выступае ў рознастойных вопратках, то ў форме „соцыялёгічнага вучэньня аб мове", то ў форме „тэорыі самабытнасьці мовы" і г. д., і т. п.

Ва ўсіх гэтых выпадках ён зьяўляецца агентурай нашага клясавага ворага.

На мовазнаўчым фронце—дзьве сілы:

1. Буржуазныя ідэалістычныя тэорыі, якія прапануюцца амаль з усіх унівэрсытэцкіх катэдраў, якія вылязаюць цёмнай спадчынай мінулага

амаль з усіх падручнікаў сярэдняй і вышэйшай школы, электычныя тэорыі ўсякага гатунку і

2. Тэорыя яфэтычная, аб якой акадэмік М. Н. Пакроўскі пісаў („Известия ЦИК", 23-V—28 г.): „Калі-б Энгельс яшчэ жыў паміж намі, тэорыяй Мара займаўся-б цяпер кожны вузавец, таму што яна ўвайшла-б у жалезны інвэнтар марксыцкага разуменьня чалавечай культуры..."

Мовазнаўчая дыскусія ў верасьні—лістападзе мінулага году, пачатая ў сэкцыі матэрыялістычнай лінгвістыкі групай „Мовазнаўчы фронт", з відавочнасьцю паказала, што ідзе барацьба *за* або *супроць* марксыцкага мовазнаўства, прадстаўленага яфэтычнай тэорыяй.

Ніякімі спасылкамі на творы нашых правадыроў „толькі дакладнымі ведамі культуры, створанай усім разьвіцьцём чалавецтва, толькі пера-апрацоўкай яе можна будаваць пролетарскую культуру" (Ленін), проф. Паліванаву (артыкул „Специфические особенности последнего десятилетия 1917—1927 гг". „Ученые записки" Ранион, М.,—1928, стар. 205: Ін) і яго спаборнікам не адстаяць каштоўнасьці індаэўропэйскай тэорыі.

Ленін гаварыў аб „пераапрацоўцы старой культуры, індаэўропэізм-жа застаўся на старых позыцыях, зайшоў у тупік і зьяўляецца па сваёй істоце рэакцыйнай тэорыяй.

Ня дзіўна, што нават з шэрагаў індаэўропэістаў нясецца скогат: „Скажу проста: мы присутнічаем пры сапраўдным крызісе лінгвістычных ведаў..."

„... для сучаснага лінгвіста ясна, прынамсі, ужо тое, што на шляху параўнаўчай граматыкі індаэўропэйскіх моваў рабіць больш няма чаго" (Г. Винокур „Культура языка", 1925, стар. 9-10).

Гэтая заява была сустрэчана ў штыхі. Актыўныя барацьбіты за індаэўропэйскае мовазнаўства (а колькі ёсьць яшчэ пасыўных, „якія" скромнай" (у двукосьсі), „чытаюць" свае курсы) зараз-жа выступілі запэўніваць, што ніякага крызісу няма.

Проф. Паліванаў (вы яшчэ, пэўна, не забылі яго даклад „Што ўяўляе сабой яфэтычная тэорыя?", даклад, які заклейміла ўся грамадзкасьць?) паказвае на вялікія паслугі індаэропэістаў за дзевяцігодзьдзе — ад 1917 па 1927 год (гл. паказаны вышэй артыкул проф. Паліванава): За мінулае-ж, дзесяцігодзьдзе ва ўсіх нас былі об'ектыўныя прычыны таго, што са зробленага магла быць апублікаванай толькі самая нязначная частка. А тымчасам у нас, у СССР, за гэты час было пастаўлена, а часткова і разьвязана шмат зусім новых проблем, што зусім выпраўдвае тую цікавасьць, і, лепей сказаць, цікаўную дапытлівасьць, з якою заходнія лінгвісты глядзяць на адбываючуюся ў нас работу"... (стар. 8).

Пералічваючы працуючых у тэй ці іншай галіне (лепей сказаць, іх работы), проф. Паліванаў зьлёгка робіць заўвагу і аб Мары"... і яшчэ больш значнае кола працаўнікоў (на чале з акадэмікам) Н. Я. Марам) дасьледуе жывыя мовы нацменшасьцяй СССР, удзельнічаючы разам з

тым у практычных мерапрыемствах па нацыянальных пісьменнасьцях..“ (стар. 9).

Зьвярнеце ўвагу, як звужана кола пытаньняў, якімі займаецца Н. Я. Мар.

Пералік паслуг індаэўропэйскай тэорыі напаўняе гордасьцю ўсіх індаэўропэістаў.

Ня меншай гордасьцю напаўняецца сэрца профэсара Паліванава і пры ўспамінах аб „корыфэях нашага мовазнаўства“.

Гэтых „корыфэяў“ проф. Паліванаў спрабуе абараніць ад пасяганьняў гарэзных сучасьнікаў:

„Бяда ў тым, што ў працах лінгвістаў папярэдняга пакаленьня лінгвістыка была выключна або амаль выключна навуковай прыродазнаўча-гістарычнай; забывалася, што навука аб мове ў той-жа час павінна быць навукай соцыялёгічнай. Вярней, гэта забывалася ня ў тэорыі, а на практыцы, бо, зразумела, корыфэям нашага мовазнаўства (у дарэволюцыйны пэрыод) ня прыходзіла ў галаву адмаўляць тое, што мова... ёсьць у той-жа час зьявішча соцыяльнае. Гэта не адмаўлялася, але забывалася *на справе*—у самым процэсе творчай працы“... (стар. 4). Апраўдаўшы дарэволюцыйных дзеячоў навукі, проф. Паліванаў поэтычна клікае:

„Вось чаму рэволюцыйны зрух у бок марксыцкай мэтодолёгіі павінен зьдзейсьнівацца тут ня ў выглядзе пахавальнай процэсіі за труной прыродна-гістарычнага мовазнаўства і здабытай ім конкрэтнай гісторыі моваў, а ў пабудове новых аддзелаў—мовазнаўства соцыялёгічнага, якое зьліе ў зграбнае прагматычнае цэлае конкрэтныя факты моўнай эволюцыі з эволюцыяй (г. зн. гісторыяй) грамадзкіх форм і конкрэтных грамадзкіх організмаў. Вось чаму тут нельга ігнараваць лінгвістычную культуру, створаную папярэднімі пакаленьнямі, нельга ня ведаць устаноўленых ёю фактаў, як і мэтадаў, дазваляючых пераканацца ў матэматычна дакладнай даведзенасьці гэтых фактаў, і больш чым неабходна помніць словы Ўладзімера Ільліча“.

„Толькі дакладна ведаючы культуру, створаную ўсім развіцьцём чалавецтва, толькі пераапрацоўваючы яе, можна будаваць пролетарскую культуру“ („Задачи молодежи“, стар. 4).

Якая бездапаможнасць, неразуменьне таго, што павіна ўяўляць сабою марксыцкае мовазнаўства, гучыць у словах „пабудове *новых аддзелаў* (падкрэсьлена мною.—В.Б.)—мовазнаўства соцыёлёгічнага. Ня менш цікавы і „грамадзянскія організмы“.

Ня буду падрабязна спыняцца, разьбіраць „тыя асноўныя асаблівасьці, якімі“, па думцы проф. Паліванава, „мінулае дзесяцігодзьдзе адрозьніваецца ад папярэдніх этапаў у гісторыі нашай лінгвістыкі“ (стар. 5). Яны абагульняюцца ў чатыры асаблівасьці:

1) Перанос цэнтру цяжару на соцыолёгічны бок у вывучэньні мовы.

2) Стварэньне цьвёрдай мэтавай устаноўкі для навукова-дасьледчай працы.

3) Зьмену кадраў навуковых процаўнікоў (толькі моладзі) шляхам папаўненьня іх асьпірантамі—прадстаўнікамі розных народнасьцяй;

4) Немагчымасьць друкаваньня лінгвістычных прац у першыя гады рэволюцыі і большую абмежаванасьць выдавецкіх магчымасьцяй у наступныя гады.

І гэта ўсё.

Тым ня менш спаборнік проф. Паліванава — проф. Пэтэрсон сьпяшаецца нас супакоіць, што крызісу няма. У сваім артыкуле „Проблемы індаэўропэйскага мовазнаўства за 10 гадоў (з 1917 да 1927 г.) у СССР“ (у тэй-жа кнізе „Вучоных запісак“) ён піша (стар. 13): „У зьвязку з пытаньнем аб крызісе індаэўропэістыкі ў некаторых узьнікла думка, ці ня шукаць ратунку ў яфэтыдолёгіі. З гэтага поваду ў навуковым інстытуце М. В. Сяргіеўскім быў прачытаны даклад на тэму „Яфэтыдолёгія і яе навейшыя посьпехі“ (26 мая 1923 г.). У выніку разважаньняў па дакладзе было высьветлена, што тое станоўчае, што можна знайсьці ў яфэтыдолёгіі (напрыклад, увагу да пытаньня аб мешаніне моваў), была ўжо і ў індаэўропэістыцы; тое-ж, чым яфэтыдолёгія адрозьніваецца ад індаэўропэістыкі, уяўляе вялікі крок назад“.

Проф. Пэтэрсон лічыць, што ён спрытна выступіў у абарону і заадно разьбіў яфэтычную тэорыю. Да свайго вываду ён ужо напярод падрыхтоўваў нас.

У самым пачатку яго артыкулу заяўлена:

„Тыя проблемы, якія па маёй думцы, высунуліся на першы плян за гэты пэрыод, ня новыя. Карэньні іх заўсёды ў мінулым, і часам у далёкім мінулым. Задача мая ня ў тым, каб адшукваць гэтыя корні, а ў тым, каб формуляваць самыя проблемы і паказваць ступень іх распрацоўкі.

Першай я ўспамяну проблему, якая ў нашы часы стала, можна сказаць, моднай. Гэта проблема *соцыолёгіі мовы.*

Цікавасьць да гэтай, вельмі ня новай проблемы, ажывілася ў нас перш за ўсё ў сувязі са зьяўленьнем кнігі de Saussure'а „Cours de lingwistique generale“ (Paris, 1916, пасьмяротнае выданьне); немалое значэньне пры гэтым мела і сама эпоха, у каторую так яскрава выказваецца ўплыў соцыяльных фактараў на мову. У вывучэньні гэтых фактараў і бачаць звычайна проблему соцыолёгіі мовы, і такое разуменьне нельга не растлумачыць уплывам таго часу, які цяпер перажываецца; сапраўды-ж проблема гэта куды шырэй. Больш глыбокаму разуменьню проблемы дае грунт успамянутая кніга de Saussure'а (стар. 10—11).

Уся гэта цытата надзвычайна цікава.

Тут і імкненьне паказаць, што „нішто ня нова над месяцам“.

Тут і ацэнка проблемы *соцыолёгіі мовы*, як проста „моднай“.

Тут і паказаньне на перавагу de saussure'а над беднымі савецкімі лінгвістамі (гл. апошні сказ цытаты).

Ёсьць і інтэлігенцкія ўздыхі аб уплыве „таго часу, які цяпер перажываецца“ (ці ня лішне злоўжываюць гэтымі перажываньнямі!).

Далей Пэтэрсон гаворыць аб працы de saussure'a („Cours de lingwistigue generale“ Paris, 1916 пасьмяротнае выданьне).

Адзначыўшы моманты: 1) мова — соцыяльнае зьявішча. 2) Мова— дзейнасьць,—Пэтэрсон паказвае, што de saussure адрозьнівае разуменьне *мова* (дзейнасьць, уласьцівая кожнаму чалавеку) ад разуменьня *мова* (сыстэма лінгвістычных знакаў) і разуменьня *гаварэньня* (індывідуальнае ўжываньне сыстэмы).

Устанавіўшы, што de saussure бачыць об'ект лінгвістыкі ў мове, як сыстэме лінгвістычных знакаў, Пэтэрсон вырашае: „Такім чынам, на першы плян выступае *апісаньне* сыстэмы лінгвістычных знакаў, тымчасам, як да гэтага часу лічылася, што навуковае мовазнаўства павінна займацца, галоўным чынам, гісторыяй мовы.

Значыць, проблема соцыолёгіі мовы для свайго вырашэньня патрабуе: 1) апісаньня *мовы*, як сыстэмы; 2) вывучэньня мовы ў грамадзе; 3) вывучэньня соцыяльных фактараў, якія ўплываюць на зьмену мовы“ (стар. 11).

Паставіўшы такія задачы перад проблемай соцыолёгіі мовы, Пэтэрсон ня бачыць ніводнае працы, якая здавальняла-б паказаным ім запатрабаваньням, і робіць вывад — „Такой працы, якая-б ахоплівала ўсе проблемы соцыолёгіі мовы, няма ні ў нас, ні на Захадзе“ (стар. 11). Ну, а як-жа з крызісам? Паўтараю, ніякага крызісу індаэўропэйскага мовазнаўства проф. Пэтэрсон ня бачыць. Па думцы Пэтэрсона, уся справа зводзіцца да таго, што... няправільна зразумелі de saussure'a: апошні, высоўваючы *апісаньне* мовы, зусім не адмаўляе *гісторыі* мовы. Няправільнае зразуменьне—вось што выклікала крыкі Шора і Вінакура аб крызісе лінгвістыкі: „Абапіраючыся на гэтую думку, а таксама на яго крытыку лінгвістыкі, аснованай Бопам, у нас, як гэта часта бывае, даходзіць да крайнасьцяй...“ (стар. 12).

Як і проф. Паліванавым, профэсарам Пэтэрсонам, проблем, маючых інтарэс і над якімі працавалі ў працягу 1917—1927 гг., высоўваецца ня вельмі многа.

Яны зводзяцца да: 1) соцыолёгіі мовы; 2) вырашэньня пытаньня — апісаньне або гісторыя; 3) апісаньня гукавой сыстэмы мовы; 4) апісаньня морфолёгічных асаблівасьцяй мовы; 5) апісаньня сынтаксычных зьяў мовы; 6) узьдзеяньня соцыяльных фактараў на зьмену мовы.

Калі праглядаеш сьпіс проблем, то мімаволі робіш вывад—проф. Пэтэрсон прымаў значны ўдзел у распрацоўцы актуальнейшых проблем: пры разглядзе 4-ай і 5-ай проблемы, успамінаючы імя Фартунатава, аўтар „скромна“ гаворыць і аб сабе.

Што-ж гэта за соцыяльныя фактары, аб якіх не пазабыў, праўда, толькі ў шостым пункце (!), сказаць проф. Пэтэрсон. Вось што мы знаходзім у артыкуле: „З гэтых фактараў вывучаліся, галоўным чынам, два: 1) зьмяшэньне і ўзаемны ўплыў моваў, 2) уплыў вайны і рэволюцыі“ (стар. 18).

Як бачым, аўтар недалёка адышоў, вярней, зусім не адышоў, ад проф. Томсона, Багародзіцкага, Пражазінскага і інш. слупоў індаэўропэйскага мовазнаўства.

Цікавая цытата: „Вывучэньне ўплываў вайны і рэволюцыі на расійскую мову, апроч некалькіх невялікіх прац, прысьвечана грунтоўнае дасьледваньне проф. А. М. Селішчава, якое ў хуткім часе павінна выйсьці з друку" (стар. 19).

Гутарка ідзе аб атрымаўшай сумную вядомасьць кнізе „Мова рэволюцыйнай эпохі".

Не магу ня спыніцца на наступных мейсцах артыкулу. Гаворачы аб узьнікшай проблеме ўстанаўленьня літаратурнага вымаўленьня, проф. Пэтэрсон адзначае: „Настойліва неабходны конгрэс для вырашэньня гэтага пытаньня, таму што расійская літаратурная мова служыць прыладаю зносін для ўсяго рознастайнага складу насельніцтва СССР" (стар. 15).

Пасьля такіх досыць моцных вывадаў знаходзім цытату і аб нацыянальных мовах там, дзе гаворыцца аб проблеме зьмяшэньня і ўзаемнага ўплыву моваў: „Гэта проблема асабліва важна для нас з тэй прычыны, што ў СССР з даўніх пор ужываюцца на аднэй тэрыторыі самыя рознастайныя мовы. Яны ўяўляюць выгодны матэрыял для разьвязаньня цяжкай проблемы. Цікава яна і з пункту погляду ўплываў аднае падмовы на другую" (стар. 18).

Дарэмна мы стараліся-б найсьці яшчэ хоць радок, хоць-бы яшчэ адну заўвагу аб проблеме нацыянальных моваў.

Гэта ўсё!

Ім адведзена толькі дапаможная роля, яны „выгодны матэрыял". Для нас гэты вывад зусім зразумелы: бо аўтар гаворыць, што „расійская літаратурная мова служыць прыладай зносін да ўсяго рознастайнага складу насельніцтва СССР" (стар. 15).

Значыць, крызісу няма, яфэтычная нічога не дае—вось вывады проф. Паліванава і проф. Пэтэрсона.

Ці належыць пасьля гэтага дзівіцца з таго, што і залежныя індаэўропэісты выступілі ў абарону індаэўропэйскага мовазнаўства, адначасна зрабіўшы напад на яфэтыдалёгію. Д-р Ст. Младзенаў піша артыкул „Нѣколко теории за далечномо родзтво на евразийскитѣ езици" (Годишнак на Софийския университетъ, Историко-филологически факултетъ, книга XXV, 10. София, 1929).

У гэтым артыкуле слова *яфэтычныя* (гл. стар. 40) бярэцца ў двукосьсе.

Артыкул проф. Дзяржавіна „Албановедение и албанцы" (зборнік „Язык и литература", т. III) і другі яго-ж артыкул „Яфетические переживания в прометендской сялянскай традиции" (там-жа) д-р Младзенаў лічыць выгодным крытыкаваць шляхам разбору выхапленых з артыку-

лаў сэмантычных радоў і рабіць кплівы вывад (гл. стар. 42) аб ненавуковасьці пабудоў Н. Я. Мара і Н. С. Дзяржавіна.

Якое ўзварушлівае аднадушша ў проф. Паліванава і проф. Пэтэрсона з замежнымі „брацьямі“.

Ня гледзячы на ўсе запэўненьні ў адсутнасьці крызісу індаэўропэйскага мовазнаўства, крызіс ёсьць у наяўнасьці, індаэўропэістыка, як і іншыя буржуазныя тэорыі, у тупіку і ніякімі „папраўкамі“ „дадатковымі аддзеламі“ яе ня выратаваць.

Залаты век індаэўропэйскай тэорыі кануў у вечнасьці. XIX стагодзьдзе ня справіцца з марксыцкім мовазнаўствам.

А якія бліскуючыя пэрспэктывы маляваліся асновапаложнікам параўнаўчага мэтоду.

Усе папярэднія вышуканьні чалавецтва, якія мелі мэту вырашыць пытаньне аб узаемаадносінах мовы і яе носьбіта—чалавецкае грамады, былі аднесены да галіны ненавуковага мовазнаўства.

Былі забыты спрэчкі старажытных аб тым, якая сувязь паміж гукавым бокам слова і яго значэньнем—натуральная дадзеная ад прыроды альбо ў моц традыцыі, грамадзкае згоды.

Здавалася ненавуковым займацца пытаньнямі аб паходжаньні мовы, і хоць Арыстотэль, Плятон, александрыйцы, эпікурэйцы,—усе выдатныя розумы старога сьвету налажылі адбітак на мовазнаўства (сынтакс, вучэньне аб часьцінах мовы і г. д. да апошняга часу не маглі вызваліцца ад іх уплыву), мовазнаўцы паставілі перад сабою больш патрэбныя, па іх думцы, задачы.

Вучэньне аб паходжаньні мовы, прайшоўшы стадыю боскага выяву, адвечнай ідэі перажыло *тэорыю гукаперайманьняў*, *тэорыю выклічнікаў*, *тэорыю гукавых гэстаў*, *тэорыю працоўных крыкаў*. Адылі, тут няўдала ўжыта слова *перажыло*.

Разгарнеце абыякую дапамогу па мове для сярэдняй школы, адвярнеце старыя кнігі—проф. Пражазінскага, проф. Багародзіцкага, проф. Томсона, проф. Кудраўскага, пералістайце навейшыя кнігі проф. Ушакова, проф. Бузука і інш.

Вы пераканаецеся, што ўсе гэтыя тэорыі жывуць і да цяперашняга часу.

У іншых аўтараў яны згодна ўжываюцца ўсе разам.

Прыхільнікамі гукаперайммальнай тэорыі дае вычэрпваючы адказ Н. Я. Мар.

„У часе ўзьнікненьня мовы чалавек не карыстаўся такою колькасьцю слоў, каб траціць іх на сьвядомае гукаперайммальнае выражэньне тых або іншых зьявішч. Само зьявішча, гукаперайммальная прырода многіх слоў, супроць чаго мы зусім не супярэчым, ёсьць вынік пазьнейшай эволюцыі ва ўспрыманьні таго або другога слова за гукаперайммальнае толькі таму, што, хто гаворыць, той прызвычаіўся злучаць данае слова з вядомым прадметам, маючым сапраўды ў прыродным сваім праяўленьні

гукавое агалашэньне, так, напр., для выражэньня гукаў, якія ідуць з роту і ноздраў каня, у расійцаў слова „ржаць“, у грузын „gvi—gvini“.

(Зборнік „По этапам развития яфетической теории,“ артыкул „О происхождении языка“).

Ня буду застанаўляцца на другіх тэорыях: у цяперашні час аб усіх гэтых тэорыях, за выключэньнем тэорыі Нуарэ, якая ставіць у сувязь узьнікненьня мовы ад прылад працы, наўрад хто будзе гаварыць сур'ёзна.

Затое гэта тэорыя да апошніга часу лічыцца ортодоксальна соцыолёгічнай.

Нуарэ аказваўся ўладаром думак і, напрыклад, Багданаў у сваей кнізе „Падение великого фетишизма“ ўвесь час спасылаецца на Нуарэ.

Нуарэ заслужыў як быццам досыць лісьлівую ацэнку і ў Мара: „Мова ва ўсім складзе ёсьць стварэньне людзкога колектыву, адлюстраваньне ня толькі яго мысьленьня, але і яго грамадзянскага ладу і гаспадаркі ў тэхніцы і ладзе, але ня ў тым спрошчаным тыпе, як-та мысьліў найбольш нам блізкі па ідэалёгіі Нуарэ з яго папярэднікамі і пасьлядоўнікамі (Н. Я. Мар „Яфетическая теория“, Баку, 1928, стар. 79).

Як-жа ўтваралася мова з працоўных крыкаў?

Багданаў дае адказ:

Калі чалавек выконвае якую-небудзь натугу, гэта натуга адбываецца на яго дыхальным і гарлавым апараце і ў яго мімаволі выклікаюцца пэўныя гукі. Так, калі драваруб моцна ўдарае сякерай, гэты гук бывае „га“; калі асначы на Волзе адразу і адначасна нацягваюць канат—глухі крык „ухх“; у эўропэйскіх рабочых пры падняцьці цяжкасьці „гопп“ альбо „гопля“; у мастоўшчыкаў у Тунісе пры апусканьні цяжкай „бабы“ на камні—крык „ап-а“ і т. п. Калі мы і ня бачым працаўнікоў, але чуем падобныя „працоўныя выклічнікі“, то мы ведаем, што працаўнікі робяць; гэта зусім зразумелыя для нас знакі працоўных актаў, хоць гэта нельга назваць сапраўднымі „слоўнымі абазначэньнямі“, ад слоў яны адрозьніваюцца сваім праізвольным, стыхійным характарам“ (А. Багданаў).

Згодна думцы Нуарэ, гэтыя першапачатковыя моўныя гукі былі чымсьці, што мелі ў сабе больш дзеяслоўнага, чым „назоўнікавага“. Яны былі працоўнымі крыкамі або воклічамі.

„Узаемная абумоўленасьць, бесьперапынная ўзаемадзеяньне мовы і прылады працы, узаемадзеяньне людзкога мысьленьня і людзкой працы, стварае шляхаводную ніць сапраўднага дасьледваньня“ (Нуарэ „Орудие труда“, Гіз. Украіны, 1925, стар. 28).

„Модыфікацыі з надворнага сьвету, якія дасягаюцца працай, родняцца тымі гукамі, якія справаждаюць працу і гэткім шляхам гэтыя гукі набываюць пэўны сэнс. Так узьніклі корні мовы, тыя элемэнты альбо першастковыя клетачкі, з якіх вырасьлі ўсе нам вядомыя мовы“ (там-жа, стар. 41).

Так уяўляе сабе Нуарэ, а за ім тыя лінгвісты, якія лічаць сябе соцыолёгамі,—узьнікненьне і разьвіцьцё мовы.

Нуарэ паказвае, што „толькі колектыўны, сумесна вымаўлены гук набываў здольнасьць зрабіцца гукам мовы, моўным гукам, г. з. зрабіцца агульна зразумелым“ (там-жа, стар. 41).

Руцэ сьпявае Нуарэ цэлыя гымны.

За ім і пасьлядоўнікі, успамінаючы словы Арыстотэля, які назваў руку „Інструмантам з інструмантаў“, гавораць аб яе вялізнай ролі, асабліва аб ролі вялікага пальца. Згуба вялікага пальца сапраўды амаль тое самае, што страта ўсей рукі. Пагэтаму да вядомай ступені правільна выслоўе, што вялікі палец, le doigt oppossable, творца сусьветнай гісторыі (там-жа ў Нуарэ, стар. 131).

Мне хацелася-б успомніць тут цытату з Энгельса, таму што некаторыя думаюць, што можна паставіць знак роўнасьці паміж выказваньнямі Нуарэ і Энгельса.

Энгельс піша: „Такім чынам, рука ня толькі ёсьць орган працы, але і продукт яе. Толькі пры дапамозе працы яна прыстасавалася да ўсё новых функцый і перадавала па спадчыне набытую такім спосабам асаблівую конструкцыю мускулаў, зьвязак, а ў больш доўгія працягі часу—касьцей; дастасоўвала гэту па спадчыне набытую ўтончанасьць да новых, увесь час ускладняўшыхся функцый. Толькі дзякуючы гэтаму процэсу чалавечая рука, урэшце, дасягала тэй высокай ступені дасканаласьці, на якой яна здолела стварыць чараўнічыя карціны Рафаэля, статуй Торвальдсэна і музыку Паганіні“ (Ф. Энгельс „От человека к обезьяне“).

Здаецца мне, што мы часта залішне сьпяшаемся, калі залічаем таго або іншага дасьледчыка ў лік сапраўдных вучоных марксыстаў.

Пасьпяшаўся і перакладчык Нуарэ Давідзон.

Апроч паказанага—уплыву прылад працы на чалавека—адзначалася, што

„прастастаўнае палажэньне цела дало першы штуршок разьвіцьцю галоўнага мазга... нашы продкі толькі шляхам вызваленьня пярэдніх канечнасьцяй ад функцый беганьня і лазаньня атрымалі магчымасьць вырабляць тыя нязьлічаныя рэчы, каторыя зьяўляюцца характарнымі для ўсіх частак сучаснага чалавецтва і каторыя можа быць больш, чым якія іншыя чырты ставяць чалавека вышэй за другія організмы.

Перавага ўладаньня больш разьвітымі разумовымі здольнасьцямі замест утрачанай здольнасьці прыстасоўвацъ сваё цела дала нашым продкам сілу і здольнасьць ісьці далей па шляху паступовага прогрэсу“.

(Карл Вэйле „Элементы человеческой культуры. Начатки и первичные формы материальной культуры“, 2-е выданьне, Гиз, м.—п, 1923, стар. 12).

А таму выдзеліў столькі месца выказваньням Нуарэ і Вэйле, што роля адзначаных імі фактараў падкрэсьліваецца большасьцю „левых“ індаэўропэістаў.

Нашы таварышы, працуючыя ў другіх галінах навукі, упэўнены ў тым, што тэорыя Нуарэ,—як гаворыцца, апошняе слова.

У працы Нуарэ „Der Ursprung der Sprache“ на стар. 67—68, мы знаходзім, напрыклад, гэткую думку:

„З супольнасьці, з колектыву бярэ свой пачатак людзкая мова і яна штурхае і імкнецца да супольнасьці, да колектыву больш высокіх зьбіральных адзінак. Імпульс супольнічаньня сінонімны з імпульсам мовы. Кожную нацыю, кожную народнасьць павінна разглядаць, як вызначаную індывідуальнасьць. У гэтых нацыянальных духоўных індывідуальнасьцях трэба шукаць аб'ясьненьня і падставаў нашага сучаснага ўзроўню цывілізацыі.

Напружаная работа духоўных сіл нацыі над тым, што складае цэнтр чалавечае істоты, выражаецца найбольш ясна і найбольш поўна ў філёзофіі, поэзіі і мастацтве, і адсюль яна разьліваецца па ўсёй галіне ўяўленьняў і ідэй народу. Мова—гэта форма дзеяльнасьці, але дзеяльнасьці асаблівага роду. Гэта ня звычайна духоўная дзеяльнасьць, падобная філёзофіі, поэзіі і мастацтву, якая пераходзіць ад аднаго індывідуума да ўсіх астатніх індывідуумаў. Мова выяўляецца з адначасовай дзеяльнасьці ўсіх. Мовы—гэта сапраўдныя непасрэдныя стварэньні нацый. Але яны не зьяўляюцца выключным продуктам інтэлектуальных асаблівасьцяй народу. Бо і мова і інтэлект вырастаюць ва ўзаемнай згоджанасьці з таемных глыбінь душы. Кожная мова—гэта асобны сьвет, асобны сьвет ідэй, у якім суб'ект, г. зн. творчы чалавечы дух, і аб'ектыўны знадворны сьвет злучаецца ў гармонічнай еднасьці.

Таму, мова ў ходзе свайго разьвіцьця робіцца грандыёзнай аб'ектыўнай сілай... Гэта вялізнай важнасьці думка, што мова ёсьць гістарычная сіла, каторая аднак існуе ўсяго пастолькі, паколькі яна дзеяльна і ў *цяперашнім*, што мова нязьлічанымі ніцямі, што адходзяць назад, *да мінулага* ўжо даўно першабытнага сьвету, зьвязвае нас з думкамі і пачуцьцямі апошняга і, прымушаючы нас мысьліць у тых-жа формах і такім-жа спосабам, як і даўно мінулыя пакаленьні, робіць нам сусьвет чымсьці знаёмым і блізкім—гэта адна з геніяльнейшых вынаходак Гумбольдта, якое зьмяшчае ў той-жа час у сабе праграму таго заданьня, выкананьне каторага прапанована нам“. Вы бачыце, што, ня гледзячы на цьмянасьць выкладаньня, ідэалістычныя пабудовы аўтара праглядваюць усё-ж досыць яскрава.

Яны да некаторай ступені набліжаюцца да вывадаў Эрнэста Рэнана, які пісаў, што „... вынаходка мовы ня была вынікам доўгага шуканьня навобмацак, але вынікам першапачатковай моральнай сьведомасьці, якая, выявіла перад кожнай расай агульны расклад яе мовы і вялікія суадносіны, у якія павінна была ўвайсьці гэта мова, раз на заўсёды, са сваёй мысьляю“ (Эрнэст Рэнан „О происхождении языка“ выданьне рэдакцыі філёлёгічных запісак, Варонеж, 1866, стар. 9).

Што-ж перашкаджае нам прыняць пабудовы Нуарэ?

Іменна тая спрошчанасьць, аб каторай, як аб недахопе, гаворыць Н. Я. Мар, мэханістычнасьць, біолёгічнасьць.

„І гэтыя гукавыя сымболі, увогуле гукавая мова, ня ёсьць натуральнае, а штучнае зьявішча: натуральных відаў чалавецкай гукавой мовы ня існуе, г. зн. ня існуе натуральных гукавых моваў, як не існавала першапачаткова наогул масавай прыроднай гукавой мовы, ня толькі масавых яе відаў, але ўвогуле гукавой мовы бытавога ўжываньня“ (Н. Я. Мар „Актуальные проблемы яфетической теории“, стар. 24—25).

Н. Я. Мар (гл. Н. Я. Мар „Яфетическая теория“, 171. Мешчанінаў „Введение в яфетидологию, яфетидология и марксизм“) давёў, што „ ... з 360 тысяч гадоў існаваньня чалавека, які ўжо рабіў прылады, толькі 60 тысяч гадоў прыходзіцца на чалавека, каторы быў здольны гаварыць гукавой мовай“ (Даклад проф. І. І. Мешчанінава „Яфетидология и марксизм“, выданьне АЗГНИИ, Баку, 1930, стар. 13).

Справа ў тым, што „чалавеку, які ўжо мае разьвіты падбародак, г. з. уладае магчымасьцю гаварыць, даецца, пры тэй-жа сьціплай хронолёгіі ( з якою падлічана, што драўнейшыя прылады адносяцца к 360 тысяч год таму назад) (В. Б.) 60 тысяч год існаваньня“ (там-жа).

У працягу вялізнага пэрыоду ў 300 тысяч гадоў чалавек карыстаўся кінэтычнай (ручной) мовай.

Толькі пры параўнаўча высокіх формах гаспадарчай дзеяльнасьці зьявілася гукавая мова.

Менш спадручная кінэтычная мова (нельга перадаць усіх адценьняў, цяжкасьці ў карыстаньні ўначы або пры натуральных прашкодах) павінна была замяніцца моваю, больш здавальняючай патрэбам зносін—гукавой моваю.

Пры гэтым доўгі час сумесна існавалі як тая, так і другая мова.

Вялікую ролю ў разьвіцьці гукавой мовы адыграла асобная кляса магаў, шаманаў, як гаворыць Мар. Супроць гэтага якраз і спрачаюцца некаторыя марксысты.

Зьявіўся асобны пласт насельніцтва, каторы і браў на сябе гэтыя дзеяньні па суадносінах з магічнымі сіламі. Гэта былі свайго роду паслугачы магіі. Назавём іх у двукосьсі „паслугачы культу“. У сваіх суадносінах з магічнымі сіламі, г. з. у сваіх песьнях і г. д., з якімі яны зварачаліся да якіхсьці ўяўляемых імі істот, і ў суадносінах адзін з другім яны стваралі якіясьці малітвы, для якіх павінны былі мець патрэбу ў большым запасе слоўных выразаў, чым астатняя маса насельніцтва. Таму,—гаворыць Мар,—ёсьць падстава меркаваць, што насельніцтва якое разьвіло ўжо свае гукавыя органы для карыстаньня гукамі як языковай моваю, стала ў часе сваёй працоўнай дзеяльнасьці карыстацца паслугамі вызначаных сваіх сучленаў, каторыя, зьяўляючыся жрэцамі—„служкамі культу“, пашыралі гэтыя гукавыя словы, размнажаючы іх у большай колькасьці, чым гэта было патрэбна астатняму насяленьню. Такім чынам,

атрымаўся вызначаны запас слоў, сабраны ў руках абмежаванага ліку людзей. Калі гэты слоўнікавы запас разросься, ён з асяродзьдзя абмежаванага кола людзей, якіх Мар таксама ўмоўна называе—„шаманамі“, увайшоў у масу насяленьня і зрабіўся агульным здабыткам.

Такім чынам, Мар гаворыць, што пахаджэньне гукавой мовы мае клясавы характар. Гэта ня значыць, што гукавая мова зарадзілася ў вызначанай клясе. Гэта ня значыць, па словах Мара, што разьвіцьцё яе ішло, галоўным чынам, у межах вызначанае клясы. Толькі пасьля яна ўвайшла ў астатнюю масу насельніцтва, і тады толькі агульная маса насельніцтва пачала карыстацца ёю згодна сваім патрэбам“. (І. І. Мешчанінаў „Яфетидология и марксизм“, стар. 15).

Валяцца картачныя домікі індаэўрапэйскай тэорыі ад падыху ветру марксысцкай мовазнаўчай тэорыі.

У „дакладзе Акадэміі навук СССР“, выдавецтва АН, Ленінград, 1930, В. надрукавана надзвычайна каштоўная схэма—„Вопыт яфэтыдолёгічнай клясыфікацыі моваў па ступенях стадыяльнага разьвіцьця матэрыяльнай і соцыяльнай культуры. Кінэтычная мова ў пэрыод фармаваньня членаразьдзельнай гукавой мовы“ (стар. 96-97).

Аўтар схэмы—І. І. Мешчанінаў—паказвае, што даная схэма мае рабочы характар. Яфэтыдалёгія настойвае толькі на агульнай пастаноўцы, а зусім не на дэталях.

Схэма ўяўляе асноўны інтарэс з мэтадолёгічнага боку, адхіляючы памылковы, з нашага пункту погляду, этнолёгічны падыход да тлумачэньня зьмен культурных пэрыодаў і ўстанаўляючы, у той-жа час, шчыльную сувязь моўнага разьвіцьця з абумоўліваючым яго разьвіцьцём грамадзка-экономічных адносін“ (стар. 99)

Ня глядзячы на „рабочы характар“ схэмы, на тое, што „датыроўка пэрыодаў палеоліта застаецца ўмоўнаю“, мы ня можам ня прызнаць агромністай важнасьці гэтай схэмы (гл. табл. стар. 154-155).

Тое, што, яна мала вядома нашым мовазнаўцам, пабуджае мяне прывесьці яе поўнасьцю. Адначасова быў нанесен удар і тэорыі аб адзінстве расы і мовы, аб прамове, сям'і моваў і г. д., гэта, значыцца, таму, што ндоэўропэйская тэорыя лічыла аднэй з найбольш істотных проблем.

Прадстаўнікі індаэўропэйскага мовазнаўства ў працягу ўсяго XIX стагодзьдзя ўзмоцнена шукаюць прамову.

У пачатку XIX стагодзьдзя Шлегель выпускае працу „О языке и мудрости индейцев“, у каторай даводзіць пахаджэньне грэцкае, лацінскае, нямецкае і пэрсыдзкае моваў ад санскрыту.

Франц Боп сваім дасьледваньнем „О системе спряжения санскритского языка в сравнении с системой греческого, латинского, персидского і германского языков“ (1816 г.) закладвае, як кажуць індаэўропэісты, падмурак параўнаўчага мовазнаўства.

Працягваюцца пошукі прамовы, дасьледваюцца тыя законы, па якіх, падобна организму, павінна разьвівацца мова.

## Спроба яфэтыдолёгічнай клясыфікацыі моваў па ступенях ста

### Кінэтычная мова і пэрыод формава

| Прылады | Матэрыял | Тэхніка | Гаспадарка | Грамадзкія групоўкі |
|---|---|---|---|---|
| Розныя разьвітыя формы прылад. | Медзь, гліна, косьць, камень, дрэва. | Паліроўка каменя. | Пачатак земляробства, жывёлагадоўля, рыбацтва, паляваньне. | Пачатак родавых аб'яднаньняў. |
| Скрабкі, дроцікі, ножавідныя пласьціны, гарпуны і інш. | Камень, косьць, дрэва. | Адшчэп. | Буйнае паляваньне, рыбалоўства, пачатак жывёлагадоўлі і матыжнага земляробства. | Буйныя групоўкі паляўнічага. |
| Скрабкі, востраканцовыя ручныя рубілы. | Камень, косьць, дрэва. | Адшчэп. | Дробная ахвота. | Дробныя ахвотнічыя колектывы. |
| Розныя рубілы, дробныя наканечнікі дзід. | Камень, дрэва. | Адбіўка. | Дробная ахвота і зьбіральніцтва. | Дробныя колектывы ахвотніка і зьбіральніка. |
| Выпадковыя формы прылад. | Камень, дрэва і непасрэдна рука чалавека. | Частковая вырабка адколам і інш. | Зьбіральніцтва і дробная ахвота. | Колектывы дробнага ахвотніка і зьбіральніка |

**дыяльнага разьвіцьця матэрыяльнай і соцыяльнай культуры.**
**ньня членаразьдзельнай гукавой мовы.**

| Сьветапогляд | Сродкі зносін | Антропол. тыпы | Культурныя пэрыоды | Эпоха каменя | Даты-роўка |
|---|---|---|---|---|---|
| Тотэмізм матрыархальных грамадзкіх аб'яднаньняў. | | Сярэдняземнаморскі і інш. | Азільска-Тардэнаўскі і інш. | Нэоліт | 12.000 |
| Тэтэмізм возрасных груповак. | | Кроманьён Грымальды. | Мадлэн, солютрэн, орыньяк. | Верхні палеоліт. | 25.000 |
| Анімізм. | | Нэандэртал. | Мусьце. | Верхні палеоліт. | 50.000 100.000 |
| | | | Ашэйль шэль | Ніжні палеоліт | 30.000 400.000 |
| | | Пільтдаўнскі і гэйдэльбэрскі | До-шэль | Ніжні палеоліт. | 500.000 |

Аўгуст Шлейхэр у вывучэньні законаў бачыць сваю галоўнейшую задачу.

„У моладасьці гарачы прыхільнік філезофіі Гегеля, у сталым узросьце захапляўся тэорыяй Дарвіна, заўсёды палкі аматар батанікі, *Шлейхэр* і ў мовазнаўства перанёс свае захапленьні (М. Я. Няміроўскі „Язык и культура“. Да ўвязкі лінгвістыкі з грамадзянскімі навукамі. Уладыкаўказ, 1928, стар. 116).

Якуб Грым, Кун спрабуюць на грунце параўнаўчага вывучэньня моваў адбудаваць культуру пра-народу.

Меркавалася, што параўнаньне моваў, вывучэньне мовы мінулых вякоў на грунце пісьмовых помнікаў—усё гэта дасьць ключ да вырашэньня векавой загадкі.

„Мне здавалася вартай стараньня работай,—гаворыць Грым,—паспрабаваць мацней устрахнуць з дапамогаю мовазнаўства пасьцелю гісторыі нашага народу; у часе этымолёгічных досьледаў карысны бываюць сваімі заняткамі і навукі; а мне хацелася дасьледваць, ці не атрымае гісторыя карысьці ад дасьледваньня яе з нявіннага філёлёгічнага пункту погляду“ (Грым „История немецкого языка“, прадмова, стар. XIII).

Рабіліся пабудовы, замяняліся другімі.

Пералік магільных помнікаў жадаючыя змогуць знайсьці ў кнізе індаэўропэіста проф. Паржазінскага „Общее языковедение“. Младаграматыкі (плынь, якая ўзьнікла ў 70-х гадох мінулага стагодзьдзя) цэнтр цяжару бачылі ў вывучэньні псыхічнага жыцьця чалавека.

Былі, урэшце, сформуляваны законы зьмены мовы.

„Два моманты—законамерныя гукавыя зьмены і ўплыў аналёгіі—аб‘ясьняюць наяўныя ў пэўны пэрыод формы мовы, і толькі з гэтымі двума момантамі трэба лічыцца“ (Лескін „Склонение в словянско-литовском и германском“, 1876).

Мне скажуць, што аб усім гэтым ня трэба казаць, што ўсе гэтыя тэорыі адышлі ў даўно мінулае.

У тым-жа і справа, што ў сучасных індаэўропэістаў засталіся амаль някранутымі і прамова, і пра-народ, і родныя сем‘і моваў і славутнае генэалёгічнае дрэва і нават гукавыя законы.

Фонэтыка панавала, падначальвала сабе ўсё, пануе ў індаэўропэістаў і ў цяперашні час.

Вялікіх дасягненьняў мы ня бачым. Зьнікла толькі аўрэоля ўсеагульнасьці, якою абкружалі гукавы закон. У проф. Ушакова мы знаходзім у яго „Кратком введении в науку о языке“ такую формулёўку: „Фонэтычныя зьмены гукаў законамерны. Формулёўка іх, г. з. констатаваньне таго, што такі-та гук у такой-та мове ў такую-та эпоху, пры такіх-та ўмовах меў такі-та лёс, называецца *фонэтычным законам. Фонэтычныя законы* ня маюць выключэньняў“.

Накшталт такой самай формулёўкі мы знаходзім і ў Багародзіцкага і ў Паржазінскага, і ў Пэтэрсона, і ў Томсона, і ў Бузука.

„Младаграматыкі“ аказаліся „ўладарамі дум“. Проф. Бузук (гл. яго „Асноўныя пытаньні мовазнаўства“ ДВБ, М.—1926, стар. 52 і затым 54) сам адзначае гэты ўплыў нямецкіх младаграматыкаў:

„Асаблівасьцю ўсіх прыведзеных відаў гукавых зьмен зьяўляецца іх часовы і мясцовы характар, чым гукавыя законы і адрозьніваюцца ад усеагульных і заўсёдных законаў прыродазнаўчых навук. Па думцы Паўля (Principien, стар. 55), якая прынята і проф. Томсаным у яго „Общем языковедении“ (разьдзел V, § 6), гукавы закон паказвае толькі, што ў вядомы час у пэўнай гукавой групе ўтварылася такая-ж гукавая зьмена... да формуляваных Паўлем абмежаваньняў гукавога закону мы павінны дадаць наступнае: „гукавая зьмена ўтварылася ў такіх-та словах у прыкладах“, бо многія фонэтычныя працэсы носяць спарадычны характар“.

Якая поўная бездапаможнасьць што-колечы сапраўды аб'ясьніць.

Ня дзіўна, што ў проф. Паржазінскага знаходзім вывад „... аб абсолютнай пасьлядоўнасьці мы можам казаць толькі па адносінах к пэўнаму індывідууму, ды і то толькі ў даны момант (проф. Паржазінскі „Введение в языкознание“, 3-е выданьне, М. 1913, стар. 139).

Такім чынам, „законы“ толькі для мовы індывідуума. Ня вырашыла індаэўропэйская тэорыя і пытаньня *аб узьнікненьні* таго або іншага „закону“ аб яго *пашырэньні.*

Якіх толькі тэорый ня высоўвалася. Тут *і імкненьне да мілагучнасьці*, тут *і імкненьне да палягчэньня работы органаў мовы*, урэшце, і *культурна-соцыяльныя і географічныя фактары.*

У лік гэтых культурна-соцыяльных фактараў увайшлі (гл. у прыватнасьці „Лекции по общему языковедению“ проф. Багародзіцкага): зьмена пакаленьняў, павялічэньне насельніцтва, уплыў адукаванасьці, географічныя і кліматычныя ўмовы, суседства іншых народаў.

Крыніцаю пашырэньня гукавых зьяў лічылі і лічаць або групу індывідуумаў, або нават аднаго індывідуума. Бачачы непераканаўчасьць усіх гэтых довадаў, індаэўропэісты высоўваюць такія фактары, як перасяленьне народаў, зьмяшэньне народаў і г. д.

Ня дзіўна, што нават адзін з індаэўропэістаў, праўда, найбольш таленавіты прадстаўнік гэтай тэорыі, прыходзіць да мысьлі, што асноўнай прычынай падабенства разьвіцьця [illegible]обных моў зьяўляецца „тоесамасьць або падабенства ўмоў існаваньня моўных колектываў“ (A. Meillet „Convergence des développements linguistigues).

Перш, чым перайсьці да крытыкі поглядаў індаэўропэйскай школы, не магу ня спыніцца на адным моманце—імкненьні прадстаўнікоў гэтай тэорыі прадставіць індаэўропэйцаў вышэй за ўсіх астатніх народаў.

Бо гэта скліканьне перад індаэўропэйскім прывяла да таго, што вывучаліся толькі індаэўропэйскія мовы, іх пабудова мовы здавалася найвышэйшай.

Часам схіляньне перад індаэўропэйцамі, імкненьне паставіць іх вышэй за астатніх народаў прымушае рабіць такія „навуковыя“ вывады:

„Рэгрэсыўная асіміляцыя, як мы ўжо адзначалі, наглядаецца ў мовах індаэўрапэйскіх, г. зн. больш культурных, што Бунд тлумачыць тым, што мысьленьне гэтых народаў як-бы пераганяе мову і працякае хутчэй, чым артыкуляцыя“ (проф. Бузук „Асноўныя пытаньні мовазнаўства“ стар. 51).

Ї гэта схіляньне таксама аказалася неабгрунтованым.

Пяройдзем да разбору асобных проблем.

Паглядзеце, к чаму прышлі асобныя заходняэўропэйскія вучоныя, каторых мы ніяк ня можам западозрыць у захапленьні яфэтыдолёгіяй.

Ф. Лушан у сваёй кнізе „Народы, расы і мовы“ (пераклад з нямецкае мовы Б. Д. Левіна, „Сеятель“, Ленінград, 1925 г.) кажа наступнае:

„Разуменьне мова таксама ня сталае, як разуменьне „раса“ і, як відаць, яшчэ цяжэй вызначыць адносіны паміж дыялектам і мовай, чым між адменай і расай“ (стар. 19 „введения“).

Такім чынам, усе спробы падзяліць чалавецтва на штучныя групы, па колеры скуры, па даўжыні і шырыні чарапной скрынкі, або па родзе валасоў і г. д., цалкам вядуць к памылкам“ (стар. 20 „введения“).

Кожная па сваіх цялесных асаблівасьцях аднастайная чалавецкая група першапачаткова таксама мела сваю аднастайную мову. Аднак, з цягам часу, шляхам вандраваньняў, усялякіх пераперасуваньняў народаў, больш або менш мірных або гвалтоўных усяленьняў шляхам гандлёвага звароту, амаль усюды зьніклі першапачатковыя адносіны, для таго ў цяперашні час раса і мова пакрываюць адно другое толькі ў вельмі рэдкіх, выключных выпадках“ (стар. 179).

Яфэтыдолёгі ставяць пытаньне больш выразна, сапраўды па-марксыцку, разьвязваючы пытаньні аб прамове, па радзіме, зьмене моваў і г. д.

Я дазволю сабе працытаваць рад вынятак з кніг Мара і Мешчанінава кніг, якія зрабіліся, як усім вядома, бібліографічнай рэдкасьцю.

Спачатку аб самай пастаноўцы проблемы:

„Яфэтыдолёгія, адмовіўшыся ад об'ясьненьня зьмен культурных стадый зьменаю рас, нібы пераемна выціскаўшых адно другое ўкараненьнем у Эўропу з Азіі або Афрыкі, стала на шлях прасочваньня трансформацый у сувязі са зьменамі, што адбываюцца, наяўных грамадзкіх груповак, пераходамі з аднэй гаспадарчай структуры на другую...

... у аснову сваёй пабудовы высоўваем... вывады, якія выцякаюць з падходу да мовы, як зьяве соцыяльнага парадку“ (І. І. Мешчанінаў „К вопросу о происхождении членораздельной звуковой речи“. Даклады Акадэміі навук СССР, 1930 В, стар. 95).

Яшчэ:

„Па-за гэтай агульначалавечай глотагоніі (стварэньня мовы) ня ўзьнікала ніводная мова. Яфэтычная тэорыя падышла ўжо блізка да сьцьвярджэньня гэтага палажэньня, пасьпеўшы ўжо вызначыць зусім або як-ні-як намеціць мейсца ўсіх галоўных сыстэм, якія больш менш цалкам захаваліся,—не як продукт незалежнай творчасьці, т. н. расавай, у разлучаных раёнах, а як адкладаньне асноўных этапаў разьвіцьця людзкой

мовы, адпавядаючых асноўным этапам у эвалюцыі гаспадарчага жыцьця грамадзкіх форм і адпаведнай матэрыяльнай і надбудоўчай тэхнікі“ (Н. Я. Мар „Яфетическая теория“ Баку, 1928, стр. 21-22).

Але як-жа быць з прамовай; з сем'ямі моў, г. зн. з усім тым, што, па думцы індаэўропэістаў, складае галоўную паслугу індаэўропэйскай тэорыі.

„... Яфэтыдолёгія, у выніку праведзеных ёю прац, ня можа падзяляць пануючага погляду аб тым, што ўсе дайшоўшыя да нас жывыя і мёртвыя мовы ўяўляюць сабою адгаліненьні рознастайных па сваім паходжаньні сем'яў. Больш таго, яфэтыдолёгія адмаўляе самастойнае ўзьнікненьне гэтых сем'яў і таму не згаджаецца з тым, што яны, у моц сваёй адасобленасьці, паддаюцца вывучэньню ў межах свайго толькі матэрыялу.

Такое звужэньне граніц дасьледваньня зьявілася б ажыцьцяўвімым толькі ў тым выпадку, калі-б уся наяўная рознастайнасьць вядомых нам моваў сапраўды вышла з некалькіх моўных тыпаў, якія самастойна зарадзіліся. У такім выпадку пэўна можна-б было зразумець процэс разьвіцьця, прасачыўшы відазьмены, якім падлегла мова-радапачынальнік.

У гэтым выпадку досыць было-б вывучыць гэту прамову і ўстанавіць законы наступных зьмен яе пачатковых форм. Але прызнаньне рэальнасьці такіх моваў-першакрыніц, даўшых з цягам часу вялікае патомства,—гэта дайшоўшыя да нас, існуючыя ў наш час і гістарычна вядомыя мовы,—зусім не зьяўляецца даказаным“ (І. Мешчанінаў „Введение в яфетидологию“, стр. 107-108).

Але самы моцны ўдар—гэта ўдар па тэорыі аб асаблівым палажэньні індаэўропэйскіх моваў. Гэтага ўдару індаэўропэісты ня могуць дараваць яфэтыдолёгіі. Адсюль шалёнае выцьцё.

Мар з відавочнасьцю давёў, што:

„Мовы Афрыкі, Азіі і Эўропы, г. зн. хамітычныя, схэмітычныя і індаэўропэйскія, аказаліся адгаліненьнямі агульнага ствала языковай мовы ўвогуле разам з яфэтычнымі мовамі, але толькі на розных ступенях разьвіцьця гутаркі або ў рознастайных афармленьнях процэсаў іх скрыжаваньняў, прычым яфэтычныя мовы выяўляюцца, як старэйшыя з іх. Пры новым падыходзе, пасьля зьнішчэньня навукай устаноўленых абмежаваных рамак, адкрылася пэрспэктыва на стан моваў у іх рознастайных дагістарычных тыпах, аж да эпох, калі яшчэ ня было гукавое мовы чалавецтва, да эпохі лінейнай ручной гутаркі. Атрымалася магчымасьць вывучаць гістарычныя мовы, індаэўропэйскія, схэмітычныя і інш., падыходзячы да іх ад папярэдніх, спрадвечных эпох, і гэтым зарадзілася навука на пахаджэньні і дрэўнасьцях мовы, так званая палеонтолёгія мовы, і сталі выпрацоўвацца яе асаблівыя мэтоды, якія ляглі ў падваліны палажэньняў яфэтыдалёгіі, што дзейнічаюць у цяперашні час“ (Мешчанінаў „Введение в яфетидологию“, стр. 61-62).

Агромністая роля надаецца скрыжаваньням моваў. Мар перасьцерагае ад спрошчанага тлумачэньня ўплываў грамадзкай структуры, супярэчыць супроць самага тэрміну *сям'я, дыялект, падмова, гутарка.*

Бяда, аднак, у тым, што грамадзкая адлюстраванасьць у гукавой мове надзвычайна складаная, шляхі яе прахаджэньня надзвычайна розна-стайны, а яе склад—гэта пераплёт укладаў бясконца многастайных плы-няй людзкога творчага жыцьця—пераплёт, які часам робіцца клубком, здавалася-б, безнадзейна запутаных ніцяй.

Бо ў мове няма нічога простага, нічога натуральнага.

Нічога простага. Перш за ўсё няма ў сьвеце мовы, якая-б была про-стая, якая-б ня была скрыжавана, і гэта скрыжаваньне прыходзіцца ўлічваць ня толькі для характарыстыкі моваў, але і для новай—няўхіль-на новай—пастаноўкі самага дасьледваньня па кардынальным пытаньні аб сваяцтве, бо сваяцтва ў біолёгічным сэнсе ў мовах, уласна, няма, як няма асобных сём'яў, узьніклых на шляхох простага насьледваньня па-томствам роднае мовы ад бацькоў і маючых, моў, сваё незалежнае існа-ваньне. Пытаньне ня ў словах, а ў тым зьмесьце, які цяпер укладаецца яфэтычнаю тэорыяй у такія звыклыя, ходкія словы, як сям'я, сваяцтва, а таксама дыялект, памова, гаворка і т. п. тэрміны.

Можна было-б іх пакінуць і не замяніць нават сям'і сыстэмаю, калі пад сем'ямі разумець (пад кожнай з іх) новае ўтварэньне родавага агульнага тыпу, з новым афармленьнем або пераафармленьнем ранейшых відаў, ад-павядаючае новай тэхніцы вытворчасьці, новай структуры грамадзкага ладу і новай сыстэме мысьленьня, вызначаемага ня проста завешчаным пасыўным, а тым, што нанова нараджаецца—творчым існаваньнем чала-вецтва на кожнай ступені стадыяльнага яго разьвіцьця. Сваяцтва-ж—гэта ўвязанасьць розных моваў у шляхох скрыжаваньня, адпавядаючага гаспадарчым зносінам і тэхнічным, і экономічным, і соцыяльным—наро-даў усяго сьвету.

Моваў, узьніклых па-за гэтымі ўмовамі, у сьвеце ня існуе, г. зн. на-вука аб мове, у залежнасьці ад вывучаемага ёю лінгвістычнага матэрыялу, мае права на існаваньне ў якасьці навукі толькі як моністычная па-будова" (Н. Я. Мар „Актуальные проблемы и очередные яфетической теории" стр. 21-22).

*Ніякія перасяленьні, каторым столькі ўвагі аддавала* індаэўропэй-ская тэорыя, нічога самі па сабе не аб'ясьняюць: перасяленцы не ня-суць гатовае мовы, яна складваецца ў процэсе скрыжаваньня.

Зьмест індаэўропэйскага дрэва моваў, якое нічога не аб'ясьняе, Н. Я. Мар даў нам „... групы пеpажытачных сыстэм, якія разьмяркоў-ваюцца па пэрыодах іх узьнікненьня ў наступным парадку:

| | |
|---|---|
| І. Мовы сытэмы первястко-вага пэрыоду. | 1) Моносілюбічныя і полісэматычныя.<br>У кола моваў первястковага пэ-рыоду ўваходзяць:<br>1. Кітайская і прымыкаючыя да яе па пабудове (асаблівасьць кітайскае мовы—наяўнасьць акамянеласьцяй у пісьмовай мове). |

| | |
|---|---|
| II. Мовы сыстэмы паўторнага пэрыоду. | 2. Мовы сярэдня — і далёка-афрыканскія жывыя:<br>1) Угра-фінскія.<br>2) Турэцкія.<br>3) Монгольскія. |
| III. Мовы сыстэмы трэтычнага пэрыоду. | 1) Пераўжыўшыя яфэтычныя мовы.<br>2) Хамітычныя мовы (бліжнія і далёка-афрыканскія). |
| VI. Мовы сыстэмы чацьвяртычнага пэрыоду. | 1) Сэмітычныя мовы.<br>2) Промэтэідзкія мовы, або так званыя індаэўропэйскія мовы (клясычныя пісьменныя: індыйская (санскрыт), грэцкая і лацінская). |

Артыкул Н. Я. Мара „Почему так трудно стать лингвистом-теоретиком“. У зборніку „Языковедение и материализм“, стар. 14-15).

Для таго, каб навочна паказаць пераход адных моўных сыстэм у другія, Н. Я. Мар дае нам (зборнік „По этапам развития яфетической теории“, Москва, 1920, стар. 314) сваё родаслоўнае дрэва, робячы абмоўку, што яно зьяўляецца ўмоўным.

Верхавіна дрэва—гэта адзіная ў будучыне чалавечая мова. Падваліна—лінейная, ручная гутарка, якая была выціснута гукавой.

Угары мовы флектыўнай стадыі, наяўнае заканчэньне моўнай творчасьці—індаэўропэйскія мовы.

Для флектыўнай стадыі характарна формальная зьмена самых слоў (скланеньне, спражэньне).

Пад імі справа—пераўжытачныя яфэтычныя мовы (грузінская, баская і інш.), блізкія да індаэўропэйскай структуры, але ў той-жа час захаваўшыя пераўжытачныя формы папярэдніх эпох.

Яшчэ ніжэй—бліжэйшая да флектыўных індаэўропэйскіх моваў—сэмітычная група моваў.

Ніжэй флектыўных моваў — мовы аглютынатыўнай пабудовы: сванская, магрэльская, чанская, дзьве грузінскіх і інш. (гл. дрэва). Чуваская мова—пераўжытачна яфэтычная.

Унізе справа—хамітычныя мовы з аглютынатыўнай і яшчэ больш сінтэтычнай пабудовай.

Унізе зьлева—сынтэтычны стан моваў—мовы далёка-ўсходнія (кітайская і інш.) абхаскага тыпу. Заўважым, што пад сынтэтычнымі мовамі разумеюць мовы такога морфолёгічнага тыпу, калі функцыі асобных слоў, як частак сказу, вызначаюцца парадкам слоў, а ня іх формаю.

Таму сынтэтычныя мовы называюць яшчэ *аморфнымі* або бясформеннымі, а таксама *моносілібічнымі* (аднаскладовымі), у выніку таго, што гэтыя мовы складаюцца звычайна з аднаскладовых слоў.

*Аглютынатыўны* тып займае прамежнае палажэньне. Функцыі флексый тут выконваюць самастойныя словы, якія далучаюцца да асноўных слоў сказу.

Такім чынам, Н. Я. Мар паказаў, што няма „высокіх“ і „нізкіх“ моваў,—ёсьць толькі пэўныя морфолёгічныя тыпы, якія ўзьніклі, як рэзультат тэй грамадзкасьці, што іх парадзіла, і як рэзультат даных форм матэрыяльнай культуры.

Зусім зразумела, што пабудовы Н. Я. Мара сустрэлі заўзяты адпор індаэўропэістаў, бо яфэтычная тэорыя ў корані руйнавала вывады індаэўропэйскага мовазнаўства.

Індаэўропэісты стараюцца для гэтага, як кажуць, „зьвярнуць з хворай галавы на здаровую“.

Вось таму, кажучы аб дыялектычным драбленьні „першапачатковаадзінай моўнай сыстэмы на рад адасобленых дыялектаў (а пазьней моваў) у сувязі з разлажэньнем данага колектыву на рад новых тэрыторыяльна і экономічна адасобленых колектываў“, індаэўропэіст Паліванаў (гл. артыкул „Факторы фонетической эволюции языка, как трудового процесса“, „Ученые записки“ Раніён, т. III, стар. 26) робіць зноску: „Гэта зусім не супярэчыць, зразумела, таму даўно і агульна вядомаму палажэньню, што ў пачатку, г. зн. у першыя пэрыяды існаваньня гутаркі была *не адна*, а многа моваў. Наяўнае ў лінгвістыцы паняцьце прамовы (прыклад: лацінская мова ёсьць прамова романскіх моваў) нічога агульнага ня мае з прыматнай мовай (і адзіны выпадак гіпотэтычнага парадку, да якога падыходзіць і паняцьце прыматнае мовы,—гэта прамова постулюемая яфэтычнай тэорыяй: саль-бэр-эн-рош).

У Мешчанінава („Основные начала яфетадологии“, стар. 5) мы чытаем:

Дасьледваньне плямённых і топонімічных назваў зьвяло ўсе іх да вельмі абмежаванага ліку асноўных плямённых тэрмінаў, часьцей за усё маючых асновы „rom“ „ber“ „sał“ і „yon“, каторыя, у сваю чаргу відазьменнай зычнага элементу пашыраюцца да сям'і і больш і, з другога боку, звужаюцца да трох: „rom“, „ber“, „sał“.

Наўрад ці прыходзіцца гаварыць аб тым, што гэта рабочая гіпотэза. Н. Я. Мар нічога агульнага з гіпотэзай аб прамове ня мае. Тут мы проста маем справу з імкненьнем індаэўропэістаў дыскрэдытаваць яфэтычную тэорыю.

Нанёс Н. Я. Мар удар і па высунутай індаэўропэістамі проблеме сярэдняземнаморскай культуры, з індаэўропэйцамі—творцамі гэтай культуры.

„Дасьледчая работа прывяла да ўстанаўленьня трэцяга этнічнага элемэнту ў стварэньні сярэдняземнаморскай культуры, г. зн. да індаэўропэйскай і да сэмітычннй расы, калісьці раскінутай па ўсім вялікім раёне поўначы Эўропы і пярэдняй Азіі і потым залітай схэмітычнай і індаэўропэйскай хвалямі з захаваньнем нярушанымі оазысаў на Піры-

неях, Каўказе і ў Сярэдняй Азіі ля Паміру“ (І. І. Мешчанінаў „Основные начала яфетидологии“, стар. 5).—Аўтар тут жа паказвае, што гэта пастаноўка пытаньня была відазьменана.

Наогул аб культуры зазначаецца, што:

„...пошукі адзінага пахаджэньня сусьветнай культуры таксама, як і пошукі адзінага цэнтру ўзьнікненьня чалавечай мовы, г. з. узьвядзеньне іх да адзінай пра-культуры і прамову, здаюцца, з пункту погляду яфэтыдолёгіі, бязмэтнаю стратаю сіл“(там-жа, стар. 16).

Ня вучэньне аб гуках, а сэмонтыка, вучэньне аб значэньні слоў, вось што па думцы яфэтыдолёгаў, павінна заняць першаковае месца:

Углыбленьне ў палеонтолёгію высунула асаблівае значэньне сэматыкі слоў, паставіўшы вучот яе абавязковай умовай яфэтыдолёгічных прац...

Яфэтычнае мовазнаўства сьцьвярджае, што сэмантыка вынікае, як і морфолёгія мовы, з грамадзкага ладу чалавецтва, з яго склаўшыхся гаспадарча-экономічных умоў. Тым часам, грамадзкі лад чалавецтва разнастайны і розныя стадыі разьвіцьця і тым больш у дагістарычныя эпохі...

Яфэтычнае мовазнаўства зараз ужо патрабуе палеонтолёгічнага падыходу к сэмантыцы і засьцерагае ад навуковай нястаннасьці пераносаў, якія нярэдка робяцца, на грамадзкае мысленьне дагістарычнага чалавека нашых адцягненых тэорэтычных пабудоў і іншых матэрыяльных успрыйманьняў, часта нічога агульнага з дагістарычным мысьленьнем ня маючых“ (Мешчанінаў. Введение в яфетидологию“ стар. 64-65).

Н. Я. Мар лічыць, што:

„Асноўныя галіны чыста лінгвістычных дасягненьняў—яфэтычнай тэорыі—гэта сэматыка і палеонтолёгія. Пытаньне не наконт навіны тэрмінаў, а наконт навіны таго, што прышлося пад напорам фактычных даных ужо ўкласьці ў іх разуменьне, г. з. пытаньне стаіць аб іх рэальным зьмесьце. Гэта строга законамерная зьменнасьць значэньняў слоў і строга-законамерная ўстанаўліваемасьць кожнага з іх неэмпірычным шляхам, залежачым ад практыкі ўжываньня іх у тым або іншым асяродзішчы, тым або другім аўтарам, або з якой-колечы меры выпадковай у побыце, а ад норм увязанасьці значэньняў з гаспадарча-грамадзкім *жыцьцём і яго вымогамі, якія* законамерна зьмяняюцца на розных ступенях стадыяльнага разьвіцьця. Неразлучна з гэтым выступае палеонтолёгія мовы, якая ўскрывае сэмантычныя адклады розных ступеняй таго самага стадыяльнага разьвіцьця, з асобнымі нормамі словаўтварэньня для кожнае з іх. Тым самым зьмяняецца ня толькі сэнсавы бок гукавой мовы, уносячы па запыту ўзроўню вытворчасьці (які ўзвышаецца) і па магчымасьці нагрaмаджэньняў надбудоўнага сьвету множаньня і ўдакладненьне значэньняў у лексыцы, але зьмяняецца і тэхніка ўтварэньня слоў,

адлюстроўваючы ў ёй разуменьне тэхнічных дасягненьняў вытворчасьці, якое пасьпела адпаведным чынам абагаціць мысьленьне і яго відазьмяніць“ (Н. Я. „Мар. Актуальные проблемы и очередные задачи яфетической теории, стар. 15-16).

Іменна ў выніку сэмантычных вывучэньняў, палеантолёгічных вышуканьняў і вырасла формулёўка (даклады Н. Я. Мара ў 1924 г. у Акадэміі навук СССР) аб тым, што яфэтычныя мовы не ўяўляюць расаваадасобленай групы. Яны зьяўляюцца стадыяй разьвіцьця моваў увогуле. Гэта стадыя пад ціскам пэўных умоў грамадзянскага жыцьця, якія відазьмяніліся, перарадзілася на контынэнце Эўропы і Азіі ў індаэўропэйскую.

Проф. Мешчанінаў мяркуе, што яшчэ ня вызначаны межы яфэтычнага пэрыоду разьвіцьця чалавечай мовы, прычыны пераходу ў другую стадыю, асаблівасьці пераходу, ці зьяўляецца яфэтычная стадыя першапачатковай (гл. І Мешчанінаў „Введение в яфетидологию,“ стар. 7).

І ўсё-ж які сапраўды нябывалы, поўны пераварот у мовазнаўстве.

Ужо аднаго таго, што адзначана вышэй, дастаткова для вырашэньня пытаньня, ці павінны мы ісьці па шляху ідэалістычнай тэорыі індаэўропэістыкі або зрабіць падтрыманьне марксыцкаму мовазнаўству—яфэтычнай тэорыі.

Але ў актыве яфэтычнай тэорыі і распрацоўка пытаньня аб узьнікненьні часьцей мовы, распрацоўка марксыцкая, якая грунтуецца на вывучэньні грамадзка-гаспадарчага ладу.

Але ў актыве яфэтычнай тэорыі ўстанаўленьне, што „гукавая мова пачынаецца ня толькі ня з гукаў, але і не са слоў, часьцін мовы, а са сказу, resp. думкі актыўнай, а пасьля пасыўнай, г. зн. пачынаецца з сынтаксу, пабудовы, з якое паступова вылучаюцца часьціны сказу, якія вызначаліся па месцы іх знаходжаньня ў мове“ (Мешчанінаў. Введение в яфетидологию“, стар. 37).

А сапраўдна гэта мае практычнае значэньне. Бо гэта высоўвае пытаньне аб зьмене пабудовы нашых заняткаў у школе па мове.

Н. Я. Мару належыць заслуга пераносу ўвагі з вывучэньня пісьмовых помнікаў на бясьпісьмовыя мовы.

Пытаньні аб адзіным альфабэце, аб навукова-распрацаваных альфабэтах—усё гэта выходзіць ад яфэтычнай школы.

Цяжка пералічыць тое, што зроблена маладым вучэньнем, у прыватнасьці яго заснавальнікам Н. Я. Марам.

Самае галоўнае—аўладаньне, паступовае аўладаньне мэтодам дыялектычнага матэрыялізму.

І гэта найбольш яскрава выявілася ў пастаноўцы пытаньня аб зьмене мовы, калі яфэтычная тэорыя змагалася супроць біолёгічнага разуменьня процэсу.

Нельга не заўважыць, што супярэчаньні марксыстаў выклікаў тэрмін „выбух“, які ўжываюць у сваіх працах яфэтыдолёгі. Пытаньне ўзьнімалася, аднак, аб самым тэрміне, а ня зьмесьце, якое ў гэты тэрмін укладалася.

Мы ня можам не згадзіцца з Марам, што...

„...яфэтычная тэорыя настолькі ўвайшла практычна ня толькі ва ўстанаўленьне сваяцтва, дакладней—ва ўвязанасьць усіх моваў сьвету (дакладней—моваў усіх сыстэм), што на аб'ёме ахопліваемага ім матэрыялу сапраўды ёсьць грунт назваць інтэрнацыяналістычным новае вучэньне аб мове, паколькі ніякае агульнае лінгвістычнае палажэньне ня можа быць формулявана“ (Н. Я. Мар „Актуальныя проблемы і чарговыя задачы яфэтычнай тэорыі“, стар. 27)

Некалькі слоў па пытаньні аб тым, што яфэтычная тэорыя нібы зусім ня лічыцца з фізыолёгіяй, псыхолёгіяй, параўнаўчай граматыкай і г. д.

Тут ёсьць якоесьці непаразуменьне. Яфэтычная тэорыя толькі па-іншаму ставіць гэтыя пытаньні.

У Н. Я. Мара, у яго артыкуле „Почему так трудно стать лингвистом теоретиком“ (зборник „Языковедение и материализм“, стар. 5) чытаем аб параўнаўчай граматыцы:

„Па ўзаемаадносінах моваў усяго сьвету і ў нас ёсьць так званая параўнаўчая граматыка, але яна ўлічвае не адзін формальны бок, і таму ідзе ад слоў, значымасьцяй слоў, сэматыкі, якая дала магчымасьць прыступіць да клясыфікацыі слоў па ступенях разьвіцьця чалавецтва: апора—ва ўвязцы з гісторыяй матэрыяльнае культуры, выяўляемай ня толькі археолёгіяй, але і этнографіяй, ад палеолітычных перажываньняў да сучаснасьці і ва ўвязцы з гісторыяй грамадзкіх форм, выяўляемых таксама ня толькі гісторыяй або археолёгіяй, але і этнолёгіяй у сучасных перажываньнях, якія сьведчаць аб тым, што перажыта перадавым чалавецтвам у часьці і сьветапогляду па існасьці і па афармленьні“.

Такім чынам, вылучаецца дзіохроністычная параўнаўчая граматыка.

А вось што знаходзім мы аб фізыолёгіі і псыхіцы: „... мова вызначаецца, як стварэньне грамадзкасьці. Такое асноўнае палажэньне яфэтыдолёгіі Н. Я. Мар тлумачыць у працы „О происхождении языка“ (1926, Пэр) неабходнасьцю лічыцца і з фізыолёгічнымі прадумовамі, таму што гукавая мова зьвязана з фізыолёгіяй ня толькі ў спосабе вымаўленьня, г. зн. у фонэтыцы, але яшчэ больш у сыстэме кіраўніцтва прыладай вытворчасьці мовы—языком. Гукавая мова зьвязана і ў рэагаваньні на акаляючы сьвет, спачатку знадворны, затым і ўласны (унутраны), у тым ці іншым іх успрыманьні, якое суміруе вынікі перажытых рэальных і перажываемых або перажытых умоўных рэфлексаў, г. зн. устрыманьняў так званай псыхікі“ (Мешчанінаў „Введение в яфетидологию“, стар. 77).

Пераходжу да тых боек, якія разгарнуліся ў сэкцыі матэрыялістычнай лінгвістыкі Комакадэміі ў верасьні—лістападзе 1930 г.

Шэраг лінгвістаў аб'ядналіся ў групу „Мовазнаўчы фронт“ і выпусьцілі наступную адозву:

## Адозва групы „Мовазнаўчы фронт“.

Сучаснае становішча на нашым мовазнаўчым фронце відавочна небясьпечна. У галіне тэорыі мовы, а таксама ў нашых школах і вузах да гэтай пары пануюць ідэалістычныя і фармалістычныя напрамкі і бяспрынцыпны **эклектызм** (індаэўропэйскай школы), які вырастае на іх.

Існаваньне дыктатуры пролетарыяту не прайшло, разумеецца, бясьсьледна для мовазнаўчай навукі. У Савецкім Саюзе ўзьнікла новае вучэньне аб мове на матэрыялістычнай аснове (яфэтычная тэорыя). Аднак гэтае вучэньне ўяўляе яшчэ не дыялектыка-матэрыялістычную пабудову, а ўсяго толькі першы крок да такой пабудовы. Становішча на мовазнаўчым фронце стварае неабходнасьць самай рашучай, бязьлітаснай барацьбы супроць індаэўропэізму і ўсяго роду эклектызму— з аднаго боку, і разгорнутага наступу на мэханістычныя тэндэнцыі ў сучасным мовазнаўстве—з другога боку. Толькі перавага над мэханістычнымі тэндэнцыямі ў сучаснай лінгвістыцы забясьпечвае сапраўдную перамогу над фармалізмам, ідэалізмам і аслабаняе глебу для стварэньня сапраўднай дыялектыка-матэрыялістычнай навукі аб мове з вучотам усіх папярэдніх дасягненьняў лінгвістычнай мысьлі.

Развязаньне гэтай задачы мае цяжкасці ў тым, што на нашым вучастку ідэолёгічнага фронту марксыцкія сілы знаходзяцца ў стане раскіду.

Зараз-жа пасьля XVI партыйнага зьезду, задачы далейшага разгортваньня соцыялістычнага будаўніцтва, уцягненьне ў гэтае будаўніцтва многамільённых рознамоўных мас Савецкага Саюзу, задачы шырокага наступу на капіталістычныя элемэнты і ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі настойліва патрабуе дакладных марксыцка-ленінскіх установак у пытаньнях мовы, крутога павароту ўсёй навуковай працы ў бок непасрэдных актуальных проблем будаўніцтва соцыялізму. Адозва Цэнтральнага камітэту партыі, якая мобілізуе творчую энэргію рабочае клясы на выкананьне бягучых задач, абавязвае працаўнікоў тэорэтычнага фронту к мобілізацыі ўсіх сваіх сіл для забесьпячэньня баявых тэмпаў і рашучай перабудовы ўсёй навуковай працы.

Таму мы, працаўнікі ў галіне тэорыі і практыкі мовы, аб'яднаўшыся ў групу „Мовазнаўчны фронт“, у якасьці сваіх бліжэйшых, чарговых задач, вылучаем:

1. Распрацоўку асноўных проблем у навуцы аб мове, з асобным вучотам законамернасьці ў разьвіцьці мовы эпохі дыктатуры пролетарыяту,— на адзіна-навуковых асновах марксызму-ленінізму.

2. Уключэньне нашай працы ў генэральны плян культурнага будаўніцтва для сыстэматычнага і організаванага вывучэньня моўных багацьцяў Савецкага Саюзу.

3. У канкрэтна-лінгвістычным дасьледваньні ўпор на сучаснасьць, на вывучэньне законамернасьцяй апошніх этапаў у разьвіцьці мовы.

4. Вывучэньне ў першую чаргу мовы пролетарыяту, як гегемона рэволюцыі, і колгасьніка, як сапраўднай і моцнай апоры савецкай улады ў вёсцы.

5. Актыўнае садзейнічаньне шырокаму выкарыстоўваньню мовы ў соцыялістычным будаўніцтве і культурнай рэволюцыі, асабліва ў разьвіцьці нацыянальных культур.

6. Узмацненьне вядучай ролі сапраўдна-марксыцкай мовазнаўчай тэорыі ў мовазнаўчай практыцы: у барацьбе за культуру пісьмовай і вуснай мовы, у рэгуляваньні мовы.

7. Марксыцкую прапрацоўку мэтодыкі вывучэньня мовы і перабудову выкладаньня яе на пачатках працоўнай політычнай школы.

8. Выкананьне да канца пяцігодкі, на грунце соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, шэрагу марксыцкіх дасьледваньняў у галіне тэорыі, гісторыі і практыкі мовы.

9. Цесную змычку з марксыстамі, працуючымі ў галіне філёзофіі, экономікі, гісторыі і літаратуразнаўства.

10. Шырокую самакрытыку ў радох мовазнаўцаў-марксыстаў.

І. Абаеў, К. Алавердаў, С. Белявіцкі, М. Гус, Г. Данілаў, Э. Дрэзен, Е. Камшылава, Ф. Курэ, Т. Ломцеў, Я. Лоя.

Масква, 15 верасьня 1930 г.

Надрукавана ў № 1 часопісу Інстытуту літаратуры, мастацтва і мовы Комакадэміі „Литература и искусство“ за верасень 1930 г. (3-я старонка вокладкі).

Об'ектыўна, пры абвостраным становішчы на мовазнаўчым фронце гэта адозва, а пасьля даклады т. т. Данілава і Ломцева згулялі на руку індаэўропэістам, хоць адозва і дакладчыкі ня скупіліся на яскравыя фарбы, адмячаючы ідэалістычнасьць, эклектызм прыхільнікаў індаэўропэйскай тэорыі.

Яфэтычнай тэорыі было кінута абвінавачваньне ў мэханістычнасьці, аб'яўлялася барацьба гэтай закончана-мэханістычнай концэпцыі.

Такім чынам, меркавалася, што марксыцкае мовазнаўства пойдзе не цераз яфэтычную тэорыю, а іншай дарогай.

Самакрытыка, як назвалі гэтую дыскусію некаторыя таварышы з „Мовазнаўчага фронту“, зьвярнулася ў крытыку далёка не сяброўскага характару.

Пры гэтым ніякай закончанай навуковай концэпцыі „мовазнаўчы фронт“ ня даў.

Яфэтычная тэорыя не магла не застацца адзінай сілай, якая ня толькі проціпаставіла сябе індаэўропэізму, але ў той-жа час і ўладала магутным арсэналам зброі.

Заканчваючы свой абгляд, я не магу не паказаць на мовазнаўчую практыку нашых мовазнаўцаў у такой вялізнай важнасьці пытаньня як нацыянальныя мовы і адзіная ў будучыні мова чалавецтва. Індаэўропэісты нават не разумеюць, як можа ўзьнімацца пытаньне аб будучай

адзінай мове. Бо па іх поглядзе мовы ідуць не ад мноства к адзінству, як кажа Н. Я. Мар, а ад прамовы да ўсё большага драбленьня.

Ды ці не паказальна, што проф. Томсон („Общее языковедение", другое перапрацованае і дапоўненае выданьне, Адэса, 1910, стар. 378—383) за ім проф. Бузук („Агульнае мовазнаўства", ДВБ, Менск, 1926, стар. 55—56) выступаюць супроць штучных моваў, а Мар за іх (гл. яго прадмову да кнігі Дрэзэна „За всеобщим языком").

Для Мара ясна, што мова будзе адзіная: „... такім чынам, няма нарастаньня новых відаў гукавой мовы ў парадку біолёгічнага процэсу масавага дзетанараджэньня ўзьніклых моваў, павялічэньня патомства. Самы процэс разьвіцьця гукавой мовы ўяўляе карціну не размнажэньня моваў, а ўніфікацыі іх, якая расьце з кожным этапам гаспадарчага разьвіцьця чалавецтва" (Н. Я. Мар „Актуальные проблемы і очередные задачи яфетической теории", стар. 24).

Ну, а як пытаньне з нацыянальнымі мовамі?

Вось якія выказваньні знаходзім мы ў індаэўропэістаў. Проф. Томсом вяшчуе (гл. стар. 367 ужо цытаванай кнігі): „Калі мы расійскую мову падзяляем на паўночную, сярэднюю і паўднёва-вялікарускую або маларускую падмовы, то сярэднярускaя падмова ў сваю чаргу падзяляецца на паўднёва-вялікарускую і на беларускую пад-падмовы".

Як бачыце, беларуская мова нават і ў падмовы не трапляе!

А вось яшчэ адно цікавае выказваньне (гл. стар. 377-378):

„Апроч таго факту, што гістарычна ўжо ўстанавілася агульна-народная расійская мова, практычныя вывады, што дае больш пашыраная мова, прытым агульна-народная і агульна-дзяржаўная, настолькі вялікія, што радам з імі розныя аднабаковыя меркаваньні і густы ня могуць разьлічваць на практычны посьпех. Трэба яшчэ мець на ўвазе, што ў выпрацоўцы агульна-расійскай мовы ўдзельнічалі таксама пісьменьнікі і вучоныя з маларасійцаў. А народ, які гаворыць на „гаворках", павінен заўсёды вывучаць у школе або сродкам чытаньня ўсякую такую „агульную" мову, амаль што таксама, як вывучаецца чужаземная мова, толькі вывучэньне яе непараўнальна лягчэй. Зразумела, існаваньне агульна-народнае мовы ня выключае магчымасьць зьяўленьня літаратурных твораў, напр., на ніжня-нямецкай або маларускай мове. Адылі ў літаратуры пашчасьлівілася пераважна аднэй пад-падмове маларускай мове, менавіта украінскай. Але рэдка таленавіты пісьменьнік палічыць за лепшае звузіць дабравольна кола сваіх чытачоў і свайго літаратурнага ўплыву. Што быў-бы Гогаль, калі-б ён напісаў „Мертвые души" і „Ревизор" на маларускай мове? Параўнайце яшчэ аўтара і выдаўца твору на ангельскай мове. Ангельскі пісьменьнік піша для ўсяго сьвету, а ніжня-нямецкі або украінскі для вузкага кола аматараў".

Возьмем прыклад з кнігі Н. Дурнаво „Очерк истории русского языка", Гиз. М.-Л., 1924, стар. 72: „Руская моўная група ў цяперашні час падзяляецца на тры расійскія мовы: вялікаруская, беларуская і мала-

руская“ (аўтар робіць зноску, што „маларускую мову прынята таксама называць украінскай“...).

Пяройдзем да выказваньняў Я. Лёсіка.

Досыць прачытаць яго разважаньні аб жыцьці мовы, каб прызнаць у Лёсіку сапраўднага індаэўропэіста.

Я ня цытую з усіх вядомых вучэбных дапамог гэтага індаэўропэіста ў пацьверджаньне маёй думкі. Кожны пераканаўся сам, што Лёсік проста запазычыў навуковыя тэорыі аднамысьленьнікаў індаэўропэістаў. Аднак, наступныя мейсцы з яго „Фонэтыкі“ не мяшае напомніць: „як і кожная жывая мова, раскінутая па шырокім прасторы, будучы ў аснове ўсюды аднолькаваю і самабытнаю, цяперашняя беларуская мова падзяляецца ў межах свайго ўласнага географічнага расьсяленьня на мясцовыя гутаркі, або дыялекты, якія розьняцца паміж сабой вымаўленьнем некаторых гукаў і формамі паасобных слоў. Але ўсе гэтыя мясцовыя гутаркі зьвязаны адзінствам моўных законаў і, такім парадкам, не парушаюць адзінства беларускае мовы“ (стар. 11-12).

Такім чынам, тэорыя самабытнасьцці, нацдэмаўская буржуазная тэорыя!

А вось яшчэ і індаэўропэіст С. Некрашэвіч.

Да рэчы заўважу, што індаэўропэістыцы вельмі пашанцавала ў Бан пры нацдэмах: у зборніках „Запіскі аддзелу гуманітарных навук“. „Працы клясы філёлёгіі“ знайшлі сабе месца індаэўропэісты самых розных колераў.

Аб усіх іх працах я мяркую выпусьціць асобны артыкул, а зараз спынюся на С. Некрашэвічу—індаэўрапэісьце, які стаяў на чале аддзелу.

У яго дакладзе „Да пытаньня аб укладаньні слоўніка жывой беларускай мовы“ мы знаходзім вельмі многа цікаўных, вельмі характарных месц.

Трэба адмеціць заўсёднае падкрэсьліваньне Некрашэвічам (як і іншымі нацдэмамі) асаблівых шляхоў разьвіцьця беларускай культуры і беларускай мовы (гл. стар. 4): „шляхі разьвіцьця беларускай культуры зусім асаблівыя, нісколькі не падобныя на шляхі разьвіцьця культуры і іншых „дзяржаўных“ народаў (паказаны артыкул—Адбітку з часопісу „Полымя“, 1925 г., № 5).

Некрашэвіч піша, што „Прайшоўшы рускую, або польскую школу мы навучыліся думаць не па-беларуску, а па-руску ці па-польску“ (там-жа, стар. 6).

Адсюль вывад: „Каб перамагчы гэта, трэба ўнікнуць у народную мову, або, як кажа вядомая дасьледніца сучаснай украінскай мовы А. Курыла, трэба „навучыцца ад народу выражацца яго думкамі, яго псыхолёгіяй мовы“ (там-жа).

Бо „Толькі вёска, глухая, цёмная вёска, для якой незнаёма была кніжная асьвета і якая ня толькі ня мела зносін з чужынцамі ў краі, але фактычна і мець не магла, бо ёй, як мужыцкай, ганьбілі, — і вось толькі гэтая вёска на працягу шмат вякоў у чыстаце захоўвала свой

найдаражэйшы скарб—беларускую мову“ (там-жа, стар. 5). Такім чынам, назад да „адраджэньня“, вось што прапаведуюць нацдэмы.

Ратунак у цёмнай глухой вёсцы, якая захавала самабытнасьць.

Пасьля гэтага нас ня зьдзівіць, што Некрашэвіч прапануе ня ўносіць у слоўнік ніводнага расійскага *слова*, ня зьдзівіць, што для слоўніка зьяўляюцца „найбольш слабымі крыніцамі, якія патрабуюць да сябе самых крытычных адносін,—мова газэт, перакладаў, брошур“ (там-жа, стар. 8).

Некрашэвіч лічыць, што „чужаземныя мовы ў нашай літаратурнай мове ня роўнапраўныя члены моўнай сям'і, а выпадковыя госьці, якія сёньня ёсьць, а заўтра могуць зьнікнуць... Для гэтага з прычыны з аднаго боку неапрацаванасьці беларускай літаратурнай мовы, а з другога боку моцнага ўплыву рускай культуры на беларускую, які ўплыў яшчэ адчуваецца і зараз, нам патрэбна быць вельмі асьцярожнымі з ужываньнем чужаземных слоў і ўнясеньнем іх у свой слоўнік.

Таксама (як характарна гучыць гэта „таксама“) трэба быць вельмі асьцярожнымі і пры ўнясеньні слоў рэзка адасобленых. Каст чалавечай грамады, як, напр., мовы зладзеяў, жабракоў, бо мовы такіх каст, папершае, часта прадстаўляе такія-ж нічога не гаворачыя конглёмэраты, як і нашы модныя (!!! В. Б.), запазычаныя ад рускіх або складзеныя па ўзоры рускіх славечкі: „Інбелкульт“, „Наркамасьветы“ і да т. п. (там-жа, стар. 13—14).

Твар нацдэма ясна відаць з гэтых „яскаравых“ выказваньняў.

І вось пачынаюцца пошукі нацдэмам Некрашэвічам цёмных вёсак.

У выніку артыкул „Да характарыстыкі беларускіх гаворак Парыцкага раёну“ (працы клясы філёлёгіі, т. II „Запісак аддзелу гуманітарных навук“, кніга 9, Менск, 1929 г., стар. 159—244).

Якіх толькі „мовазнаўчых“ назіраньняў ня зроблена тут.

„Характарызуючы-ж сялянскую экономіку, наогул трэба сказаць, што сялянства раёну ў значнай сваёй масе жыве бедна“ (стар. 164).

Гэта вывад зразумелы: нацдэму неабходна давесьці, што пры савецкай уладзе селяніну ня стала лепш.

На стар. 169-й знаходзім: „Найбольш культурна-адсталую трэба лічыць б. Чэрнінскую воласьць... у гэтай мясцовасьці... вучняў ні профэсыянальных школ, ні тэхнікумаў, ні ВНУ блізка зусім няма.

Грамадзкага жыцьця тут таксама мала. Комуністы і комсамольцы рэдкасьць. У цэлым Раманіцкім сельсавеце (процант граматнасьці 8¹/₂ проц.) няма аніводнага комуніста, ніводнага комсамольца“.

Вывад?

Вывад: „Затое з другога боку, як ужо вышэй і адзначалася, гэты куток зьяўляецца найбольш цікавым у этнографічных адносінах: тут у найбольшай чыстаце захоўваецца мова і звычаі селяніна“ (там-жа).

Думаю, што і адзначанага дастаткова для вырашэньня пытаньня якіх мэтадаў дасягала паездка Некрашэвіча.

А, сапраўдна, месц, падобным працытаваным вышэй, пасеяна дзесяткамі па ўсім яго артыкуле.

Нацдэмаўскія рукі спрабавалі павярнуць кола гісторыі.

Па нацдэмаўскіх руках больна ўдарыла рабоча-сялянская рука. Як-жа павінна ставіцца пытаньне аб нацыянальных мовах і аб адзінай будучай мове?

Тав. Сталін зусім ясна гаворыць:

„... Можа здацца дзіўным, што мы, прыхільнікі зьліцьця ў будучыні нацыянальных культур у адну агульную (і па форме і па зьмесьце) культуру, з аднэй агульнай мовай, зьяўляліся разам з тым прыхільнікамі *росквіту* нацыянальных культур у даны момант у пэрыод дыктатуры пролетарыяту. Але ў гэтым няма нічога дзіўнага. Трэба даць нацыянальным культурам разьвіцца і разгарнуцца, выявіўшы ўсе свае потэнцыі, каб стварыць умовы для зьліцьця іх у адну агульную культуру з аднэй агульнай мовай. Росквіт нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьмесьце культур ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту ў аднэй краіне для зьліцьця іх у адну агульную соцыялістычную (і па форме і па зьмесьце) культуру, з аднэй агульнай мовай, калі пролетарыят пераможа ва ўсім сьвеце і соцыялізм увойдзе ў побыт, — з гэтага іменна і складаецца дыялектычнасьць ленінскай пастаноўкі пытаньня аб нацыянальнай культуры“ (І. Сталін „Політычная справаздача ЦК XVI зьезду ЎсеКП(б)“).

„... Тэорыя зьліцьця ўсіх нацый, скажам, СССР, у адну агульную *вялікарускую* нацыю з адзінай агульнай *вялікарускай* мовай ёсьць тэорыя нацыянал-шовініцкая, тэорыя антыленінская, якая супярэчыць асноўнаму палажэньню ленінізму, якое складаецца з таго, што нацыянальныя рознасьці ня могуць счэзнуць у бліжэйшы пэрыод, што яны павінны застацца яшчэ надоўга, нават пасьля перамогі пролетарскай рэволюцыі *ў сусьветным маштабе*. Што датычыць больш далёкай пэрспэктывы нацыянальных культур і нацыянальных моваў, то я заўсёды трымаўся і працягваю трымацца таго ленінскага погляду, што ў пэрыод перамогі соцыялізму *ў сусьветным маштабе*, калі соцыялізм умацнее і ўвойдзе ў побыт, нацыянальныя мовы немінуча павінны зьліцца ў адну агульную мову, каторая, зразумела, ня будзе ні вялікарускай, ні нямецкай, а чымсьці новым“ (І. Сталін „Заключнае слова па політычнай справаздачы ЦК XVI зьезду ЎсеКП(б)“).

Толькі той, хто ня хоча зразумець, можа гаварыць аб якіхсьці супярэчнасьцях.

Дыялектык гэтых супярэчнасьцяй ня знойдзе.

Што-ж гаворыць Мар?

Мар мысьліць па-дыялектычнаму:

„Бо і сапраўды не аднэй злосьцю перажыткаў паўшага імпэрыялізму да вызваленых народаў і да іх маладой нарастаючай культуры і як быццам не аднэй няўцямнасьцю можна аб'ясьніць, што нават таварышы, глы-

бока прасякнутыя ідэолёгіяй нашай актуальнай грамадзкасьці, бачаць супярэчнасьць паміж няўхільным набліжэньнем чалавецтва к адзінай па-за клясавай грамадзе з адзінай мовай, г. зн. да ўніфікацыі мовы, і настолькі дзіўна старaннай грамадзкай працай (што так нячувана разгортваецца па ўсім нашым Саюзе), над насаджэньнем і разьвіцьцём мноства літаратурных моваў, якіх раней і ў паміне не вадзілася. Быццам шалёныя хочуць стварыць лішнія перашкоды на шляху прогрэсу чалавецтва.

*Відавочна, з прычыны адсутнасьці спэцыяльных ведаў да правільных уяўленьняў па гісторыі мовы ў таварышоў з падобнаю сьцеражлівасьцю не хапае разуменьня таго, што сапраўды замінае ўніфікацыі мовы і што наадварот спрыяла* і спрыяе *ўніфікацыі*" (Н. Я. Мар, „Родная речь—могучий рычаг культурного под'ема", стар. 2, падкрэсьлена мною—В. Б.).

У якасьці вынікаў усяго сказанага, я дазволю сабе даць па маёй тэме.

Такім чынам, —

1. Крызіс капіталістычнага сьвету нямінуча прывёў да крызісу буржуазных навуковых тэорый як выяўна-ідэолістычных, так і псэўдамарксыцкіх, эклектычных.

2. На фронце мовазнаўства стыкнуліся дзьве сілы: індаэўропэістыка, у тым ліку і „соцыялёгічнае" яе крыло, і марксыцкае мовазнаўства, прадстаўленае яфэтычнай тэорыяй.

3. Ня гледзячы на тое, што прадстаўнікі індаэўропэйскага мовазнаўства—проф. Пэтэрсон, проф. Паліванаў і інш.—замазваюць наяўнасьць крызісу індаэўропэістыкі, на каторы паказваюць асобныя іх аднамысьленьнікі, мы маем права гаварыць аб крызісе індаэўропэйскай тэорыі.

4. Індаэўропэйская тэорыя, якая перажыла свой залаты век у XIX стагодзьдзі, ня здолела вырашыць здавальняюча ніводнай з пастаўленых ёю задач: 1) пахаджэньне і разьвіцьцё мовы, 2) культура і пра індаэўрапэйцаў і інш.

5. Яфэтычная тэорыя, працуючы, галоўным чынам, над матэрыялам жывых моваў, а ня пісьмовых помнікаў, зьвязала факты мовы з фактам матэрыяльнай культуры, з грамадзка-гаспадарчай дзеяльнасьцю чалавечых колектываў і паваліла картачныя домікі індаэўропэйскай культуры.

6. Яфэтычная тэорыя, пройдучы этап „стыхійнага матэрыялізму" (словы Фрычэ), робіцца сапраўдна-марксыцкай мовазнаўчай тэорыяй як у аб'ясьненьні паходжаньня, разьвіцьця мовы, так і ў пытаньні аб нацыянальных мовах аб сусьветнай мове будучыні і ў другіх пастаўленых ёю задачах.

Вось чаму выступленьне групы „Мовазнаўчы фронт" з крытыкай яфэтычных тэорый об'ектыўна згуляла на руку індаэўропэйскай буржуазнай тэорыі.

7. Нашай задачай зьяўляецца барацьба з індаэўропэйскай тэорыяй з эклектызмам усякага роду, з псэўда-марксыцкімі тэорыямі, з вялікадзяр-

жаўным шовінізмам, з нацдэмаўскімі тэорыямі самабытнасьці, барацьба за сапраўдна-марксыцкае мовазнаўства.

Належыць прызнаць, што мовазнаўчы фронт зьяўляецца ў цяперашні час небясьпечным, і яфэтычная тэорыя мае права разьлічваць на сяброўскую дапамогу марксыстаў-працаўнікоў у датыкальных да мовазнаўства навук—філёзофіі, экономіі, гісторыі права, гісторыі клясавай барацьбы, гісторыі першабытнай культуры, археолёгіі і інш.

# ЛІНГВІСТЫЧНАЯ ДЫСКУСІЯ

**М. Бочачэр**

Трохмесячная дыскусія аб матэрыялістычнай лінгвістыцы ў Комуністычнай акадэміі к канцу сьнежня закончылася. Дыскусія прыцягнула вялікую ўвагу матэрыялістаў-лінгвістаў. На 11 пасяджэньнях яе выступала больш за пяцьдзесят чалавек.

Дыскусія мела свае недахопы, якія адлюстраваліся на ходзе яе работ. Яна прайшла без дастатковага кіраўніцтва з боку дырэктара Інстытуту „Лія" і бюро сэкцыі матэрыялістычнай лінгвістыкі. З прычыны таго, што ўся сэкцыя, асабліва комуністычная яе частка, у часе дыскусіі падзялілася на два варожыя паміж сабою лягеры, кіраўніцтва паседжаньнямі фактычна перайшло ў рукі беспартыйных, каторыя зьяўляліся чымсьці накшталт арбітраў і „нэўтралізатараў" тых запалаў, якія разгульваліся з двох бакоў. Комуністы-лінгвісты, якія ўдзельнічалі ў дыскусіі, на-жаль, гаварылі нібы „на дзьвюх розных мовах". Гэтая „дзьвюмоўнасьць" працягвалася да канца дыскусіі. Абодвы бакі працягваюць і да гэтай пары настойліва абараняць свае памылкі.

Але, разумеецца, дыскусія мела свае агромністыя дадатковыя бакі. На фронце лінгвістыкі раней ня было ніякай самакрытыкі. Дыскусія таксама паклала аснову для павароту к сучаснасьці. Але „самакрытыка" ў дыскусіі была вельмі асабістаю. Абодвы варожыя лягеры займаліся крытыкай, але крытыкай толькі чужых памылак, а не сваіх. З тае прычыны крытыка, даная кожным лягерам, разумеецца, была аднабаковай.

Група „Мовазнаўчы фронт", па ініцыятыве якой узьнікла дыскусія, мае вельмі значныя заслугі: яна першая высунула лёзунг аб павароце лінгвістыкі да сучаснасьці, да сучасных задач соцыялістычнага будаўніцтва; яна першая паказала на недаацэнку яфэтыдолёгамі значэньня буржуазнае спадчыны; яна першая сыгналізавала і паказвала на мэханістычныя памылкі, якія ёсьць у вучэньні Мара, і пачала іх крытыкаваць. Але гэтая група перагінала палку ў крытыцы Мара, абвяшчаючы яго тэорыю мэханістычнай цалкам. Яна не абмеркавала асабістасьці палажэньня, не падлічыла, што Мар на лінгвістычным фронце ня ёсьць Пераверзеў і ня ёсьць Рубін.

Не забудзьма, што Пераверзеў, зьявіўшыся ў літаратуразнаўства пасьля Плеханава, Ляфарга, Мэрынга, Воронскага, пасьля таго, як ужо былі заложаны марксыцкія асновы мастацтвазнаўства і літаратуразнаўства, заняўся рэвізіяй гэтых асноў. Тое самае з Рубіным. Апошні зьявіўся

ў экономічную навуку пасьля Маркса, Энгельса, Леніна і заняўся рэвізіяй марксызму-ленінізму. У Мара-ж мы маем іншае палажэньне. Ён ня прышоў пасьля мовазнаўцаў-марксыстаў, каторых мы яшчэ ня маем,— апроч асобных выказваньняў Энгельса, Ляфарга, нічога няма. Мар прышоў і разьбіў дашчэнту індаэўропэістыку і амаль на голым месцы залажыў асновы матэрыялістычнай лінгвістыкі. Гэтую адзнаку неабходна заўсёды помніць.

Апрача таго, група „Мовазнаўчы фронт" пакутуе на некаторыя лібэральныя адносіны да „савецкіх" індаэўропэістаў накшталт Паліванава і інш. Яна не прызнае поўнасьцю і сваіх уласных памылак, асабліва памылак т. Данілава ў адносінах да клясаў, нацыянальнага пытаньня і інш.

Яфэтыдолёгі ў стварэньні матэрыялістычнай лінгвістыкі маюць вялізныя заслугі, у асаблівасьці заснавальнік і пачынальнік яфэтычнай тэорыі— акадэмік Мар. Мар стварыў матэрыялістычную лінгвістыку. Тэорыя Мара зьяўляецца антыімпэрыялісцкай тэорыяй з прычыны таго, што яна рэзка выступае супроць індаэўропэйскай тэорыі рас, якая зьяўляецца ідэолёгічнай абаронай сучаснага імпэрыялізму. Мар, апроч таго, быў першым лінгвістам, каторы зьвярнуў асаблівую ўвагу на мовы нацыянальнасьцяй, насяляючых Савецкі Саюз і быўшых прыгнечанымі царызмам (Каўкаскія народы). Мар таксама паставіў пытаньне аб нармаваньні мовазнаўства і аб неабходнасьці моўнай палітыкі ў СССР.

Але ў вучэньні яфэтыдолёгаў ёсьць вялікія небясьпекі: небясьпека, па-першае, чапляньне за мэханістычныя памылкі, і небясьпека іх працягваньня і паўтарэньня на пашыранай аснове; па-другое, боязьнь самакрытыкі, дыскусіі. Яфэтыдолёгі сваё супраціўленьне дыскусіі матывавалі тым, што апошняя нібы адцягвае іх ад сур'ёзнай навукова-дасьледчай работы: яны не зразумелі, што ніякая сур'ёзная навукова-дасьледчая работа немагчыма без самакрытыкі. Адсюль, па-трэцяе, небясьпека кананізаваньня вучэньня Мара, якое можа прывесьці гэтае вучэньне да загніваньня,—небясьпека, якая вынікае з таго, што асобныя рупатлівыя прыхільнікі Мара, каторыя зьяўляюцца больш марыстамі, чым сам Мар, хочуць прадставіць яфэтычную тэорыю на сёнешні дзень, як закончаны марксызм, або, прынамсі, як „марксызм у станаўленьні", што, разумецца, няправільна. Ёсьць і такія вучні Мара, як, напрыклад, праф. Мешчанінаў, каторыя хочуць і імкнуцца замяніць істмат яфэтыдолёгіяй і выдаваць апошнюю за закончаны сьветапогляд, які абхоплівае ня толькі пытаньні мовы, але і агульныя пытаньні культуры і соцыялёгіі. Вось, напрыклад, што піша праф. Мешчанінаў у часопісу „Новый Восток": „Яфэтыдолёгія-ж ёсьць агульнае вучэньне аб мове, паколькі да яе прыстасоўваецца яфэтыдолёгічны мэтод дасьледваньня; яна-ж ёсьць і агульнае вучэньне аб культуры ўвогуле, паколькі да вывучэньня розных яе праяў прыстасоўваецца той-жа самы мэтод". Гэтым настроям і прагненьням Мешчанінавых належыць даваць рашучы марксыцка-ленінскі адпор.

Але тут трэба выдзеліць самога акадэміка Мара, які зусім ня імкнецца канонізаваць сваё вучэньне і выдаваць яго за марксызм. Сам Мар у сваіх конкрэтных навуковых працах лічыць сваю тэорыю ня чыста марксыцкай і ён сам заклікае ў лінгвістыку „ворагаў“ марксыстаў. Мар піша: „Сапраўднае разыходжаньне пойдзе глыбей і па ўсіх лініях, калі ў новую справу ўступяць гаспадары грамадазнаўцы. Тады ўжо будзе сапраўдная бойка, прынцыпіяльная ў аснове, у асяродзішчы самых вучоных яфэтыдолёгаў, калі нам усім, ня выключаючы і настаўніка, прыдзецца быць выкінутымі з няўхільна ўзрастаючае плыні яфэтычнай тэорыі, плыні якая нямінуюча мае зрабіцца магутнай“. Як відаць з гэтай цытаты, сам Мар прадбачыць крытыку ўласнай тэорыі і кліча ў лінгвістыку сапраўдных марксыстаў, якія павінны пераацэньваць усе каштоўнасьці і крытыкаваць тыя ісьціны, што ўжо зрабіліся канонамі.

Таксама і марысты выдаюцца недаацэнкай буржуазнае спадчыны, спадчыны індаэўропэістыкі, лічачы, што гэтую спадчыну трэба вывучаць толькі па творах Мара, што сам Мар у свае працы ўжо ўключыў усё тое лепшае і прогрэсыўнае, што ёсьць у працах індаэропэістаў. Апрача таго, у работах яфэтыдолёгаў заўважваецца адход у гісторыю, у дагісторыю і паварот сьпіною к проблемам сучаснасьці. У гэтым сэнсе вельмі паказальным ёсьць плян работ яфэтыдолёгічнага інстытуту, у якім аб сучаснасьці няма ні слова. „Актуальныя проблемы Мара на сёньня ня зусім актуальны, і яны ня могуць стаць нашай пляцформай і програмай мовазнаўства. Разумеецца, было-б памылкова, калі-б лінгвісты займаліся толькі сучаснымі пытаньнямі, бо лінгвістыка, як навука, ня зможа стаць на моцныя марксыцкія ногі, калі ня будуць дэтальна распрацованы пытаньні пахаджэньня мовы, г. з. проблемы гістарычныя. Адмахнуцца ад гісторыі, ад распрацоўкі пытаньняў пахаджэньня мовы, гэта значыць будаваць сьцены і дах пры адсутнасьці падмурку. Але адход у цэльную гісторыю або дагісторыю і забыцьцё пытаньняў сучаснасьціператварае лінгвістычную навуку ў аполітычную, з якой вынята яе політычная і клясавая сутнасьць.

У іншых сваіх працах (напр., у „Актуальных проблемах“) Мар зводзіць зьмены ў мове непасрэдна к вытворчаму процэсу, што зьяўляецца сапраўднейшай шуляцікаўшчынай. Такое зьвядзеньне зьяўляецца законамерным для дагістарычнага пэрыоду або раньняй гісторыі чалавецтва, калі тыя або іншыя надбудовы выраcталі непасрэдна з базіса. Для пазьнейшых пэрыодаў такое зьвядзеньне ёсьць мэханістычным. Мар памыляецца і ва ўстанаўленьні тэрмінаў пахаджэньня клясаў, ня кажучы ўжо аб тым, што сама тэрмінолёгія ў адносінах да клясаў у Мара—як, да рэчы адзначым, і ў праціўнікаў Мара—недакладная, міфічныя чатыры элемэнты таксама патрабуюць сур'ёзнай марксыцкай праверкі.

Матэрыялістычная лінгвістыка здолее перавярнуцца ў марксыцкую лінгвістыку, калі ў далейшым будзе працягвацца з аднаго боку, крытыка мэханістычных памылах Мара, а з другога—station... 

лінгвістыкі. Такое прасоўваньне і ўзвышэньне лінгвістыкі на вышэйшую ступень ня зможа быць выканана бяз вострай і пасьлядоўнай прынцыпіяльнай барацьбы на два франты; без далейшай барацьбы супроць ахвосьця індаэўропэістыкі ў нашай краіне; бяз крытычнага выкарыстаньня спадчыны; бяз прызнаньня памылак; без таго, каб лінгвістыка стала навуковай, якая працуе на службе культурнага будаўніцтва краіны. Лінгвістыка павінна займацца пытаньнямі альфабэтаў народаў СССР, пытаньнямі ортографіі, пытаньнямі паляпшэньня мовы газэт, законаў і г. д., пытаньнямі вывучэньня тых зьмен, якія ў мове працоўных утварыла рэволюцыя ў рэволюцыйныя гады. Калі гэта праца праároблена, тады, разумеецца, лінгвістыка ўздымаецца на вышэйшую ступень, і тады мы зможам гаварыць ужо не аб матэрыялістычнай лінгвістыцы, а аб марксыцкай лінгвістыцы, г. з. аб навуцы, у якой пануе мэтод дыялектычнага матэрыялізму. А пакуль што мы гэтага яшчэ ня маем.

Яшчэ адна заўвага: лінгвістыка ня здолела да гэтага часу прыцягнуць к сваім проблемам увагу рабочай, вузаўскай і савецкай грамадзкасьці. Дыскусійныя пытаньні лінгвістыкі яшчэ ня „вышлі на вуліцу“, як, напр., філёзофскія, каторыя ня гледзячы на сваю адцягненасьць сталі зразумелы кожнаму партыйцу-актывісту, і апошні ведае, дзе правільная лінія партыі і дзе яна адсутнічае. Лінгвістычная дыскусія не справаджалася падтрыманьнем нашай прэсы. Неабходна, каб было выпушчана некалькі популярных брошур па пытаньнях мовы, каб спрэчкі на лінгвістычным фронце сталі спрэчкамі шырокай грамадзкасьці.

Комуністы-лінгвісты павінны задумацца над вынікамі дыскусіі і мусяць зрабіць для сябе адпаведныя вывады. Дыскусія закончылася, але гэта ня значыць, што ў далейшым мы не павінны займацца самакрытыкай, гэта ня значыць, што ў далейшым па шэрагу пытаньняў мы не павінны працягваць тэорэтычныя спрэчкі.

# ШАРАК ЦІ БРЫСЬ

**А. Каплан**

> **У міністры вайсковых спраў мы меркавалі прызначыць генэрала Булак-Балаховіча.**
>
> **(З паказаньняў арыштаванай групы контрэволюцыйных нацыянал-дэмакратаў).**

Ці-ж можна апісаць усіх сабак, усе сабачыя пароды, у адным нарысе? Пэўна, не. Пра сабак напісаны сотні тоўстых кніг на розных мовах і ўсё-такі ня ўсе сабакі апісаны.

Ды ці ёсьць патрэба ў тым, каб нам зараз адарваць увагу грамадзкасьці ад больш пільных спраў для таго, каб пачытаць пра нашага шарака ці брыся?

Мы ўважліва прачыталі Брэма. Ен быў майстрам на гэткія рэчы. Мы шукалі ў яго апісаньні рознастайных жывёл хоць аднэй, падобнай на таго, пра каго мы хочам напісаць у гэтым нарысе. Шукалі ды не знайшлі. Гэніяльны Брэм прапусьціў.

Трэба запоўніць пустое месца. Справа ў тым, што сабакі розных парод хоць памерамі і розьняцца адзін ад аднаго, але ўсё-ж іх сабачае паходжаньне адразу можна пазнаць. Вялікі ньюфаўлэндзкі сабака з доўгай калматай шэрсьцю і голы японскі сабачка вялічынёю з кулак... Нібы між імі, волатам і малюткай, няма нічога агульнага, а яны, тым часам, вітаюцца па-сабачаму, адчуваюць нейкае сваяцтва.

Гэтую сабачую радню, іхнае сваяцтва, — „кум—куму, а консультанту—шафер“, мы ўспомнілі тады, як, перагортваючы старонкі архіву, трапілі на верш бацькі Булак-Балаховіча, які, як, бачым зараз, меркаваўся ў будучыя вайсковыя міністры.

Мы ўжо ведаем, што Балаховіч ня толькі славуты пагромных спраў майстра, што ён ня толькі організатар буйных бандыцкіх нападаў, ня толькі кіраўнік масавага публічнага згвалчаньня кабет і дзяўчат, ня толькі ласы ахвотнік да дробных пакраж, але і... поэта, нават поэталірык. У сваёй славутай адозьве з прычыны прызначэньня Балаховіча „камандзірам асобнага беларускага атраду“ ўрад БНР пісаў, што „Балаховіч аказаўся ня толькі сьвядомым беларускім грамадзянінам, але і сам піша вершы па-беларуску“. Дык вось, з адным вершам пагромшчыкапаэты мы хочам тут пазнаёміць больш шырокія колы нашых чытачоў.

Быў 1927 г. Балаховіч з рэшткамі свайго атраду зьнішчаў Белавескую пушчу ў гонар францускага капіталу. Але драпежніцкую натуру Балаховіча не магла задаволіць гэткая работа.—Дравасекам? Ці да твару яму, быламу „генэралу", будучаму „міністру" спусьціцца аж да гэткае дробнае работы? Аднойчы Белавескую пушчу наведала корэспондэнтка аднае варшаўскае эндэкаўскае газэты, якая гутарыла з Балаховічам. Ён шчыра расказаў ёй аб тым, што „на гэтым этапе" ён ня бачыць для сябе зручнае работы ў Польшчы і таму ён мае намер разам з сваім атрадам перайсьці на францускую службу. Там знойдзецца для яго жывая работа. Францыя змагаецца ў Марока з рыфамі. Ён паедзе змагацца. Спрактыкаваны кат нюхам пачуў, дзе пахне крывёю, і ён меў неасьцярожнасьць выказаць гэтую думку корэспондэнту опозыцыйнае да ўраду Пілсудзкага газэты, якая адразу выкарыстала гэта ў сваіх мэтах. Корэспондэнтка выдрукавала нарыс пад загалоўкам „Белавеская тыгра"; нарыс меў мэтай паказаць палякам, што вось, маўляў, якога „патрыёта" Пілсудзкі на службе трымае.

Балаховіч быў абураны.—Вось як дзякуюць яму за яго верную службу! Ён адчуў сябе пакрыўджаным. Пані Шпэркувна закранула самыя інтымныя струны крывавага паэты і ён напісаў верш. Орган пілсудчыкаў „Глос правды" 19 ліпеня 1927 г. выдрукаваў вершаваны адказ Булак-Балаховіча.

> Дала мне назву ты тыгра злога,
> калісь сказала, што сьлізкі вуж,
> што воўчых, лісьіх ёсьць рысак многа,
> што я ня бацька, што я ня муж.
> Сябе самога цаню я ўмеру,
> кажу ад сэрца: ня тыгр, ня рысь.
> Я больш падобны сабацы вернай,
> што называюць: Шарак ці Брысь.

Няўміручы Брэм! Гэткага сабаку я ў вас знайшоў: „шарак ці брысь".

„Майго знаёмага сабаку звалі Піжон. Ён увесь быў чорны, як вугаль, і кучаравы. Яму на галаву завязвалі насавую хустачку і крычалі: „Піжон прасі". Тады ён садзіўся на заднія лапы і асаблівым голасам брахаў столькі раз, колькі загадвалі. Ён жыў вельмі доўга і пад канец, ад старасьці, амаль увесь пабялеў, хрыпла брахаў, але ўсё-ткі не адмаўляўся служыць".

Адным словам „больш падобны сабацы вернай". Так, відаць, ужо і завялося, што Балаховічы на службе ў імпэрыялізма, павінны прыняць сабачы вобраз, бо і можна ім тады „брахаць толькі столькі раз, колькі загадваюць". Будучы міністр будучай „незалежнай" БНР тым часам стаіць на задніх лапках перад Польшчай, якая ўласна зьяўляецца ланцужным сабакам сусьветнага імпэрыялізму. Відовішча для багоў!

Праўда і гэта не навіна. Брэм быў знаёмы з такім сабакам. Яго завуць—Рэтрывэр—асобная парода сабак для чорнай работы. Рэтры-

вэр—маленькі калматы сабачка, навучаны толькі насіць, памочнік галоўнага сабакі; сабачы сабака.

Не абыйшлося тут і без самабытнасьці: памерамі Балаховіч значна большы за Рэтрывэра, але ўмовы прымушаюць яго адводзіць сабе толькі другарадную ролю:

Што верны сторож вартуе строга,
якога лупіць слуга і пан,
як на суседа забрэша злога,
ці вые з больлю ад даўніх ран.

Бачыце, роля будучага міністра, тым часам, не такая ўжо і вялікая: „Што верны сторож вартуе строга“. Ня можна, канечне, сказаць, каб сабака быў вельмі задаволены сваёй роляй. Але і пра таварышоў—паплечнікаў сваіх ён таксама ня лепшае думкі.

Другім сабакам—другая доля:
як пан абедаць—ім кіне штосьці,
аб іх заслугах—пісалі ўволю,
на іх глядзелі з-за мора госьці.

Спачуваем. Сапраўды крыўдна. Прыяжджалі з-за мора госьці. Быў такі грэх. Прыяжджаў у Варшаву маршал Фош. Прадстаўляліся яму ўсе быўшыя „героі“ — ад генэралаў да харунжых, а перад Балаховічам дзьверы чамусьці зачынілі. Як ня пусьціць сьлязу з гэтае прычыны? Больш таго. Быў яшчэ адзін выпадак, трэба было паказаць Фошу, што беларускія сяляне шчыра дзякуюць Рэчы Паспалітай за рабункі, бандыцкія напады, экзэкуцыі, пагромы. Але дзе-ж узяць сьведкаў, ды каб надзейных? Паехалі ў Белавескую пушчу да Балаховіча: — так і так, загадана вам загрыміраваць некалькі дзесяткаў вашых хлопцаў пад беларускіх сялян і гайда ў Варшаву—сам маршал Фош глядзець будзе. Абрадавалася сэрца Балаховіча — ёсьць выпадак прадставіцца. А тут аказваецца ня тое: Балаховічу забаронена прыехаць у Варшаву.

Ну, дык як ня крыўдна і як ня плакаць будучаму міністру?!

Ён, праўда, добра ведае, за што гэткая яму няміласьць:

Аб Брысю весткі так паўтаралі:
Лайдак-сабака, зусім ня ўдаўся,
Калі другія зьвяроў ганялі,
Авечак гнаў ён, да птушак краўся.
Замала мае ён дысцыпліны,
Яго цягнула адна здабыча:
Сьцягнуў ён дзесьці кумпяк вендліны,
Натура воўчая да шкоды кліча.
І лаюць Брыся, чым як змога.
Ня хоча мякка ніхто глядзець...

Так, „заціскаюць“ Балаховіча ў Польшчы. Ня тое Ластоўскі, ці Лёсік або Луцкевіч. Яны яго адразу ў міністры. Рыбак рыбака здалёку бачыць. Ды яшчэ, тады, калі свой—свайго. Але тым часам Балаховічу

трэба прыбегчы да „самакрытыкі“. Дык чым верш дрэнная форма для аўтапартрэту?

Цару—царава: мастацкі напісана. Сьцісла і популярна падана, лепш ня прыдумаеш.

Але Балаховічу не для таго спатрэбілася напісаць такі верш, каб пакаяцца ў сваіх учынках. Глупства! Чым ён горш за іншых. Чаго яму каяцца. Але тут, як кажа польская пагаворка: „справа тэго родзаю“:

... А хутка будзе ізноў трывота,
Ды ўстане шчэ' раз стары мядзьведзь.
Як можна болей сабакаў трэба,
Падобных Брысю, пры боку мець,
Ня біць, ня лаяць, а даць ім хлеба,
Слабых бо зломіць стары мядзьведзь.

Балаховіч „пужае“ і папярэджвае. „Стары мядзьведзь“ — Савецкі Саюз хутка ізноў ваяваць будзе з Польшчай, ізноў трывога будзе, дык што вы, панове, будзеце рабіць бяз вернага Брыся?

Брысь гатоў прызнаць некаторыя з сваіх недахопаў. „У харта няма чуцьця, ён дрэнна чуе, ён часам брэша не тады, калі гэта трэба, аяе затое гостра бачыць і хутка бегае; доўгімі сківіцамі з вострымі зубамі хорт хапае здабычу, як абцугамі“ (Брэм). Балаховіч напамінае, што яго сківіцы яшчэ ня зусім атупелі, што ён можа яшчэ саслужыць службу, асабліва „слабой“ Польшчы. І тут ён ужо ўздымае тон: „слабых бо зломіць стары мядзьведзь“.

Ён хадайнічае ня толькі за сябе. „Як можна болей сабакаў трэба, падобных Брысю пры боку мець“. Ёсьць яшчэ Луцкевіч, ёсьць Астроўскі, Ластоўскі, Лёсік, Цьвікевіч... ці мала іх, хто хоча ісьці ў сабакі на польскую службу, толькі „ня біць, ня лаяць“.

Ой, ой, як ня любіць Балаховіч, калі б'юць! Ой, як ня любіць! Усяго толькі дзесяць год таму назад Чырвоная армія яму гэтак моцна ўсыпала, што яшчэ і зараз ён „вые з больлю ад даўніх ран“.

Не, не! Гэта яшчэ ня „даўнасьць“! Рабочыя і сяляне Савецкае Беларусі пра вас, пане Балаховіч, не забыліся. Помняць. Надзвычай добра помняць. Вам хацелася скарыстаць закон аб даўнасьці і вярнуцца да нас вайсковым міністрам. Вы лістамі пераклікаліся з Язэпам Пушчай і вам здалося, што гэта гаворыць Савецкая Беларусь, запрашаюць вас.

Чужыя людзі ходзяць каля склепу,
Пільнуй. Цябе цалуе твой Язэп.
(Ліст да сабакі).

Будзь-жа, будзь здароў, жыві.
Цябе цалуе моцна Джэк.
(Ліст ад сабакі).

Балаховіч цалаваўся праз пагранічны кардон з Язэпам, бо яшчэ Брэм пісаў, што вялізны ньюфаўлэнд—Балаховіч і „маленькі японскі сабачка“—Язэп, адразу пазнаюць адзін аднаго, вітаюцца па-сабачаму, адчу-

ваюць нейкае сваяцтва. І маленькі Язэп баіцца, што яго слабенькі голас ня будзе пачуты, ён запрашае Балаховіча, каб ён, брэшучы, выгнаў зьвера з лесу, бо „апанавалі чэрці месца сьвятое“ (Лёсік).

Былі ці ня былі ў нас родныя натуры,
А толькі мы адзін другога сталі разумець...
(Ліст да сабакі—Пушча).

Мопсы, жоўтыя з чорнымі, скрыўленымі, нібы абсечанымі мордамі, пачынаюць хрыпець і задыхацца на другім годзе свайго жыцьця. Кінгчарльзы абрастаюць такой кучаравай доўгай шэрсьцю, што часта, заблытаўшыся ў ёй лапамі, яны ня могуць самі ўстаць, калі выпадкова зваляцца на сьпіну.

Балаховіч зваліўся. Ён сам ня можа ўстаць. Без староньняй дапамогі яму не падняцца. А тут на ліха яго родны Юзэф Пілсудзкі сам апынуўся ў такім стане, што мала чым можа Балаховічу дапамагчы.

Ты позьняй восеньню ў палёх глухіх брадзяжыў,—
знайсьці прыстанішча сабе ніяк ня мог.
Імгліліся жудою хмары сыпкай сажы,
а ты пад імі выў і грыз балотны мох.

* * *

... Ці выць пачаў пад крыжам і пад хатай
і вочы сьлёзныя закатываць у імглу.

* * *

Успамінаў аб табе ўсё-ж нікому не расьсеяць;
і знаю я, калі вярнуся ў родны дом,
адно спазнаеш ты, спазнаў як Одысэя:
прымі-ж ты ад мяне гарачы мой паклон.
(Ліст да сабакі).

Так у канцы 1927 г. Пушча абнадзейваў Балаховіча ў адказ на яго верш, напісаны ў сярэдзіне 1927 г. Пушча ўклаў у вусны Балаховіча гэткія словы:

Добры мой, лісты твае,
калі мне прачытаў твой брат,
гойсаць стаў я па траве
і па-сабачаму стаў рад.
(Ліст ад сабакі).

Усе яны—шпіцы, фокстэр‘еры, бультэр‘еры, тойтэр‘еры, моські, ліўрэткі,—усе яны брахуны, а як кінеш костку, пачынаюць гойсаць па траве. Балаховіч з прыемнасьцю прымаў „гарачы паклон“ Пушчы, каб разам з ім служыць польскаму фашызму.

Сабачыя вершы Балаховіча і Пушчы зьяўляюцца лепшымі дакумантамі дзеячоў контррэвалюцыйнага нацыянал-дэмократызму. Мы добра ведаем цану Лёсікам, Ластоўскім, Некрашэвічам. Мы добра помнім, як

у парадку чаргі і па чарзе па-сабачаму лізалі яны боты Вільгельмам, Бартэлям, Скарападзкім, Пілсудзкім. Мы добра помнім, як па-сабачаму віталі і гойсалі яны перад кожным, хто згаджаўся даць фунт стэрлінгаў, каб купіць хамут на шыю беларускіх рабочых і сялян. Але лепш, чым Балаховіч вызначыў сваю міністэрскую ролю і ролю іншых міністраў БНР, ніхто ня зробіць, лепшыя словы ніхто не падбярэ:

> Шмат пра мяне ты напісала:
> татарын дзікі, няміласерны,
> але няўжо-ж ты дасюль ня знала:
> татарын Польшчы сабака верны.

Вось тут Брэм дапусьціў пропуск. Ён не прадугледзіў колектыўнага сабаку. Цэлы „габінэт міністраў“ у ролі „вернага сабакі“ для фашыцкай Польшчы Брэм не прадугледзіў.

Малайчына Балаховіч! Апрача таго, што ён—бандыт і поэта, ён яшчэ аказаўся каштоўным экзэмплярам для сабачай колекцыі найбагацейшага зоолёгічнага саду.

„Скажы мне, з кім хаўрусуеш і я табе скажу хто ты“, і—контррэвалюцыйная нацыянал-дэмократычная зграя—іншыя экзэмпляры з гэтае колекцыі высунула Балаховіча ў вайсковыя міністры свайго ўраду.

*
* *

**Валеры Маракоў**

Сінімі шляхамі на ружовы шлях
Ішоў жалезны волат, многатонны птах.

Людзі йшлі ў чырвоным, поўныя агню,
Спатыкаць харошую, слаўную вясну.

З сьветлымі вачыма, з русаю касой
Йшла вясна, ды з песьнямі, першай баразной.

Йдзі, сьпявай, пасьвістывай, росная мая,
Для жывых праходзіш грозна недарма.

З кожнаю вясною ўсё каротшы шлях,
І мінае смутак і праходзіць жах.

Толькі застаецца па мінулым боль,
За былыя песьні, за тваю любоў.

І яшчэ за тое, што ня ўмеў як ты
Сыпаць поўнай жменяй сонца і цьвяты...

Што у кволых песьнях абмінаў свой час
І ў студзённы вечар шлях губляў ня раз.

А цяпер вось, поўны творчых дум і сіл,
Спатыкаю раньне, першае ў жыцьці.

Ах, якое сонца, яркі поўдню цьвет,
Па табе заплакаў першы раз поэт.

Дык, гары-ж, як сэрца стамільённых мас,
Я вітаю першы й мо' апошні раз.

І туманным шляхам на ружовы шлях
Падпіхаю трактар, твой жалезны птах.

1931

## АДБІТКІ СЭРЦА

**Уладзімер Хадыка**

### 1. СУСЬВЕТНЫМ ШТОРМАМ

Зіма заплакала ў тумане,
Ад сонца ўзвыў прымяты сьнег,
Я ўспамінаю дзень свой раньні,
Свой першы клопат на вясьне.

Ля гарадзкой высокай рамы
Я ў палявы гляджу простор...
...Стрыжэ зялёнымі вушамі
Заходлівы далёкі бор.

Над борам дыму тонкі дэсань
І жоўклы сон, што мглу валок.
Ён зараз бурай перакрэсьлен,
Віхром адкінуты у бок.

Там недзе бег ручэй да спаду,
Адбіткам сэрца слаўся сьлед.
Было і ладу і няладу
Ў разгоне яблынявых лет.

Пад рызманом людзкога шчасьця,
Быў я ўсхвалёваны наўзьдзіў
Імкненьнем—шэры змрок згурасьціць,
Каб дзікім воўкам не хадзіў.

Каб нораў збродны (ценям звыклы)
Пранесьці злыдні не змаглі...
Ўздымалі злосьнікі на іклы
Кашулю зрэбную зямлі.

Кашчавы хруст начэй бяссонных
Калоў зуб'ём іржавых віл.
Стагналі зьбітыя загоны
І рэкі, поўныя крыві.

На крык сіберніцкай каманды,—
Хто палам ўзьюджаным прасмаг—
Ішлі ў разьятраныя банды
На землях ўзносіць чорны сьцяг.

І дзе схадзіліся трапенець
Атрускі гвалту і маны—
Танулі вёскі ў глейкай пене,
Зьвінелі глуха кайданы...

...Часы бязгодзіцы мінулі,
Мяцежны шквал сваволю змог.
Замерлі шалы панскіх гуляў
Ля перакроеных дарог.

Ідзем гарлівасьцю зьяднанай
Мы веліч будучынь тварыць...
Шчымяць ў сьлядох глыбокай ранай
Граніц крывавыя шнуры.

Мы чуем шум трывог на долах
І вучым кожны крок і рух:
—Трымаць сухімваўсёды порах—
На час паўторных завірух.

Каб, зноў калі на гвалт памкнуцца
З бярлог чароды маціяш,—
Сусьветным штормам рэволюцый
Ускалыхнулася зямля.

## 2. НА ПРЫГАНКУ

Я пакінуў у дарозе многа
Дум лірычных і нязбытных слоў.
Перабраў зямлю вар'яцкі рогат,
Злыя сны жыцьця ператрасло.

Перабеглі хмары част-густа,
Шротам слот абшлёгалі ральлю.
Рэдкім пылам здрадніцкая змуста
Зьліпла ў саван мёртваму быльлю.

Навакол ні крыку, ані енку,
Ні ў пісяг парэзаных палос.
Толькі пеўнем швэндаць (памаленьку)
Не адвык сузмрок каля бяроз.

Толькі ноч (на ўкрадзеным палене)
Рада ʻшчэ абвыць крадком усход...
І гугнявіць, паўшы на калені,
Воўчы псальм на здань сваіх маркот.

Я іду праз гэты тлум кастрывы...
Ў шпарах дум суровасьць паўстае.
Поле клоніцца аўсянай грывай,
Дзе ляглі наўсьцяж сьляды мае.

На прыганку, змогшы мглу густую,
Мне цяпер адказу ня шукаць—
Хто мяне, як сябра, пачастуе,
Добрым словам выйдзе хто вітаць.

Хто рассыпле (звычаем быдлячым)
Штучны сьмех і танную ману...
Погляд мой даўно пераіначан
На маю лірычную вясну.

Што было, сышло паходным маршам,
І няма багністага вакна,
Дзе радкі мае, крывёй набракшы,
Топлі ў мох алёсу-дзікуна.

Зьнік алёс, як зьнік ягоны продак—
Чмары дзень... і я ў жывых цалёх
Дажыву да ўслаўленых угодак—
Адсьвяткую радасьць перамог.

Ўзьвіхрыў час і далі мкнуць нагінна,
Рубам сьвет становіць барацьба.
Ў клопат працы рынула краіна,
Не шкадуе ўзьнятага гарба.

Я гляджу ў адход узьлётаў хмарных...
Гэта спад прыгоньніцкай пары.
Гэта бой сьмяротны рот ударных
З хлудам блуду і зладзейскіх ўзрыг.

Ў прыпаміне быль падзей нядаўніх:
Крык трупярны чорных варанят.—
Брудным зьлётам ліплі на паркане,
Соцыялісты плямілі наш сад.

Гаварылі недзе з цёмных вышак:
Гэта песен вольных салаўі...
Раскалоўся луджаны зацішак,
Спахмурнелі думныя гаі.

Ї цяпер, калі свавольны подых
Завіне у песенным лісьці,—
Знаю я, дзе сябра і дзе вораг,
Да каго з парадай падыйсьці.

Для таго на грунт вялі і грэблі,
Каб хаду ня груніла на мох,
Каб краінай кожны быў спатрэблен
На рыштунках сонечных эпох.

Час ідзе стралой дарогі бойнай,
Сівер восеньскі зару ня згрыз...
...Горды я вялікаю будоўляй
На крутым шляху ў Соцыялізм.

### 3. НЯЗГРАБНАГА ЛАДУ РАДКІ

Бурлівыя песьні, як дождж,
А неба такое, як лён.
Здаровага сэрца любошч
Прытоена ў скібах здавён.

Здаровага сэрца ня сьцяць
Ї полем, што днём адвялі,
Адборнае зерне жыцьця
Прарастае ў прагнай ральлі.

Прастор, што змаганьнем прапах,
Услала багатая рунь...
Бяжыць на ўзьмяцежаны шлях
За вёскаю вёска угрунь.

Паўсталі—і ўшыркі і ўдоўж—
Узрэхі жабрацкіх раднін.
Дзірчастага месяца коўш
Ня выплыла хмарка заднідь.

Паўзе праз празрысты блакіт
Ягоны зьнясілены сум,—
Каб сесьці на бераг ракі
Ї жоўтую сьлюніць крысу.

Ня выйдзе ніхто на парог,
Ня гляне ў асмугленасьць шыб.
Даўно на адплатных агнёх
Рызьзё рамантычных сяліб.

Інакшымі снамі ўзгарацъ
Сучасьсе абшары вядзе—
Змагальнікаў дужых раджацъ,
Раджацъ працавітых людзей.

***

Няма ў сусьвеце нічога
Ад песьні лірычнай праўдзівей.
Лятункі ў адмернасьці строгай
Кладуцца на струшчаным дзіве.

Разносіць базырлівы вецер
Падвеяны попел ў бяздноўе...
Дарога пастаўленай мэце
Утоптана потам і кроўю.

Ўдратован за провадам провад
За жылай напружанай—жыла.
Зьвініць нячуванае слова,
Расьце нячуваная сіла.

Мінае за ўзгоркам узгорак,
Адвеку нязрушнае—рушыць.
Каму бураход гэты горак?
Каго гэта ўзьвесьненасьць глушыць?

Хто выняў разбойніцкі шворан
І цэліць—за „гонар крывіцкі"?
Дзірван старажытны узоран
Сталёвым канём бальшавіцкім.

Дзірван старажытны узьдзёрты
Гартованым вострым нарогам.
Ўзрастае мяцежнай когортай
Краіна „праклятая богам".

Ня зможа услаўленай стромы
Атрута дзіклівай шыпшыны...
Сыном беларускім вядома
Мінулая „слава" айчыны.

Ня здрадзілі розум і памяць,
А ўвазе патрэба паўстане—
Інакшымі ўзвые ладамі
Няпрошаны хцівы спагаднік.

Хай ведаюць панскія орды:
Жыцьцё не распродаць на рынак.
Прыстынуць сабачыя морды
Ў трусе недаедак-скарынак.

Спажытак дугою абойдзе
На лёкайскіх выгнутых сьпінах...
А сьвет ў найвялікшае пройдзе—
За ўзьнятай краінай краіна.

*
* *

Адточана роўнядзь шляхоў,
Пастаўлена пэўная варта.
З нас кожны пуціну прайшоў—
Быцьця markdownрознастайную карту.

Хто славы прыдбаў па кашу,
Хто ў гонар убраўся для росту...
А я свае вершы пішу
Бяз словаў выхвальных і тостаў.

Нязграбнага ладу радкі
Абгортваюць крытыкі лёдам:
Вось толькі палае які
За займішча... мімаходам.

Ня ў думцы маёй—дакараць,
Ня ў звычаі - сэрцам занудзець:
Прытулку (хвасты дажынаць)
Душой не адведзена крыўдзе.

Абіркі пражытых згрызот,—
(Дзе ладзіў я першую спробу)
Кідаюць разьбежнасьць балот,
Каб з сонцам ня гойдацца побач.

Што мокла ў маркоце адлець—
На гліцах правеяна жвавых...
Прыпала і мне загарэць
Ільнішчам чупрыны бялявай.

З узорам маршчын пад ілбом,
Я прагна аддадзены задуме—
І п'ю сакавіты нагбом,
Нацэджаны бурамі, струмень.

Ўзьнімаецца сонечны брыж
Ля ўзгойданых зорных прыклетаў.
Са мною упобач сябры—
Краіны мяцежнай поэты.

Аднэю мы марай жывём,
Аднэю гарым мы работай...
Зьнясіліцца неплазь суздром,
Адыйдзе прыгублена потай.

Прымераны неба паркаль,
Імшар на падмурак узьнесен...
... З эпохай у сьветлую даль
Я мкну на нястрымным экспрэсе.

### 4. КРАЙ УЗРОС

Палявы простор перада мной.
Зноў я ў хвалях травяного мора.
Неба дах над садам і гумном...
Здэцца, быў я тут яшчэ учора.

Здэцца, гэты сьцежак сіні шоўк
Мной учора ходжаны і мяты.
З прывітаньнем вечар падыйшоў.
Сьціпла стаў у дыме каля хаты.

Холадам павеяла імгла,
Пасыпае вецер жвірам жорсткім.
Ў вішнях звон. Чарэмха адцьвіла—
Па зямлі раскіданы пялёсткі.

Ў думах я мінаю паплавы,
Каля рэчкі ўзрушаны асокі.
І стаіць з абрубкам галавы
Сьцяты бурай топаль нявысокі.

Тут ўсё так паўз кусьце пройма дзьме,
Дрэвы віснуць, як калісьці вісьлі...
Але ў снох ганей ня мала зьмен,
І аўсы шумець—цьвісьці—бяз меж
На дрыгве раней ня сьмелі мысьліць.

* * *

Здужала упартая рука
Шаты—зарасьні калючых церняў.
Бачу крыльлі старца-ветрака,—
Згорблены ён нейкі і мізэрны.

Гнецца долу, сыплецца з гары
Друзам даўняй пяражытай мэты.
Гэта поле іншасьцю гарыць,
Гэта поле трактарам апета.

Злой бядой дратованы ня раз,
Заранеюць ўзораныя гоні.
Вартавым да стром прыпаў колгас
За суровым часам на ўздагоне.

Я мінаю зор лірычны шум.
Блізкая, знаёмая дарога...
Ў росных травах я не патушу
Ліхтароў ад тропу гарадзкога.

Ўзьвеі дзён каля жалезных брам,
Ўзьвеі дзён каля драўляных весьніць.
Недарэчнасьць ўдумлівасьці нам
Ўжо даўным-даўно пара закрэсьліць.

У думах я... Бярозы шалясьцяць..
Гэта шэлест слоў жывое спрэчкі.
Багне краю не знайсьці выйсьця...
... Ўзрушаны асокі каля рэчкі..

Край наш ў бурах волатам узрос,
Ня прыстане крокам ў злую замяць.
Мякне дуя выцьвілых пагроз,
Адамрэ разьбітымі званкамі.

Здрады ў песьнях шчырых не спаткаць,
Літасьці ня стрэць ў гарачы тэрмін.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Здужала упартая рука
Шаты-зарасьні калючых церняў.

# УДАРНІЦА

**Сьцяпан Ліхадзіеўскі**

1. ТРОХІ УСПАМІНАЎ

Ды чаго-ж тая ружа,
ды чаго-ж тая рута-мята
ды дачасна пасохла?
Ходзіць-бродзіць
па маёнтку прыганяты,
а ў скарбовай адрыне—
ды чакае кароў паўсотня...

Эх ты, мая
ды сасновая дайніца!
З малаком
і сьлёзы ты мае прымала!
Горка заплачу,
упаду я ніцма,
гора маё рыне
рэчкай нястрыманай.

Пальцы качанеюць,
пальцы адранцьвелі
ад назойлівае
гэтае работы.
У такіх клапотах
не разгонішся вельмі,
кажуць, супакоіць
толькі дол глыбокі.

2. ЗА ШТО-Ж Я ЎДАРНІЦАЙ.

Прабягалі зімы...
Дзьве... тры...
Цэлыя дзесяткі нават.
Над сялом
гайдамачылі ветры,
нясупыннаю аравай.

Што было
кожны чуў і бачыў.
А што будзе—
пачуе, ўгледзіць.
Знаю:
да сыноў батрачых
на сталёвым волаце
доля едзе.

У колгасе—
бальшавіцкая восень.
Буйны колас
нахіляўся да зямлі.
Нас тагды,
адданых справе восем,
тэмпы ўдарныя
ў працы ўзялі.

Бульба ў полі—
заставалася вазамі.
Маразы ж
вось-вось і надыходзяць.
Гэта быў нам
першы экзамен
у трыццатым пераломным годзе.

Нашая душа
яшчэ напалавіну:
майдан колгасны
і
свае гароды...
Ну напэўна
самі трохі вінны,
што наш побыт
скруху родзіць.

Мой гарод
абшчыпваюць марозы—
паглядзець—
на сэрданьку журботна...
Але-ж я крычу
і звонка і шырозна:
— *Гуртам, разам*
*да колгаснае работы!!!*

. . . . . . . . . . .

З паўсотняю гадоў
жыцьцё віншуе,
хаўтуры па мінулым
назаўжды правіць.
Пажыць яшчэ,
пажыць хачу я—
далі-ж і голас мне,
далі-ж маё і права!

На сходы ўсякія
я зроду не хадзіла—
цяпер-жа на сваіх
чаму-б не пабываць?
Нішто, што іншых дзівіць
мая жаночая,
часамі, галава.

Ва ўдарніцы
па працы запісалі
(усе рукі ў гору
дружна паднялі)
. . . . . . . . .
Назначылі
бялюткага паркалю,—
але-ж ці ў гэтым
шчасьце на зямлі?!

3. ТРОХІ РАЗВАГ.

Ды чаго-ж тая ружа,
ды чаго ж тая рута-мята
ды дачасна пасохла?
Адплыло, што было...
І растаў прыганяты...
Расьсяваецца й гадоў маіх
паўсотня.

Эх, ты, мая
ды сасновая дайніца!
З малаком
і сьлёзы ты мае прымала!
Як успомню—заплачу...
Не ўпаду толькі ніцма
у палёце думак нястрыманых.

Думкі-вясёлкі.
думкі сакаляты,
вышай,
вышай,
вышай!
Ці ня з гэтага
тая ружа,
ці ня з гэтага
тая рута-мята
расьцьвіла,
зазелянела пышна?!

14—15-I 1931 г.
к. Будзённага.
Случчына

## ПОКЛІЧ КІНУЛІ ЗАВОДЫ

**Тарас Хадкевіч**

Покліч кінулі заводы
Гучным голасам гудкоў.
Аддаецца сталь
трызвонам
ад узмахаў малаткоў.

Кожны ўзмах—
мацней удары,
перамога—
кожны крок.
Грае полымем пажараў
па гарачых жылах кроў.

Ад заводаў пералівам
гукі вольна паплылі.
Адклікаюцца шумліва
ім бязмежныя палі.
Ціш глухою абуджае
бурапенны сьпеў машын.
Хутка плённым ураджаем
заірдзее поля шыр.

Вышлі горда мы
змагацца,
звон запальны разьлілі,
каб сузор'і нашай працы
ўсюду ярка зацьвілі.

Кожны ўзмах—
мацней удары,
перамога—
кожны крок.
Грае полымем пажараў
па гарачых жылах кроў.

Не агорнуцца журбою
сэрцы вольных змагароў.
Знаем: шум упартых боек
закрасуе скора скрозь.

Полацак.

## ХРОНІКА БССР

**У беларускай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў.**

* *Мікола Хведаравіч*—Падрыхтаваў да друку зборнік вершаў пад назвай „На каньце вялікіх эпох“.

Вышла з друку яго трэцяя кніга вершаў „Тэмпы-контрасты“.

* *Алесь Салагуб*—Рыхтуе зборнік апавяданьняў з жыцьця Заходняй Беларусі „Сонечнае раньне“ і апрацоўвае артыкул аб літаратурным маладняку Заходняй Беларусі.

* *Валеры Маракоў*—Здаў у БДВ да друку зборнік выбраных вершаў.

* *Сымон Баранавых*—Выходзіць у ГІХЛ'е зборнік „Межы“ у расійскім перакладзе.

* *Янка Бобрык*—Здае зборнік вершаў „Рэспубліка кліча“.

* *Барыс Мікуліч*—Піша цыкль апавяданьняў з заводзкага жыцьця.

* *Юрка Лявонны*—Вышлі з друку зборнікі вершаў „Штурм“ і „Комсамольскія вершы“.

* *Сьцяпан Ліхадзіеўскі*—Працуе над новай поэмай. Поэма будзе адлюстроўваць барацьбу за выкананьне прамфінпляну на дрэваапрацовачным заводзе.

* *Ілары Барашка*—Здаў у БДВ зборнік апавяданьняў.

Адбыўся творчы вечар членаў БелАПП'у Ю. Таўбіна, Астапенкі і Куляшова. Таварышы, якія выступалі на вечары, падкрэсьлівалі значны формальны рост гэтых поэтаў і рэзка крытыкавалі адставаньне іхняй поэзіі ад задач рэконструкцыйнага пэрыоду, спыніліся на паасобных зрывах у творчасьці—концэнтрацыя тэматыкі вакол свайго „я“, псыхокапаньне і захапленьне прымітывамі сялянскага жыцьця.

* 15/II-31 г. адбыўся другі вечар беларускай поэзіі. Зачыталі свае вершы Мікола Хведаровіч і Пятрусь Броўка. На вечары выступалі Цішка Гартны, Кучар, Мікуліч, Ліхадзіеўскі, Астапенка. Выступаючыя таварышы рэзка крыткавалі творчую ўстаноўку Міколы Хведаровіча, які высунуў яшчэ ў леташнім годзе лёзунг „асьмысьліваньня поэзіі“, г. зн. лёзунг конструкцівістаў „поэзія як сэнс“. На вечары Хведаровіч сказаў, што ён лічыць, што поэзія павінна быць соцыяльна насычанай, глыбока філёзофскай. Яна павінна заглядаць у будучыню, адыгрываць вядучую ролю, а не адставаць ад жыцьця.

Броўку, як адзначалі таварышы, удалося перабудаваць сваю творчасьць і прыстасавацца да задач сягодняшняга дню. Ім на вечары былі зачытаны вершы на тэму з завадзкога жыцьця. Побач з гэтым таварышы адзначылі сухасьць ягонай поэзіі і некаторы схэматызм.

* Сакратарыят БелАПП заслухаў інформацыю аб становішчы сэкцыі мастацкага нарысу пры БелАПП'е і вынес шэраг палажэньняў аб далейшай рабоце сэкцыі. У склад сэкцыі прымаюцца таварышы, якія выяўляюць сябе ў галіне мастацкага нарысу—і ідэолёгічна становяцца на шлях пролетарскай літаратуры. Члены сэкцыі ўдзельнічаюць ва ўсёй рабоце БелАПП, а таксама і ў рабоце літаратурных гурткоў на прадпрыемствах. Сэкцыя будзе займацца па праграме БелАПП, выпрацаванай для гурткоў павышанага тыпу, робячы ўхіл у бок работы над мастацкім нарысам. Да сэкцыі ад сакратарыяту БелАПП прымацаваны тав. Лынькоў.

* 10 лютага гэтага году адбыўся шырокі сход Менскай філіі БелАПП, на якім разглядалася пытаньне аб закліку ўдарнікаў у літаратуру. Пачынаючы з 11 лютага гэтага году белапаўскія брыгады ў першую чаргу ахапляюць чатыры прадпрыемствы: зав. „Дрэваапрацоўнік“, зав. „Камунар“, фабрыку „Кастрычнік“ і чыгунку. Да ўдзелу ў рабоце па закліку ўдарнікаў у літаратуру прыцягнуты сілы цэнтральн. літстудыі, члены сэкцыі нарысу і мастакі.

* *Максім Лужанін і Анатоль Вольны* напісалі аповесьць „Канец БНР“.

* *Міхась Багун* піша аповесьць „Чорны вецер“ з жыцьця студэнцкай моладзі.

* Вышлі з друку аповесьць *Бяліна-Падгаецкага* „Забастоўка“.

* *Цішка Гартны* на адным з літаратурных вечароў у Доме „Пісьменьніка“ зачытаў новы нарыс „Напевы сырэн“.

## У Белдзяржкіно

**Прынята мастацкім саветам фабрыкі карціна „Сонечны паход“*, на тэму аб колектывізацыі беларускай вёскі і барацьбы з кулацтвам.

Сцэнары А. Вольнага. Рэжысэр В. Корш-Сабінін. Опэратор Д. Шлюглейт. Консультант —Г. Кудраўцаў. Мастак—В. Пакроўскі. Пом. Рэжыс. В. Чудакоў і А Волкаў. Пом. опэратора — В. Мітлін, фатограф І. Сосінаў. Адміністратар—Ермакоў.

У галоўных ролях—А. Заржыцкая, А. Баўрын, В. Чудакоў, А. Волкаў.

## „Жыцьцё і вучоба N-скай каўдывізыі“

**Мастацкім бюро фабрыкі прынята каротка-мэтражная карціна „жыцьцё і вучоба №-скай каўдывізыі* аб вучобе і быту чырвонаармейцаў“.

Пастаноўка рэж.—В. Корша-Сабініна. Апэр.—Д. Шлюглейт.

## „Ленінскае племя“

**Карціна „Аб беларускім комсамоле „Ленінскае племя“* была паказана X зьезду Комсомолу Беларусі і прынята ім аплёдысмэнтамі

Праўленьне Белдзяржкіно вырашыла выпусьціць яе ў агульна-грамадзянскі і сялянскі пракат.

# ХРОНІКА РСФСР

## У расійскай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў.

* У лютым месяцы адбылася вытворчая нарада поэтаў РАПП. Нараду поэтаў адчыніў гэнэральны сакратар РАПП тав. Авербах. Яго ўступнае слова разраслося ў вялікую прамову, прысьвечаную політычнай ацэнцы становішча на фронце поэзіі. З вялікім дакладам пра творчыя шляхі пролетарскай поэзіі выступіў тав. Селіваноўскі. Ён констатаваў значны крызіс на фронце пролетарскай поэзіі. У той час, калі на любым фронце жыцьця, дзейнасьці барацьбы рабочае клясы, як у каплі вады можна ўскрыць, зразумець, мастацкі выразіць асаблівасьці пачатку пэрыоду соцыялізму,—значная большасьць нашых пролетарскіх поэтаў ня ўмее творча пераламаць іх. Другі дакор, які можна паслаць пролетпоэтам, заключаецца ў тым, што пролетарская поэзія яшчэ ня мае таго накалу клясавай нянавісьці, без якога ня можа быць сапраўднай пролетарскай поэзіі. Клясавая барацьба разьвіваецца і абвастраецца і на поэтычным фронце. Пэрыод соцыялізму, у які мы ўступілі, уносіць вялікія зьмены для розных клясавых атрадаў поэзіі. І калі буржуазія будзе яшчэ ў працягу вядомага часу раджаць моцныя мастацкія творы, яе творчасьць будзе характэрна сымптомамі заняпаду, значным ідэёвым зьбядненьнем поэзіі.

Рэконструкцыйны пэрыод прывёў да значных зьмен і ў шэрагах пролетарскіх поэтаў. Многія з тых, каго мы маглі называць пролетарскімі на папярэднім этапе рэволюцыі, перакваліфікоўваюцца ва ўнутраных папутнікаў; некаторыя ўнутраныя папутнікі зусім адходзяць ад пролетарскай поэзіі.

Пераходзячы да сягоньнешніх конкрэтных задач пролетарскай поэзіі тав. Селіваноўскі расшыфроўвае лёзунг „адзем'яньваньня поэзіі", які заключаецца ў тым, каб насыціць пролетарскую поэзію бальшавіцкаю ідэёвасьцю і адзець яе ў мастацкую форму, даступную і зразумелую мільёнам.

* Правоопортуністычнае кіраўніцтва Іванава-Вазьнясенькай АПП прывяло організацыю да адрыву ад сучасных політычных задач. Заклік ударнікаў у літаратуру быў праведзены формальна, бюрократычна. На гэтым экзамене, у справе рашучай сваей перабудовы, кіраўніцтва АПП правалілася. Асоцыяцыя адарвана і ад фабрычна-заводзкага жыцьця. Склад яе засьмечаны.

Сакратарыят РАПП ухваліў сакратарыят і праўленьне Іванава-Вазьнясенскай АПП распусьціць.

* Яўрэйскай сэкцыяй МАПП быў наладжаны ў яўрэйскім клюбе Комуністычны вечар пролетарскага яўрэйскага поэты *Х. Фэфэра* (ВУСП). З дакладам пра творчасьць Фэфэра выступаў тав. Літвакоў. Тав. Фэфэр чытаў свае неапублікаваныя творы.

* На заводзе імя „Уладзіміра Ільліча" адбыўся дыспут, організаваны літгуртком ударнікаў і прысьвечаны разбору кніг А. Ісбаха „Крушэньне" і Б. Гарбатава „Наш горад", Рабочыя заводу, якія выступалі ў спрэчках, падкрэсьлілі і дадатнае значэньне твораў, паказалі на паасобныя недахопы гэтых кніг.

* Сакольніцкі раён зьяўляецца лепшым раёнам Масквы па закліку рабочых ударнікаў у літаратуру. Першы пленум райбюро МАПП у Сакольніцкім раёне быў прадстаўлен да 150 рабочымі ўдарнікамі. Год назад у Сакольніках быў толькі адзін літгурток „Закал", у якім лічылася ня болей 10 рабочых. У сучасны момант сакольніцкая організацыя МАПП мае 80 проц. рабочых літгурткоўцаў ударнікаў.

Таварыш Кіршон у сваім выступленьні адзначыў, што год назад МАПП мела па Маскоўскай вобл. 200 чал. з іх 40 проц. рабочых. Цяпер у выніку літзаклiку МАПП налічвае па вобласьці 1800 чалавек, з іх 96 проц. рабочых.

* Пачалася чыстка ленінградзкай абласной організацыі ВОПКП. Чыстку праводзіць спэцыяльна вылучаная камісія ў складзе пісьменьнікаў: Нікіціна, Журбы і Сяргеева.

* *ЛОПКП накіроўвае тры пісьменьніцкія брыгады на лесараспрацоўкі Карэліі.* Пісьменьнікі прымуць удзел у барацьбе за выкананьне нарыхтоўчага пляну і правядуць сярод лясных рабочых заклікі ўдарнікаў ў літаратуру.

* *ЛОПКП* прыступіла да выданьня трохмесячнага бюлетеню, у якім будуць зьмяшчацца артыкулы кіруючага характару, пляны работы ленінградзкай організацыі ВОПКП і програмы для нізавых гурткоў.

* Гурток нарысістых „Кузьніцы" стварыў дзьве творчыя брыгады ў складзе Пракоф'ева, Кузьняцова, Сальскага, Сушкіна і інш. Брыгада нарысістых „Новай кузьніцы" акрамя творчай работы, ставіць сваёй задачай сталую сувязь з заводамі, падрыхтоўка новых кадраў нарысістых з ліку рабочых-ударнікаў і рабкораў заводзкіх газэт.

* Ленінградзкі аддзел ФОСП мобілізаваў 15 пісьменьнікаў на вясеньнюю пасеўную кампанію. Ленінградзкія пісьменьнікі выедуць з брыгадамі ў раёны вясеньняга севу.

* Пры клюбе ФОСП створана бюро біобібліографічнага габінэту, якім кіруе Нікіціна. Задача габінэту— зьбіраньне монографій пісьменьнікаў, выданьне кніг, альбомаў, зборнікаў пародый, эпіграм, бібліографічнага слоўніку пісьменьніка і інш.

* Члены ЛОКАФ т. т. Матэ Залка, С. Шчыпачоў і В. Вашнецоў галоўным кіраўніцтвам манэўрамі энскага стралковага корпусу нагароджаны граматамі за актыўны ўдзел у правядзеньні манэўраў.

* Сакратарыят ФОСП заслухаў інформацыйны даклад Эфроса пра работу сэкцыі перакладчыкаў у галіне нацыянальнай літаратуры. Сэкцыяй перакладчыкаў вызначаны да выданьня каля 15 кніг перакладу з моў нацменшасьцяй. Сэкцыя абавязала кожнага свайго члена вывучыць хаця-б адну мову нацыянальных меншасьцяй.

* Закончыўся пленум праўленьня літаратурнага фонду РСФСР. На пленуме прысутнічалі прадстаўнікі Ленінградскага, Татарскага, Сібірскага і іншых аддзяленьняў літфонду. Члены праўленьня літфонду т. т. Аляксеяў, А. Багданаў і С. Беляеў асьвятлілі перад пленумам работу літфонду і становішча на мясцох. Асноўная задача літфонду—рэконструкцыя працы і быту пісьменьнікаў на новых соцыялістычных пачатках, організацыя дамоў творчасьці, лекавая дапамога пісьменьнікам.

* Праўленьне клюбу работнікаў народнае гаспадаркі імя Ф. Дзяржынскага організуе ўсесаюзны конкурс на лепшы літаратурна-мастацкі твор з жыцьця гаспадарнікаў і зьвяртаецца да пісьменьнікаў з прапановай прыняць удзел у конкурсе. З свайго боку клюб абяцае ўсямернае садзейнічаньне ў прадстаўленьні пісьменьнікам матэрыялаў.

* „ГІХЛ" прыступіў да выданьня поўнага збору твораў Н. А. Добралюбава ў сувязі са стагодзьдзем (у 1836 г.) з дня яго нараджэньня.

* ГІЗ РСФСР і „Маскоўскі рабочы“ выдалі зборнік МАПП „Слова Моссавету“. У зборнік уключаны творы Асеева, Гідаша, Гусева, Андрэева, Маякоўскага, Жарава, Панферава, Швэцова і інш. Зборнік „Слова Моссавету“— адзін з момантаў актыўнага ўдзелу пісьменьнікаў у кампаніі па перавыбарах саветаў.

* Пісьменьніцкая грамадзкасьць Масквы 6 лютага выбірае сваіх дэпутатаў у Моссавет і Чырвонапрэсьненскі райсавет. Ганаровымі членамі Моссавету выбраны Максім Горкі і Ромэн Ролан. У Маскоўскі савет аднагалосна выбраны т. т. Авербах і Малышкін, кандыдатам П. Замоўскі. У Чырвонапрэсьненскі райсавет аднагалосна выбраны т. т. Інберг, Арскі і Кірылаў, кандыдатамі Лугаўской і Герасімава.

* Сход студэнтаў і інстытут каляровых мэталаў у адказ на гнусную траўлю буржуазіяй Максіма Горкага аднагалосна выбрала яго ганаровым членам Маскоўскага савету. Студэнты паслалі прывітальную тэлеграму Горкаму, у якой ганьбяць удзельнікаў гэтай траўлі.

* Апублікаваны дагэтуль яшчэ невядомыя ўрыўкі з запісных кніжак Ф. М. Дастаеўскага. У гэтых запісках ускрываецца новая малавядомая ў біографіі Дастаеўскага рыса—яго палітычнае манэўраваньне. Дастаеўскі яшчэ ў гады, да якіх адносяцца гэтыя запіскі (1861—63 г. г.) не асьмельваецца адкрыта выступіць супроць любімага правадыра маладога рэволюцыйнага пакаленьня Чэрнышэўскага. Але тут, у запісках, Дастаеўскі дае шырыню для свае нязвычайнае нянавісьці здрадніка рэволюцыі. Публікацыя ўрыўкаў яшчэ раз у новым сьвятле падкрэсьлівае клясава-варожы нам сэнс усякіх тэорый пра „двухкаляровасьць“ Дастаеўскага. Гэтыя старонкі з запісных кніжак перш за ўсё б'юць меншавіцкую канцэпцыю Пераверзева, які спрабаваў „разарваць“ творчасьць і публіцыстыку Дастаеўскага, які маляваў Дастаеўскага „рэволюцыянэрам пасярод рэакцыянэраў і рэакцыянэрам сярод рэволюцыянэраў“. Урыўкі б'юць па тэорыях наступнікаў Пераверзева, у прыватнасьці Бяспалава.

Гэніяльна паказаўшы ў сваёй творчасьці псыхаідэолёгію дробнабуржуазнага адступніцтва, разгарнуўшы ў сваіх творах гісторыю мяшчанскага рэнэгацтва, Дастаеўскі па сваіх соцыяльных ідэалах, і па мэтодах іх дасягненьня застаецца глыбейшым чынам варожым тым, хто ажыцьцяўляў Кастрычнік і хто ў сучасны момант будуе фундамант соцыялістычнай грамады.

### Сярод пісьменьнікаў

* *Уладзімір Кірылаў* падрыхтаваў да друку зборнік выбраных вершаў.

* *Аляксей Дзямідаў* закончыў роман „Лес“, які малюе ўзорную лясную гаспадарку.

* *С. Мсьціслаўскі* працуе над цыклам апавяданьняў з побыту сучаснага Дагэстана і над п'есай „Март“ (да 50 годзьдзя партыі „Народная воля“).

* *П. Нізавой* канчае аповесьць „Палярнікі“, працуе над аповесьцю пра побыт сучаснай провінцыі.

*К. Бальшакоў* працуе над раманам, які малюе пераход Чырвонай арміі з грамадзянскай вайны да соцбудаўніцтва.

* *Андрэй Новікаў* закончыў аповесьць „Комбинат общественного благоустройства“.

* *А. Чачыкаў* працуе над перакладамі нацыянальных поэтаў. У выдавецтве „Фэдэрацыя“ — выходзіць яго кніга вершаў „Тысяча строк“, а ў цэнтравыдаце—зборнік апавяданьняў „Корычневый бунт“.

* *В. Аляксандраў* (рабочы ўдарнік Сібкомбайнстроя) працуе над апавяданьнем „Ударнікі“ з жыцьця арматуршчыкаў.

* *В. Іцьцін* канчае раман „Страна будущего“.

* *У выданьні ОГІЗ* вышла з друку поэма А. Бязыменскага „Трагедийная ноч“. У гэтым жа выдавецтве выдадзена поэма С. Кірсанава „Пятилетка“ і роман І. І. Сельвінскага „Пушторг“ (другое выданьне).

*„Выдавецтва Фэдэрацыя“* выдала: „Падение Даира“ А. Малышкіна (аповесьць), „Кочевник“ Н. Ціханава „С добрым утром“ і Прыблуднага (лірыка-сатыра) „Ножы“ В. Катаева гумарыстычныя аповесьці і апавяданьні.

* *ГІХЛ* за апошні час выдала: М. Горкі „В. І. Ленін“.

# УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* *Папаўненьне шэрагаў ВУСПП'у.* На паседжаньні сакратарыяту разам з актывам Харкаўскай арганізацыі і прадстаўніком ад „Забою“ 11 лютага 1931 году разгледжана заява пісьменьнікаў былых членаў літорганізацыі „Пролітфронт“ пра іхняе жаданьне ўступіць у шэрагі ВУСПП'у. Сакратарыят ухваліў прыняць у ВУСПП таварышоў: А. Дасьвітнага, Г. Коцюбу, Лэйтэса, П. Панча, А. Любчэнка, П. Тычыну, І. Дняпроўскага, В. Місіка, В. Бабінскага, Г. Эпіка, Т. Масэнка, Шутава-Ужвія, Каляньнікава, Мэліксэдава, Рэзьнікава, Ландзірава, Мякоту і М. Хвілёвага.

На наступным пасяджэньні сакратарыятам будуць разгледжаны заявы яўрэйскіх пісьменьнікаў былых члена „Пролітфронту“.

* У ВУСПП прыняты былыя члены літорганізацыі „Новай генэрацыі“ Зімны, Панько, Булатовіч, Нядоля, Дан, Сьцяпанаў і Міхалюк.

* *М. Ледзянко* ў парадку самамобілізацыі выяжджаў на шахту „Софія“ (Макіівка). Спрыяючы ліквідацыі вугольнага прарыву пісьменьнік зацікавіўся сьвежым папаўненьнем шахцёраў і справаю мэханізацыі вытворчасьці. Заснаваў літаратурнарабкораўскі гурток і папулярызаваў ідэю заклiку ўдарнікаў да пролетлітаратуры. Пісьменьнік прымацаваўся да шахты і трымае з ёю сталую сувязь як лістамі, так і рэгулярнымі выездамі.

* *К. Гордзіенко* езьдзіў па раёнах Валыні, Сумшчыны. Літаратурны матэрыял друкуе ў „Культработніку“. Пісьменьнік цесна зьвязаны з некалькімі комунамі гэтых раёнаў. Дзьве кніжкі нарысаў—„Комуна Жовтняна Волині“ і „Комуна на хуторі Куличка“. Разам з тым Гордзіенка дапамог радавому комунару Шылюку напісаць цікавую кніжку нарысаў пра сваю комуну. Гэтую кніжку, як і дзьве папярэднія, выдала Гнізосьпілка.

* *А. Шмігельскі* працаваў на Донбасе на Алчэўскім заводзе імя Варашылава, у складзе буксірнай брыгады газэты „Комуніст“. Арганізаваў на заводзе літаратурна-творчы гурток, дзе актыўна працуе 15 таварышоў. Нарысы Шмігельскага з жыцьця заводу друкаваліся ў газэце „Комуніст“ і маюць выйсьці асобнай кніжкай у выдавецтве „Гарт“.

* На аснове пастановы сакратарыяту ВУСПП часопіс „Проліт“ (на яўрэйскай мове) адчыніў аддзел творчасьці рабочых гурткоў ВУСПП. Часопіс „Проліт“ наладзіў консультацыйную работу пры бюро. Ёсьць сталы сакратар.

* Нікалаеўскія групы ВУСПП, Маладняк і шлях індустрыялізацыі пачалі са студзеня гэтага году выдаваць месячны мастацка-політычны часопіс. Першы нумар вышаў тыражом у дзьве тысячы экзэмпляраў.

* *Крыварожжа.* Крыварожская арганізацыя ВУСПП разгарнула шырокую работу ў справе заклiку ўдарнікаў у літаратуру. Выдадзен спэцыяльны нумар газэты „Чырвоний Гірник“, які цалкам прысьвечан пытаньням літзаклiку. У газэце зьмешчаны творы пачынаючых пісьменьнікаў рабочых ударнікаў (т. т. Олекса Гурэіф, Рагачэўскі і інш.). Літгурток на рудні імя Кагановіча працуе тры месяцы і ўжо выдаў чатыры нумары часопісу „Ударнік“. У Нікаполі ад-

быўся першы зьлёт літгурткоў раёну. Прысутнічала больш 40 ударнікаў.

* *Днепрапятроўск.* Пры рэдакцыі часопісу „Зоря" ўтворана літаратурная консультацыя для пачынаючых, якая дае адказы вусна і пісьмова. Члены Днепрапятроўскай філіі ВУСПП выдрукавалі цэлы шэраг новых твораў у цэнтральных часопісах.

* *Житомір.* Пры мясцовай кніжнай палаце організавана літаратурная група, якая пастанавіла: організаваць навакол сябе пачынаючых пісьменьнікаў і папулярызаваць пролетарскую літаратуру сярод працоўных мас і ў першую чаргу сярод ударнікаў. Бюро групы зьвярнулася да сакратарыяту ВУСПП з прозьбай прысьці на дапамогу групе, прымацаваўшы да яе аднаго з членаў сакратарыяту, даць паказаньні мэтодычнага характару.

* *М. Мінько* надрукаваў роман „Пасёлак у пылу".

* *С. Мулян* напісаў аповесьць „Чорная копта".

* *В. Чыгірын* скончыў зборнік апавяданьняў „Чацьвёра".

* *В. Раздольскі* прыгатаваў да друку зборнік апавяданьняў „Труба і скрыпка".

* *Першая Ўсеукраінская нарада ЛАЧАФ'у.* У студзені месяцы адбылася першая Ўсеукраінская нарада літаратурнага аб'яднаньня Чырвонай арміі і флёту. На нарадзе прысутнічалі ўдзельнікі, члены бюро украінскага ЛАЧАФ'у, Харкаўская філія, Кіеўская, Адэская, Дняпропятроўская, Віньніцкая, Житомірская, Нікалаеўская, Палтаўская. Акрамя гэтага прысутнічалі чырвонаармейскія пісьменьнікі, — прадстаўнікі політкіраўніцтва УВА, актыўныя вайскоры, прадстаўнікі чырвоных партызанаў і інш.

У шэрагі ЛАЧАФ'у ўцягнута 70 вайсковых пісьменьнікаў, сярод іх ёсьць такія, якія толькі-што сталі перарастаць чырвонаармейскую нізавую прэсу.

Нарада прыняла пастанову аб ударным месячніку закліку байца і камандзіра-ўдарніка ў літаратуру.

### Над чым працуюць члены літорганізацыі „Плуг"

* *Альховы П.* працуе над другою часткаю аповесьці „Зялёная фабрыка".

* *Касарык-Каваленка* здаў ДВУ зборнік апавяданьняў „Мой азімут".

* *Загоруйка П.* у выдавецтве „Рух" выдаў роман з жыцьця галіцыйскіх работнікаў Барыслаўскіх нафтапрамыслоўцаў.

* *Кавальчук М.* працуе над цыклям новэл з рабочага жыцьця.

* *Штангэй В.* здаў у ДВУ наступныя кніжкі: „Тры апавяданьні", „Іспыт", „На варце"; выдавецтву „Плужанін"—зборнік апавяданьняў „Адзін дзень".

* *Худзяк* скончыў аповесьць „Сэмафоры".

### Комсамольскія пісьменьнікі за працаю

* *Бойка Іван* выдае зборнік вершаў „Паруюць землі". Скончыў цыкль нарысаў пра колектывізацыю.

* *Гудзім В.* падрыхтаваў і здаў да друку зборнік нарысаў пра колектывізацыю.

* *Клочча* працуе над апавяданьнямі з шахцёрскага жыцьця. Здаў да друку зборнік крытычных нарысаў „У атаку".

* *Давід К.* працуе над крытычнымі нарысамі пра творчасьць украінскіх пісьменьнікаў — Гр. Епіка-Ол. Данчэнкі, Дм. Гордзіенкі, Т. Масенкі, Сл. Кундзіча.

### Па выдавецтвах

* У выдавецтве „Рух". Хутка выйдуць у сьвет наступныя кнігі: Стумэнка О. „Сем сланоў" (п'еса), тво-

ры Т. Шаўчэнкі (новае выданьне), Нарыжны В. „Гаркуша“ (роман), Качарга І. „Ліза чакае пагоды“ (опэрэта), Ян. О. „Зялёныя аслы“ (апавяданьне), Джавахішвілі М.—Завала (роман), Андыенка—Забытая выспа (роман), Паляшчук В.—Рэйд у Скандынавіі.

* *Малдаўскія пісьменьнікі ў Кіеве.* На працягу некалькіх дзён гасьцілі пісьменьнікі Савецкай Малдавіі —т. т. Андрыеску, Гермасюк, Груман, Канна, Кірычэнка, Корнфэльд, Лехцэр, Мілер, Паскар і Свэкла.

Пісьменьнікі азнаёміліся з культурным і гаспадарчым жыцьцём Кіева, наведалі кіно-фабрыку, Лаврскае музэйнае мястэчка, шэраг заводаў і г. д.

* У тэатры імя Франка ў час пастаноўкі „Кадраў“ увесь склад актораў вітаў дэлегацыю. З прамоваю ад актораў выступіў заслужаны артыст рэспублікі Ватуля, ад дэлегацыі т. Міляеў.

Таксама адбыўся вечар сустрэчы малдаўскіх пісьменьнікау з прадстаўнікамі мастацкай украінскай пролетарскай літаратуры ў „Будынку літаратуры“.

Наведаньне дэлегацыяй Кіева стала пачаткам сыстэматычнае работы ў справе сувязі культурнага Донбасу —Кіева з маладой рэволюцыйнаю культурнаю МАССР.

## Музыка

* *У музычны аддзел Усенароднай бібліотэкі Украіны пры ВУАН* паступілі тры музычныя творы К. Г. Стэцкага: „Сьлезамі зліта ўся Украіна“, жалобны марш „Вы жертвою стали“, „Варшавянка“.

Музыка напісана прыблізна ў 1914 г. для так званага „Украінскага Чырвонага крыжу“—падпольнай інтэлігенцкай організацыяй, якая дапамагала зьняволеным.

* *Овадзіс І.* напісала сонату для фортэп'яна і „Сюіту“ для оркестру.

* *Хоменко О.* працуе над музыкаю для п'есы „Робэсп'ер“ О. Раскольнікава, якая пойдзе ў наступным сэзоне Адэскай дзяржаўнай драмы.

* *Чарцінскі М.* напісаў „Рондо“ і ўвэртуру для оркестру.

* *Композытар Чышко* (Адэса) скончыў распрацоўку новай опэры „Ябланевы палон“. Опэра цікавая сваёю добра распрацаванаю вокальнасьцю.

* *Яноўскі* напісаў новы балет „Фэрэнджы“, „Агонь на Ганзі“.

* *Таўсьцякоў П.* піша опэру „Комбайн“ да лібрэто Варавы.

* *Шарыўскі В.* выдаў у Кіеўскім Выдавецтве „Час“ першы зборнік „Украінскія песьні“ з нотамі. Матар'ялы песен улажыў П. Бунт.

* *Бандарчук С.* скончыў музычную комэдыю „Гаврыліяда“.

## Тэатр

* *Тэатр „Берэзіль“* паставіў прэм'еру Л. Першамайскага „Невядомыя салдаты“. Пастаноўка рэжысэра Склярэнка, мастак Тоўбін і Власюк.

* *„Чырвоназаводзкі тэатр“* свой сэзон распачаў п'есаю беларускага драматурга „Гута“.

* *У музкамэдыі* прайшла опэрэта „Мэтыс“, перапрацоўка вядомай опэрэты „Роз-Марі“. Тэкст Ів. Куліка. Пастаноўка рэжысэра Сьмірнова. У лютым музкамэдыя дала чарговую прэм'еру „Запарожац за Дунаем“. Пастаноўка рэжысэра Крушэльніцкага.

* *У тэатры імя Блакітнага* ідзе чарговая прэм'ера—п'еса Мокрэева „Аддай партбілет“.

* *У тэатры „Вясёлы Пролетары“* пастаўлена пастаноўка Куляшова „Комуна ў стэпах“ (Рэжысэр Балабан).

* *Усяданецкая Украінская* музычная комэдыя скончыла сэзон у Ар-

цемаўску. Былі пастаўлены наступныя дзьве п'есы: „Рудакоп" (новы тэкст М. Ойстраха і Сіменцева), "Цыган-барон".

Цяпер тэатр дае спэктаклі ў Крэмараўцы, а потым на месяц пераедзе ў Славянск. Тут пойдзе новая музкамэдыя „Князь крыпак"— лібрэто М. Ойстраха і Г. Сіманцева.

* *Выстаўка проэктаў помнікаў Тараса Шэўчэнка.* У будынкаў таварыства Культсувязі за мяжою (Харкаў) з студзеня да 25-га лютага была адкрыта выстаўка проэктаў помнікаў Т. Шэўчэнкі. На конкурс надаслана шмат проэктаў з-за мяжы (Нямеччыны, Францыі, Польшчы, Чэхіі, Італіі і Галіцыі). На выстаўцы адабрана каля 80 проектаў.

## ЗАМЕЖНАЯ ХРОНІКА

### Баўгарыя

* Баўгарская пролетарская літаратура разьвінулася толькі пасьля імпэрыялістычнай вайны і Кастрычнікавай рэволюцыі. Яна дала вялікага поэта пролетарскай рэволюцыі Баўгарыі Хрысто Сьмірненскага. Ён памёр за некалькі дзён пасьля фашыцкага перавароту Цанкова, які нячуваным тэрорам дасяг паражэньня рэволюцыйнага руху баўгарскага пролетарыяту.

З боку буржуазных пісьменьнікаў толькі двое адгукнуліся на белы тэрор, але абое хутка вярнуліся ад рэволюцыйнага руху, гэта: Людміл Стаянаў і Антон Страшаміраў.

Што-ж да групы малодшых пісьменьнікаў, на чале якіх стаіць Асеня Расьцьветнікава і Ангела Карапійчава, дык яны сталі песьнярамі не самога паўстаньня, а задаволіліся абмежаваным апяваньнем яго ахвяр.

Сьмялейшым і адважнейшым песьняром паўстаньня быў вядомы поэт Гео Мілеў. Ён прысьвяціў паўстаньню героічную поэму „Сентябрь“, за якую ён паплаціўся сваім жыцьцём. (Яго забілі ў ахранцы ў 1925 г.).

Поэма „Сентябрь“ зьяўляецца вялікім укладам у баўгарскую пролетарскую рэволюцыйную поэзію.

Зараз увесь маладняк баўгарскай рэволюцыйнай літаратуры гуртуецца навакол газэты „РЛФ“.

Трэба яшчэ адзначыць поэзію Крума Куляўкова (поэта, прозаіка і мастака). Яго зборнік пад назваю „Занесеныя сякеры“ цалкам працяты палкім рэволюцыйным пачуцьцём.

Другі цікавы зборнік апавяданьняў Марка Марчэўскага пад назваю „Бунт“. У апавяданьнях Марчэўскага пададзена барацьба працоўных мас Баўгарыі з фашызмам.

### Літаратурна-мастацкая і крытычная пэрыодыка

* РЛФ (Работніча-літаратурны фронт) штотыднёвая літаратурная газэта. Ворган баўгарскіх рэволюцыйных пісьменьнікаў. Газэта марксыцкі вытрыманая. Рэдакцыйная камісія: група рэволюцыйных пролетарскіх пісьменьнікаў. Выходзіць другі год.

* „Накавальня“ — грамадзка-палітычная марксыцкая часопісь. Выходзіць пад рэдакцыяй вядомага пролетарскага поэты Д. Палянава. Пяты год выданьня.

* „Дума“ — літаратурна-мастацкая часопісь. Выходзіць пры бліжэйшым удзеле групы рэнегатаў з комуністычнай партыі і ліквідатараў. Часопісь марксыцкі ня вытрыманы. Прыкметна набліжаецца да позыцыі соцыял-фашыстаў.

* „Златорог“—фашыстоўскі літаратурна-мастацкі штомесячнік. Рэдагуе вядомы фашыстоўскі ідэолёг Уладзімер Васільлеў.

* „Літературна мысл“—тыднёвая літаратурная газэта пад рэдакцыяй Балабанава. Ворган пацыфісцкага дробна-буржуазнага напрамку.

* „Хроніка“—літаратурна-мастацкі штомесячнік. Выходзіць пад рэдакцыяй крытыка-фашыста Радаслававa.

* „Листопад“—дробна-буржуазная літаратурна-мастацкая часопісь, соцыял-фашыстоўскага напрамку. Рэдактар Д. Бабэ.

### Фінляндыя

* *Новы зборнік Алмара Віртанена.* Вядомы фінскі пролетарскі поэт Алмар Віртанен нядаўна выдаў новы зборнік вершаў „Туёп Lomassa“. Да кнігі зьмешчана прадмова Максіма Горкага.

### Кітай

* *У Паўночным Кітаі ўтварылася фэдэрацыя пролетарскай культуры Паўночнага Кітаю.*

У склад фэдэрацыі ўвайшлі 27 радыкальных часопісаў і таварыстваў.

Фэдэрацыя стаіць на марксыцкай пляцформе. Ад пісьменьнікаў, што ўваходзяць у фэдэрацыю, патрабуецца актыўны ўдзел у клясавай барацьбе, што адбываецца ў Кітаі і ўдзелу ў барацьбе з імпэрыялізмам.

Ворганам фэдэрацыі зьяўляецца часопіс „Ів“.

* *Шанхайскі мастацкі тэатр яшчэ вельмі малады.* Яго арганізавалі ў мінулым годзе. На працягу ўсяго году па галоўных мясцох Кітаю былі спробы арганізаваць новыя тэатральныя групы ў супроцьстаўленьне старому кітайскаму тэатру. Але гэтыя спробы скончыліся няўдачаю, і толькі Шанхайскі мастацкі тэатр паказаў сябе жыцьцяздольным.

Шанхайскі мастацкі тэатр мае моцны колектыў рэволюцыйнай моладзі, якая матэрыяльна не забясьпечана. Гэта моладзь спачувае пролетарыяту. У халоднай няпаленай залі, якая ўмяшчае ледзь 500—700 чалавек, адбываліся першыя пастаноўкі тэатру. Першым былі пастаўлены 3 аднаактоўкі: „Ігра жыцьця і сьмерці“ Ромэн Ролана, „Чалавек з другога паверху“ Эптона Сінклера і „Шахцёры“ Л. Мэрдана. Тэатр нядаўна паставіў п'есу Рэмарка „На заходнім фронце бяз зьмен“.

Усе п'есы ідуць кітайскаю моваю, мясцовым дыялектам.

### Японія

* *Суполка рэволюцыйных пісьменьнікаў „Сакка Домэй“* існуе ўжо амаль каля 10 гадоў. Спачатку яна аб'яднала і анархістаў і соцыялдэмократаў і большасьць буржуазных пісьменьнікаў. Але з 1928 г. суполка радыкальна перабудавана. З абвастрэньнем клясавай барацьбы ў Японіі адбывалася і клясавая дыфэрэнцыяцыя ў самой суполцы. Зараз суполка папаўняецца выключна работнікамі вытворчасьці і рабочымі корэспондэнтамі.

Цэнтральны орган суполкі „Сэнэкі“ („Прапар барацьбы“). Ён мае аж 30-тысячны тыраж, ня гледзячы на сыстэматычнае прасьледваньне ўраду.

„Сэнэкі“ спачатку аддавала многа ўвагі літаратурным проблемам, але цяпер політычна-экономічныя пытаньні цалкам выціснулі мастацкую літаратуру.

А таму суполка выпускае спэцыяльную часопісь літаратурна-мастацкую „Найф“, якая стала органам фэдэрацыі работнікаў літаратуры і мастацтва. Яна аб'ядная мастакоў, музыкантаў, работнікаў тэатру і інш.

Членаў суполка мае каля 200 чал. Організавана 300 мясцовых організацый па ўсёй Японіі з чытацкімі літаратурнымі гурткамі.

* *Кніга пра Савецкі Саюз.*—Нядаўна вышла кніга Акіты Удзяку „Малады Савецкі Саюз“, у якой зьмешчаны ўражаньні пісьменьнікаў у час наведваньня СССР, 1927-28 г. Кніга прасякнута сымпатыяй да СССР.

* Цікавасьць да пытаньняў тэорыі пролетарскай літаратуры. У зьвязку з падвышэньнем цікавасьці да пытаньняў тэорыі пролетарскай літаратуры часопісь „Бунгэй Сенсэн“ у № 11 дае аналіз твору расійскага пісьменьніка Фадзеева „Разгром“, разглядаючы гэты твор як прыклад „дыялектычнага рэалізму“.

* Антолёгія сучасных расійскіх пісьменьнікаў. Вышла трохтомная антолёгія 30 пісьменьнікаў сучаснае Расіі. У I томе антолёгіі ўвайшлі: А. Малышкіна „Вихрь“, Ю. Тынянаў „Поручик Киже“, Н. Ціханаў „Шесть туманов“, М. Шолахаў „Отец“, С. Сямёнаў „Рождение раба“, Е. Зозуля „Рассказ аб Аке и человечестве“, А. Толстой „Древний путь“, А. Нявераў „Голод“, В. Інбер і В. Маякоўскі.

У астатніх двух томах будуць зьмешчаны творы: Бабэля, М. Волкава, Гладкова, Замяціна, Зошчэнкі, Вс. Іванова, Караваевай, В. Катаева, Лідзіна, Ляшкі, Огнева, Пастэрнака, Пільняка, Л. Рэйснэр, П. Раманава, Сэйфулінай, Фурманава, Эрэнбурга, Шагінян, Шышкова.

### Францыя

* *„Квадратура круга“* В. Катаева пераведзена на францускую мову і пастаўлена на сцэне Парыскага тэатру „Атэлье“. Комэнтуючы пастаноўку, францускі друк station адклікаецца аб п'есе, падкрэсьліваючы асабліва: „здаровы і сьвежы падыход аўтара да ўзятае тэмы“, асабліва які ярка вылучаецца параўнаўча з бульварнымі п'есамі, якія ідуць на сцэнах Парыскіх тэатраў.

* У канцы студзеня ў Парыжы адбыўся ўстаноўчы Конгрэс францускай фэдэрацыі рабочых тэатраў. У Конгрэсе прымала ўдзел 50 дэлегатаў, у тым ліку таксама прадстаўнікі рабочых тэатраў Эльзас-Лотарынгіі, Бэльгі, і Германіі. Фэдэрацыя ставіць сваёй задачай аб'яднаць стыхійнае ўзьнікненьне рабочых тэагурткоў і рабочых тэатраў, каб зрабіць іх дзейнасьць зброяй клясавай барацьбы і скарыстаць іх для правядзеньня рэволюцыйнай пропаганды сярод рабочае клясы.

* *Парыскае выдавецтва* „Нувэль рэвю францэз“ робіць захады да выпуску поўнага збору твораў Дастаеўскага ў 35 томах. Усе пераклады будуць зроблены нанова па апошніх выданьнях „Госиздата“. Многія тэксты Дастаеўскага будуць першы раз апублікаваны ў Францыі. Першыя два томы выйдуць ў маі 1931 г.

* Навейшыя статычныя даныя аб становішчы міжнароднай кнігавыдавецкай справы паказваюць на крызіс, які перажываюць кніжныя выдавецтвы цэлага шэрагу Заходна-Эўропэйскіх краін. Вэнгрыя, якая мела продукцыю ў 1923 г. у 3.400 кніг, скарацілася да 2000. Такое скарачэньне наглядаецца ў Баўгарыі, Германі і Францыі.

## КНІГАПІС

**А. Звонак. „Каршун“ поэма. БДВ Менск—1930 г., стар. 30, цана 35 кап.**

Яшчэ ўсе помняць бурлівыя дні грамадзянскай вайны, героічныя находы Чырвонай арміі, героічныя дзеяньні чырвоных партызан і іх кіраўнікоў. Таксама ўсе помняць, як з усіх бакоў на краіну Саветаў, з зброяй у руках, націскаў клясавы вораг, як унутры краіны бушавалі шайкі бандытаў, якія актыўна дапамагалі капіталістам зьнішчыць уладу Саветаў, якія бязьлітасна зьдзекваліся над мірным жыхарствам краіны.

Гэтыя дні ўсе помняць. Гэтыя дні нашлі досыць поўную адлюстрацыю ў расійскай мастацкай літаратуры, гэтыя дні ў пэўнай меры нашлі сваё адлюстраваньне і ў мастацкай літаратуры беларускай. Галоўныя моманты з гэтых дзён адлюстроўваюцца і ў рэцэнзуемай поэме А. Звонака „Каршун“.

Поэма „Каршун“ арыгінальна сваёй шырынёй тэмы і ў пэўнай меры паўнаты малюнку,—тады як па свайму памеру яна невялікая. Поэта ў гэтай сваёй поэме не абмяжоўваецца адным якім-небудзь гістарычным эпізодам, таксама ён не абмяжоўваецца толькі тымі подзеямі з грамадзянскай вайны, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі,—ён свой творчы вобраз разгортвае шырэй. Поэта імкнецца ахапіць асноўныя моманты цэлай эпохі з часоў грамадзянскай вайны. І трэба сказаць, што поэта з сваім творчым замыслам справіўся. Ён менавіта схапіў асноўныя моманты гэтай эпохі, Ён менавіта ўмела перанёс на палатно сваёй поэмы тыя часткі, тыя характарныя рысы з гэтай эпохі, якія складаюць разам адзін цэлы і досыць поўны малюнак.

З пачатку сваёй поэмы аўтар уводзіць чытача ў першае полымя рэволюцыі, напамінае яе пераможцаў.

„... Гарэў агнямі Піцер ноччу,
Трывога нішчыла спакой,
Як ён—пуцілаўскі рабочы,
з другімі йшоў на Перакоп...

Далей аўтар расчыняе нутро грамадзянскай вайны, падае вобразы асноўных герояў, як дадатных, якія ішлі змагацца за савецкую ўладу, так і адмоўных, якія вялі змаганьне супроць савецкай улады.

Поэта з аднаго боку падае нам вобраз бандыта Каршуна, з яго ідэалам, з яго клясавай накіраванасьцю, з яго бандай, з якой ён туляючыся па лясох, па дарогах, выняджае грабіць мірнае жыхарства, зьдзекавацца над вясковымі маладзіцамі.

„Як толькі ўслалі неба зоры
Тады ўстаў бандыт Каршун.
І рэхам паўтарылі хвоі
Магутны крык з яго грудзей:
— Гэй, малайцы, хутчэй да зброі.
— Гэй, малайцы, сядлай каней.
— Даўно чакае нас здабыча,
— Даўно ізноў сьвярбіць рука?
— Там будуць дзеўкі й маладзіцы
— І самагонная рака...“

Каршун дзейнічае неяк стыхійна. Ён паказваецца нібы нейкі злодзі. Ён адарваны ад насельніцтва краіны, за ім маса ня ідзе. Наадварот, адчуваецца, што ўсё навакольнае падымаецца супроць бандыта Каршуна. З працоўных мас адчуваюцца звонкія рэволюцыйныя галасы, якія накіроўваюцца на бандыта:

„Дрыжы, Каршун. Адпомсьцяць люта
браты загублены табой
за кроў, за зьдзекі, за пакуты,
за край атулены журбой“.

Банда Каршуна знаходзіцца ў коле рэволюцыйнага насельніцтва. Навакол гарачае полымя рэволюцыі і яго адчувае кожны ўдзельнік банды. Адчувае сваю бездапаможнасьць, свой канец. Бандыты хвалююцца. У іх апускаюцца рукі. Гэты ўпадніцкі настрой бандыт Каршун падтрымоўвае надзеяй, што „ўранку тут будзе падмогай сам Балаховіч.“ З другога боку ён сваю банду скоўвае страхам жалезнай дысцыпліны, страхам аружжа, страхам сьмерці:

„Ххо сказаў пра здраду? Стой.
Хто сказаў?
Выходзь—пагаворым“.

і далей:

Хто ахвоч да чырвонай шашкі?
Хто жадае жыцьцё разьмяняць?
Бражка,
Заўтра гуляць
А сягоньня біцца“.

Але посьпехаў бандыта Каршуна мы ня бачым. На супроць яго ўстае вобраз моцнага чалавека з устойлівым характарам—вобраз чырвонага партызана Паддубнага, за плячыма ў якога мільёны працоўных, які дапамагае распальваць агонь рэволюцыі.

„А ў Паддубнага сэрца суровае—
Ці памерці, ці жыць—усё адно“.

Вобраз Паддубнага—гэта вобраз устойлівага барацьбіта за рэволюцыю, гэта адзін з тых, якія да апошняга дня перамогі працоўных, да апошняга дня грамадзянскай вайны знаходзіліся ў першых шэрагах у барацьбе з буржуазіяй, за савецкую ўладу.

Вобраз Паддубнага наскрозь працізаны клясавай самасьвядомасьцю пролетарыяту. У яго клясавыя ідэалы, ідэалы пролетарскай рэволюцыі—вышэй усяго. У яго:

„І нянавісьць гарыць
залівае душу,
А пад сэрцам яе,
як атруту нашу...
І для ворага літасьці ў сэрцы
няма
будзь ён бацька,
ці брат,
ці матуля сама.
І як просты баец,
як адданы салдат
за сваю рэволюцыю ўсё я аддам...“

Для яго шлях—„загад рэволюцыі“, які:

„кліча ісьці—
наперад,
наперад.
Наперад, байцы.
Наперад,
Наперад.
Ні кроку назад.
— У атаку.—
Па ўзводах загад“.

Наперад ідзе Паддубны. Адчуваецца, як наперад за ім ідуць мільён্ныя масы працоўных, якія гараць адным ідэалам рэволюцыі.

„Мільёны ў дарогу.—
Край бараніце.
І ўстае за грамадай грамада
І грыміць ад палка да палка:
— „Умере“...—умерець мы будзем
рады
С красным знаменем в руках...

Поэта А. Звонак менавіта паказаў нам у асобе Паддубнага вобраз устойлівага рэволюцыянэра, вобраз барацьбіта, якія з тысячамі працоўных згаралі ў рэволюцыйным полымі дзеля перамогі рэволюцыі.

Поэма „Каршун“ дазваляе нам сказаць некалькі слоў, што поэта А. Звонак вышаў з першага стану сваёй творчасьці, які (стан) характарызуецца сваёй нявызначальнасьцю ў сэнсе ідэёвай накіраванасьці.

Па-першае, поэма „Каршун“ зьяўляецца першай эпічнай поэмай поэты А. Звонака. Да гэтага часу А. Звонак даваў нам пераважна лірычныя вершы, якія характарызуюцца сваей рознастайнасьцю, як у сэнсе тэматыкі, так і ў сэнсе ідэёвай накіраванасьці. Тыя вершы, якія сабраны ў яго першым зборніку—„Буры ў

граніце“ менавіта аб гэтай рознастайнасьці сьведчаць. У гэтым зборніку, побач з вершамі рэволюцыйнымі, мы можам сустрэць і такія вершы, з якіх прасочваецца смутак, вершы, у якіх можна заўважыць інтэлігенцкі-мяшчанскі падыход да жыцьця.

Зусім іншае мы бачым у рэцэнзуемай поэме „Каршун“. Гэта поэма напоўнена рэволюцыйным пафосам. Праз яе з пачатку да канца прабягае агонь рэволюцыйнага полымя, які ня можа абмінуць чытача.

Чытач у гэтай поэме можа ўбачыць вобраз асноўных момантаў эпохі грамадзянскай вайны. Чытач у гэтай поэме можа ўбачыць вобраз рэволюцыянэра—чырвонага партызана, таксама можа ўбачыць вобраз агіднага бандыта— у асобе Каршуна.

Поэма заслугоўвае ўвагі як з грамадзкага, так і з мастацкага боку. З грамадзкага боку яна каштоўна сваім рэволюцыйным пафосам, рэволюцыйнай папоўненасьцю. З мастацкага боку яна каштоўна сваёй цэласнасьцю. З поэмы ніяк нельга выкінуць некалькі радкоў, каб не парушыць яе цэласнасьці. Пададзеныя вобразы Паддубнага і Каршуна як-бы адзін аднаго дапаўняюць, адзін другога дамалёўваюць,—ня гледзячы на сваю соцыяльную супроцьлегласьць.

Бязумоўна, поэма „Каршун“ ёсьць жывая сьведка аб тым, што мастацкія сілы поэты А. Звонака ўзрастаюць.

**С. Куніцкі**

20/XI 30 г.

*Рэдакцыйная колегія*: **Ал. Сянкевіч, А. Некрашэвіч, Р. Мурашка, П. Галавач, С. Рычкоў,**

*Выдавец*: **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва**

## ЗЬМЕСТ

ЦАНА 1 руб.

АДКРЫТА ПАДПІСКА НА 1931 ГОД

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
БЕЛАРУСКУЮ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПАЛІТЫКІ,
ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ

# „ПОЛЫМЯ“

X-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ:
А. СЯНЬКЕВІЧА, П. ГАЛАВАЧА,
А. НЕКРАШЭВІЧА, Р. МУРАШКІ,
С. РЫЧКОВА

X-ты ГОД ВЫДАНЬНЯ

ЧАСОПІСЬ „ПОЛЫМЯ“ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОМЕСЯЦ, 12 КНІЖАК НА ГОД, памерам кожная ў 10—12 аркушоў.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 12 мес. . . . . . . . 10 руб.
„ 6 „ . . . . . . . . . 5 „ 50 кап.
„ 3 „ . . . . . . . . . 3 „

КОШТ АСОБНАГА НУМАРУ 1 руб.

ПАДПІСЧЫКІ, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў, атрымаюць у 1931 годзе ДАРМОВЫ ДАДАТАК—літаратурна-мастацкую часопісь „УЗВЫШША“ за 1927 або 1928 год, па жаданьню.

**НА ВЫПЛАТУ МОЖНА ПАДПІСАЦЦА:**

**ГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 3 тэрміны: пры падпісцы—4 р. 50 к., да 1-га красавіка—3 руб. і да 1-га ліпеня—2 руб. 50 кап.**

**ПОЎГАДАВЫМ ПАДПІСЧЫКАМ у 2 тэрміны: пры падпісцы—3 р. 50 к. і да 1-га красавіка—1 руб. 50 кап.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** У аддзеле падпісных і пэрыодычных выданьняў БДВ (Менск, Савецкая, 79. тэл. 17-12); Цэнтральнай Кнігарняй Белдзяржвыдавецтва (Менск, рог Ленінскай і Савецкай); Вы-
усімі гарадзкімі аддзяленьнямі Беларускага Дзяржаўнага
давецтва; аддзелам падпіскі пэрыодсэктару ГІЗ'у РСФСР (Менск, Савецкая, 54); усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і ўсімі кніжнымі крамамі спажывецкіх таварыстваў БЕЛКООП-САЮЗУ.